Gałczyński Konstanty Ildefons. 1992. *Poezje*, Białystok.
Gliński Mikołaj. 2017. *Translating from Leśmianesque into English: An Interview about Polish Literature's Mission Impossible* [online] https://culture.pl/en/article/translating-from-lesmianesque-into-english-an-interview-about-polish-literatures-mission-impossible [accessed 26.05.2021].
Herbert Zbigniew. 1998. *Poezje*, second edition. Warszawa.
Kryszak Janusz. 1981. *Czesław Miłosz: Moja wierna mowo*. Torun.
Kuźmienka Zmitrok. 2012. *Pakuĺ žyvu, spadziajusia....* Minsk.
Lenczewska Olga. 2015. *Readings-Olga-Lenczewska-Adam-Mickiewicz's-"Crimean Sonnets".pdf* [online] readingsjournal.net, vol. 1, no, 2 [access date: 10.09.2021].
Leśmian Bolesław. 1975. *Poezje*. Warszawa.
Martysievič Maryja. 2021. *Ambasada: Vieršy svaje i čužyja*, Minsk.
Matskevich Karalina. 2018. *Journeys on the Other Side with Babkoŭ, Leśmian and Carroll.* In: *Between the Lands from Poland to Russia via Belarus and Ukraine: A Journey through Cinema, History, Literature, Memory and Music*, Olsztyn. Ed. Jim Dingley.
McMillin Arnold. 2020. *The Role of Michaś Skobla in the Belarusian Literary Process*. "The Journal of Belarusian Studies", 10, 1: 64–91.
McMillin Arnold. 2021. *Poetry and Parody in Belarus and Britain: Two Cultural Traditions*. Olsztyn.
Mickiewicz Adam. 1993–2001. *Dzieła*. Warszawa.
Miłosz Czesław. 1957. *Traktat poetycki*. Paris.
Miłosz Czesław. 1983. *The History of Polish Literature*, second edition. Berkeley, Los Angeles and London.
Miłosz Czesław. 2001-2003. *Wiersze w 3-ch tomach*. Wrocław.
Mìnskevìč Serž. 2002. *Mìnskìâ / Menskìâ sanety.* Mìnsk [Мінскевіч Серж. 2002. Мінскія / Менскія санеты. Мінск].
Mìnskevìč Serž. 2017. *Eŭrapejskì sanet u belaruskìh perakladah*. U: *Paètyka lìtaraturnyh suvâzej.* U. V. Gnìlamëdaŭ ì M. U. Mìkulìč (rèd). Mìnsk: 425–521 [Мінскевіч Серж. 2017. *Еўрапейскі санет у беларускіх перакладах*. У: *Паэтыка літаратурных сувязей.* У.В. Гніламёдаў і М.У. Мікуліч (рэд). Мінск: 425–521].
Puškin Aleksandr. 1959–1962. *Sobranie sočinenij v desâti tomah*. Moskva [Пушкин Александр. 1959–1962. *Собрание сочинений в десяти томах*. Москва].
Różewicz Tadeusz. 1971. *Poezje zebrane.* Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdansk.
Ryžkoŭ Vìtal'. 2010. *Dzvery, zamknënyâ na klûčy*. Mìnsk [Рыжкоў Віталь. 2010. *Дзверы, замкнёныя на ключы*. Мінск].
Skobla Mìhas'. 1993. *Rozgì ŭ roznìcu*. Slonìm [Скобла Міхась. 1993. *Розгі ў розніцу*. Слонім].
Skobla Mìhas'. 2003. *Krasa ì sìla: Antalogìâ belaruskaj paèzìì XX stagoddzâ*. Mìnsk [Скобла Міхась. 2003. *Краса і сіла: Анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя*. Мінск].
Skobla Mìhas'. 2008. *Galasy z-za nebakraû*. Mìnsk [Скобла Міхась. 2008. *Галасы з-за небакраю*. Мінск].
Skobla Mìhas'. 2016. *Kamìzel'ka dlâ mesâca*. Mìnsk [Скобла Міхась. 2016. *Камізелька для месяца*. Мінск].
Stone Rochelle Heller. 1976. *Bolesław Leśmian: The Poet and His Work*. Berkeley, Los Angeles and London.
Szymborska Wisława. 1981. *Sounds, Feelings, Thoughts: Seventy Poems by Wisława Szymborska.* Translated by Magnus J. Krynski and Robert A. Maguire. Princeton NJ.

**ABSTRACT:** The article presents and analyses the translations by young Belarusian writers of Polish poetry, emphasising the variety of the some half dozen Belarusian

translators, and also the nature of the poets they selected. Attention is paid, where appropriate, to Poland and its literature's particular relevance to Belarusian culture, and, more generally, to the close relationship between the two countries, both historically and at the present difficult time.

**KEYWORDS:** Belarus, Poland, relationship, translations, national features.

**STRESZCZENIE:** W artykule przedstawione i przeanalizowane zostały przekłady polskiej poezji, wykonane przez młodych białoruskich poetów; omówienie odnosi się tak do różnorodności strategii przekładów stosowanych przez sześciu białoruskich literatów, jak też do twórczego zróżnicowania w stosunku do polskich poetów. Szczególną uwagę zwrócono, gdy zaszła taka potrzeba, na bliskie związki pomiędzy Polską i Białorusią, perspektywę historyczną i skomplikowaną sytuację w obecnych czasach.

**SŁOWA KLUCZOWE:** Białoruś, Polska, związki, przekłady, cechy narodowe.

**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле прадстаўленыя і прааналізаваныя пераклады з польскай паэзіі, выкананыя маладымі беларускімі аўтарамі; гаворка ідзе пра разнастайнасць перакладчыцкіх стратэгій паўдзясятка беларускіх літаратараў, а таксама пра творчую адметнасць абраных імі польскіх паэтаў. Звяртаецца асаблівая ўвага, дзе гэта патрэбна, на блізкія дачыненні паміж Польшчай і Беларуссю, і з гістарычнай перспектывы, і ў складаны цяперашні час.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**; Беларусь, Польшча, адносіны, пераклады, нацыянальныя асаблівасці.

*Submitted: 30.11.2021*
*Accepted: 10.12.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Arnold McMillin** – Emeritus Professor of University College London. specialities include Belarusian literature and Russian music.

**Address**: 53, Witley Court, Coram St, London WC1N 1HD

**Publications** (2020–2021):

1. McMillin Arnold. 2020. *The Role of Michas Skobla in the Belarusian Literary Process*. "Journal of Belarusian Studies" 10, 2: 64–91.
2. McMillin Arnold. 2020. *From Poems in Prose to Ballads: The Remarkable Verse of Uladzimier Arlou*, "Australian Slavonic and East European Studies" 34: 89–124.
3. McMillin Arnold. 2020. *The Remarkable Verse and Prose of Angela Espinosa Ruiz*, "New Zealand Slavonic Journal" 51–52: 87–113.
4. McMillin Arnold. 2021. *Poetry and Parody in Belarus and Britain: Two Cultural Traditions*. Olsztyn: Centrum Badan Europy Wschodniej.
5. McMillin Arnold. 2021. *The Francis Skaryna Library as Experienced by a Long-Time User*. "Journal of Belarusian Studies" 11/2: 162–74.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.53–69

**Мікола Хаўстовіч/ Mikałaj Chaustowicz**

Uniwersytet Warszawski / University of Warsaw
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-3007-0603
e-mail: m.khaustovich@uw.edu.pl

# Забельскі рукапісны зборнік: праблемы атрыбуцыі і тэксталогіі

*The Zabelsky Manuscript Collection: Problems of Attribution and Textology*
*Zabialski zbiór rękopisów – problemy atrybucji i tekstologii*

## Пад шыфрам: LMAVB, f. 18, b. 201

Пасля скасавання расейскаю адміністрацыяй Забельскага кляштара тамтэйшыя кніжніца ды архіў трапілі спачатку да полацкіх дамініканцаў, а ў 1867 г. сталіся набыткам Віленскае публічнае бібліятэкі. У 1903 г. з матэрыяламі забельскіх дамініканцаў (прынамсі, з рукапісным зборнікам, у якім знаходзіўся шэраг літаратурных твораў) пазнаёміўся прафесар Кіеўскага ўніверсітэта Уладзімір Перадц (1870–1935) [*Отчетъ*... 1904: 28]. У друку пра гэты зборнік ўпершыню згадала Антаніна Сычэўская ў 1909 г. у артыкуле *Къ вопросу о Мольерѣ въ польской драматической литературѣ XVIII ст.* [Сычевская 1909: 75–109] ва “учено-педагогическомъ журналѣ” “Русскій филологическій вѣстникъ”. Праўда, згадка А. Сычэўскае адно інфарматыўная: “Хранится она [п’еса *Doktór przymuszony*. – *М. Х.*] въ рукописномъ сборникѣ Виленской публичной библіотеки въ листъ № 201. Составленъ этотъ сборникъ ксендзомъ Морашевскимъ – профессоромъ піитики и ксендзомъ Цецерскимъ – профессоромъ реторики” [Сычевская 1909: 77].

Яўхім Карскі (1861–1931), у той час рэктар Варшаўскага ўніверсітэта (1905–1910), магчыма, з часопіса, які сам рэдагаваў, даведаўся пра існаванне “польско-бѣлорусской обработки кс. Цецерскаго”, пазнаёміўся і вывучыў зборнік № 201 ды падрыхтаваў публікацыю *Камедыі* [Карскій 1912: 314]. Аднак славуты беларускі твор упершыню быў надрукаваны ў 1911 г. у даследаванні У. Перадца [Перетц 1911: 248–319]. Навуковец коратка апісаў і ахарактарызаваў зборнік, звярнуў увагу, што гэта “остатки литературы на бѣлорусскомъ языкѣ, сохра-

нившіеся кое-гдѣ по старымъ школьнымъ тетрадямъ іезуитскихъ школъ” [Перетц 1911: 274]. Я. Карскі і беларускія даследнікі ўнеслі шэраг істотных правак у расчытаны У. Ператцам тэкст *Камедыі*. Але, на нашую думку, сёння патрэбна як новае апісанне зборніка, так і новае расчытанне *Камедыі*. Напачатку мы пералічым усе тэксты, якія ўвайшлі ў склад зборніка [LMAVB–18–201: 13v–29].

| Стар. | Тытул |
|---|---|
| 1 | **Continuatio operis Scholastici Patris Caietani Moraszewski Professoris Rhetorices et Poeseos In Gimnasijs Zabialiensis Anno D–ni 1787, Dec. 24** |
| 1v–13 | Tragedya *Wolność w Niewoli* |
| 13v–29 | *Komedya* |
| 30 | **Collectanea. M M: O D. Rhetarum et Poetarum in unum collecta per me Fratrem Michaelem Ciecierski Professorem Rhetorices in Con[ven]tu Zabialiensi Ordinis Praedicatorum. A. 1787** |
| 31–31v | *Mowa J: W: J: Xdza Margrafa Achety ArcyBiskupa Chalcedonskiego, Nuncyusza stolicy Apostolskiejy przy Krolu y Rzeczy Pospolitey Polskiey rezydującego miana w Charakterze Posła od Tey że stolicy u Dworu Petersburskiego na D. 15 Julii N: S. 1783. Roku z Francuskiego na Ruskie, z Ruskiego na Polskie tłomaczona a dla pamiątki tu wpisana* |
| 31v | *Odpowiedź Nayiasnieyszey Katarzyny drugiey Imperatorowey Rossyskiey* etc etc etc. |
| 32 | *Oracya Winszująca Prefekta Rożancowego miana w Dzien Niepokalanego Poczęcia N: P: Maryi* |
| 32v | *Oda* z Tey że samey Materyi |
| 33 | *Oratio Gratulatoria A. R. P. S. T. Mgro Casimiro Wieszczycki Priori Conventus Zabialensis in Die Nominalium dieta* |
| 33–35 | *Oratio In Laudem Divi Thome Agrunatis* |
| 35–42 | *Poręka Przyiacielska czyli Sprawa Sądowa w Dzien S° Tomasza z Aquinu Z: K: w Roku 1788 marca 7 D.* |
| 42v | *Concordia res parve crescund, discordia et maximie dilabuntur* |
| 43 | *Mowa. Nauczyciel do Uczniow mowi odwodząc ich odwzaiemney między sobą nienawiści* |
| 43v | *Mowa Do Judasza, który Pana Chrystusa na smierć Żydom wydał* |
| 44v | *Oratio Gratulatoria Nominalium RP Jacobi Wyszowaty Proffessoris Gramatices et syntaxeas in Cntis Zabialensi OP* |
| 45–49v | *Elegia de Passione Christi continens Misteria Rosarij: Modlitwa Jezusa w Ogroycu. Biczowanie Jezusa. Koronowanie Jezusa. Krzyża niesienie na Górę Kalwaryską. Krzyżowanie* |
| 50–74v | *Sapor*: Tragedya w piąciu aktach |
| 75–96 | *Doktor Przymuszony*: Komedya w piąciu aktach |

Знаёмства з тэкстамі, уключанымі ў *Зборнік*, дазваляе мець пэўнае меркаванне пра час ягонага ўзнікнення. Як сведчыць тытульная старонка першае яго часткі, 24 снежня 1787 г. першы перапісвальнік рас-

пачаў працу[1]. Цягам некалькіх наступных дзён два перапісвальнікі занатавалі ў зборнік драматургічныя творы, аўтарам якіх лічыцца К. Марашэўскі. Потым перапісвальнік № 1 пачаў другую частку (на тытульнай старонцы пазначаны 1787 г.), праца над якою працягвалася даволі доўга. Калі, напрыклад, прамовы нунцыя Джавані Архэці (1731–1805) і Кацярыны II (1729–1796), датаваныя 1783 г., маглі быць перапісаныя яшчэ ў тым жа 1787 ці пачатку 1788 г., дык шэраг "рытарычных практыкаванняў", занатаваных на старонках 32–49, з'явіліся тут значна пазней: школьны дыялог *Poręka Przyiacielska czyli Sprawa Sądowa w Dzien S$^o$ Tomasza z Aquinu*, падрыхтаваны студэнтамі Мікалаем Косавым, Стафанам Шчаткоўскім, Юзафам Кішкаю, Матэвушам Ліпскім, Феліцыянам Даўловічам, Каролем Косавым, узнік блізу 1 сакавіка 1788 г., а *Oratio Gratulatoria* ў гонар новага прыёра Забельскага кляштара Казіміра Вяшчынскага/Вяшчыцкага і *Oratio Gratulatoria Nominalium* у гонар прафесара граматыкі і сінтаксісу Якуба Вышаватага маглі быць напісаныя (першая – студэнтам Мікалаем Косавым), хіба, у верасні 1788 г., калі пасля чарговае капітулы новыя асобы занялі пасады ў канвенце. Выходзіць, трагедыя *Сапар* і камедыя *Доктар па прымусу*, "сабраныя" ці напісаныя М. Цяцерскім "з'явіліся" ў *Зборніку* яшчэ пазней.

Далей у полі нашага зроку будзе толькі першая частка *Зборніка*, г. зн. два драматургічныя творы, напісаныя – як лічыць большасць даследнікаў – К. Марашэўскім. Вельмі сумнеўна, што мы маем справу з аўтарскім аўтографам. Як ужо гаварылася, над першаю часткаю зборніка працавалі трое: нехта, можа, больш дасканалы ў каліграфіі, аформіў тытульную лацінамоўную старонку, літары якое маюць па-барочнаму квяцістае аздабленне. Тэксты ж твораў перапісвалі двое: большую частку працы выканаў перапісвальнік № 2 (старонкі 1v –23v) – 45 старонак з 56. Перапісвальнік № 3 пачаў з 16 (апошняе) сцэны II акту *Камедыі* і занатаваў цалкам III акт – усяго 11 старонак (старонкі 23v – 29). Перапісвальнікамі, магчыма, былі студэнты "studium" (клерыкі) ці браты з кляштару. Абодва перапісвальнікі не вылучаліся дасканаласцю пры запісе як польскага, так і беларускага тэкстаў. Выявілася гэта ў:

а) злітным напісанні слоў з прыназоўнікамі, злучнікамі, часціцамі і інш.
б) адвольным напісанні дыякрытычных знакаў (***s*** замест ***ś***, ***z*** замест ***ż***, ***c*** замест ***ć***, а таксама ***l*** замест ***ł*** і інш.).
в) адвольным напісанні вялікае і малое літары.

[1] Існуе і іншае меркаванне: "а затым ідзе час напісання ці, верагодна, заканчэння твора, бо значыцца не толькі год – 1787, але і больш дакладная дата – 24 снежня" [Усікаў 1964: 130].

г) адвольнаю пастаноўкаю знакаў прыпынку; невылучэнне сказаў, што часта ператварае тэкст у складаны для разумення перыяд; адсутнасцю парцэляцыі тэксту.

Дадзеныя, на нашую думку, “недахопы”, тлумачацца тым, што перапісвальнікі працавалі паспешліва і пад дыктоўку. Апошняе можна яскрава праілюстраваць, параўноўваючы запісы першага і другога перапісвальнікаў беларускага тэксту *Камедыі*. Гэта заўважыў яшчэ У. Перацт:

> Пьеса написана двумя почерками (второй – съ 16 сц. II д.) и въ зависимости отъ этого въ рѣчи Мужика (Chłopa) наблюдаются колебанія: въ 1-мъ – ***sie, nie, Djabeł, ciepier, już, Paniczenko*** и т. д., во 2-мъ – ***sia, nia, Djabał, ciapier, juz, Paniczańku*** (vocat.) и т. д. [Перетцъ 1911: 278].

“Колебаній”, ці то дыялектных адрозненняў быць не магло, каб перапісвальнікі мелі перад вачыма, скажам, аўтограф ці аўтарскую копію. Відаць, успрымаючы тэкст на слых, яны на пісьме адлюстроўвалі асаблівасці беларускае гаворкі таго рэгіёну, адкуль самі паходзілі. Як варыянт: чытальнікі маглі “папраўляць” аўтарскае напісанне – зноў жа – у адпаведнасці з беларускім вымаўленнем свайго рэгіёну.

Мы не ведаем, як было насамрэч. Але ў выніку “забельскіх маніпуляцый” атрымалі *Камедыю*, беларускія часткі якое (сс. 13v –23v і 23v –29) маюць розныя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці. Такога быць не магло, каб перапісванне “кантраляваў” сам аўтар. Відавочна, аўтар не ўдзельнічаў у гэтым працэсе: пацвярджэннем сказанаму можа быць і адсутнасць у трагедыі *Wolność w Niewoli* – пры захаванні чыстага месца – перад III актам *Intermedium 3* (с. 10). Прычым, перапісвальнік пакінуў месца прыкладна на тры шасцірадковыя страфы (столькі ж месца займалі інтэрмедыі перад I і II актамі). Як і калі трагедыю павінны былі дапоўніць *Intermedium 3*? І чаму яна не была дапоўненая, калі аўтар знаходзіўся ў кляштары, а *Зборнік* цягам доўгага часу дапісваўся? І ці магла трагедыя ставіцца на сцэне, калі адсутнічала ейная істотная інтэгральная частка?

## Забельскі дамініканскі кляштар

Віцебшчына, тэрыторыя якое ўваходзіла ў склад г. зв. Літоўскае правінцыі прапаведнікаў св. Анёла Ахоўніка (Ordo Fratrum Praedicatorum), што была ўтвораная ў 1647 г. на генеральнай капітуле ў Валенсіі (тут і далей выкарыстоўваем звесткі з кнігі [Wołyniak 1917: 1–48, 284–317]). У той час у правінцыі мелася толькі 12 канвентаў / кляштараў. Праз стагоддзе іх было ўжо блізу пяцідзесяці.

Забельскі кляштар, заснаваны ў 1716 г., цягам нейкіх 15–20 гадоў набыў вялікую значнасць у ордэне, дзякуючы сваім фундатарам –

Юрыю і Ганне з Гласкаў Шчытам-Забельскім, якія пасля смерці адзінага сына Аляксандра запісалі ўвесь свой маёнтак дамініканцам, што служылі ў іхняй капліцы ў Забелах, дзеля будаўніцтва касцёла і кляштара ў мястэчку Валынцы. Спачатку была ўзведзеная драўляная святыня, а ў 1750-я гг. – мураваная (архітэктар Іаган Крыштаф Глаўбіц).

Валыняк [Jan Marek Giżycki] даволі дэталёва апісаў гісторыю забельскіх дамініканцаў на падставе рукапіснае *Хронікі* канвента. Але цікава, што яшчэ ў XIX ст. па-энцыклапедычнаму лаканічна фактычна тое самае пісаў у *Геаграфічным слоўніку* Адам Красцэнты Лапацінскі (1826 – да 1897) у артыкулах пра Забелы і Валынцы. Магчыма, і ён, абывацель Дзісеншчыны (прынамсі, ягоная маці паходзіла з блізкага ад Валынцаў фальварка Друйка) ды сталы аўтар *Слоўніка*, быў знаёмы з *Хронікаю*, складзенаю забельскімі манахамі.

Варта яшчэ дадаць колькі інфармацый пра Забельскі кляштар тае эпохі, калі ў ім жыў і працаваў К. Марашэўскі. Перш-наперш пра назву кляштара. На нашую думку, даволі пераканаўча гэта зрабіў Валыняк:

> Будаваць касцёл і кляштар пачалі ў Валынцах, бо яны былі ўласнасцю дамініканцаў ужо з першага запісу, і там сапраўды паўстала святыня і канвент, але з тае прычыны, што першы касцёл (ці капліца) быў у Забелах, дык гэтая назва стала так агульнапрызнанаю і агульнапрынятаю, што яе перанеслі і на пазнейшую сядзібу законнікаў у Валынцах, хоць, праўду кажучы, адно ад другога вельмі блізка, а неўзабаве і Валынцы, і Забелы належалі дамініканцам ды сталіся адным цэлым [Wołyniak 1917: 293].

Дададзім яшчэ толькі: фундатарамі былі Забельскія, а г. зн., што кляштар насіў імя не толькі геаграфічнае назвы фальварка (двара), але адначасна і ягоных заснавальнікаў-ахвярадаўцаў[1]**.**

У часы прыёрства айца Аўрэлі Любавіцкага (1759–1761) пры кляштары пачала працаваць аптэка, жыў тут лекар-немец, а пасля хірург, лекі (у тым ліку – каву) прывозілі пераважна з Рыгі. Пад 1764 годам упершыню ў *Хроніцы* ідзе гаворка пра “бакаляра”, які выкладаў у школцы, што існавала, хіба, і раней; таксама згадваецца “kurs retoryki zakonnej”, які выкладае а. Чэслаў Фільніс.

З канца 1760-х гг. у кляштары стала неспакойна: расейскія войскі чынілі шмат клопатаў манахам, а калі ў 1772 г. Полаччыну імперыя акупавала, дык узніклі праблемы з камунікаваннем паміж канвентамі Літоўскае правінцыі дамініканцаў: на тэрыторыі іншай дзяржавы апынулася сем кляштараў (Рушона, Посін, Аглона, Полацк, Орша, Княжыцы,

---

[1] Вядома, што нашчадкі Вінцэнта, роднага брата Юрыя, а таксама сваякі Ганны Гласкі шматразова дамагаліся аспрэчыць і ў судзе, і з дапамогаю наездаў запісаны дамініканцам маёнтак. Называючы кляштар “Забельскім”, манахі ўшаноўвалі волю фундатараў і пацвярджалі свае права на валоданне.

Забелы). З гэтай прычыны, пэўна, неўзабаве і ўзнікла Беларуская правінцыя дамініканцаў (існавала да часу поўнае акупацыі беларускіх зямель).

На жаль, палітычныя перамены адбіліся і на характары запісаў у *Хроніцы*: Валыняк адно называе прыёраў: Аляксандар Шыстоўскі (1769–1773), Канты Багінскі (1773–1774), Вінцэнты Даўнаровіч (1774–1775), Яцак Струміла (1775–1776), Альберт Шалуха (1776–1783), Міхал Казлоўскі (1783–1786), Чэслаў Папроцкі (1786–1788), Казімір Вяшчынскі (1788–1791).

Маем надзею, што пошукі ў дамініканскіх архівах некалі дадуць магчымасць адказаць на пытанне: ці існаваў пры Забельскім дамініканскім кляштары калегіум – навучальная ўстанова для дзяцей заможнае шляхты, накшталт Полацкага езуіцкага калегіума, які знаходзіўся ў сарака вёрстах ад Валынцаў?

### Калегіум і тэатар у Валынцах

Як мы ўжо згадвалі, пра навучальныя ўстановы ў Валынцах пэўных звестак пакуль не выяўлена. Дарэчы, устаноў такіх павінна было быць некалькі: апрача школкі для шляхецкіх, мяшчанскіх і сялянскіх дзяцей, дзе працаваў "бакаляр", яшчэ да адкрыцця навіцыяту ў Забельскім кляштары ў 1738 г. быў створаны "studium filozoficzny" [Fibek, online], а г. зн., што на гэты курс маглі запісацца асобы, якія ўжо закончылі "ніжэйшыя" курсы – відавочна, у езуіцкіх калегіумах – "граматыкі", "сінтаксісу", "паэтыкі" і "рыторыкі". Неўзабаве ў Валынцах з'явіўся і "studium teologiczny" [Wołyniak 1917: 301], што дазволіла казаць пра "studium formalne" ў кляштары. Валыняк згадвае, што ў 1764 г. забельскія студэнты мелі і курс рыторыкі. У 1769 г. упершыню ў кляштары адбылася ардынацыя *pro sacrim ordinibus* – шэраг клерыкаў атрымаў пасвячэнні. Гэта сведчыць, што да першага падзелу Рэчы Паспалітае ў Валынцах паспяхова працавала навучальная ўстанова. Праўда, як гэта было прынятае ў манаскіх ордэнах, называлася яна адно "studium" (курс).

Адзначым яшчэ, што ў 1772 г. у кляштары жыло 57 манахаў (18 святароў, 22 клерыкі-семінарысты, 11 братоў, 6 навіцыяў-паслушнікаў). Канвікту (інтэрнату), здаецца, не было. Прынамсі, Валыняк не згадвае пра гэта, хоць падобнае з прычыны значных фінансавых выдаткаў павінна было адлюстравацца ў *Хроніцы*. Азначае гэта, што ў 1772 г. у кляштары навучаліся толькі клерыкі і навіцыі, колькасць якіх ніколі не перавышала трыццаці.

Як паўплывала новая палітычная сітуацыя пасля 1772 г. на працэс навучання ў Валынцах і на колькасць навучэнцаў-студэнтаў, – мы не ведаем. Аднак пэўна тое, што ў сярэдзіне 1780-х гг. у тутэйшай навучальнай установе існаваў – як мінімум – "курс паэтыкі" і "курс рыто-

рыкі”. Пра гэта сведчыць рукапісны зборнік, у якім пазначана, што ў 1787 г. у кляштары жыў і працаваў прафесар рыторыкі і паэтыкі К. Марашэўскі і прафесар рыторыкі М. Цяцерскі.

Варта больш уважліва прыгледзецца тым запісам. Зборнік адкрываецца тытульнаю старонкаю раздзела К. Марашэўскага:

> Continuatio | operis | Scholastici | Patris Caietani | Moraszewski | Professoris | Rhetorices et Poeseos | In Gimnasijs Zabialiensis | Anno D–ni 1787, Dec. 24|.

У перакладзе:

> Працяг рытарычных практыкаванняў айца Каятана Марашэўскага, прафесара рыторыкі і паэтыкі ў Забельскай гімназіі. У год Гасподні 1787, 24 снежня[1].

На тытульнай старонцы раздзела М. Цяцерскага, чытаем:

> Collecta|nea. | M M: O D. | Rhetarum et Poeta|rum in unum collecta per me Fratrem Michaelem Ciecier|ski Professorem Rhe|torices in Con[ven]tu Zabialiensi Ordinis Praedicatorum. A. 1787.

У перакладзе:

> Калекцыя. ММ: OD. Рытарычныя і паэтычныя практыкаванні сабраныя мною, братам Міхалам Цяцерскім, прафесарам рыторыкі ў Забельскім канвенце Ордэна прапаведнікаў. 1787 год.

Абодва гэтыя тытулы выканала адна асоба, але ў адным выпадку навучальная ўстанова названая “гімназія”, а ў другім гаворка ідзе пра прафесара канвенту[2]. Характэрна, што ў першым выпадку ўжываецца не лацінскае “kolegium” (школа з бурсаю, канвіктам), а грэцка-лацінскае “gimnasium” (школа практыкаванняў).

Усё гэта можа быць сведчаннем, што, па-першае, у Забельскім дамініканскім кляштары ўтрыманне навучальнае ўстановы дыктавалася неабходнасцю падрыхтоўкі святароў. Нагадаем: асноўная мэта ордэну дамініканцаў – прапаведніцтва і місіянерская дзейнасць. Вось чаму столькі ўвагі надавалася курсу рыторыкі (у невялікім кляштары працавалі адначасна два прафесары!). Па-другое, у дамініканскай вучэльні адукацыю набывала невялікая колькасць студэнтаў.

У сувязі з гэтым варта задаць пытанне: а ці існаваў пры Забельскім дамініканскім кляштары тэатар? Беларускія даследнікі адназначна казалі, што п’есы, прынамсі, *Камедыя* з рукапіснага зборніка была “напісаная і пастаўленая ў Забельскай калегіі ў 1787 годзе” [Мальдзіс 1974: 152]. Гэта значыць, што ў мястэчку Валынцы пры Забельскім дамініканскім кляштары была калегія / калегіум, у якой ладзіліся пас-

[1] Існуюць іншыя варыянты перакладу тытула раздзела. Пра гэта гл. ніжэй.
[2] Дапускаем, што перапісвальнік дакладна передаваў зыходны рукапіс.

таноўкі, г. зн. працаваў тэатар. Аднак ці ёсць якія пісьмовыя крыніцы, якія сведчаць пра існаванне калегіума і тэатра? На жаль, такія крыніцы пакуль не выяўленыя. Можна меркаваць, што калегіум і тэатар "узніклі" на пачатку XX стагоддзя па аналогіі з навучальнай і тэатральнай дзейнасцю езуітаў. Так, з аднаго боку мы бачым створаныя па ўсіх правілах драматургічнага майстэрства п'есы, якія паходзяць з Забельскага кляштара, але з другога – не маем аніякіх пацвярджэнняў, што гэтыя творы ставіліся ў Забельскім дамініканскім кляштары. Цікава, аднак, тое што ўсе тэксты ў зборніку падаюцца як "рытарычныя практыкаванні". Ці не азначае гэта, што яны прызначаліся проста дзеля чытання, дзеля заняткаў?

Не можам мы не звярнуць увагу і на тое, што дамініканцы Літоўскае і Беларускае правінцый не ладзілі, здаецца, публічных тэатральных пастановак. Прынамсі, адзін з першых даследнікаў тэатральнага руху на Літве і Беларусі Юліян Ціціус (1820–1898) не называе братоў-прапаведнікаў сярод тых (езуітаў, базыльянаў, піяраў), хто выкарыстоўваў дзеля сваіх мэтаў падобнае [Titius 1840: 179–182 і інш.]. А ён вельмі добра ведаў полацка-дрысенскі рэгіён. Чаго варта, напрыклад, ягонае апісанне тэатра Алаіза Буйніцкага ў мястэчку Забор'е (на тракце з Глыбокага ў Дзісну) [Samborska-Kukuć 2003: 3–4].

Ю. Ціціус, дарэчы, шмат увагі прысвяціў г. зв. школьным дыялогам –тэатральным пастаноўкам езуітаў. Няўжо пра калегіум і навучальны працэс дамініканцаў ў Валынцах ён проста нічога не ведаў?

Нашае дапушчэнне, што пры Забельскім дамініканскім кляштары не было калегіума і тэатра, небясспрэчнае. Але ці павінны сёння адваротныя аксіяматычныя сцверджанні лічыцца верагоднымі? Так, даследніца рэлігійнага жыцця ў Беларусі XVIII–XIX стст. Раіса Зянюк піша:

> Пры школе працаваў тэатр, дзе ажыццяўляліся пастаноўкі, аўтарамі якіх былі выкладчыкі калегіўма. Тэатральныя пастаноўкі выкарыстоўваліся як форма і метад навучання [Зянюк 2012: 355].

І не спасылаецца, на жаль, на крыніцы. Тут, пэўна, паўплывалі на навукоўца шматлікія публікацыі даволі аўтарытэтных гісторыкаў літаратуры. На нашую думку, самым важкім аргументам на карысць існавання калегіума і тэатра ў Валынцах было даследаванне Адама Мальдзіса. Апавядаючы пра твор з *Практыкаванняў* (1789–1791) М. Цяцерскага *Апалон-заканадаўца, або Зрэфармаваны Парнас, аперэтка, якая складаецца з дыялогаў і спеваў*, ён пераказвае прадмову. З пераказу вынікае, што аперэтка "напісана <...> для спектакля з поваду заканчэння школьнага года" [Мальдзіс 1974: 170]. Здаецца, усё зразумела: раз сам аўтар называе практычную мэту свае працы, дык аніякіх сумненняў быць не можа: аперэтка прызначалася для спектакля ў Забельскім

кляштары. Аднак насцярожвае той факт, што зборнік 1787 г. называўся *Рытарычныя і паэтычныя практыкаванні, сабраныя мною, братам Міхалам Цяцерскім*… Звяртаем увагу на слова "сабраныя". Ці не павінна яно схіліць нас засумнявацца ў аўтарстве М. Цяцерскага тэкстаў, уключаных у гэты зборнік? І дыялогі, і драматургічныя творы могуць паходзіць з розных дамініканскіх ды недамініканскіх асяродкаў былое Рэчы Паспалітае, а таксама Заходняй Еўропы (пераклады – у апошнім выпадку – маглі быць выкананы і ў Забельскім кляштары). Не мае тут значэння і тое, што ў *Камедыі з пяці актаў* А. Мальдзіс заўважыў "лакальны каларыт": падзеі ў ёй адбываюцца "паблізу ад Валынцаў, на берагах Дрысы" [Мальдзіс 1974: 168]. Бо перапісвальнік мог дазволіць сабе ўнесці змены.

Выказваючы меркаванне, што пра Забельскім дамініканскім кляштары хутчэй за ўсё не было калегіума, мы аніяк не змяншаем ягоную ролю як значнага культурна-асветнага цэнтра Паўночнае Беларусі ў XVIII – пачатку XIX стагоддзя. На нашую думку, у Валынцах "дзейнічаў" своеасаблівы асяродак па падрыхтоўцы і перапісванні "практыкаванняў" дзеля навучання студэнтаў-клерыкаў як у "слаўных Забелах", так і ў іншых дамініканскіх кляштарах. Пра гэта сведчыць захаваная рукапісная спадчына літоўска-беларускіх дамініканцаў. Уважліва аналізуючы забельскі рукапіс 1787 г., мы прыйшлі да высновы, што ён не можа з'яўляцца ні аўтографам К. Марашэўскага, ні аўтографам М. Цяцерскага. Гэта зборнік, які ўзнік у кляштарным скрыпторыі. Тэксты драматургічных і інш. твораў запісваліся пад дыктоўку. А гэта азначае, што адначасна паўставала некалькі зборнікаў. На шчасце, адзін з іх захаваўся.

## Праблема аўтарства *Камедыі*

У. Перацц, не маючы звестак ні пра самога К. Марашэўскага, ні пра ягоную творчасць, напачатку відаць, сумняваўся, што *Камедыя* належыць пяру прафесара рыторыкі і паэтыкі:

> Изъ этого заглавія можно заключить, что передъ нами лишь часть обширнаго собранія драматическихъ произведеній собранныхъ, а м о ж е т ъ  б ы т ь  –  и  н а п и с а н н ы х ъ  о. М о р а ш е в с к и м ъ (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), ибо обычно встарину сочиненіе пьесъ лежало на обязанности преподавателей реторики и піитики, обязанныхъ не только наставлять учениковъ въ теоріи, но и на практикѣ давать имъ образцы, достойные подражанія [Перетцъ 1911: 275].

Праўда, крыху ніжэй ён нібыта ўжо пазбываецца сваіх сумненняў:

> Знакомясь ближе съ пьесами оо. Морашевскаго и Цецерскаго, убѣждаемся въ томъ, что это – опыты старинной школьной драмы, но со слѣдами

> вліянія новаго классицизма, при томъ скорѣе итальянскаго, чѣмъ французскаго [Перенцъ 1911: 277].

Прыкладна такое ж стаўленне да праблемы аўтарства беларуска-польскіх камедый *Зборніка...* і ў Я. Карскага: у адпаведнасці з тытуламі частак ён піша, што рукапіс "складзены" К. Марашэўскім і М. Цяцерскім [Карскій 1921: 228], але пазней гаворыць пра іх, як пра аўтараў: "Бѣлорусская рѣчь у Цецерскаго вышла хуже, нежели у Морашевскаго" [Карскій 1921: 232].

А вось Максім Гарэцкі ў *Хрыстаматыі...* [Гарэцкі 1922: 70–73], *Выпісах...* [Гарэцкі, Дзяржынскі, Каравай 1926: 284–297], а таксама ў чацвёртым выданні *Гісторыі*... [Гарэцкі 1926: 98–99] ужо адназначна называе К. Марашэўскага аўтарам *Камедыі*, што – трэба сказаць – і замацавала дамініканца ў статусе беларускага літаратара. Праўда, адразу пасля выхаду ў свет *Хрыстаматыі* Адам Саладух (Уладзіслаў Талочка, 1887–1942) асцярожна запярэчыў М. Гарэцкаму:

> Дамініканец *Maraszewski* (sic) у Забелах, аўтар беларускай камедыі, хіба, ідэнтычны а. Піліпу Макрэцкаму, які там у той час (1787 г.) быў і працаваў (у кніжцы пададзенае сапсаванае[1] прозвішча) [Sołoduch 1923: nr 7]

Невядома, на падставе чаго А. Саладух прыпісвае *Камедыю* П. Макрэцкаму. Але, магчыма, падчас навучання ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі (1906–1909) ён пазнаёміўся з архівам Забельскага дамініканскага кляштару, бо якраз тады выйшаў у свет пяты выпуск *Описанія Рукописнаго отдѣленія Виленской публичной библіотеки* (1906), дзе ішла гаворка пра рукапісы Забельскае бібліятэкі. Ды, відаць, звярнуў увагу і на *Камедыю*, і на спісы манахаў канвенту. Вось толькі ці не памыліўся А. Саладух, пішучы гадоў праз пятнаццаць водгук на *Хрыстаматыю*...?

Насамрэч у Забельскім кляштары жыў і працаваў дамініканец кс. Піліп Макрэцкі, але было гэта ў 1845–1858 гг., а не ў 1787 г. Цяжка паверыць у тое, што праз 58 гадоў пасля бытнасці ў Валынцах аднаго П. Макрэцкага з'явіўся ягоны аднаіменнік. Хутчэй, А. Салагуб проста "атаясаміў" аўтара *Камедыі* з адным з самых славутых дамініканцаў Літоўскае правінцыі XIX стагоддзя.

Здавалася б, можна было і не надаваць значэння сказанаму між іншым, фактычна адным словам у водгуку на *Хрыстаматыю*..., аднак у 1980-я гг. інфармацыю А. Саладуха "пацвердзіў" Георгій Колас (1929–1994), які працаваў тады "над разгадкай таямніц *Камедыі* Каятана Марашэўскага":

[1] У пазнейшых *Выпісах* М. Гарэцкі не адмовіўся ад ранейшае атрыбуцыі *Камедыі*, але прозвішча аўтара падаў як *Марашэўскі*.

> Мая гіпотэза нічым не горшая за тую, што ўвайшла (бяздоказна) у навуковы ўжытак пра Каятана Марашэўскага: у штотыднёвіку „Przegląd Wileński” (№ 7, 1923) А. Саладух надрукаваў “здагадку”, што *Камедыю* стварыў не К. Марашэўскі, а Піліп Макрэцкі. А. Мальдзіс гэтую “здагадку” Саладуха не абмінуў, і нават адказаў яму, на першы погляд, вельмі слушна: “Прозвішча Марашэўскага выразна абазначана на вокладцы”. А Саладух, напэўна, мог бы запярэчыць Мальдзісу, што ён таксама **бачыў** (тут і далей вылучэнні Г. Коласа. – *М. Х.*) тую “вокладку” (ці больш дакладна – першую старонку ў рукапісным сшытку), але Саладух, напэўна недзе **бачыў**, акрамя таго, яшчэ і **тагачасны спіс** настаўнікаў Забельскае калегіі (я сам яго таксама **бачыў**): Каятана Марашэўскага **няма** ў тым спісе, а Піліп Макрэцкі – **ёсць** [Колас 1988: № 1].

А. Саладух нічога не кажа пра “спіс настаўнікаў Забельскае калегіі”. А вось пра які “спіс” вядзе гаворку Г. Колас? Пра “спіс” прафесараў “studium formalne” ў кляштары? Дык у Валынцах, дзе на “studium” наведвалася дваццаць ці крыху больш студэнтаў-клерыкаў, і колькасць прафесараў была нязначнаю – на нашую думку, тры–чатыры асобы. Фармат літаратурна-публіцыстычнага выдання не патрабаваў ад даследніка спасылацца на крыніцу інфармацыі, а таму мы не можам спраўдзіць, што гэта за “спіс” і за якія гады бачыў Г. Колас, але запіс у *Liber encyclicarum* адназначна сведчыць, што ў 1788 г. К. Марашэўскі пакінуў Забельскі канвент і накіраваўся ў Аглону [Брыль 2018: 3]. Гэта значыць, у Валынцах ён дакладна жыў і працаваў.

Больш складана адказаць на пытанне: занатаванае ў раздзеле (с. 1–29) – гэта ўласныя творы К. Марашэўскага ці проста тэксты, якія ён падрыхтаваў (сабраў, склаў, перапрацаваў і інш.) дзеля заняткаў са студэнтамі на лекцыях паэтыкі альбо рыторыкі? Варта яшчэ раз прыгадаць тытульную старонку раздзела:

> Continuatio | operis | Scholastici | Patris Caietani | Moraszewski | Professoris | Rhetorices et Poeseos | In Gimnasijs Zabialiensis | Anno D–ni 1787, Dec. 24|.

Першым з беларускіх даследнікаў варыянт перакладу тытулу прапанаваў на пачатку 1960-х гг. Якуб Усікаў:

> Працяг твораў рытара айца Каэтана Марашэўскага, прафесара рыторыкі і паэзіі Забяльскай гімназіі [Усікаў 1964: 130].

Крыху пазней А. Мальдзіс нязначна паправіў пераклад:

> Працяг твораў айца Каятана Марашэўскага, прафесара рыторыкі і паэтыкі Забельскай гімназіі [Мальдзіс 1974: 163].

Самае складанае і найважнейшае для нас у гэтым лацінамоўным тытуле – выраз “operis Scholastici”. Ці маем мы права перакладаць яго як “творы”? *Вольнасць у няволі* і *Камедыя* сталі творамі для нас у XX стагоддзі. Для К. Марашэўскага ў першую чаргу – гэта працы дзеля

школьных рытарычных практыкаванняў, школьных дыспутаў. Гэта – школьныя працы, у якія выяўляецца схаластычная канцэпцыя тагачаснае навукі і адукацыі, спалучэнне тэалагічнае дагматыкі з рацыяналістычнай логікай Арыстоцеля.

Усё тое, што ёсць у гэтым зборніку і што было ў зборніку, які не захаваўся[1], – выкарыстоўвалася К. Марашэўскім, але не ягоная ўласнасць у ягоным разуменні. Бо ж невыпадкова кожны тэкст завяршаецца формулай, якая прыкладна аднолькавая ледзь не ва ўсіх тагачасных школьных матэрыялах: *Ad M*[aiorem]*: D*[ei]*: Gl*[oria]*m* – *Дзеля большае славы Божае*.

На наш погляд, ёсць падставы сумнявацца ў тым, што *Камедыя* належыць пяру К. Марашэўскага. Прынамсі, пакуль не выяўлена дакументаў, якія б пацвярджалі аўтарства прафесара паэтыкі і рыторыкі Забельскага канвенту. Аднак, прааналізаваўшы вытокі і крыніцы *Камедыі*, мы мяркуем, што К. Марашэўскі мог на падставе даступных яму матэрыялаў езуіцкага школьнага тэатра падрыхтаваць тэкст у адпаведнасці з тагачаснымі паэтыкамі і ўзорнымі “школьнымі камедыямі” Францішка Багамольца.

Нейкіх іншых паважных атрыбуцыйных гіпотэзаў адносна *Камедыі* мы пакуль не маем.

## Пра Каятана Марашэўскага

Цягам ста гадоў гісторыкі літаратуры ведалі пра Каятана Марашэўскага толькі тое, што было пазначанае ў рукапісе, выяўленым у Віленскай публічнай бібліятэцы на пачатку ХХ стагоддзя У. Перятцам, А. Сычэўскай і Я. Карскім: у сярэдзіне 1780-х гг. беларускі драматург з’яўляўся прафесарам рыторыкі і паэтыкі “Забельскага дамініканскага калегіума” [Мальдзіс 1996: 390–391].

І толькі ў апошні час Антон Францішак Брыль выявіў шэраг дакументаў, якія дазваляюць дадаць некалькі істотных штрыхоў у біяграфію К. Марашэўскага [Брыль 2018: 3–4]. Па-першае, перад пачаткам 1788/1789 навучальнага года (г. зн. у жніўні 1788 г.) яго, відавочна, перавялі з Валынцаў у дамініканскі кляштар у Аглоне на пасаду выкладчыка (прафесара) у тамтэйшым “studium formalne”. Па-другое, паводле спісу манахаў, у 1810 г. яму прыкладна 55 гадоў[2], і ён прыёр дамініканскага кляштара ў Шумску. Па-трэцяе, у 1811 г. К. Марашэўскі памёр.

Гэта значыць, цяпер мы ведаем гады ягонага жыцця: К. Марашэўскі нарадзіўся прыкладна ў 1755 г., а памёр у 1811 г. І што ён амаль усё

[1] Маем на ўвазе страчаны сшытак, у якім былі іншыя “operis Scholastici” К. Марашэўскага.
[2] Вусная інфармацыя А.Ф. Брыля. Спіс манахаў 1810 г. ім яшчэ неапублікаваны.

жыццё служыў дамініканскаму ордэну, стаўшы на схіле дзён нават прыёрам невялічкага кляштара. Вельмі верагодна, што К. Марашэўскі з дзяцінства быў звязаны з даміініканскім ордэнам, хоць не выключаем, што ён мог вучыцца ў адным з езуіцкіх калегіумаў.

Як ужо паведамлялася, у 1788 г. К. Марашэўскі быў накіраваны ў Аглонскі даміініканскі кляштар, што знаходзіўся ў Інфлянтах, латышскай частцы Полацкага намесніцтва (блізу 100 км на паўночны захад ад Валынцаў), на пасаду прафесара тамтэйшага "studium formalne". Сярод публікацый пра Аглонскі кляштар цікавым падаецца артыкул Дамініка Ходзькі (блізу 1800 – 1863) *Аглона: Касцёл і кляштар аа. дамініканцаў* [Chodźko 1856: 163], у якім шмат звестак пра мінулае святыні; аднак постаць К. Марашэўскага, відаць, не была так значнай, каб захавацца ў аналах гісторыі. Не згадвае пра яго ў Аглоне і Валыняк, бо "аглонскіх дамініканцаў мы ведаем толькі ад першае чвэрці XIX стагоддзя з *Elenchusów zakonnych*" [Wołyniak 1917: 56].

Пра жыццё і працу К. Марашэўскага з восені 1788 г. па 1810 г. звесткі пакуль не выяўленыя. За гэты час адбылося сем капітулаў Беларускае, а пасля "аб'яднанае" Літоўскае правінцый, і на кожнай з іх К. Марашэўскі мог атрымаць новае прызначэнне. Гэта значыць, да 1796 г. ён мог жыць не толькі ў Аглоне, але і ў адным з кляштараў Беларускае правінцыі: Рушоне, Посіне, Полацку, Оршы, Княжыцах і Валынцах. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітае да вышэй згаданых дамініканскіх асяродкаў дадаліся блізу сарака іншых, што ўваходзілі ў склад узноўленае Літоўскае правінцыі. Але "след" К. Марашэўскага, зусім нядаўна адшуканы А.Ф. Брылём, захаваўся толькі ў мястэчку Шумск (сёння: Šumskas, Літва, на самай мяжы з Беларуссю): у 1810 г. ён быў (магчыма, толькі атрымаў прызначэнне) на чале тамтэйшага кляштара. Праўда, у *Directorium*… Літоўскае правінцыі дамініканцаў за 1812 г. пазначана, што прыёр Шумскага кляштара памёр у 1811 г. Аднак, здаецца, не ў Шумску, бо яго няма ў "пахавальных метрыках" Шумскага касцёла св. Міхала Арханёла.

У Шумску на пачатку XIX ст. ужо быў мураваны касцёл, а вось кляштар – адно драўляны. Валыняк у сваёй публікацыі пра Шумскі кляштар не згадвае К. Марашэўскага, хоць шмат увагі прысвячае ягонаму наступніку Віктару Лаўрыновічу,

> які ў 1812 г., калі французскае войска наплыло ў Літву і страшныя знішчэнні ды спусташэнні ў вялікім маштабе чыніла, будучы тут прыёрам, і на хвіліну не хацеў Шумска пакінуць, ратаваў, што мог і як удавалася, выцерпеўшы нямала знявагаў, здзекаў і неаднойчы нават фізічнага ўздзеяння. Пасля сканчэння пераходаў непрыяцельскіх войскаў а. Лаўрыновіч стараўся прывесці кляштар да зноснага існавання, для касцёла раздабыў самыя патрэбныя, хоць і сціплыя прадметы; пастараўся пра

> дапамогу сялянам, здабываючы для іх ежу і самае неабходнае; сякое-такое ўратаванне кляшторных і фальваркавых пабудоваў сталася толькі дзякуючы ягонай нястомнай энергіі ды руплівасці [Wołyniak 1917: 215–216].

Звернем яшчэ ўвагу на інфармацыю Валыняка, што ў Шумскім касцёле была колісь памятная дошка, якая сведчыла пра пахаванага тут суддзю Ашмянскага павета Казіміра Барэйку-Ходзьку (1739–1804) [Wołyniak 1917: 214], крэўнага (брата?) бацькі Яна Ходзькі (1777–1851). А г. зн. Ігнацы Ходзька (1794–1861), пэўна ж, ведаючы гісторыю недалёкага Шумскага кляштара, невыпадкова даў герою *Успамінаў квестара* прозвішча "Лаўрыновіч".

Маем надзею, што некалі мы будзем ведаць значна больш і пра жыццё, і спадзяёмся – пра творчасць К. Марашэўскага.

## Бібліяграфія

Bryl' Anton Francìšak. 2018. *Zvestkì pra Kaâtana Marašèŭskaga, Mìhala Câcerskaga ì Ìgnacyâ Ûrèvìča ŭ dakumentah damìnìkanskaga ordèna*. "Rodnae slova" № 4: 3–4 [Брыль Антон Францішак. 2018. *Звесткі пра Каятана Марашэўскага, Міхала Цяцерскага і Ігнацыя Юрэвіча ў дакументах дамініканскага ордэна*. "Роднае слова" № 4: 3–4].

Chodźko Dominik. 1856. *Agłona: Kościół i klasztor oo. dominikanów*. "Pamiętnik Religijno-Moralny" № 8: 163.

Fibek Jan. *Zabiały (Валынцы) – p. w. Św. Jerzego* [online] https://www.radzima.org/be/object_comm/7409.html [дата доступу: 13.07.2021].

Garèckì Maksìm, Dzâržynskì Uladzìslaŭ, Karavaj Pavel. 1926. *Vypìsy z belaruskae lìtaratury*, č. Ì: *1. Vusnaâ narodnaâ tvorčas'c'; 2. Staradaŭnae pìs'menstva*. Maskva–Lenìngrad [Гарэцкі Максім, Дзяржынскі Уладзіслаў, Каравай Павел. 1926. *Выпісы з беларускае літаратуры*, ч. I: *1. Вусная народная творчасьць; 2. Старадаўнае пісьменства.* Масква–Ленінград].

Garèckì Maksìm. 1922. *Hrystamatyâ belaruskae lìtèratury. XI vek – 1905 god*. Vìl'nâ [Гарэцкі Максім. 1922. *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*. Вільня].

Garèckì Maksìm. 1926. *Gìstoryâ belaruskae lìtèratury*, vydan'ne čac'vertae, peraroblenae. Mensk [Гарэцкі Максім. 1926. *Гісторыя беларускае літэратуры*, выданьне чацьвертае, перапрацаванае. Менск].

Karskìj Efimìj. 1912. *Bělorusy*, t. 2: *Âzyk" bělorusskago plemeni*, kn. 3: *Očerki sintaksisa bělorusskago narečìâ. Dopolnenìâ i popravki*. Varšava [Карскій Ефимій. 1912. *Бѣлорусы*, т. 2: *Языкъ бѣлорусскаго племени*, кн. 3: *Очерки синтаксиса бѣлорусскаго наречія. Дополненія и поправки*. Варшава].

Karskìj Efimìj. 1921. *Bělorusy*, t. III: *Očerki slovesnosti běloruskago plemeni*, č. 2: *Staraâ zapadno-russkaâ pis'mennost'*. Petrograd. [Карскій Ефимій. 1921. *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 2: *Старая западно-русская письменность.* Петроградъ].

Kolas Georgì. 1988. "*Čy garast, spodaru*?" "LìM" № 1 [Колас Георгі. 1988. "*Чы гараст, сподару*?" "ЛіМ" № 1].

Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka (LMAVB), f. 18, b. 201, l. 1–96r.

Mal'dzìs Adam. 1974. *Vakol Parnasa Zabel'skaj kalegìì*. U: Mal'dzìs Adam. *Taâmnìcy staražytnyh shovìščaй*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Мальдзіс Адам. 1974. *Вакол Парнаса Забельскай калегіі*. У: Мальдзіс Адам. *Таямніцы старажытных сховішчаў*. Мінск: Мастацкая літаратура.

Mal'dzìs Adam. 1996. *Zabel'skì damìnìkanskì kalegìum*. U: *Èncyklapedyâ gìstoryì Belarusì ŭ 6 tamah*, t. 3. Mìnsk: Belaruskaâ èncyklapedyâ [Мальдзіс Адам. 1996. *Забельскі дамініканскі калегіум*. У: *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах*, т. 3. Мінск: Беларуская энцыклапедыя].

*Otčet o Vilenskoj publičnoj biblioteke i muzee za 1903 god. 1904. Vil'na* [*Отчет о Виленской публичной библиотеке и музее за 1903 год*. 1904. Вильна].

Peretc" Vladimir". 1911. *K" istorìi pol'skago i russkago narodnago teatra. XVIII–XIX*. "Izvestìâ Otdelenìâ russkago âzyka i slovesnosti Imperatorskoj Akademìi nauk" t. XVI, kn. 3: 248–319 [Перетцъ Владимиръ. 1911. *Къ исторіи польскаго и русскаго народнаго театра. XVIII–XIX*. "Известія Отделенія русскаго языка и словесности Императорской Академіи наук" т. XVI, кн. 3: 248–319].

Samborska-Kukuć Dorota. 2003. *Wspomnienia o Zaborzu: Z historii teatrów dworskich na Kresach*. "Pamiętnik Teatralny": 3–4.

Sołoduch Adam. 1923. *Bibliografia: Maksim Harecki. Chrystamatyja Biełaruskaje Litaratury XI wiek – 1905 hod, Wilenskaje Biełaruskaje Wydawiectwa B. Kleckina*, Wilnia 1922, str. 264 z ilustracjami. "Przegląd Wileński" nr 7.

Syčevskaâ Antonina. 1909. *K" voprosu o Mol'erě v" pol'skoj dramatičeskoj literaturě XVIII st*. "Russkìj filologičeskìj věstnik"" № 3 i 4 (т. LXII): 75–109 [Сычевская Антонина. 1909. *Къ вопросу о Мольерѣ въ польской драматической литературѣ XVIII ст*. "Русскій филологическій вѣстникъ" № 3 і 4 (т. LXII): 75–109].

Titius Julian. 1840–1841. *Rys historyczny przedstawień teatralnych, mianowicie w języku polskim, na Litwie*. "Wizerunki i Roztrząsania Naukowe" t. 16: 179–182; t. 17: 140–145; t. 18: 97–139; t. 19: 85–93; t. 20: 85–96; t. 21: 110–130.

Usìkaŭ Âkub. 1964. *Belaruskaâ kamedyâ: Lâ vytokaŭ žanru*. Mìnsk: Vyšèjšaâ škola [Усікаў Якуб. 1964. *Беларуская камедыя: Ля вытокаў жанру*. Мінск: Вышэйшая школа].

Wołyniak [Jan Marek Giżycki]. 1917. *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej*, cz. 1. Kraków.

Zânûk Raìsa.2012. *Navučal'nyâ ŭstanovy pry Zabel'skìm damìnìkanskìm klâštary (1716–1857 gg.)*. U: *Vìcebskìâ staražytnascì: Matèryâly navukovaj kanferèncyì, prysvečanaj 90-goddzû sa dnâ naradžènnâ L.V. Alâkseeva*. Vìcebsk, 28–29 kastryčnìka 2010 g. Mìnsk: Medysont [Занюк Раіса. 2012. *Навучальныя ўстановы пры Забельскім дамініканскім кляштары (1716–1857 гг.)*. У: *Віцебскія старажытнасці: Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю са дня нараджэння Л.В. Аляксеева. Віцебск, 28–29 кастрычніка 2010 г.* Мінск: Медысонт].

**ABSTRACT**: The article examines the history of the Zabelsky manuscript collection, the problems of reading one of its texts – the famous Comedy, authored by Kayatan Marashevsky. The question is: did the Zabelsky Dominican Monastery have a college – an educational institution for the children of the wealthy nobility – and a theatre? In our opinion, in Walyncy there was a scriptorium – a kind of center for the preparation and rewriting of "exercises" for the training of clerics of the Dominican Order. Carefully analyzing the Zabel manuscript of 1787, we came to the conclusion that it can be neither an autograph of K. Marashevsky nor an autograph of M. Tetersky. Another question that will have to be answered by

literary historians: Are *Liberty in Captivity* and *Comedy* are K. Marashevsky's own works or texts that he prepared (collected, composed, reworked, etc.) for classes with students in lectures on poetry or rhetoric?

**KEY WORDS**: Walyncy, Zabely, Dominicans, manuscript, comedy, attribution, textology, Kayatan Marasheŭvski.

**STRESZCZENIE**: Artykuł omawia historię zabialskiego zbioru rękopisów, problemy z odczytaniem jednego z jego tekstów – słynnej *Komedii* autorstwa Kajetana Moraszewskiego. Stawiane są pytania: czy klasztor Dominikanów Zabielskich miał kolegium – instytucję edukacyjną dla dzieci zamożnej szlachty – i teatr? Naszym zdaniem w Wołyńcach znajdowało się skryptorium – rodzaj centrum przygotowania i przepisywania „ćwiczeń" do szkolenia duchownych Zakonu Dominikanów. Uważnie analizując zabialski rękopis z 1787 r. doszliśmy do wniosku, że nie może to być ani autograf K. Moraszewskiego, ani autograf M. Ciecierskiego. Kolejne pytanie, na które historycy literatury będą musieli odpowiedzieć sobie: czy *Wolność w niewoli* i *Komedii* to utwory K. Moraszewskiego lub teksty, które on przygotował (zebrał, komponował, przerabiał itp.) na zajęcia ze studentami z poetyki lub retoryki?

**SŁOWA KLUCZOWE**: Wołyncy, Zabiały, Dominikanie, rękopis, komedia, atrybucja, tekstologia, Kajetan Moraszweski.

**РЭЗЮМЭ**: У артыкуле разглядаецца гісторыя забельскага рукапіснага зборніка, праблемы расчытання аднаго з ягоных тэкстаў – славутае *Камедыі*, аўтарам якое лічыцца Каятан Марашэўскі. Ставіцца пытанне: ці існаваў пры Забельскім даміканскім кляштары калегіум – навучальная ўстанова для дзяцей заможнае шляхты – і тэатар? На нашую думку, у Валынцах "дзейнічаў" скрыпторый – своеасаблівы асяродак па падрыхтоўцы і перапісванні "практыкаванняў" дзеля навучання клерыкаў даміканскага ордэна. Уважліва прааналізаваўшы забельскі рукапіс 1787 г., мы прыйшлі да высновы, што ён не можа з'яўляцца ні аўтографам К. Марашэўскага, ні аўтографам М. Цяцерскага. Чарговае пытанне, на якое неабходна будзе адказаць гісторыкам літаратуры: *Вольнасць у няволі* і *Камедыя* – гэта ўласныя творы К. Марашэўскага ці тэксты, якія ён падрыхтаваў (сабраў, склаў, перапрацаваў і інш.) дзеля заняткаў са студэнтамі на лекцыях паэтыкі альбо рыторыкі?

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: Валынцы, Забелы, даміканцы, рукапіс, камедыя, атрыбуцыя, тэксталогія Каятан Марашэўскі.

*Data przesłania artykułu: 1.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 25.11.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Mikałaj Chaustowicz / Мікола Хаўстовіч** – Polska, Uniwersytet Warszawski, Katedra Białorutenistyki; dr hab., prof.; specjalność naukowa: literaturoznawstwo białoruskie; zainteresowania naukowe: literatura białoruska w XIX wieku, polsko-białoruskie związki literackie.

**Adres**: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszawa, Polska.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Хаўстовіч Мікола. 2020. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX стагоддзя*, том шосты: *Беларускія тэксты Паўстання 1863 года*. Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego.
2. Хаўстовіч Мікола. 2020. *Літаграфаваная "Гутарка старога дзеда на Беларусі" ў кантэксце рукапісаў і выданняў твора*. У: В.Ю. Боровко, Е.В. Крикливец (рэд.). *Аксиологический диапазон художественной литературы: Сборник научных статей* (с. 249–253). Витебск: Выдавецтва ВДУ.
3. Хаўстовіч Мікола. 2021. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, том сёмы. Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego.
4. Хаўстовіч Мікола. 2021. *Беларускія вершы Адама М-скага: тэксты і кантэксты*. „Acta Polono-Ruthenica" XXVI/2: 75–88.
5. Хаўстовіч Мікола. 2021. *Праблемы атрыбуцыі вершаванага драматургічнага абразка ATWIECZEREK*. „Studia Białorutenistyczne" 15: 157–173.

га, / па якім ужо толькі ценем праімчымся / цішынёй да ігельнай прыстані". Паэтка паказвае ў гэтым тэксце свой талент у філасофскай лірыцы, глыбіню сваіх думак і перажыванняў: "Кожны дзень, як вясла адпіханне, / лодку лёсу па часу хвалях, / адно аднаго аддаляе –/ набліжае да іншага берагу".

Не абышлося тут без моўных хібаў і памылак друку, хоць яны пераважна малазначныя і могуць быць вытлумачаныя недахопам увагі: "Кальёпе" замест "Каліёпа", "у птушках" замест "у птушак".

Апошняя публікацыя ў "Ніве", да якой мы атрымалі доступ, з'явілася ў друку 4 лістапада таго ж года. Гэта адносна доўгі верш, нашмат прасцейшы і больш непасрэдны за папярэднія творы Б. Квапіш:

Журботна мне, калі цябе няма.
Хацела б быць з табой,
Размаўляць... чытаць вершы,
Вочы твае цалаваць,
Смяяцца і жартаваць.

Чаму ўвесь час ты сябе забіраеш?
Адыходзіш... і пустату балючую пакідаеш?
Дзе ты тады?
Што робіш, аб чым думаеш?
Ці я ў думках тваіх?

Прыйдзі і раскажы!

Прыйдзі! Будзем размаўляць.
Мо... трохі спрачацца?
Мо... чытаць вершы?

Але напэўна вочы свае будзем цалаваць,
Будзем смяяцца, бестурботна жартаваць.

Бо ж толькі ты мне, а я табе
Ружовыя акуляры здолеем надзяваць.
[Квапіш 1979, № 44: 3].

Верш напісаны гутарковым стылем, простымі словамі і думкамі: "Хацела б быць з табой, / Размаўляць... чытаць вершы". Лірычная гераіня зноў звяртаецца да каханага чалавека, да гэтага "ты", які з'яўляўся ў ранейшых вершах паэткі. Яму лірычная гераіня выказвае і прэтэнзіі пра няшчаснае каханне: "Чаму ўвесь час ты сябе забіраеш? / Адыходзіш... і пустату балючую пакідаеш?" Гэты песімістычны настрой захоўваецца да апошніх радкоў верша, чытаецца між радкоў, сярод наіўных думак пра любоў: "Прыйдзі! Будзем размаўляць. / Мо... трохі спрачацца? / Мо... чытаць вершы?" Напрыканцы лірычная гераіня прызнаецца ў тым, што яе каханне ў пэўнай ступені – самападман і жаданне верыць у лепшае: "Бо ж толькі ты мне, а я табе / Ружовыя акуляры здолеем надзяваць".

Мы не змаглі знайсці іншых вершаў Б. Квапіш на старонках тыднёвіка “Ніва”, аднак заўважылі яшчэ адну, апошнюю, публікацыю ў літаратурным альманаху “Белавежа” за 1980 год. У ім з’явіліся тры вершы аўтарства Б. Квапіш, якія аналізаваў А. Баршчэўскі ў сваёй кнізе *Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958–1998*.

Мама
– як дрэва фрукты,
ты нас нарадзіла
І, хаця сама дрыжыш на ветры жыцця, –
Нас засланяеш далонямі,
як дрэва лісцём свае плады.
Рукі свае, як галіны дрэў,
Выцягваеш па сонца,
Каб мы ў яго цеплыні даспелі бяспечна.
І яшчэ непакоіцца тваё чуллівае сэрца
Каб толькі
тваім жыццём як сокам набрынялыя,
ад цябе адарваныя,
Плады...
Сілу мелі,
Каб у свет ураслі
карэннямі,
развіліся кветкай
і пладаносіць —
каб ім!

[Квапіш 1980]

Надзвычай пяшчотны і маляўнічы верш, у якім аўтарка апрацоўвае традыцыйны вобраз маці як фруктовага дрэва, якое “<…> нас нарадзіла / <…> Нас засланяеш далонямі, / як дрэва лісцём свае плады”. Вяртаецца да тэксту Б. Квапіш і вобраз сонца, якое дорыць дрэву-маці энергію для выхавання дзетак: “Рукі свае, як галіны дрэў / Выцягваеш па сонца, / Каб мы ў яго цеплыні даспелі бяспечна”. Гэта пазітыўны, светлы верш, у якім выяўляецца і цікавая філасофская або, можа быць, псіхалагічная знаходка – лірычная гераіня прызнае чалавечнасць і слабасць маці, а не бачыць яе як аднабаковую крыніцу любові і моцы для сваіх дзяцей: “І, хаця сама дрыжыш на ветры жыцця”, “І яшчэ непакоіцца тваё чуллівае сэрца”.

Другі верш Б.Квапіш у альманаху адлюстроўвае адзін з улюбёных матываў літаратаркі ў паэзіі, зыходзячы з таго, што мы аналізавалі ў гэтым артыкуле. У іх выяўляецца каханне як мімалётны падман:

Твар яшчэ не звянуў
Яшчэ мае сілу прытварацца...
Таму ў вочы мае доўга не глядзі.
Яны – сэрца люстэркам.

А сэрца праўдзівае не маніць!
Што пад жыццяцяжарам прыгоркла,
Што ў маршчынах цэлае.
Таму ў вочы мае доўга не глядзі,
Падман аб вясне няхай трымаецца.
[Квапіш 1980].

Лірычная гераіня звяртаецца да каханага, папярэджвае яго аб сапраўдных пачуццях: “Таму ў вочы мае доўга не глядзі. / Яны – сэрца люстэркам. / А сэрца праўдзівае не маніць!” У вершы даследуецца таксама страх старэння (і фізічнага, і маральнага), і яе ўплыву на любоўныя жарсці: “[Сэрца] Што пад жыцця цяжарам прыгоркла, / Што ў маршчынах цэлае”. Асаблівую паэтычную знаходку мы заўважылі ў апошніх двух радках: “Таму ў вочы мае доўга не глядзі, / Падман аб вясне няхай трымаецца”. Вочы, паводле лірычнай гераіні, не ўмеюць хлусіць, таму яна паўтарае сваё папярэджванне і тлумачыць: вясна, як маладосць і любоў, будзе працягвацца, пакуль яны з каханым чалавекам не прымуць горкую праўду.

Апошні вядомы нам верш Б. Квапіш – адлюстраванне філасофскіх роздумаў аўтаркі, у якіх – аптымістычныя высновы:

Блытаніна дарог, бездарожжаў
з канцом непрыкмечаным,
Думкі і пачуццяў зблытанне
ў сетцы няпэўнасці...
Як вырвацца з густой чарнаты хмары,
Як вырвацца з яе шчупальцаў ліслівых,
Што ў бездань сваю ўцягваюць,
Душаць і паралізуюць?
Як у гэтай ночы, што ўнутры і навокал,
Паказальнік заўважыць –
куды і кудою?
Каб, брыдучы праз жыцця папары,
Знайсці дарогу сваю,
Ды не патаптаць іншых?
Як у сонца выплысці,
У праменнях светавых выкупацца,
Цішыню ў сябе адшукаць?
Уваскрэснуць?
Каб целам жывучы –
душой не паміраць.
[Квапіш 1980]

Лірычная гераіня задумваецца пра няпэўнасць жыццёвага шляху, задаецца пытаннямі пра адчай і цемру: “Як вырвацца з густой чарнаты хмары, / <…> Што ў бездань сваю ўцягваюць, / Душаць і паралізуюць?” Б. Квапіш не дае ў сваім тэксце гатовых адказаў, а запытвае ў чытачоў,

“куды і кудою?” Вяртаецца да радкоў паэткі і ўлюбёны вобраз сонца, якое зноў жа выступае як крыніца энергіі і пазітыўных эмоцый: “Як у сонца выплысці, / У праменнях светавых выкупацца”. У фінальных радках твора лірычная гераіня ставіць перад сабой пазітыўную мэту, якую можна ўспрымаць як асабістую філасофію або жыццёвае крэда: “Каб целам жывучы – / душой не паміраць”.

Дзякуючы аналізу апублікаваных вершаў Б. Квапіш у “Ніве” і “Белавежы” мы пераканаліся ў тым, што яе творчасць заслугоўвае і патрабуе далейшага вывучэння ў беларускім літаратуразнаўстве, не толькі з пункту гледжання экзафаніі на беларускай мове, а таксама ў якасці твораў самабытнай паэткі з арыгінальнымі задумамі, вобразамі і стылем. Мы змаглі зразумець пошукі Б. Квапіш сваіх уласных метафараў, гукаспалучэнняў, тэматыкі і праблематыкі – у развіцці яе творчасці з’явіліся такія вобразы, як сонца-крыніца энергіі, блакітны колер як чысціня кахання або ростані дарог з філасофскім падтэкстам. Паляпшалася паралельна і валоданне беларускай мовай Б. Квапіш, лагічная ўзгодненасць яе тэкстаў і ўзровень яе разваг. Асаблівую ўвагу мы звярнулі на трактаванне аўтаркай традыцыйных паэтычных вобразаў (напрыклад, вобразу маці або элементаў старагрэцкага паходжання).

Спадзяемся, што гэты артыкул стане пачаткам шэрагу даследаванняў, якія раскрыюць усе нюансы Б. Квапіш як паэткі і асобы, а таксама яе месца ў гісторыі беларускай літаратуры, а канкрэтна – сярод экзафонных літаратараў, якія паўплывалі і працягваюць уплываць на беларускі літаратурныя працэс.

## Бібліяграфія

Arndt Susan, Dirk Naguschewski, and Robert Stockhammer. 2007. *Exophonie: Anders-Sprachigkeit (in) der Literatur*. Berlin: Kulturverlag Kadmos.

Barszczewski Aleksandr. 2001. *Tvorcy belaruskaga lìtaraturnaga ruhu ŭ Pol'ščy 1958–1998*. Mìnsk: UP "Tèhnaprynt". [Баршчэўскі Аляксандр. 2001. *Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958–1998*. Мінск: УП "Тэхнапрынт"].

Čahoŭskaâ Taccâna. 2018. *Mova ètnasu, mova nacyì, dzâržaŭnaâ mova, rodnaâ mova: rolâ rodnaj movy ŭ pracèse stanaŭlennâ asoby ì ŭ razvìccìcyvìlìzacyì* (192–198). U: *Belaruskae slova: tèrmìn ì vobraz: zbornìk artykulaŭ pa matèryâlah navukovyh čytannâŭ, prysvečanyh pamâcì prafesara V.P. Krasneâ*, g. Mìnsk, 27 snežnâ 2017 g. / BDU, fìlalagìčny fak., kaf. gìstoryì belaruskaj movy; rèdkal.: M.Ì. Svìstunova (adk. rèd.) [ì ìnš.]; pad agul. rèd. M.R. Prygodzìča. Mìnsk: BDU [Чахоўская Таццяна. 2018. *Мова этнасу, мова нацыі, дзяржаўная мова, родная мова: роля роднай мовы ў працэсе станаўлення асобы і ў развіцці цывілізацыі* (192–198). У: *Беларускае слова: тэрмін і вобраз: зборнік артыкулаў па матэрыялах навуковых чытанняў, прысвечаных памяці прафесара В.П. Краснея*, г. Мінск, 27 снежня 2017 г. / БДУ, філалагічны фак., каф. гісторыі беларускай мовы; рэдкал.: М.І. Свістунова (адк. рэд.) [і інш.] ; пад агул. рэд. М.Р. Прыгодзіча. Мінск: БДУ].

Dabène Louise. 1994. *Repères sociolinguistiques pour l'enseignement des langues: les situations plurilingues*. Paris.

Karpiński Franciszek. 1835. *Dzieła Franciszka Karpińskiego*. Wydanie nowe Jana Nep: Bobrowicza. Tomik II. Lipsk: Breitkopf et Haertel.

Kwapisz Barbara. 1976. *Nìčoga â sënnâ ne napìsala...* "Nìva" № 45 (1080): 3 [Квапіш Барбара. 1976. *Нічога я сёння не напісала...* "Ніва" № 45 (1080): 3].

Kwapisz Barbara. 1976. *Praga neznìkaûčaâ*. "Nìva" № 49 (1084): 3 [Квапіш Барбара. 1976. *Прага незнікаючая*. "Ніва" № 49 (1084): 3].

Kwapisz Barbara. 1977. *Stamìla mâne ŭžo nešta...* "Nìva" № 6 (1093): 3 [Квапіш Барбара. 1977. *Стаміла мяне ўжо нешта...* "Ніва" № 6 (1093): 3].

Kwapisz Barbara, 1977. *Kalì budzem z "Sonca" pìc'...* "Nìva" № 10 (1097): 3 [Квапіш Барбара. 1977. *Калі будзем з "Сонца" піць...* "Ніва" № 10 (1097): 3].

Kwapisz Barbara. 1977. *Hacela b â Kal'ëpe nìc'zalatuû magčy ŭhapìc'*. "Nìva" № 18 (1105): 3 [Квапіш Барбара. 1977. *Хацела б я Кальёпе ніць залатую магчы ўхапіць.* "Ніва" № 18 (1105): 3].

Kwapisz Barbara. 1977. *Kožny dzen', âk vâsla adpìhanne...* "Nìva" № 27 (1114): 3. [Квапіш Барбара. 1977. *Кожны дзень, як вясла адпіханне...* "Ніва" № 27 (1114): 3].

Kwapisz Barbara. 1979. *Žurbotna mne, kalì câbe nâma...* "Nìva" № 44 (1236): 3. [Квапіш Барбара. 1979. *Журботна мне, калі цябе няма...* "Ніва" № 44 (1236): 3].

Kwapisz Barbara. 1980. *Mama...* "Belaveža". Belastok: Vydanne galoŭnaga praŭlennâ Belaruskaga gramadska-kul'turnaga tavarystva [Квапіш Барбара. 1980. *Мама...* "Белавежа". Беласток: выданне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства].

McMillin Arnold. 2017. *The remarkable Belarusian verse and prose of Ángela Espinosa Ruiz*. "New Zealand Slavonic Journal" 51: 87–114.

Miłosz Czesław. 1943. *Słońce* [online] https://poezja.org/wz/Mi%C5%82osz_Czes%C5%82aw/7857/S%C5%82o%C5%84ce [доступ: 20.08.2021].

Stral'coй Mìhas'. 1969. *Zagadka Bagdanovìča*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Стральцоў Міхась. 1969. *Загадка Багдановіча.* Мінск: Мастацкая літаратура].

Wright Chantal. 2008. *Writing in the 'Grey Zone': Exophonic Literature in Contemporary Germany*. "German as a foreign language", № 3: 26–42.

Wright Chantal. 2010. *Exophony and literary translation: What it means for the translator when a writer adopts a new language.* "Target. International Journal of Translation Studies" № 22.1: 22–39.

**ABSTRACT:** This article explores the known published lyrical works of Barbara Kwapisz (1949), a Polish-born poet who learnt Belarusian upon moving to Białowieża to work as a teacher and coming into contact with the local Belarusian ethnic minority, their customs and culture. In order to analyse Kwapisz's poetry, we consulted the archive of the weekly magazine "Niva", as well as the 1980 edition of the "Belaveža" literary almanac. We managed to find a total of 11 poems dating from 1976 to 1980 which we analysed from the linguistic and literary point of view. After our study of Barbara Kwapisz's works, we came to the conclusion that her poetry deserves both recognition and scientific attention, since she is both a key representative of the phenomenon of exophony in the Belarusian language and a notable poet.

**KEYWORDS**: Barbara Kwapisz, exophony, Belarusian language, Belarusian literature in Poland, minority literature, national minority literature.

**STRESZCZENIE:** W niniejszym artykule analizujemy znane publikowane utwory liryczne Barbary Kwapisz (1949), urodzonej w Polsce poetki, która po przeprowadzce do Białowieży dla pracy nauczycielskiej zetknęła się z lokalną białoruską mniejszością etniczną, jej obyczajami i kulturą, oraz nauczyła się języka białoruskiego. W celu analizy poezji B. Kwapisza skorzystaliśmy z archiwum tygodnika „Niva" oraz wydania almanachu literackiego „Belaveža" 1980 roku. Udało nam się znaleźć łącznie 11 wierszy z lat 1976–1980, które przeanalizowaliśmy pod względem językowym i literackim. Po przestudiowaniu twórczości B. Kwapisz doszliśmy do wniosku, że jej poezja zasługuje zarówno na uznanie, jak i na uwagę naukową, ponieważ jest ona zarówno kluczowym przedstawicielem zjawiska egzofonii w języku białoruskim, jak i wybitną poetką.

**SŁOWA KLUCZOWE:** Barbara Kwapisz, egzofonia, język białoruski, literatura białoruska w Polsce, literatura mniejszości narodowych.

**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле даследуюцца вядомыя апублікаваныя лірычныя творы Барбары Квапіш (1949г. н.), паэткі польскага паходжання, якая вывучыла беларускую мову пасля таго, як пераехала ў Белавежу працаваць настаўніцай і ўступіла ў кантакт з мясцовай беларускай этнічнай меншасцю, яе звычаямі і культурай. Для таго, каб прааналізаваць паэзію Б. Квапіш, мы звярнуліся да штотыднёвіка "Ніва", а таксама да літаратурнага альманаха "Белавежа" за 1980 год. Нам удалося выявіць у агульнай колькасці 11 вершаў за 1976–1980 гг., якія мы прааналізавалі з моўнага і літаратурнага пункту гледжання. Пасля вывучэння твораў Б. Квапіш мы прыйшлі да высновы, што яе паэзія заслугоўвае як прызнання, так і навуковай увагі, бо яна адначасова ёсць ключавою прадстаўнічкай з'явы экзафаніі на беларускай мове і выдатнай паэткай.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: Барбара Квапіш, экзафанія, беларуская мова, беларуская літаратура ў Польшчы, літаратура нацыянальных меншасцей.

*Data przesłania artykułu: 22.08.2021*
*Data akceptacji artykułu: 20.11.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Angela Espinosa Ruiz / Анхела Эспіноса Руіс** – Polska, Uniwersytet Warszawski, Katedra Białorutenistyki; dr.; specjalność naukowa: literaturoznawstwo białoruskie; zainteresowania naukowe: literaturoznawstwo porównawcze, współczesna poezja białoruska, literatura w kontekście społeczno-politycznym: postkolonializm, wielokulturowość, egzofonia.

**Adres**: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszawa, Polska.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Эспіноса Руіс, Анхела. (2020). *Літаратурна-міфалагічныя партрэты: героі і архетыпы ў народных і мастацкіх паданнях Беларусі ды Іспаніі*. „Acta Albaruthenica" 20: 87–94.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.97–108

**Святлана Ляскевіч / Sviatlana Liaskevich**

Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы /
Yanka Kupala State University of Grodno
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-0675-1775
e-mail: leskevich_sg@grsu.by

# Польскамоўныя санеты Янкі Купалы ў перакладзе на беларускую, рускую і англійскую мовы

*Yanka Kupala's Polish-language sonnets translated into Belarusian, Russian and English*
*Polskojęzyczne sonety Janki Kupały w tłumaczeniu na język białoruski, rosyjski i angielski*

Мастацкія пераклады дазваляюць чытачу і літаратурнаму крытыку, якія не валодаюць мовай арыгінала, пазнаёміцца з дасягненнямі шматлікіх нацыянальных літаратур, атрымаць уяўленне пра творчую манеру майстроў слова, матывы і сюжэты іх творчасці. Пераклады ўводзяць літаратурны твор і канкрэтнага аўтара ў сусветную культурную прастору, узбагачаючы яе ідэйна-тэматычна, жанрава-стылістычна, асобасна; безумоўна, яны спрыяюць не толькі папулярызацыі нацыянальнай літаратуры, але і канкрэтнага творцы.

Практыка мастацкага перакладу патрабуе пільнай увагі да перадачы нацыянальнага каларыту, захавання рэалій быту і вобразнасці. У той жа час паэтычная форма верша вымагае пэўных пропускаў, замен, аднак апошнія не павінны разыходзіцца з ідэйна-мастацкай задумай твора, адзінствам яго формы і зместу. Неабходнасць захавання жанравай спецыфікі верша ўскладняе працу перакладчыка ў кірунку дасягнення лексіка-семантычнай эквівалентнасці пры перакладзе рэалій і перадачы нацыянальнай спецыфікі і аўтарскага стылю. Праблемы, якія паўстаюць пры перакладзе, не абмяжоўваюцца толькі лінгвістычным аспектам, але патрабуюць ад перакладчыка ўсёахопнасці, глыбокага пранікнення ў культуру і гісторыю народа, разумення асаблівасцей традыцыйнага ладу жыцця і нацыянальнага характару, аўтарскага стылю, валодання сацыякультурнай інфармацыяй, характэрнай для пэўнай нацыі ў розныя перыяды яе развіцця. Усе гэтыя моманты,

звязаныя з асаблівай складанасцю і своеасаблівасцю ўзнаўлення твораў паэзіі сродкамі іншай мовы, дазваляюць гаварыць пра большую дамінантнасць семаў “перадача”, “пераўвасабленне” ў дачыненні да тэрміна “паэтычны пераклад”. З усяго вынікае, што перакладаць чужыя вершы нават больш складана, чым пісаць свае ўласныя. Ад перакладчыка патрабуецца віртуознасць і таленавітасць, настрой на хвалю арыгінальнага твора і аўтарскага светаадчування, якое з’яўляецца (у большай ці меншай ступені, у залежнасці ад маштабнасці постаці пісьменніка) адлюстраваннем нацыянальнага менталітэту.

Творы класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы пачалі перакладаць на мовы свету яшчэ пры жыцці аўтара. Ёсць сведчанні, што Я. Купала выдатна разумеў значэнне перакладу сваіх твораў на іншыя мовы. Даследчык беларускай літаратуры Вячаслаў Рагойша прыводзіць яго мару-запытанне, выказаную ў 1914 годзе ў лісце да Апалона Карынфскага: “Каб гэтых перакладаў з мяне зрабіць цэлую процьму і выпусціць іх асобнай кніжкай?... Мне здаецца, што такая кніжка карысталася б несумненным поспехам, асабліва ў нашым краі” [Рагойша 1977: 12]. Такая кніжка выбраных вершаў паэта на рускай мове ў перакладах Івана Белавусава і Ягора Нячаева (пераклады гэтых аўтараў склалі тры чвэрці выдання), а таксама Мікалая Ашукіна, Ады Чумачэнка, Івана Усцінава, Валерыя Брусава, Апалона Карынфскага выйшла толькі ў 1919 годзе, аднак радасць паэта была прыглушаная якасцю некаторых перакладаў, даволі тэндэнцыйным падборам вершаў, адсутнасцю верша *А хто там ідзе?*. Паказальны такі момант: Я. Купала прасіў Я. Нячаева перарабіць альбо ўвогуле не друкаваць пераклад верша *Я не паэта*, бо ў рускім варыянце псеўданім Купала меў націск на апошнім складзе. На жаль, перакладчык не паправіў твор, але афіцыйны складальнік кнігі і яе рэдактар І. Белавусаў падаў тлумачэнне, “што скажэнне псеўданіма паэта дапушчана... дзеля захавання рыфмы” [Рагойша 1977: 19]. У святле вышэй сказанага, выходзіць, што застаючыся найважнейшым і ў многіх выпадках адзіным сродкам фармавання ўяўлення замежнага чытача пра нацыянальную літаратуру, самі пераклады не заўсёды спрыяюць паспяховай міжкультурнай камунікацыі.

Тым не менш, пэўныя хібы перакладаў могуць быць знятыя на этапе рэдакцыйнай падрыхтоўкі перакладнога выдання, і заўсёды застаецца спадзяванне на з’яўленне самай удалай версіі. Нам падаецца, што менавіта таму ў беларускай рэдакцыйнай практыцы сёння назіраецца выразная тэндэнцыя па сур’ёзнай падрыхтоўцы і выданні твораў беларускай літаратуры на шматлікіх мовах свету. У дачыненні да спадчыны класікаў беларускай літаратуры, чые імёны ўжо даўно знаёмыя замежнаму чытачу і ўведзены ў сусветны літаратурны кантэкст дзякуючы шматлікім перакладам, – гэта яшчэ і своеасаблівы помнік

для нашчадкаў, які адлюстроўвае нашу павагу да тых, хто ўсё сваё жыццё і сілу свайго таленту прысвяціў служэнню роднай Беларусі, станаўленню і развіццю яе мовы і культуры.

Ажыццёўленае ў 2002 годзе "Мастацкаю літаратураю" выданне дваццаці двух санетаў Я. Купалы ў перакладзе на англійскую, іспанскую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую і французскую мовы разглядаецца намі менавіта ў кантэксце захавання, папулярызацыі і ўшанавання памяці народнага паэта Беларусі. Пра гэта сведчаць усе аспекты рэдакцыйнай падрыхтоўкі і агульнай канцэпцыі выдання, якое вызначаецца прадуманасцю і лагічнасцю структуры, высокай якасцю мастацкага афармлення, глыбінёй і аналітызмам каментароў. Уся макраструктура выдання рэпрэзентуе нацыянальную самабытнаць, уводзіць у свет беларускай паэзіі, раскрывае творчую асобу паэта, дапамагаючы пранікнуць у асаблівасці яго творчай манеры і паэтычнага майстэрства. Агульную адказнасць за выпуск несла Ліна Каўрус, макет зборніка падрыхтаваў А. Цароў, за мастацкае афармленне адказвалі таксама М. Шкурпіт і А. Цэхановіч. Укладальнікамі зборніка былі доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша і ўнучатая пляменніца Янкі Купалы Жанна Дапкюнас, на той час дырэктар яго музея. Рэдактар перакладаў – Леанід Казыра. Глыбокае і змястоўнае пасляслоўе В. Рагойшы, у якім разглядаюцца аспекты купалавага санетаскладання, безумоўна, павышае інфармацыйную насычанасць выдання для зацікаўленага чытача. Аднак адсутнасць перакладу гэтага літаратуразнаўчага каментару хоць бы на англійскую мову пацвярджае наша меркаванне пра ўнутраны, а не знешні вектар скіраванасці дадзенага зборніка.

Кампазіцыйна зборнік падзелены на 8 частак, што адпавядае 8 мовам, на якіх падаюцца санеты. У структуру кожнай часткі ўваходзіць старонка са словам САНЕТЫ, напісаным на адпаведнай мове, на фоне водных пейзажаў. Затым ідзе разварот, адна палова якога ўтрымлівае назвы санетаў, а другая змяшчае фотаздымак Я. Купалы, які аптычна абыгрываецца і накладаецца на водны пейзаж на наступных чатырох старонках. Гэты ж пейзаж у выглядзе асобнай карціны пачынае блок з 22 санетаў. Па задуме мастацкіх рэдактараў, у першай беларускамоўнай частцы зборніка нас сустракае фота зусім маладога Янкі Купалы, затым блокі адкрываюцца пазнейшымі фотаздымкамі, а ў восьмым блоку з французскімі перакладамі фотаздымкі юнага і пасталелага песняра як быццам сустракаюцца.

У шэрагу дваццаці двух санетаў зборніка вылучаюцца сем польскамоўных санетаў: *Беларус*, *Не для вас...*, *У змроку*, *Пакіньце думаць аб слаўным мінулым...*, *Гэй, у свет!*, *Зямля* і *Свае замкнуўшы ў марах парыванні*, што датуюцца 1904–1906 гг. В. Рагойша падкрэслівае, што

нават польскамоўныя творы маладога паэта былі наскрозь пранізаныя мясцовымі матывамі і праблемамі, што

> вытрыманыя ў духу традыцый польскіх санетапісцаў (А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, А. Асныка, М. Канапніцкай, Я. Каспровіча і інш.), купалаўскія санеты, аднак, вызначаліся сваёй сацыяльнай і нацыянальнай беларускай канкрэтыкай [Рагойша 2002: 253].

Як вядома, у самым пачатку сваёй творчасці Я. Купала спрабаваў пісаць па-польску, што было звязана з палітыкай царскай Расіі, якая не прызнавала беларускую гаворку асобнай мовай, лічыла яе паўночна-заходнім дыялектам рускай мовы. Аднак, калі сітуацыя пасля 1904 г. пачала мяняцца, Я. Купала адмовіўся ад польскай мовы, ён стаў на чале тых палымяных патрыётаў, якія сваё жыццё прысвяцілі служэнню мясцоваму народу, і ўсю сілу і моц свайго таленту скіраваў на адстойванне і замацаванне пазіцый беларускай мовы. Вядома, што першы апублікаваны па-беларуску твор паэта з'явіўся 15 мая 1905 г. у мінскай газеце "Северо-Западный край". У пачатку 1908 г. у Санкт-Пецярбурзе выйшаў першы зборнік Янкі Купалы *Жалейка*, дзе быў надрукаваны знакаміты верш *А хто там ідзе?*, які адыграў значную ролю ў станаўленні беларускай нацыі і, з лёгкай рукі Максіма Горкага, стаў лічыцца беларускім народным гімнам.

Я. Купала спрабуе свае сілы і ў якасці перакладчыка на родную мову: ён пачынае перакладаць на беларускую мову з рускай асобныя творы Івана Крылова, Аляксея Кальцова, Мікалая Някрасава, з украінскай – Тараса Шаўчэнкі, з польскай – Адама Міцкевіча, Мар'і Канапніцкай, Уладзіслава Сыракомлі, працуе над перакладам усходнеславянскага шэдэўра *Слова пра паход Ігаравы*. Тут нам хацелася б зафіксаваць наступныя моманты, што непасрэдна звязаныя з тэмай нашага артыкула. Па-першае, свае ўласныя беларускамоўныя вершы Я. Купала не прапануе ў рускамоўным варыянце яго перакладчыкам на рускую мову. Па-другое, польскамоўныя санеты паэта ўводзяцца ў кантэкст беларускай літаратуры ў перакладзе беларускага літаратуразнаўцы і перакладчыка Уладзіміра Мархеля.

Уладзімір Мархель (1940–2013) перакладаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, Я. Лучыны, Ю. Тувіма і іншых польскамоўных аўтараў, плённа працаваў у кірунку беларуска-польскіх узаемасувязей, выдаў анталогію польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя *Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай*, кнігі *Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні* (1983), *Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа* (1990), *"Ты як здароўе…": Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры* (1998) і інш.

Усе санеты зборніка на англійскую мову перакладзены Верай Рыч (1936–2009), асобы, якая сваімі перакладамі на самую аўтарытэтную мову міжнародных зносін вельмі паспрыяла ўключэнню твораў беларускай літаратуры ў еўрапейскі моўны кантэкст. Першым перакладзеным ёю на англійскую мову быў якраз беларускі верш класіка нашай літаратуры Я. Купалы *На чужыне* (у іншых крыніцах – *Брату ў чужыне*), апублікаваны ў 1957 годзе ў газеце "Бацькаўшчына" ў Мюнхене. Затым шматлікія паэтычныя пераклады беларускіх аўтараў рэгулярна публікаваліся ў часопісе "Manifold" (які выходзіў з 1962 па 1969, а затым з 1998 года) і асобнымі зборнікамі. У 1971 годзе ў Лондане быў падрыхтаваны зборнік *Like Water, Like Fire: An Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day* (*Як вада, як агонь: Анталогія беларускай паэзіі з 1828 года да нашых дзён*), які ўключаў пераклады твораў сарака аднаго беларускага мастака слова.

Навум Кіслік (1925–1998) з'яўляўся адным з самых актыўных і таленавітых перакладчыкаў беларускай прозы і паэзіі на рускую мову. Апрача вершаў Я. Купалы, ён перакладаў творы Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Рыгора Барадуліна, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Максіма Танка і інш., пераклаў раманы Івана Мележа *Людзі на балоце* і Уладзіміра Караткевіча *Хрыстос прызямліўся ў Гародні*. Уласныя паэтычныя творы пісаў на рускай мове, быў літаратурным супрацоўнікам газеты "Літаратура і Мастацтва", часопіса "Полымя".

У межах дадзенага артыкула мы засяродзім сваю ўвагу на асаблівасціях мастацкага перакладу трох польскамоўных санетаў Я. Купалы (*Беларус*, *Гэй, у свет!* і *Зямля*) на беларускую, рускую і англійскую мовы. Параўнальны аналіз арыгінальных тэкстаў з перакладнымі мае на мэце выяўленне спецыфікі перакладчыцкіх падыходаў у дачыненні да захавання формы і зместу арыгінала, перадачы культурна-маркіраванай лексікі, у прыватнасці, перакладу рэалій.

Шырокавядома дзейнасць М. Багдановіча на ніве распрацоўкі разнастайных відаў і жанраў беларускага верша, у тым ліку класічных санетаў. Спробы Я. Купалы ў гэтым кірунку выліліся ў з'яўленне спачатку сямі польскамоўных, а затым яшчэ пятнаццаці беларускамоўных санетаў. Даследчыкі адзначаюць, што санеты Я. Купалы не вызначаюцца строгай рэгламентаванасцю формы, нязменнасцю вершаванага памеру і рыфмавання.

Класічны італьянскі санет складаецца з 14 радкоў, аб'яднаных у два чатырохрадкоўі (катрэны) і два трохрадкоўі (тэрцэты). Пад "італьянскай" паслядоўнасцю рыфмоўкі санета маецца на ўвазе наступнае чаргаванне рыфмаваных радкоў: *abab abab cdc dcd* (альбо *cde cde*), выкарыстанне жаночай рыфмы. Каноны напісання французскага санета дапускалі наступную будову: *abba abba ccd eed* (альбо *ccd ede*).

Англійскія паэты не толькі прынялі і адаптавалі гэту форму верша, але і плённа яе распрацоўвалі, уносячы ў скарбніцу сусветнай літаратуры сапраўдныя шэдэўры санетнага майстэрства. Так, спецыфіка англійскага санета выявілася ўжо ў Томаса Уайетта, санеты якога складаліся з трох чатырохрадкоўяў і аднаго двухрадкоўя: *abab abab cddc ee.* Вучань Т. Уайетта, гуманіст граф Суррэй, лічыцца вынаходнікам мадыфікаванага санета на сем рыфмаў, які плённа распрацоўваў Уільям Шэкспір. Чаргаванне рыфмаваных радкоў *abab cdcd efef gg* сягоння называюць "шэкспіраўскім" санетам. Эдмунд Спенсер стварыў яшчэ адзін варыянт рыфмоўкі санета – ланцужковыя чатырохрадкоўі *abab bcbc cdcd ee.* Італьянскі санет узнікае як жанр інтымнай лірыкі, твор унутраных перажыванняў. Філасофская напоўненасць зместу пачынае характарызаваць санеты У. Шэкспіра і іншых еўрапейскіх аўтараў. Пачынаючы з XIX стагоддзя можна заўважыць сацыяльна-грамадзянскія матывы, якія напаўняюць санетную арганізацыю верша.

Менавіта сацыяльна-грамадзянская рыторыка, развагі агульнаграмадзянскага значэння пра лёс роднага краю, трывогі і хваляванні пра лёс кожнага звычайнага беларуса і нацыі ў цэлым поўняць санеты Я. Купалы. Санеты Я. Купалы не вызначаюцца строгасцю захавання канонаў пры захаванні асноўных архітэктанічных асаблівасцей. Яны не супадаюць у метрычным малюнку і рыфмоўцы. Побач з чатырохстопным і шасцістопным ямбам можна сустрэць абсалютна нетыповыя для санета трохскладовыя памеры: чатырохстопны амфібрахій і трохстопны анапест. Вылучаюцца 9 відаў і 21 разнавіднасць купалавых санетаў. Аналіз паказвае, што нават сярод санетаў Я. Купалы на польскай мове кожны мае сваё аблічча. І калі ў дачыненні да беларускамоўных санетаў гэтую разбалансіроўку можна патлумачыць нявопытнасцю аўтара, адсутнасцю традыцыі беларускага санетапісання, то ў дачыненні да польскамоўных санетаў такія тлумачэнні прымальныя толькі часткова. Я. Купала валодаў польскай мовай і меў магчымасць арыентавацца на традыцыі польскай літаратуры, выдатныя ўзоры польскага санетапісання. В. Рагойша бачыць прычыну гэтага адступлення ад кананічнасці ў

> даволі смелым стаўленні песняра да некаторых паэтычных канонаў, у жаданні знайсці адэкватную форму для выяўлення думкі і пачуцця, нават калі б дзеля гэтага і трэба было адысці ад нейкіх канонаў [Рагойша 2002: 257].

Польскамоўны санет *Białorusin* мае наступнае чаргаванне рыфмаваных радкоў: *abba baab cdc dcd.* У перакладзе У. Мархеля назіраем трохскладовы памер і чаргаванне *abba baab cdc dcd.* В. Рыч таксама паспрабавала трымацца такога ж чаргавання, аднак гукавое супа-

дзенне ў некаторых месцах не вельмі ўдалае. Параўнаем у катрэнах: *wasted – downward –drowning – are cased; frowning – traces – tasted – sounding;* у тэрцэтах: *suffers – saving – stepmother; gave him – no other – graveyard.* У Н. Кісліка санет напісаны ямбам, чаргаванне *abba* прысутнічае ў абодвух катрэнах *(тулуп – ліпы – дыбы – труп; струп – неулыбы – хрипы – люб),* а ў тэрцэтах назіраем *ccd eed (свет – нет – топила; мха – соха – могила),* што гаворыць пра выраўноўванне перакладчыкам купалавага санету на ўзор класічнага французскага.

Я. Купала паказвае беларуса абутым ў *sandały z lip,* з худых плеч яго спадае *licha siermięga,* а сівая галава тоне ў *strzępach kożucha.* У рускім перакладзе: “Давно отрепьем стал его тулуп, // В рванье, в лохмотьях весь, в худых лаптях из липы” [Купала 2002: 167]. У. Мархель малюе наступную карціну: “Бачу: змарнелы цень ідзе нейкі, // Бедная світка спіну ахінае, // І галава над лахманнем сівая, // Ногі крывыя ў лапцях старэнькіх” [Купала 2002: 17]. У англійскім перакладзе беларус апрануты ў *rags of sheepskin* ‘рваны кажух’**,** *bast sandals* ‘сандалі з лыка’, а пад кажухом у яго *frieze coat.* Кантэкст не дазваляе зразумець, што маецца на ўвазе пад *frieze coat:* паліто альбо нешта накшталт пінжака, бо ў англійскай мове слова мае два варыянты перакладу, што дае англійскаму чытачу досыць прыблізнае ўяўленне пра традыцыйны від беларускай сялянскай вопраткі. У перакладзе на беларускую мову *сярмяга* замяняецца *світкай*, а ў рускамоўным перакладзе назіраем прыём апушчэння гэтага віду адзення. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы падае словы *світка* і *світа* з азначэннем ‘доўгая сялянская верхняя вопратка з даматканага сукна’ [*Тлумачальны слоўнік* 1996: 591], *сярмяга* – ‘верхняе адзенне з грубага даматканага сукна’ [*Тлумачальны слоўнік* 1996: 648]. Этнаграфічныя крыніцы сцвярджаюць, што суконныя світкі, сярмягі, буркі выкарыстоўваліся для аховы іншага верхняга адзення ад непагоды, каб яно не вымакла. У бядзе і нястачы беларуса скруціла і трымае *цемра-хімера* (у беларускім перакладзе), *судьба глуха* (у рускім перакладзе), *darkness, that stepmother* (у англійскім перакладзе), *ciemnota-macocha* (аўтарскі варыянт).

У будове санета закладзена праграма развіцця тэмы і сюжэта: у катрэнах ствараецца і развіваецца вобраз, а тэрцэты прадстаўляюць сабой кульмінацыю і развязку. Самым моцным у санеце выступае апошні тэрцэт, у якім даецца адказ, раскрываецца сэнсавая напоўненасць усяго твора. У вершы *Беларус* у апошніх трох радках Я. Купала вызначае стрыжнёвыя характарыстыкі мужыка, гэтыя акцэнты будуць скразной лініяй праходзіць праз усю далейшую творчасць паэта: “Bogactwem jego – chatyna pochyła, //Celem do życia – siekiera i socha, // A kresem cierpień– karczma i mogiła” [Купала 2002: 137]. Перакладчыкі пастараліся максімальна захаваць думку паэта, асабліва засяродзіў-

шыся на дакладнай передачы апошняга радка і апошняга слова, якое па законах класічнага санета з'яўляецца сэнсавым "ключом" да ўсяго твора. У перакладзе У. Мархеля: "Мажнасць ягоная – домік пахілы, // Мэта ў жыцці – саха і сякера, // Гору сканчэнне – карчма і магіла" [Купала 2002: 17]. У перакладзе Н. Кісліка: "Его богатство – хата изо мха, Цель жизни – вековечная соха, Его конец – корчма, потом могила" [Купала 2002: 167]. У перакладзе В. Рыч: "Tumbledown shack is all the wealth fate gave him, // Hatchet and ploughshare his life's aims – no other // His respite from suffering – the inn, the graveyard" [Купала 2002: 47]. Як можна пераканацца, прыёмам пропуску ізноў скарыстаўся перакладчык на рускую мову, апрача таго, пахіленая хата ў яго ператварылася ў пабудову з моху. Тут трэба ўдакладніць, што асноўным матэрыялам для будаўніцтва ў беларусаў было дрэва, а мох выкарыстоўвалі як дапаможны матэрыял для ўцяплення хаты, так званага "канапачання". З улікам таго, што сама лексема *хата* ў рускай мове, у адрозненне ад іншых славянскіх, часцей выкарыстоўваецца не як нейтральная назва, а для назвы беднага жылля, то можна ўявіць, якая карціна выключнай нястачы і нават першабытнасці ствараецца ў рускамоўнага чытача.

Польскамоўны санет *Hej, w świat!* тэрцэтамі выбіваецца з класічных формаў *abab abab cdc dee.* У. Мархелю і В. Рыч удалося перастварыць санет чатырохстопным ямбам, захаваўшы такое ж чаргаваннем рыфмаваных радкоў. У перакладзе Н. Кісліка сустракаемся з анапестам і паслядоўнасцю *abab abba ccd ccd.* Пакінуўшы ў рускім перакладзе назву *Эй, на свет!*, Н. Кіслік разумеў, што ў дадзеным выпадку адбываецца міжмоўная аманімія беларускай і рускай лексем *свет*, таму ў тэксце санета гэты заклік удакладняецца аднароднымі акалічнасцямі месца: *на просторы, в широкие дали*. Падаецца, што іншы сэнс назвы ўсё ж паўплываў на пэўную змену агульнай вобразнасці і вымагаў альтэрнатыўных пошукаў лексічных адзінак і сінтаксічных канструкцый. Так, у арыгінале прапаноўвалася *uzbroić duszę w hartu stal*, каб стаць моцным, смелым і вырваць сентыментальныя пачуцці (у беларускім: *душу ўзмацніць, як гартам сталь*, у англійскім: *armour the soul with steel amain*), а ў рускім кантэксце для гэтага трэба *душу смирить*. Лірычны герой верша разрываецца паміж прагным жаданнем і патрэбай часу вырвацца ў далёкі свет, каб забыцца пра свой смутак ды жаль і поклічам душы застацца са сваімі роднымі, трымаць ў сваім сэрцы памяць пакаленняў. Відавочна таму яму даводзіцца канстатаваць, што *крыл на лёты не стае* (польск. *skrzydeł mnie do lotu brak,* англ. *I have no wings for flight),* і звяртацца да Бога за падтрымкай. Параўнаем польскія, беларускія і англійскія апошнія тры радкі: "O, Boże, byt mój w domu święć: // Ja matkę, sióstr i brata mam... // ... Ach, czemuż dano serce nam?!" [Купала 2002: 141]; "Застацца дома, Божа, дай: // Я маці маю і сясцёр… // На-

вошта ў сэрцы мне касцёр?!" [Купала 2002: 211]; "On my home, Lord, thy blessings pour. // Mother and siblings there have I… // But why give us a heart, o why?" [Купала 2002: 51]. Толькі ў рускім варыянце зварот да вышэйшых сіл мае на мэце вырвацца з дому: *Дай мне крылья, Господь, чтобы в свет устремиться!* Тым не менш, фінал санета не пярэчыць задуме арыгінала: "Есть и мать у меня, есть и брат, и сестрица, // А уж это для сердца – запрет и граница… // Ах, зачем же мне сердце, мне сердце дано?!" [Купала 2002: 171]. Цікава, што англійскі гіперонім *siblings* дазволіў перакладчыцы пазбегнуць колькасна-факталагічнага памяншэння членаў сям'і, як тое можна назіраць у беларускім і рускім перакладах.

Санет *Ziemio* і ў беларускім перастварэнні мае арганізацыю *abba abba cde cde.* Англійская і руская версіі адрозніваюцца фарматам тэрцэтаў: *cdd cdd* і *ccd eed* адпаведна, але таксама напісаны ямбам. Тэрцэты Н. Кісліка заслугоўваюць крытыкі з пункту погляду абмежаванасці лексічных сродкаў: "Вот сон растаял мой… И разлюбил я землю, // Я землю разлюбил, красе её не внемлю, // Я землю разлюбил, хоть знаю, что грешу. // Я землю разлюбил, отверг её с порога, // Я землю разлюбил и вопрошаю Бога: // «В чём суть?..» Чужое поле я пашу!" [Купала 2002: 173]. Такія паўторы адсутнічаюць у арыгінале: "Serce płacze… Pierzchają sny o tobie, ziemio; // Zamiast wiosny i słońca – ciemnota złowroga, // Na twych łanach kwiecistych – głazy i kąkole. // Poloty ku miłości w duszy cicho drzemią... // Nie kocham ciebie, ziemio, choć wołam do Boga: // – Chryste! Skąd zmiana taka?.. Cudzą orzę polę…" [Купала 2002: 143]. Пазбеглі іх і У. Мархель з В. Рыч: "І ўзлёт да любасці цяпер ужо не сніцца… // Я не люблю цябе, зямля, пытаю ў Бога: // – Чаму так стала?.. Я ару чужое поле" [Купала 2002: 23]; "And in my soul…all strivings for love are soundly sleeping… // I have no love, land, for thee, though to God I cry now: // – Christ, whence has come this change? I plough a stranger's furrow" [Купала 2002: 53].

Лірычны герой верша родную зямлю хоча *аздобіць ў вянкі-барвянкі* (беларуск.), *szkarłatowe wianki* (польск.), *блистательный венок … из наилучших слов, из радуг и цветов* (руск.), *bright crimson garlands* (англ.). Аўтарскае жаданне *otoczyć nieśmiertelną chwalą* найлепш захоўваецца ў англійскім перакладзе *yearn with praise immortal to deck and endue*. Беларускае *абдарваць нямручай хвалай*, з націскам ў слове *хвала* на першым складзе, кладзецца ў рытмічны малюнак санета, аднак успрымаецца як паланізм. Нормы беларускай мовы патрабуюць націску на апошнім складзе. Бел. *хвала* абазначае 1. 'пахвала, адабрэнне', 'вокліч захаплення, удзячнасці, прызнання каму-, чаму-н.', 'агульнапрынятая думка пра каго-н., рэпутацыя' [*Тлумачальны слоўнік* 1996: 720]. Перакладчык на рускую мову прапанаваў наступны працяг ухвалення роднай

зямлі: *И смолкнуть навсегда, от счастья умирая.* З мясцовых рэалій ў вершы прысутнічаюць *каменне* і *куколле* (ад куколь) 'травяністая расліна сямейства гваздзіковых пустазелле з цёмна-ружовымі кветкамі і ядавітым насеннем' [*Тлумачальны слоўнік* 1996: 306], якія ў рускім перакладзе былі апушчаны, а ў англійскім перадаюцца словамі *boulder* 'валун', 'галька' і *cockle* батан. 'куколь', бібл. 'плевел, пустазелле'. Яшчэ адзін з момантаў, на якія варта звярнуць увагу, – замена назвы санета на *I love thee, land*…. Відавочна, разумеючы розніцу менталітэтаў, англійская перакладчыца вырашыла выкарыстаць такі варыянт з тым, каб не толькі пачатак санета, але і назва ўступала ў антытэзу з апошнімі радкамі, каб англійскі чытач усё ж адчуў, што любоў застаецца ў сэрцы паэта, але ён марыць пра вольнага беларуса-селяніна, які б араў сваё поле на свабоднай роднай зямлі.

Такім чынам, у фармальным плане купалаўская традыцыя санетапісання паслядоўна складаецца з чатырнаццаці радкоў, двух катрэнаў з дзвюма рыфмамі і двух тэрцэтаў з трыма рыфмамі, аднак вызначаецца няўстойлівасцю вершаванага памеру і рыфмоўкі. Гэта ўскладняе працу перакладчыка, які ўводзіць яго санеты ў прастору рускай і англійскай літаратур, з іх высокаразвітымі ўсталяванымі формамі і жанрамі, распрацаванай строгасцю санетапісання. Перакладчык санетаў Я. Купалы сутыкаецца, апроч іншага, з праблемай выбару паміж захаваннем купалаўскага памеру верша, паслядоўнасці рыфмавання і рэгламентам ўласнай традыцыі.

## Бібліяграфія


Kupala Ânka. 2002. *Sanety: Na bel., angl., ìsp., nâm., pol., rus., ukr., fr. Movah.* Red. perakladaŭ L. Kazyra. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Купала Янка. 2002. *Санеты: На бел., англ., ісп., ням., пол., рус., укр., фр. мовах.* Рэд. перакладаў Л. Казыра. Мінск: Мастацкая літаратура].

Ragojša Vâčaslaŭ. 1977. *Ì nâse âna dar*… Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Рагойша Вячаслаў. 1977. *І нясе яна дар*… Мінск: Мастацкая літаратура].

Ragojša Vâčaslaŭ. 2002. *Sanetaryj Ânkì Kupaly.* U*: Kupala Ânka. Sanety.* Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Рагойша Вячаслаў. 2002. *Санетарый Янкі Купалы.* У: *Купала Янка. Санеты.* Мінск: Мастацкая літаратура].

*Tlumačal'ny sloŭnìk belaruskaj lìtaraturnaj movy.* 1998. Red. M. Sudnìk, M. Kryŭko. Mìnsk: Belaruskaâ èncyklapedyâ [*Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы.* 1998. Рэд. М. Суднік, М. Крыўко. Мінск: Беларуская энцыклапедыя].



**ABSTRACT**: The article deals with the peculiarities of the literary translations of three Polish-language sonnets by Yanka Kupala into Belarusian, Russian and English, performed by V. Markhel, N. Kislik and V. Rich. Particular attention is devoted to the analysis of the specifics of Yanka Kupala's sonnet forms and the description of translation solutions to preserve the form and content of the original, to adequately convey the culturally marked vocabulary. It is shown that the com-

parative analysis of the original texts with their translations contributes to the awareness of the quality and level of the poetic skills of the author and translators, and to understanding of the problems of poetic translation.

**KEYWORDS:** literary translation, poetic translation, Yanka Kupala's sonnets, translation of realities, original text, translation text.

**STRESZCZENIE**: W artykule rozważa się cechy charakterystyczne przekładu artystycznego trzech sonetów polskojęzycznych Janki Kupały na język białoruski, rosyjski i angielski. Podejmowane są zagadnienia odrębności form sonetowych J. Kupały oraz specyfiki strategii tłumaczeniowych U. Marchela, N. Kislika i W. Rycz w stosunku do zachowywania formy i treści oryginału, przekładu elementów nacechowanych kulturowo, w szczególności realiów. Stwierdza się, że analiza porównawcza tekstów źródłowych i ich tłumaczeń sprzyja uświadomieniu jakości przekładów, wysokości poetyckiego kunsztu twórcy i oryginalności jego poezji oraz rozważaniu problemów przekładu poetyckiego pod względem zachowania cech artystycznych i językowych.

**SŁOWA KLUCZOWE:** przekład artystyczny, przekład poetycki, sonety J. Kupały, przekład realiów, tekst oryginalny, przekład tekstu**.**

**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле разглядаюцца асаблівасці мастацкага перакладу трох польскамоўных санетаў Я. Купалы (*Беларус*, *Гэй, у свет!* і *Зямля*) на беларускую, рускую і англійскую мовы. Асэнсоўваюцца пытанні адметнасці санетных форм Я. Купалы і спецыфікі перакладчыцкіх падыходаў У. Мархеля, Н. Кісліка і В. Рыч у дачыненні да захавання формы і зместу арыгінала, перадачы культурна-маркіраванай лексікі, у прыватнасці, перакладу рэалій. Сцвярджаецца, што параўнальны аналіз арыгінальных тэкстаў з перакладнымі спрыяе ўсведамленню якасці і вышыні паэтычнага майстэрства творцы і перакладчыкаў, разуменню самабытнасці паэзіі Я. Купалы, асэнсаванню праблем паэтычнага перакладу ў кантэксце захавання яго мастацкіх і моўных якасцяў.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** мастацкі пераклад, паэтычны пераклад, санеты Я. Купалы, пераклад рэалій, тэкст арыгінала, тэкст перакладу.

*Data przesłania artykułu: 29.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 12.12.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Sviatlana Liaskevich / Святлана Ляскевіч** – Białoruś, Grodzieński Uniwersytet Państwowy im. Janki Kupały, Katedra Języków Obcych; doktor nauk filologicznych, docent; specjalność naukowa: językoznawstwo ogólne; zainteresowania naukowe: filologia słowiańska; komparatystyka języka białoruskiego, innych języków słowiańskich i angielskiego; język starosłowiański; dialektologia; język białoruski jako obcy; etnolingwistyka.

**Adres**: Кафедра замежных моў, вул. Ажэшкі 22, 230023 Гродна, Беларусь.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Ляскевіч Святлана. 2020. *Навуковая школа прафесара П.У. Сцяцко: з пашанай да настаўніка* (18–23). У: А. Кавальчук, С. Ляскевіч (рэд.). *Актуальныя праблемы мовазнаўства: зборнік навуковых артыкулаў (да 90-годдзя прафесара Паўла Уладзіміравіча Сцяцко)*. Гродна: ЮрСаПрынт.
2. Ляскевіч Святлана. 2020. *Англіцызмы ў складзе беларускіх назваў адзення* (102–107). У: А. Кавальчук, С. Ляскевіч (рэд.). *Актуальныя праблемы мовазнаўства: зборнік навуковых артыкулаў (да 90-годдзя прафесара Паўла Уладзіміравіча Сцяцко)*. Гродна: ЮрСаПрынт.
3. Ляскевіч Святлана, Ляскевіч Казімір, Сячэйка Вольга. 2020. *Дыстанцыйнае навучанне: з вопыту вымушанага пераходу ў перыяд пандэміі каронавіруса*. "Вышэйшая школа" 6: 3–5.
4. Ляскевіч Святлана, Бубновіч Іна. 2020. *Ад стараславянскага АЗЪ да сучаснага беларускага Я*. "Роднае слова" 9: 37–39.
5. Ляскевіч Святлана, Бубновіч Іна. 2020. *Ад АЗЪ да ІЖЫЦЫ: Лёс стараславянскіх займеннікаў-назваў літар кірыліцы ў сучаснай беларускай мове.* "Роднае слова" 11: 46–49.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.109–119

**Людміла Садко / Liudmila Sadko**

Нацыянальная акадэмія навук Беларусі /
The National Academy of Sciences of Belarus
ORCID: https://orcid.org/0000-0001-5880-1570
e-mail: konovod1@yandex.ru

## Флоравобразы ў матыўнай прасторы вершаў У. Дубоўкі

*Flora images in the motif space of U. Dubouka's poems*
*Figury florystyczne w motywach poezji U. Dubouki*

Добра вядомы той факт, што ў аснове беларускага нацыянальнага светапогляду, культуры і літаратуры ляжаць адметныя адносіны да прыроды як жыватворчай крыніцы, а стаўленне да навакольнага свету ў нашых продкаў, што знайшло адбітак у вераваннях і побыце, фальклорна-міфалагічных творах, было гарманічным, паэтычным і рацыянальным адначасова. Захапленне і радасць быцця, моц духу і багацце душы, сфарміраваныя дачыненні з навакольным светам, знайшлі рэалізацыю ў фальклорна-рамантызаваных матывах народнай творчасці і мастацкай літаратуры розных часоў, у тэме злучанасці з прыродай, разумення яе як духоўнага раю. Матывамі прыроды і навакольнага свету прасякнутае ўсё беларускае прыгожае пісьменства ад даўніны да сучаснасці; яны адыгрываюць вызначальную ролю пры мадэляванні мастацкай рэальнасці або цэлай эпохі, або канкрэтнага літаратурнага твора. Адзначым, што матыў і матыўны комплекс разглядаецца ў артыкуле як складанае адзінства ідэйна-тэматычных, аксіялагічных і фармальна-стылістычных аспектаў, што ўяўляюць цэласны эстэтычны сэнс.

У вершах паэта-лірыка і паэта-грамадзяніна Уладзіміра Дубоўкі (1901–1976), аднаго з самых таленавітых і знакамітых беларускіх паэтаў XX стагоддзя, вялікае распаўсюджанне маюць фітонімы, флорапаэтычныя вобразы (шыпшына, рабіна, верас, каліна, клён, валошка, лебяда, палын, лаза, лён, клён, сасна, кіпарысы, лаўр, асеннія лісты, кветкі ў вазоне і інш.) як кампанент нацыянальных фальклорна-рамантызаваных матываў і матыўных комплексаў. Флоравобраз – шырокая дэфініцыя, якая ўключае ў сябе ў якасці ядра фітонім-назву той ці іншай расліны, а таксама шматлікія нюансы сэнсу ад культавых і гістарычных

да мастацкіх і асацыятыўна-аўтарскіх. Нацыянальныя фальклорна-рамантызаваныя флоравобразы выяўляюць сябе ў паэзіі У. Дубоўкі markup рознымі спосабамі: як метафары, персаніфікацыі, параўнанні, сімвалы, рэмінісцэнцыі і алюзіі, алегорыі, адлюстроўваюць асноўныя ідэйна-тэматычныя дамінанты творчасці паэта.

У розныя літаратурныя эпохі флоравобразы выкарыстоўваліся з рознай функцыянальнай нагрузкай і семантычным напаўненнем. У часы Антычнасці распаўсюдзіліся сюжэты, знаёмыя чытачу па *Метамарфозам* Авідзія – пра ператварэнне Нарцыса ў кветку, пра Лефкафею, якая стала духмянай раслінай, пра трагічнае каханне Пірама і Фісбы, што сваёю крывёю афарбавалі ягады тутавага дрэва, пра Кратона са Смілакай, што ператварыліся ў шафран і ціс, і многія іншыя.

У Сярэдневеччы фларыстычныя вобразы досыць часта мелі рэлігійную трактоўку і выкарыстоўваліся як атрыбуты і алегорыі, набывалі канатацыю дабравеснікаў раю. Так, агульнавядома, што лілія, а пазней і ружа, ў хрысціянстве з’яўляюцца атрыбутамі Багародзіцы, яе красы, дзявоцтва і беззаганнасці. У хрысціянскім паданні з Дзевай Марыяй таксама звязаны вобраз лаўра, пад якім стаяла калыска будучай Маці Хрыста, а вернікі добра ведаюць цудоўныя гісторыі здабыцця абразоў Маці Божай каля дрэваў – сасны, елак, груш і таполей. У больш познія часы сярод флоравобразаў з’вілася калядная ёлка, упрыгожаная зоркамі як успамінамі пра галоўную, Віфліемскую, што загарэлася на небе, калі прыйшло Боганемаўля. Такі ж сэнс мае і шанаванне заморскай кветкі пуансэціі, якую па-просту называюць “Каляднай”, “Віфліемскай” зоркай, “Кветкай Святой Ночы”. Распаўсюджанне набылі таксама алегорыі куртуазнага характару, дзе флоравобразы дапамагалі перадаць складаныя нюансы адносін закаханых. У паэзіі трубадураў, напрыклад, пашырана распаўсюджанне вобраза ружы як алегорыі хараства жанчыны, Прыгожай дамы.

Адраджэнская эстэтыка сыходзіць з першапачатковага разумення прыроды і раслін як узора дасканаласці, мастацкія выявы флоравобразаў гэтага перыяду своеасаблівыя *locus amoenus*, цудоўныя мясціны. Культура выкарыстання флоравобразаў у Адраджэнні падпарадкоўваецца прынцыпу *ut pictura poesis,* адзінства, непадзельнасці жывапісу і паэзіі, якія рознымі сродкамі дасягаюць агульнай мэты – маляўнічасці, візуальнасці, дасканалага разгортвання пластычна аформленай думкі. Так, *Вясна* Батэчэлі – гэта выява Венеры, багіні садоў і кахання, харытаў-спадарожніц, а таксама Зефіра і Меркурыя, што праганяюць хмары. Усе героі звязаны адзінай семантыкай надыходу цяпла і вясны. Прыцягвае ўвагу яшчэ адзін раўнапраўны персанаж карціны – цудоўны апельсінавы сад, у якім спецыялісты налічылі каля 500 фатаграфічна

дасканалых выяваў розных раслін, што так ці інакш ілюструюць трыумфаванне прыроды, радасць вясны.

У Класіцызме апісанне раслінаў і звязаных з імі мастацкіх вобразаў схіляецца да скупога і дакладнага адлюстравання, устойлівага выразу, штампу, калі шчокі параўноўваюцца з лілеямі, а вусны з ружамі, што перадае ідэю хараства наогул, пазбягаючы індывідуальна-аўтарскага пераасэнсавання. Знаўца барочнай і класіцыстычнай паэзіі Юры Віпер адзначае:

> природа, будучи для классицистов основным объектом искусства, могла представать в их произведениях лишь в особом, как бы преображенном, облагороженном виде, лишенная всего того, что не соответствовало представлениям художника и светской среды, с мнением которой он был обязан считаться, о разумном ходе вещей и о правилах “приличий”, требованиях хорошего тона [Випер 1990: 101].

Інакш кажучы, адлюстраванне раслін і кветак, наогул, прыроды ў класіцыстычны перыяд мела характар рытарычнай фігуры, фармальнага знаку, устойлівага абароту маўлення, сродку мастацкай камунікацыі.

У XIX стагоддзі распаўсюджваецца мода на *селам*, мову кветак, што прыйшла з Усходу, на кветкавую пошту – абмен выявамі кветак і букетамі, якія мелі асаблівы сэнс, зразумелы дасведчаным у гэтым мастацтве. У дадзены перыяд вялікую папулярнасць мела кніга Б. Дзелашэне *Азбука Флоры, або Мова кветак* (1811), у якой быў змешчаны своеасаблівы алфавітны каталог кветак з тлумачэннем іх сімвалічнага і алегарычнага сэнсу. На рускай мове, дзякуючы Дзмітрыю Азнабішыну, з’яўляецца паэма *Селам, або Мова кветак*, дзе аўтар згадвае больш 400 назваў кветак ды іншых раслін і грунтоўна тлумачыць іх тайную сімвалічную мову.

Жывапісны стыль сентыменталізму і перадрамантызму становіцца малюнкам духоўнага жыцця чалавека, яго пачуццяў і эмоцый. Пісьменнікі Найноўшай эпохі пачынаюць выкарыстоўваюць флоравобраз як цэнтральны персанаж, надаюць яму рысы персаніфікацыі, сімвалу, што валодаюць вялікім патэнцыялам варыятыўнасці і асацыятыўнасці, выводзяць на сугестыўнае ўспрыняцце. Так ў літаратуры мяжы XIX–XX стагоддзяў з’яўляецца *блакітная кветка* Наваліса, *кветкі зла* Шарля П’ера Бадлера, *кветкі-птушкі* Стафана Маларме, *лілія-клісцір* Арцюра Рэмбо, *кветка-пранцы* Карла Гюісманса, *чырвоная кветка* Усевалада Гаршына, *сад Параду* Эміля Заля і шмат іншых.

Заснавальнік рускай міфалагічнай школы Фёдар Буслаеў яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя высказвае меркаванне, што вывучэнне назваў раслін цесна звязана з вывучэннем гісторыі народа, яго быту і нораваў: “самая номенклатура народной ботаники ведёт нас в период мифологический” [Буслаев 2011: 17]. Таксама даследчык слушна адзначае,

што “мифология есть не иное что, как народное сознание природы и духа, выразившегося в определенных образах” [Буслаев 2011: 17]. Збіральнік рускага фальклору Міхаіл Забылін пасля выдання *Народнага кветніка* (1880) – каталога раслін і кветак з апісаннямі іх магічных асаблівасцей, легенд, народных забабонаў – рэзюмуе:

> было бы весьма не дурно для полноты изучения нашего народного быта, как пособника истории, развить этими путями такие дорогие сведения, как наша народная медицина и народная ботаника [Забылин 1990: 438],

разглядаючы батанічныя намінацыі лінгвістыкі як адзінкі культуры ў непарыўнай сувязі з духоўным і матэрыяльным жыццём народа.

На багаты мастацкі патэнцыял кветкі як асаблівага вобраза ў літаратурна-мастацкім дыскурсе звярнуў увагу і Аляксандар Весялоўскі ў эсэ *З паэтыкі ружы* (1898), узнімаючы пытанне, “як зараджаецца і развіваецца сімволіка кветак, без якой не абышлася ні адна народная або мастацкая паэзія?” [Весялоўскі 2010: 304]. Аўтар адзначае:

> прыгажосць кветкі, часцей яе адносіны да знамянальных з’яў прыроднага і асабістага жыцця ў іх узаемадзеянні, вылучылі яе перад іншымі, выклікалі шэраг асацыяцый; ад ёмістасці вобразу залежыць іх колькасць і разнастайнасць; на іх і перанесена цікавасць, нярэдка вобраз кветкі амаль знікае за падказаным яму чалавечым зместам [Весялоўскі 2010: 304].

У фалькларыстыцы канца XIX – пачатку XX стагоддзя з’яўляецца шэраг прац, дзе даследуюцца расліны як сімвалічны вобраз (Аляксандар Афанасьеў *Паэтычныя гледжанні славян на прыроду*, Я. Аўтаномаў *Сімволіка раслін у вялікарускіх песнях*, Мікалай Залатніцкі *Кветкі ў легендах і паданнях*, Аляксандар Пацябня *Аб некаторых сімвалах у славянскай народнай паэзіі* і інш.).

У кантэксце лірыкі У. Дубоўкі семантыка раслінна-фларыстычнай вобразнасці мае некалькі трактовак. З аднаго боку, з ёй звязана падкрэсленая арыентацыя на выяўленне нацыянальнага каларыту, “мясцовай прыналежнасці”, актуалізацыя вобразаў беларускай фальклорна-міфалагічнай спадчыны. Апрача таго, часткова семантыка дубоўкаўскіх флоравобразаў дыктуецца рамантычнай паэтыкай, можа быць інтэрпрэтавана ў героіка-рэвалюцыйным, філасофскім ці галантна-сентыментальным ключы.

Адзначым, што пераважная большасць раслін, што згадваюцца ў творах У. Дубоўкі, – шырока распаўсюджаныя ў прыродзе Беларусі дзікарослыя расліны, вольныя ад догляду садоўніка. Пейзажы У. Дубоўкі – прыродныя, натуральныя, не кранутыя ўплывамі ландшафтнай архітэктуры, не падпарадкаваныя ідэалам правільных формаў і сіметрыі. Безумоўна, рэгулярныя сады і паркі ў рэаліях сацыяльнага і культурнага жыцця Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзя распаў-

сюджання не мелі, таму і ў мастацкім асэнсаванні геаметрычныя прынцыпы структурыравання прыроды і, шырэй, сусвету адлюстравання не знайшлі. Пейзажы У. Дубоўкі – то вытанчаныя, пышна прыбраныя як ў вершы *Залатая асенняя раніца…* (1922) (“Залатая, асенняя раніца! / Хараством ты на свеце адна. / Сонца ў пушчы глыбокай купаецца / і ніяк не дастане да дна...”) [Дубоўка 2016 : 8], то змрочныя як у вершы *Балаты разлягліся абапал ракі…* (1922) (“Балаты разлягліся абапал ракі, / І дрыгва і гідота, дзе вокам не кінь. / Да зямлі прытуліліся дрэўцы, кусты. / Разлягліся абапал ракі балаты”) [Дубоўка 2016 : 12], але заўсёды фатаграфічна дакладныя, адпаведныя звыклам беларускім ландшафтам.

Можна вылучыць некалькі шляхоў выкарыстання раслінных матываў у творах У. Дубоўкі. Першы з іх звязаны з традыцыйнымі вобразамі, што мелі распаўсюджанне ў фальклоры, антычнай і барочнай фітанімічнай эмблематыцы. Такія вобразы (каліны, рабіны, палыну, асенніх лістоў) носяць цытатны характар, могуць разглядацца як інтэртэкстуальная спасылка, зразумелая кожнаму. Другі шлях выкарыстання флоравобраза звязаны з асацыятыўна-аўтарскімі мадэлямі, асаблівымі магчымасцямі канструявання арыгінальнай мадэлі мастацкага свету.

Старадаўняя традыцыйная эмблема каліны ў веснавым уборы з белых кветак мае трывалую сэнсавую сувязь з нявестай. Такі матыў стаў асновай для верша *Цягнік спяшаўся* (1926), дзе праяўляе сябе традыцыйны фальклорны паралелізм, у аснове якога ляжыць прынцып супастаўлення дзвюх з’яў, блізкіх па сваім змесце, прыём атаясамлівання прыродных феноменаў з падзеямі чалавечага жыцця:

На ўзгорку, бачылі ўсе праз вокны,
каліна красавала белым цветам.

Наводля дзеўчына ў кужэльных шатах
маю дарогу шчасцем вышыць выйшла.
І пад шатром зялёным і бахматым
застыла ў млявасці на ўзвышшы.

І хараство істоту агарнула,
каліна белая… нявеста маладая…
[Дубоўка 2016 : 50–51].

У вершы актуалізуецца не толькі тэма дзявочай прыгажосці, кахання, але і горычы няспраўджаных надзей на шчасце. Флорашыфр каліны неадназначны: традыцыйна каліна не толькі “красная”, прыгожая, але і горкая, пякучая. Таму з першых радкоў верша зададзена мінорная танальнасць гэтай гісторыі кахання, якой наканавана скончыцца расстаннем:

Праз вокамгненне з гоманам і гулам
Далечыня ад воч яе схавала.
[Дубоўка 2016 : 51]

Традыцыйны вобраз зерня, збожжа, што ў народнай творчасці асэнсоўваецца як сімвал жыцця, дабрабыту, Божы дар, становіцца акцэнтнай дэталлю ў грамадзянскім вершы У. Дубоўкі *Думкі, думкі, як мне вас ушчунуць…* (1926). Паэт разважае пра цяжкі лёс Айчыны, якую прымушаюць жыць чужой культурай, схіляюць да *жабрацтва духу*, да *скарынак ад сталоў суседніх*. Характэрная для беларускай літаратуры і культуры сімволіка, звязаная з жыватворчай земляробчай працай, набывае ў гэтым творы асаблівы сэнс, калі паэт прапаноўвае сродкі, каб зберагчы і прымножыць “сваё”, роднае:

Я мяркую так: не родзіць поле, –
Не накормяць і суседзі вельмі.
Трэба смела моцнаю рукою
безупынна сеяць, сеяць зерня.

Каб расло і красавала збожжа,
каб былі мы сытымі заўсёды.
Вось тады адчуць мы толькі зможам
радасць чыстую і плёну слодыч.
[Дубоўка 2016 : 55]

Распаўсюджаны ў цэлым шэрагу вершаў У. Дубоўкі (*Ведаю, што і я памру, як і ўсе…, Пальцы жоўтых кляновых лістоў, Дарагая… Каханая…, Апошняя песня, Палыны пасівелі на ўзгорку, Здаецца, восень грае на цымбалах…, Крыху восені і жменька кляновых лістоў*) вобраз пажоўклых лістоў (вераснёвых, жоўтых кляновых, залатых) узыходзіць да традыцыйнай эмблемы, сімвалізуючы завяданне, самоту, меланхолію. Перасякаецца з фларонімам завялых лістоў флаваравобраз пялёсткаў, якія аблятаюць, і чыя канатацыя таксама нагадвае: жыццё кароткае і трэба атрымліваць асалоду ад яго (вершы *Не кажу – запявайце цымбалы, Палыны пасівелі на ўзгорку, Трыпціх, Летуценнем праходжу над краем, Акорды, акорды!*). Большасць вершаў сапраўды носіць элегічна-роздумны характар, гаворыць пра хуткаплыннасць жыцця, але не выклікаюць мартальных асацыяцый. У. Дубоўка стварае жыццесцвярджальную філасофію быцця, дэманструе спакойнае і радаснае прыняцце імклівасці часу, натуральнай хады гісторыі і чалавечага лёсу. Знітаванасць жыцця і смерці, болі і радасці ўсведамляецца як тое, што само сабой зразумела. Такое развіццё флоравобраза, яго новыя абертоны, сугучныя беларускай культуры, могуць быць звязаны і з праваслаўным поглядам, дзе засмучэнне, маркота – грэх, і з устойлівым народна-паэтычным успрыманнем праяў прыроды як вечнага кругавароту. Так, у вершы *Акорды, акорды!* (1926) лірычны герой па-

філасофску гаворыць пра адмысловыя акорды – мелодыі “прастораў, вякоў і народаў”, што вечна гучалі і гучаць у мінулым і сённяшнім дні, вядуць чалавека па дарозе жыцця:

Акорды, акорды… Пялёсткі злятаюць
у нашых павевах імклівых і гордых.
Той радасцю ўпіўся, той смутак глытае…
Скранеце каменне, акорды, акорды!
[Дубоўка 2016: 48]

У вершы *Крыху восені і жменька кляновых лістоў* (1929), заснаваным на персаніфікацыі, прадстаўленні прыродных з’яў і аб’ектаў у вобразе дзейных асоб, лісты і дрэвы прыпадабняюцца да людзей і іх лёсу. Лірычны герой па-філасофску ёміста робіць высновы пра сэнс чалавечага жыцця:

Прыйшла, аздобіла іх восень.
І лятуць яны:
у прыгажосці
прыгажосць.
Маўклівыя і нерухомыя стаяць кляны:
у сваім жыцці і маладосці
гаспадары яны ці госці?
І мне здаецца, што ўсяго ў лістах пакрыху ёсць.
[Дубоўка 2016 : 74]

У гэтым жа вершы У. Дубоўка дэманструе і адмысловае стаічнамужнае ўспрыняцце цяжкасцей жыцця. Распрацоўка флоравобраза лістоў набывае нечаканы акцэнт за кошт сродкаў катэгорыі камічнага, нечаканага ўвядзення чужароднага па стылю кампанента, эпіграматычнага завастрэння думкі і лаканічнай гульні слоў у апошнім радку:

Лісты, прыгожыя лісты
лятуць над галавой.
Які з кляновай пекнаты
цудоўны будзе гной.
[Дубоўка 2016 : 74]

Адзін з самых вядомых вершаў У. Дубоўкі *О Беларусь, мая шыпшына* (1925) заснаваны на фальклорна-рамантызаваным флоравобразе шыпшыны, дзікай ружы, які мае шматаспектную амбівалентную канатацыю. Распавядаючы пра сваю любоў да Радзімы, паэт прыпадабняе яе да чырвонай кветкі шыпшыны, расліны, што апрача прыгажосці валодае яшчэ і калючкамі. Эмблематыка шыпшыны ў еўрапейскай літаратуры і культуры звязана не толькі з каханнем, любоўю, здароўем, але і з ранамі, і са смерцю. Напрыклад, у хрысціянстве дзікая ружа звязваецца з цярновым вянком і пакутамі Хрыста, старажытныя германцы поле бою называлі “ружавымі садамі”, а рыцарская традыцыя зблііжае

семантыку калючай шыпшыны і смяротнага мяча. Лёс Бацькаўшчыны і змагароў за яе свабоду цяжкі і крывавы, але любоў, што жыве ў сэрцах сапраўдных патрыётаў, мацнейшая за любыя выпрабаванні:

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш.
[Дубоўка 2016 : 30]

Трэба адзначыць, што апрача традыцыйных для беларускай культуры фальклорна-рамантызаваных флоравобразаў У. Дубоўка прапаноўвае асацыятыўна-аўтарскія, прыватныя. Як адзначае Ралан Барт, “прыватныя модусы выявы адпавядаюць яе патэнцыйнай невычэрпнасці: гэта адсутнасць сэнсу, багатая ўсімі магчымымі сэнсамі” [Барт 89: 308].

Распаўсюджанне падобных індывідуальна-аўтарскіх флоравобразаў у сучаснай беларускай літаратуры можа быць патлумачана ўплывам вялікай колькасці наватарскіх некласічных філасофска-эстэтычных кірункаў, што ўзніклі ў XX ст., моцным уздзеяннем на беларускую літаратуру пач. XX ст. рамантычнай і неарамантычнай вобразнасці з культывацыяй экзатызму, а таксама своеасаблівасцю эстэтыкі і паэтыкі, светабачання таго ці іншага аўтара.

Асацыятыўны флоравобраз часцей за ўсё будуецца з некалькіх кампанентаў – самой назвы расліны і азначэння, што значна пашырае семантыку гэтага вобраза, метафарызуе яго. У вершах У. Дубоўкі такая мадэль можа быць праілюстравана наступнымі прыкладамі: *зелле-непатрэб'е* (верш *Прамерыць гоні шмат разоў араты*), *кветка шчасця* (верш *У зімовы заснежаны дзень...*), *найдрабнейшыя кветкі* (верш *Верас*), *палын межадольны* (верш *Акорды, акорды!*), *вялізманая кветка дыядэмай* (*Трыпціх. Жыццё маё ці васілёк, ці ружа...*), *зымшалая пушча* (верш *Трыпціх. Журавінамі плача восень...*), *кармазынавы мак* (верш *Прыпыніла свой голас жалейка*) і інш.

Цікавым уяўляецца ўжыванне флоравобраза *кветка шчасця* ў вершы *Ў зімовы заснежаны дзень...* (1962). Гэта адзіны знойдзены намі прыклад з дубоўкаўскай спадчыны азначэння не дзікароса, а хатняй кветкі ў вазоне, рупліва абароненай ад холаду. Паэт рэалізуе ішасказальны матыў вырошчвання “сваёй” ідэальнай кветкі, што магчыма толькі ў прыватнай прасторы роднай хаты, дзе жыве любая жанчына, для якой і прызначаны кветкавы падарунак у вазоне:

У зімовы заснежаны дзень
кветку шчасця дахаты я нёс,
прытуліўшы да самых грудзей,
каб яе не знявечыў мароз.
[Дубоўка 2016 : 75]

Рэпрэсаваны на доўгія гады паэт на сваім лёсе ўпэўніўся, што кветкі шчасця ў савецкім клімаце не растуць, што *вальфрамныя ніці* электрыфікацыі не сумяшчальныя з пяшчотнай раслінай. Па ўспамінах сучаснікаў, У. Дубоўка пасля амаль трох дзясяткаў гадоў выгнання нават у сяброўскіх размовах быў вельмі стрыманы, не дазваляў сабе неасцярожнага слова – старанна бараніў сваю цяжка здабытую кветку шчасця:

Усміхнулася любая мне:
– Гэта ж цуд, а не кветак вазон!..
Хай нагадваюць нам аб вясне,
напрарочаць прыгожых нам дзён.

Калі вечар са змрокам прыйшоў,
я пачуў ад Марылі загад:
– Не ўключай электрычных агнёў,
кветкі свецяць на тысячы ват.

Дарагая! І так і не так, –
з імі разам надзея зіхціць.
Для яе сапраўды – аніяк
Не прыдасца вальфрамная ніць…
[Дубоўка 2016 : 78]

Зварот да вывучэння раслінных матываў і фальклорна-рамантызаваных фітавобразаў у вершах У. Дубоўкі дапамагае вызначыць ідэйна-тэматычныя даміnanты творчасці паэта, дзе знітаваны лірычны і грамадзянскі пафас. Расліны як элемент прыроды, успрыняты праз фальклорна-рамантызаваныя ідэі, філасофію пантэізму, выяўляюцца ў лірыцы У. Дубоўкі вечна новай, несмяротнай часткай светабудовы. Назіранні дазваляюць гаварыць аб полігенетызме дубоўкаўскіх флоравобразаў, якія паходзяць з народнай творчасці, паганства, хрысціянства, барочнай эмблематыкі і сімвалізму Найноўшай эпохі. Вобразы раслін з заходнееўрапейскага літаратурнага ўжытку ў вершах У. Дубоўкі пераасэнсоўваюцца і набываюць новыя мастацкія рысы, сугучныя рэаліям беларускай культуры і яе жыццесцвярджальнаму пафасу. Адзначым, што частка дубоўкаўскіх флоравобразаў мае традыцыйную канатацыю, працягвае ўстойлівы фальклорны канон мастацкага выкарыстання (шыпшына, рабіна, каліна, сасна, асеннія лісты), іншыя адзінкі маюць асацыятыўна-аўтарскую семантыку, узбагачаюцца новымі адценнямі сэнсу (лебяда, верас, палын, кіпарысы, лаўр, кветка шчасця).

## Бібліяграфія

Bart Rollan. 1989. *Izbrannye raboty: Semiotika: Poètika.* Moskva: Progress [Барт Роллан. 1989. *Избранные работы: Семиотика: Поэтика.* Москва: Прогресс].

Buslaev Fedor. 2011. *Istoricheskie ocherki russkoj narodnoj slovesnosti*. Moskva: Librokom [Буслаев Фёдор. 2011. *Исторические очерки русской народной словесности*. Москва: Либроком].

Duboŭka Uladzimir. 2016. *Veršy. Paèmy. Krytyka.* Minsk: Mastackaâ litaratura [Дубоўка Уладзімір. 2016. *Вершы. Паэмы. Крытыка.* Мінск: Мастацкая літаратура].

Zabylin Mihail. 1990. *Russkij narod, ego obychai, obryady, predaniya, sueveriya i poeziya.* Moskva: Printshop [Забылин Михаил. 1990 *Русский народ, его обычаи, обряды, предания, суеверия и поэзия*. Москва: Принтшоп].

Vipper Yurij. 1990. *Tvorcheskie sud'by i istoriya (O zapadnoevropejskih literaturah XVI – pervoj poloviny XIX veka*. Moskva: Hudozhestvennaya literatura. [Виппер Юрий. 1990. *Творческие судьбы и история (О западноевропейских литературах XVI – первой половины XIX века.* Москва: Художественная литература].

Veselovskij Aleksandr. 2010. *Izbrannoe. Na puti k istoričeskoj poètike*. Moskva: Avtoknita [Веселовский Александр. 2010. *Избранное. На пути к исторической поэтике.* Москва: Автокнита].

**ABSTRACT:** The article examines flora images as part of the artistic system of motifs and a characteristic of the motif complexes of U. Dubouka's poetry and clarifies the metaphorical potential of plant images from linguistic cliches and rhetorical figures to discrete, complex symbolic allegories filled with original semantics and associative-authorial innovations. Conclusions are drawn on the basis of the peculiar functioning and diversity of national folklore-romanticized flora images in the poems *The train was in a hurry, Thoughts, thoughts, how can I reassure you, Chords, chords!, A little of autumn and a handful of maple leaves, On a winter snow-covered day...* by U. Dubouka, the ideological and thematic dominants of the poet's creativity are determined.

**KEYWORDS:** flora images, motifs and motive complexes, viburnum, grain, yellowed leaves, petals, rosehip.

**STRESZCZENIE:** Artykuł rozpatruje figury florystyczne jako część charakterystycznego dla sztuki lirycznej U. Dubouki systemu motywów i kompleksów motywicznych, udokładnia metaforyczny potencjał postaci roślin od frazesu językowego i figury retorycznej do dyskretnych, wypełnionych oryginalną semantyką złożonych alegorii symbolicznych, asocjacyjnych i autorskich innowacji. Autor wyciąga wnioski o osobliwościach funkcjonowania i różnorodności narodowego folkloru romantycznego figur florystycznych w wierszach *Pociąg się spieszył, Myśli, myśli, jak mam was uświadomić, Akordy, akordy!, Trochę jesieni i garść klonowych liści, W śnieżny zimowy dzień...*. U. Dubouki oraz identyfikuje ideologiczne i tematyczne dominanty twórczości poety.

**WYRAZY KLUCZOWE:** figury florystyczne motywy i kompleksy motywiczny, kalina, ziarno, pożółkłe liście, płatki, dzika róża.

**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле разглядаюцца флоравобразы як частка характэрнай для лірыкі У. Дубоўкі мастацкай сістэмы матываў і матыўных комплексаў,

удакладняецца метафарычны патэнцыял вобразаў раслін ад моўнага клішэ і рытарычнай фігуры да дыскрэтных, напоўненых арыгінальнай семантыкай складаных сімвалічных алегорый, асацыятыўна-аўтарскіх навацый. Робяцца высновы пра асаблівасці функцыянавання і разнастайнасць нацыянальных фальклорна-рамантызаваных флоравобразаў у вершах *Цягнік спяшаўся*, *Думкі, думкі, як мне вас ушчунуць, Акорды, акорды!, Крыху восені і жменька кляновых лістоў, У зімовы заснежаны дзень…* У. Дубоўкі, вызначаюцца ідэйна-тэматычныя дамінанты творчасці паэта.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** флоравобразы, матывы і матыўныя комплексы, каліна, зерне, пажоўклыя лісты, пялёсткі, шыпшына.

*Data przesłania artykułu: 5.09.2021*
*Data akceptacji artykułu: 20.11.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Liudmila Sadko / Людміла Садко** – Białoruś, Narodowa Akademii Nauk Białorusi, Centrum Badań nad Kulturą Białoruską, Językiem Białoruskim i Literaturą Białoruską; dr, doc.; specjalność naukowa: literaturoznawstwo białoruskie; zainteresowania naukowe: współczesna poezja polisystemowa Białorusi i zagranicy.

**Adres**: НАН Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, вул. Сурганава 1, кор. 2, 220072 Мінск, Беларусь.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Садко Людміла. 2020. *Лінгвістычны крытыцызм у замежнай і беларускай паэзіі 1950–1960 гг.* (181–186) У: *Вялікая Айчынная вайна і пасляваенны час у беларускай літаратуры: матэрыялы міжнар. навук. канф. (да 75-годдзя Вялікай Перамогі і 95-годдзя з дня нараджэння І.Я. Навуменкі), Мінск, 16–17 кастрычніка 2020 г.* Мінск: А. Янушкевіч.
2. Садко Людміла. 2020. *Моўная інтэрферэнцыя і ее адлюстраванне ў сучаснай беларускай паэзіі* (150–153). У: Н. Баранова (рэд.). *Русский и беларусский языки в контексте глобализации: материалы междунар. науч.-практ. конф., Москва, 30 мая 2019 г.* Минск: МГЛУ.
3. Садко Людміла. 2021. *Рэпертуарныя мадэлі Г. Гейнэ і Ф. Шылера ў перакладах М. Багдановіча*. "Веснік Брэсцкага ўніверсітэта" Сер. 3: Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія, № 1: 46–51.
4. Садко Людміла. 2021. *Традыцыйнае і наватарскае ў сучаснай беларускай літаратуры: полісістэмны падыход*. "Веснік Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова" Сер. А: Гуманітарныя навукі (гісторыя, філасофія, філалогія), № 1 (57): 119–125.
5. Садко Людміла. 2021. *Рэпертуарныя мадэлі П. Верлена ў перакладах М. Багдановіча*. "Ученые записки УО ВГУ имени П. Машерова" 33: 166–171.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.121–132

**Мария Ламм / Maria Lamm**

*незалежны даследчык / independent researcher*
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-3643-5052
e-mail: *lamm.maria@yandex.ru*

# Рецепция античности в творчестве авторов литературного объединения «Беловежа»

*Reception of antiquity in the works of the authors of the «Białowieża» literary group*
*Recepcja starożytności w twórczości autorów stowarzyszenia literackiego «Białowieża»*
*Рэцэпцыя антычнасці ў творчасці аўтараў літаратурнага аб'яднання «Белавежа»*

Рецепция античности – один из наиболее распространенных процессов в европейских литературах на протяжении их многовековой истории, присутствует она и в белорусской литературе. Само понятие литературной традиции еще со времен средневековья часто раскрывается именно через соотнесение с классическими метакодами – библейским и античным – как с первообразом и образцом. Письменная традиция белорусской литературы прерывалась, новая литературная традиция возникла и развивалась в XIX–XX вв., в эпоху бурных эстетических поисков и взрывного развития поэтики на глобальном уровне: появлялись новые подходы и эстетические направления, социальные перемены стали мощнейшим стимулом для развития художественного слова.

Еще в XIX в. определились два основных направления развития белорусской литературы, которые условно можно обозначить как народное, опиравшееся в своем развитии преимущественно на фольклор, и книжное, преимущественно оперировавшее метакодами классической культуры. Один из наиболее ярких авторов второго направления – Максим Богданович – полагал, необходимыми условиями развития белорусской литературы эстетизацию и европеизацию [Грымута 2009: 31][1], в частности – обращение к античным образцам как на уровне поэтики, так и на уровне образности. При этом исследователи отмечают, что «восхищение античной культурой соединялось у Максима Богда-

[1] Здесь и далее перевод цитат мой. – *М. Л.*

новича с любовью к Родине, фольклорному наследию» [*Матыўная прастора*… 2009: 24]. В начале XX в. в творчестве М. Богдановича складывалась новая для белорусской литературы модель рецепции античных образов и сюжетов, объединившая книжное и народное начала. Светлана Гримута выделяет три основных направления рецепции античности:

- ретрансляция образов древнего мира;
- освоение и трансформация жанров и стихотворных размеров античности;
- перевод [Грымута 2009: 31].

В понимании М. Богдановича античность представляла собой «не только образец красоты и гармонии, школу поэтической культуры, но и универсальную матрицу человеческого бытия» [Сузько 2008: 9]. Хотя подобная эстетизация культуры не стала основным направлением развития белорусской литературы XX в., рецепция античности оставалась достаточно значимой. Поиск баланса между своим и чужим, исконным и заимствованным был одной из наиболее актуальных проблем поэтики белорусской литературы в XX в. С одной стороны, как отмечает С. Гримута, «обращение к культурно-эстетическим достижениям древних Греции и Рима было оправдано в условиях ускоренного развития белорусской художественной литературы в начале XX в.» [Грымута 2009: 35]. Подобное освоение традиций классических литератур продолжает традиции белорусской литературы XIX в. С другой стороны – развитие идей национального Возрождения, а также новая постреволюционная реальность требовали поиска нового – самобытного пути развития.

Рецепция античности в таких условиях могла восприниматься как проявление реакционных взглядов или влияния чужой культуры. Как пишет об этом Елена Сузько, «довольно противоречивым и настороженным было восприятие культурного опыта Античности в 20–30-х гг. Представители пролетарской поэзии мечтали о создании абсолютно новой литературы без опоры на прежние эстетические и художественные достижения человечества» [Сузько 2008: 12]. Необходимо также отметить, что развитие белорусской литературы в XX в. в силу культурных и исторических обстоятельств не было однородным. Восточнобелорусская литература с 1920-х гг. развивалась в контексте и в диалоге с советской литературой, западнобелорусская до начала Второй мировой войны – в контексте и диалоге с польской, после 1939 г. – с советской. Однако белорусские центры оставались также и на территориях, не вошедших в состав БССР после Второй мировой войны.

Развитие белорусского художественного слова на территории Польши после Второй мировой войны связано с деятельностью литературного объединения «Белавежа», основанного в 1958 г. В статистическом отношении на протяжении четырех десятков лет деятельности литературного объединения «на его горизонте появилось более ста разных по уровню таланта, трудолюбия и степени образованности авторов стихов, лирической прозы, рассказов, повестей, пьес, очерков, репортажей, фельетонов» [Чыквін 1997: 116]. Хотя творчество каждого из них уникально и своеобразно, можно выделить некоторые общие особенности развития образности и поэтики. Как и для белорусских писателей в БССР, рецепция античности сперва не являлась центральным приемом для «беловежцев». Хотя эта тема систематически возникает в творчестве отдельных писателей, нельзя сказать, чтобы она была общей для творчества всех авторов литературного объединения. Тем не менее, рецепция античности присутствует в творчестве представителей разных направлений развития белорусской литературы, принадлежащих к различным поколениям. Не претендуя на полный охват всех авторов и их произведений, в данной статье рассматривается рецепция античности в творчестве Яна Чиквина, Сократа Яновича, Михала Андросюка и Миры Лукши.

Античность является одним из структурообразующих культурных метакодов, но обращение к нему для творчества беловежцев нехарактерно, подобные образы остаются на периферии эстетического пространства. Гораздо более распространен религиозный метатекст, связанный как с православным или католическим кодом, так и с общехристианской парадигмой в целом. Вероятно, сравнительная редкость рецепции античности связана с положением белорусов в качестве этнического меньшинства. Европейская культура основывается на образах античности, со времен эпохи Возрождения это неотъемлемый маркер образованности, но на уровне национальных мифологий в регионе античность связана с классическим образованием, которое в течение долгого времени было для белорусов недоступно, в художественной литературе эти образы семантически связаны с этнически чуждым пластом образованного большинства – преимущественно польскости [Бядуля 2006: 444].

Переосмысление античности происходит в контексте переосмысления эстетической традиции в связи с Перестройкой в конце 1980-х. Именно в этот период в западнобелорусской литературе по обе стороны границы актуализируется тема Великого княжества Литовского, которая прежде разрабатывалась преимущественно восточнобелорусскими авторами, в первую очередь Владимиром Короткевичем. В этот же период в творчестве «Беловежцев» появляется прежде практически

отсутствующая в художественных текстах рецепция античных образов. Как отмечает Леонид Барщевский, актуализация античных образов происходила, когда «необходимо было преодолеть духовную стагнацию в обществе, преодолеть цинизм и мракобесие»[Баршчэўскі 1995: 106]. Перестройка, постчернобыльский и, позднее, постсоветский аксиологический кризисы вероятно привели к актуализации прежде забытых метакодов классической культуры.

Античные образы используются авторами для описания родного края. В миниатюре Сократа Яновича *Мой малый генезис* античная Греция изображается источником лета для Крынок – родного городка писателя: «азіяцкія аднак тут зімы, хоць лета час-часом залятае сюды ад Элады» [Яновіч 1999: 6]. Попытка сравнения окружающего пространства и идеальной Эллады получается у Яновича довольно сатирической «Мікраполісны гімназіён» [Яновіч 1999: 6], ученики которой «чулі нават пра Сакрата ды ягонага вучня Платона» [Яновіч 1999: 6], Белосток, их город, в этой миниатюре изображается центром мира: «Горадзен іх – Беласток, у нечым кшталтам Афінаў з графаманскім падабенствам Акропалю <…>. Жывецца, вось, бы запацеламу Сізіфу пад гарою» [Яновіч 1999: 6]. Как и многие «городские» тексты Яновича, миниатюра отличается сатирическим пафосом.

Критики неоднократно отмечали в прозе Яновича «мотив авторской как бы нелюбви к своим персонажам» [Васючэнка 2003: 104], присутствует он и в этой миниатюре. Категории античной культуры, как знаки цивилизации, противопоставлены «варварству» местных жителей, что подчеркивается образом «чужого» лета, «залетевшего сюда из Эллады». Однако это особенность авторского мировидения, обусловленная в значительной степени спецификой регионального быта. Подобная горечь восприятия реальности встречается и в творчестве Я. Чиквина: «Гарадок на ўскраіне вёскі – / Месца жывога бывання. <…> паядае дзяцей сваіх Кронас, / Тутэйшым жыццём узгадаваных» [Чыквін 2002: 47], но в целом такие пути рецепции античности в его творчестве нехарактерны. В поэзии Я. Чиквина образ Эллады несколько ироничен, связан со светлой мечтой и милыми сердцу миражами: «Ноч – шчаслівае жыллё! / Без бяды клубіцца радасць. / Вабіць пышнасцю яно здалёк, / Быццам даўняя Элада» [Чыквін 2002: 66].

Для поэтизации образа Родины в творчестве «беловежцев» чаще используется библейский метакод, иногда описывая реальность практически в тех же выражениях, что и в античном тексте. Для примера можно вспомнить стихотворение Н. Артимович *у Бельску старая музыка*…, в котором представлен похожий на изображенный в миниатюре С. Яновича образ лета, но уже в категориях христианского метатекста: «у Бельску старая музыка / лагодны час – лета / забытая царква / дай-

сці да Першага слова малітвы» [Артымовіч, Разанаў 1994: 63–64]. В эссе-комментарии к этому стихотворению А. Рязанов раскрывает значение этих образов так: «Бельск узнік з музыкі, музыка яго прааснова, але для таго, каб яна змагла выявіцца і загучаць, у Бельску мусіць быць адпаведная пара: лета. Лета – раўнавага між тым, што было, і тым, што ёсць: даўно мінулыя з'явы знаходзяць у ім свой дом, сваю жывую вечнасць. <…> *Першае слова малітвы* – гэта таксама музыка, але музыка, якая не прыналежыць часу; гэта таксама царква, але царква, якая не прыналежыць месцу; гэта таксама лета, але – якое ніколі не мінае» [Артымовіч, Разанаў 1994: 63–64]. Хотя категории метатекста различны – их объединяет лишь принадлежность к классической культуре – в обоих случаях присутствует восприятие лета как мифологической целостности пространства и времени, человека и культуры.

Одним из центральных античных сюжетов в творчестве «беловежцев» является мотив странствий Одиссея, он упоминается в текстах авторов разных поколений, присутствует у Я. Чиквина, С. Яновича и М. Лукши. Каждый из авторов по-разному переосмысливает этот античный сюжет. Наиболее классический вариант обращения к античной символике можно видеть в творчестве Я. Чиквина. В стихотворении *Адысей і Наўзікая* присутствует и адаптация для белорусского языка древнегреческого гегзаметра, и довольно точная ретрансляция мифологического сюжета. Философская аллегория мифа разворачивается в пространстве идеального пейзажа, ее связь с окружающей поэта реальностью полностью умозрительна «Ў прыбярэжным трысці змораны спаў Адысей. / А ў той час на той бераг рабыні прыйшлі і паселі, / Каб глядзець, як ідзе па пяску нібыта музыка жывая, <…> Царэўна іх, багіням роўная, раздзета Наўзікая» [Чыквін 2002: 7]. В стихотворении пересказывается мифологический сюжет, на знаковом уровне не имеющий отношения к современности, но, подобно рассмотренным выше стихотворениям, в нем есть «ожившая музыка».

Однако настолько классическая рецепция античности в творчестве беловежцев довольно редка. Чаще авторы переносят образы античного мира в окружающую их реальность, пытаясь осмыслить родные города и деревни в категориях древней мифологии. Подобное изображение пространства можно видеть в стихотворении М. Лукши: «Павесілі на сцяне нашага вакзала / ўсе расклады да дабра і зла. / Але ўсё ж ніхто не ведае дарогі / да ссівелай Ітакі, / што ляжыць у аблагах» [Лукша 2017: 5]. Мотив невозделанной земли, несозданного среди бесконечных возможностей перекликается с мотивом тщеты усилий, а изображение Родины с аллегорическим изображением жизненного пути человека.

Подобное раскрытие образа повседневности присутствует в стихотворении Я. Чиквина *Бачыць свет*. Стихотворение очень лирическое «Свет наш – родная зямля! / Поле, лес, рака, дарога <…> Бачыць свет, жывы і каляровы, / Як мы з мамай сцежкаю ідзём – / Нам адсюль ваколіц дах відзён, / Краявіды нашай, чалавечай долі. / Разлівае дзень маўклівае святло, / А нябёсы – чысціню трывогі... / Смерці анідзе ніякай не было, / А была ў жыццё шырокая дарога – / Пад адкрытым небам / ў свеце Пталамея» [Чыквін 2015: 82]. Птолемей – античный философ, географ, астроном и математик, помимо всего прочего является автором геоцентрической модели мира, опровергнутую позднее польским ученым Николаем Коперником, который математически обосновал гелиоцентрическую систему. Упоминание этого имени символически отсылает к воплощенной древности, вечности, к существованию лирического героя в непреходящем, в том далеком мире, где труды Н. Коперника еще не опубликованы.

Аналогичным образом происходит осмысление античных категорий можно видеть и в миниатюре С. Яновича *Адысея паўмешчаніна*[1] описан жизненного пути зажиточного и трудолюбивого человека: «Яму зайздросцяць: пабудаваў сабе жыццё! Ён купляў цэглу за цэглай, вымуроўваў паверх за паверхам, бачыў усё далей і глядзеў радасней» [Яновіч 1995: 48]. Интересно, что сборники М. Лукши *Радаслоў* и С. Яновича *Лістоўе* двуязычны. Хотя у этих авторов языки творчества – белорусский и польский, билингвальные сборники они выпускают нечасто.

Сатирический и даже сниженный бытовой контекст обращения к категориям античной культуры характерен для творчества С. Яновича. Среди авторов молодого поколения такое восприятие реальности появляется у М. Андросюка, хотя пафос его творчества скорее ироничен, чем сатиричен. Античные сравнения порой возникают в сценах, напоминающих рассказы Николая Гоголя: «Калі б нос Клеапатры быў крышку даўжэйшы, хто ведае, у якім напрамку пайшала б гісторыя чалавецтва» [Андрасюк 2004: 38]. Такое осмысление мифа в категориях народной смеховой культуры обеспечивает его символическое присвоение. Как писал об этом Михаил Бахтин, «смех уничтожает страх и пиетет перед предметом, перед миром, делает его предметом фамильярного контакта и этим подготовляет абсолютно свободное исследование его» [Бахтин 1986: 411]. Подобная фамильярность свойственна творчеству С. Яновича и М. Андросюка, но совершенно нехарактерна для Я. Чиквина и М. Лукши.

[1] Миниатюра впервые опубликована в дебютном сборнике *Загоны* (1969). Один из редких примеров рецепции античности до 1980-х.

Встречаются также упоминания мифологической географии древнего мира, символически указывая на современность, наделяя ее мифологическими категориями. В стихотворении М. Лукши идеальное мифологическое пространство противопоставляется реальности «Клепсідра / што ж я страціў / толькі адно жыццё <…> і цяпер прашу / кропельку вады / прахожы / і нічога не кажы / Спарце» [Лукша 2017: 15]. Эта незримо присутствующая Спарта открывает образный ряд романтического двоемирия, пространств, сосуществующих неслиянно. Клепсидра – объект материального мира – становится целокупным образом. Подобную целокупность можно также видеть в стихотворении Я. Чиквина *Насільшчык амфары*, где уже ушедший XX век сравнивается с сосудом с вином: «Далёкае дваццатае сталецце! / Яно як сон, якога немагчыма расказаць <…>. Яно было жыццём маім. Яго я нёс / Ў сабе, як ў амфары каштоўнае віно» [Чыквін 2002: 37]. А в стихотворении *Сучасная Ніке* возникает противопоставление реального и идеального миров: «Меднавалосая Ніке ішла прада мной. / Яе шавялюра дымліася пахам маёй даўняй спадзевы, / Што ёсць іншы свет, недзе там, за сёмай ракой: / Рухліва-прынадны і першаісна-боска-напеўны, / Дзе ў жывых кругах нагрэтага святла / Расхінутыя свету падзіцячы душы; / Куды, аднак, ніколі не ступіць мне, нават ў снах» [Чыквін 1997: 21].

Связь мифологического и реального пространства можно видеть также в стихотворениях Я. Чиквина. Поэт призывает «Радуемся ўсяму на свеце, / У жыцці бываючы неспадзяваным госцем. / І, праходзячы праз Стыкс па мосце, / Бачым найвыразней часу вецер» [Чыквін 1989: 57]. В поэзии Я. Чиквина разделение мифологической географии и древнего мира происходит наиболее лирично: «Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына! / Дзяцінства босае, замурзанае лета, / Святая студня з жураўлём ўспамінаў, / Сезам, дзе ўсё маё ляжыць ў фрагментах» [Чыквін 1989: 6]. Но непреодолимая дистанция между идеальной целостностью мифа и реальностью для поэта не так уж непроницаема. Во всяком случае, она более преодолима, чем в сатирическом пафосе миниатюр С. Яновича.

В стихотворении Я. Чиквина *Плач Яраслаўны* введение в текст образов античной мифологией связано с образом смерти. В первых трех строфах раскрываются категории древнерусского эпоса. Но после слов «Твой конь спыніўся над ракой Каялай» [Чыквін 1989: 50–51] происходит символический переход в царство мертвых: «Ён воду піў – вада спрыяла. / Твой конь спаткнуўся над ракою Лётай / Ён хроп і гроб зямлю капытам гэтак, / Як быццам бы зазірнуў у вочы смерці» [Чыквін 1989: 50–51]. Спустя две строфы повторяется строка «Твой конь спыніўся над ракой Каялай» [Чыквін 1989: 50–51], а затем князь встре-

чается с богиней возмездия «Стаіць над князем Немезіда, / І меч ў руцэ блішчыць варожа. / Ад гэтай помсты ўцячы ніхто не зможа!» [Чыквін 1989: 50–51]. Но подобные смешения контекстов в творчестве поэта возникают нечасто.

Характерным для творчества Я. Чиквина является философское осмысление бытия в мифологических категориях. Это глубокие общефилософские вопросы, не связанные с региональным или национальным контекстом. В таких стихотворениях Я. Чиквина иронии нет: «Не ведаем – стаецца штó без нашага ўдзелу, / Без волі нашай. Часта так сабе сказаўшы слоўка, / Здаецца, мімаходзь, у лёгкую хвіліну, / Здзіўляемся, калі і след даўно той думкі згінуў, / Як слова наша раптам стала целам – / І нібыта з вады Гаргона з’явіцца якая ці Афіна» [Чыквін 2015: 57]. В стихотворении «Акрамя сну ў Адысея ўсё забрала прагнае мора. / І рабыні ўскрыкнулі, калі ён з’явіўся ім голы» [Чыквін 2002: 7]. Встихотворении *Фаўн*: «Я памёр бы ў свеце такім, каб жыў! / А не жыў – бо быў толькі сведкам жыцця» [Чыквін 2015: 102].

С. Янович и Я. Чиквин принадлежат к одному поколению писателей, в своем творчестве каждый из них реализовал одно из двух направлений развития белорусской литературы. С. Янович стремился к простоте образа, поэтизируя быт белорусской деревни. Я. Чиквин был и оставался классическим писателем-книжником, именно в его творчестве рецепция античности наиболее разнообразна, лирический герой может действовать как в идеальном пространстве мифа, как это было в стихотворении *Адысей і Наўзікая*, так и в современности *Сучасная Ніке*. В художественном пространстве одного стихотворения могут смешиваться категории разных мифологий: античной и славянской *Плач Яраслаўны*. Такое осмысление исследователи отмечали в поэтике творчества М. Богдановича, подчеркивая значимость «не только освоение <…> сокровищ древнего мира, но и оригинальную трансформацию образов, жанров и поэтических измерений античности. Активное использование образов древней (а также библейской, славянской) мифологии, обращение к самобытным, архаичным формам <…> свидетельствовали о своеобразии культурного типа мышления» [Грымута 2009: 35]. В творчестве представителей следующего поколения – М. Лукши и М. Андросюка – рецепция античности встречается реже, однако обращение к этим сюжетам подчеркивает животворящую силу мифа [Грымута 2009: 35].

В творчестве авторов литературного объединения «Беловежа» рецепция античности встречается нечасто. Она возникает не у всех писателей и лишь в творчестве Я. Чиквина является одной из центральных. Тем не менее, с конца 1980-х гг. в белорусской литературе Белосточчины эта тема присутствует и развивается, как и в бело-

русской литературе начала XX в., в двух основных направлениях: классическом (Я. Чиквин, М. Лукша), направленном на эстетизацию реальности, и народном (С. Янович, М. Андросюк), где осмысление мифологий древнего мира происходит в контексте соотнесения с народной культурой. Рецепция античности в творчестве «Беловежцев» представляется попыткой преодоления национальных и культурных стереотипов, частью долгого и сложного пути к взаимопониманию между народами региона.

## Библиография


Androsûk Mìhal. 2004. *Mâscovaâ gravitacyâ*. Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Андросюк Міхал. 2004. *Мясцовая гравітацыя*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Artymowicz Nadzieja, Razanau Aleś. 1994. *Dzvery. Tèkst i kantèkst*. Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białawieża [Артымовіч Надзея, Разанаў Алесь. 1994. *Дзверы. Тэкст і кантэкст*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Barszczewski Leanìd. 1995. Lìtaratura Staražytnaga Ryma "Rodnae slova" № 9: 100–107 [Баршчэўскі Леанід. 1995. *Літаратура Старажытнага Рыма* "Роднае слова" № 9: 100–107].

Bahtin Mihail. 1986. *Èposi roman (O metodologii issledovaniâ romana)* (392–427). U: Bahtin Mihail. *Literaturno-kritičeskie stat'i*. Moskva, Hudožestvennaâ literatura [Бахтин Михаил Михайлович. 1986. *Эпос и роман (О методологии исследования романа)* (392–427). У: Бахтин Михаил Михайлович. *Литературно-критические статьи*. Москва, Художественная литература].

Bâdulâ Zmìtrok. 2006. *Tèatr i vyhavanne mas (Ètapy razviccâbelaruskaga tèatra)* (442–445). U: Bâdulâ Zmìtrok. 2006. *Vybranyâ tvory*. Mìnsk [Бядуля Змітрок. 2006. *Тэатр і выхаванне мас (Этапы развіцця беларускага тэатра)* (442–445). У: Бядуля Змітрок. 2006. *Выбраныя творы*. Мінск].

Czykwin Jan. 1997. *Dalëkiâ i blizkiâ. Belaruskìâ pìs'mennìkì zamežža.* Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Чыквін Ян. 1997. *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Czykwin Jan. 2015. *Zdarylasâ byc'. Lìryka. Proza.* Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Чыквін Ян. 2015. *Здарылася быць. Лірыка. Проза*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Czykwin Jan. 2002. *Krèjdavae kola.* Białystok: Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Чыквін Ян. 2002. *Крэйдавае кола.* Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Czykwin Jan. 1997. *Svet peršy ì apošnì.* Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Чыквін Ян. 1997. *Свет першы і апошні*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Czykwin Jan. 1989. *Svetly mìg.* Mìnsk, Mastackaâ lìtaratura [Чыквін Ян. 1989. *Светлы міг*. Мінск, Мастацкая літаратура].

Grymuta Svâtlana. 2009. *Rècèpcyâ antyčnascì ŭtvorčascì Maksìma Bagdanovìča ì Mìkoly Zèrava.* "Vesnìk Belaruskagadzâržaŭnaga unìversìtèta. Seryâ 4, Fìlalogìâ. Žurnalìstyka. Pedagogìka" № 1: 31–36 [Грымута Святлана. 2009. *Рэцэпцыя антыч-*

*насці ў творчасці Максіма Багдановіча і Міколы Зэрава*. "Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4: Філалогія. Журналістыка. Педагогіка" № 1: 31–36].

Janowicz Sakrat. 1999. *Zapìsy veku.* Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Яновіч Сакрат. 1999. *Запісы веку*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Janowicz Sakrat. 1995. *Listowie*. Białystok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Białowieża [Яновіч Сакрат. 1995. *Лістоўе*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне Белавежа].

Łuksza Mira. 2017. *Rodosłów*. Warszawa: Wydawnictwo Książkowe IbiS [Лукша Міра. 2017. *Радаслоў*. Warszawa: Wydawnictwo Książkowe IBiS].

*Matyŭnaâ prastora belaruskaj lìtaratury pačatku XX stagoddzâ: managr*. 2009. Rèd. Ì.V. Žuk. Grodna: GrDU [*Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя*: *манагр*. 2009. Рэд. І.В. Жук. Гродна: ГрДУ].

Suz'ko Alena. 2008. *Antyčnasc' u belaruskìm kantèksce: antyčnyâ vobrazy ì matyvy ŭ paèzìì Maksìma Tanka: managrafìâ*. Mazyr: MDPU ìmâ Ì.P. Šamâkìna [Сузько Алена. 2008. *Антычнасць у беларускім кантэксце: антычныя вобразы і матывы ў паэзіі Максіма Танка*: манаграфія. Мазыр: МДПУ імя І.П. Шамякіна].

Vasûčènka Pëtr. 2003. *Abrysy mastackaga svetu Sakrata Janowicza (hranatop, ìronìâ, sìmval).* "Tèrmapìly" № 7: 102–108 [Васючэнка Пётр. 2003. *Абрысы мастацкага свету Сакрата Яновіча (хранатоп, іронія, сімвал)*. "Тэрмапілы" № 7: 102–108].

**ABSTRACT**: The article is devoted to the study of the reception of antiquity in the works of Belarusian writers in Bialystok. The main directions of the reception of antiquity in the Belarusian literature of the twentieth century, the productive models of the appeal of Belarusian authors in Poland to the comprehension of classical metacodes are considered. The topic of antiquity is not the main one for the work of Bialystotsky authors, thanks to this it was possible to expand the coverage of authors, analyze the work of writers belonging to different generations and characterize two characteristic directions of the reception of antiquity: folklore and book, based on two ideas about the development of Belarusian literature. The reception of antiquity is regarded as an important part of the Belarusian-Polish interethnic and intercultural dialogue.

**KEYWORDS**: Classical antiquity, Sokrat Janowicz, Michał Androsiuk, Jan Czykwin, Mira Łuksza, classical metacode, dialogue of cultures.

**STRESYCYENIE**: Artykuł poświęcony jest badaniu recepcji starożytności w twórczości pisarzy białoruskich w Białymstoku. Rozważane są główne kierunki recepcji antyku w literaturze białoruskiej XX wieku, produktywne modele apelu autorów białoruskich w Polsce do rozumienia klasycznych metakodów. Temat starożytności nie jest głównym tematem twórczości białostockich autorów, dzięki temu udało się rozszerzyć zasięg autorów, przeanalizować twórczość pisarzy należących do różnych pokoleń i scharakteryzować dwa charakterystyczne kierunki recepcji starożytności: folklor i książka, oparta na dwóch koncepcjach rozwoju literatury białoruskiej. Recepcja starożytności jest uważana za ważną część białorusko-polskiego dialogu międzyetnicznego i międzykulturowego.

**SŁOWA KLUCZOWE**: Starożytna Grecja, Sokrat Janowicz, Michał Androsiuk, Jan Czykwin, Mira Łuksza, klasyczny metakod, dialog kultur.

**РЕЗЮМЕ**: Статья посвящена изучению рецепции античности в творчестве белорусских писателей Белостока. Рассматриваются основные направления рецепции античности в белорусской литературе XX в., продуктивные модели обращения белорусских авторов в Польше к осмыслению классических метакодов. Тема античности не является основной для творчества белостоцких авторов, благодаря этому была возможность расширить охват авторов, проанализировать творчество литераторов, принадлежащих к различным поколениям и охарактеризовать два характерных направления рецепции античности: народно-фольклорное и книжное, основывающихся на двух представлениях о пути развития белорусской литературы. Рецепция античности рассматривается как важная часть белорусско-польского межнационального и межкультурного диалога.

**КЛЮЧЕВЫЕ СЛОВА**: Античность, Сократ Янович, Михал Андросюк, Ян Чиквин, Мира Лукша, классический метакод, диалог культур.

**РЭЗЮМЭ**: Артыкул прысвечаны вывучэнню рэцэпцыі антычнасці ў творчасці беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны. Разглядаюцца асноўныя напрамкі рэцэпцыі антычнасці ў беларускай літаратуры XX ст., прадуктыўныя мадэлі звароту беларускіх аўтараў у Польшчы да асэнсавання класічных метакодаў. Тэма антычнасці не з'яўляецца асноўнай для творчасці беластоцкіх аўтараў, дзякуючы гэтаму была магчымасць пашырыць ахоп аўтараў, прааналізаваць творчасць літаратараў, якія належаць да розных пакаленняў і ахарактарызаваць два характэрныя кірункі рэцэпцыі антычнасці: народна-фальклорны і кніжны, якія грунтуюцца на двух уяўленнях аб шляхах развіцця беларускай пісьменнасці. Рэцэпцыя антычнасці разглядаецца як важная частка беларуска-польскага міжнацыянальнага і міжкультурнага дыялогу.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: Антычнасць, Сакрат Яновіч, Міхал Андрасюк, Ян Чыквін, Міра Лукша, класічны метакод, дыялог культур.

*Data przesłania artykułu: 3.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 30.11.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Maria Lamm / Мария Ламм** – Rosja, badacz niezależny, specjalność naukowa: literaturoznawstwo rosyjskie; zainteresowania naukowe: literatura białoruska w XX wieku, polsko-białoruskie związki literackie, wielokulturowość, białoruska poezja rockowa.

**Adres**: Zelenograd 449-78, Moskwa, Rosja.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Ламм, Мария. (2020). *Развитие белорусской литературы в поликультурном контексте*. «Славянский альманах» 1–2: 501–507.
2. Ламм, Мария. (2020). *Эстетическая двойственность белорусской литературно-критической периодики* (128–132). В: *Литературно-критическая периодика*

*в странах Центральной и Юго-Восточной Европы: структура, типология, социо-культурный контекст*. Москва: Институт славяноведения РАН.

3. Ламм, Мария. (2020). *Город и деревня в миниатюрах Сократа Яновича: развитие модели взаимопроникновения*. «Славяноведение» 5: 122–127.
4. Ламм, Мария. (2021). *Историческая персоносфера (литераторы) в творчестве А. Чобата* (521–524). У: *Традыцыі і сучасны стан культуры і мастацтваў. Зборнік навуковых артыкулаў*. Вып.2. Мінск: Права і эканоміка.
5. Ламм, Мария. (2021). *Белорусский рок без границ: в поисках идентичности* (319–325). В: *Русская рок-поэзия: текст и контекст: сборник научных трудов*. Вып. 21. Екатеринбург: Уральский государственный педагогический университет.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.135–150

**Алена Рудэнка / Alena Rudenka**

незалежны даследчык / independent researcher
ORCID: 0000-0002-1165-3299
e-mail: alena@rudenka.com

# Уплыў польскай мовы на раннія ўсходнеславянскія граматы Вялікага Княства Літоўскага

*The influence of the Polish language on the early East Slavic acts of the Grand Duchy of Lithuania*
*Wpływ języka polskiego na wczesnosłowiańske akty Wielkiego Księstwa Litewskiego*

Існуюць розныя версіі ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага; яны коратка ахарактарызаваны ў кнізе Пятра Чыгрынава [Чигринов 2000: 46 і наступн.]. У савецкіх падручніках па гісторыі Беларусі і ВКЛ ўзнікненне і хуткі тэрытарыяльны рост княства на першых этапах існавання трактаваўся звычайна як ваенная экспансія этнічных балцкіх плямёнаў на спрадвечныя славянскія землі [Пашуто 1959; Шабульдо 1987]. У вядомай кнізе Міколы Ермаловіча [Ермаловіч 1989] прапануецца іншая версія, падтрыманая ў пазнейшых даследаваннях аб пачатковым этапе развіцця ВКЛ [гл.: Ермаловіч 2003; Краўцэвіч 2013].

Вялікае Княства Літоўскае ўзнікла на тэрыторыі сучаснага беларускага Панямоння (гістарычная Літва). У 30–40х гг. XIII ст. Наваградскае (Новагародак – сучасны беларускі горад Навагрудак) княства з першым князем Міндоўгам стала хутка расці, далучаючы зямлі навакольных балцкіх і славянскіх княстваў. Згодна з А. Краўцэвічам,

> назва Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае адлюстроўвае тры асноўныя тэрытарыяльныя складнікі дзяржавы, а чарговасць іх пераліку – храналагічны парадак далучэння да ядра – цэнтральнай вобласці дзяржавы – Літвы (складалася з Наваградчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны і заходняй часткі Міншчыны); Русі, г. зн. Беларускага Падзвіння, Падняпроўя, Палесся ў XIII–XIV стст.; Жамойці – у XV ст. Пад акрэсленне “Рускае” траплялі таксама ўкраінскія землі, далучаныя ў XIV ст. [Краўцэвіч 2013: 7].

Хуткай кансалідацыі славянскіх земляў вакол Навагародка спрыяла пагроза нашэсця рыцарскіх ордэнаў і ордаў Батыя.

Княская ўлада і развіццё дзяржавы ў ВКЛ рэалізоўваліся тымі ж шляхамі, што і ў Маскоўскай Русі: інтрыгі, унутрысямейныя звады, забойствы, міжусобныя войны і саюзы. Пра гэта гаворыцца ў адной з першых згадак пра літоўскіх князёў у Галіцка-Валынскім летапісе:

> Въ лѣто 6723. Божиимъ повелениемь прислаша князи Литовьскии к великой княгини Романовѣ и Данилови и Василкови, миръ дающе. Быху же имена литовьскихъ князей се: старѣшей Живинъбудъ, Давъятъ, Довъспрункъ, братъ его Мидогъ, братъ Довъяловъ Виликаилъ. А жемотьскыи князи: Ерьдивилъ, Выкынтъ, а Рушьковичевъ – Кинтибуть, Вонибут, Бутовить, Вижѣикъ, и сынъ его Вишлий, Китений. Пликосова, а се Булевичи – Вишимут, егоже уби Миндого тъ, и жену его поялъ, и братью его побилъ, Едивила, Спрудѣйка, А се князи из Дяволтвы: Юдьки, Пукѣикъ, Бикши, Ликиикъ. Си же вси миръ даша князю Данилови и Василку, и бѣ земля покойна. Ляхом же не престающимъ пакостящимъ, и приведе на ня литву, и воеваша ляхы, и много убиства створиша в нихъ [*Галицко-Волынская летопись* online].

Тэкст мірнай дамовы паміж Галіцка-Валынскім і Літоўскім княствамі, згаданы ў летапісе, не захаваўся, але звесткі пра яго з'яўляюцца першай згадкай у рускіх летапісах аб Міндоўгу – заснавальніку Літоўскай дзяржавы, якая пачала збіраць вакол Навагародка зямлі ўдзельных навакольных княстваў.

Тэрмін Паўднёва-Заходняя Русь, ці Паўднёва-Заходнія Рускія землі, мае розны змест у залежнасці ад гістарычнага перыяду. У часы Кіеўскай Русі (X–XII стст.) так называюцца Чырвоная Русь і Галіцка-Валынскае княства. Пасля аслаблення Кіева і ў часы Залатой Арды (XIII–XV стст.) гэты тэрмін абазначае рускія землі пад эгідай ВКЛ і Польшчы. Пасля Люблінскай уніі (з XVI ст.) так сталі называцца толькі рускія землі, якія перайшлі да Польшчы (цяперашняя Украіна). У дамангольскім 1237 годзе гэта былі амаль поўнасцю сем рускіх княстваў, а менавіта: Кіеўскае, Валынскае, Полацкае, Пераяслаўскае і Турава-Пінскае, а таксама часткова Чарнігаўскае і Смаленскае княствы. Паняцце Паўднёва-Заходняя Русь гэткае ж традыцыйнае, як і паняцці Белая, Чорная, Чырвоная Русь, якія абазначаюць пэўныя гістарычныя ўсходнеславянскія вобласці.

Як адзначалася вышэй, Маскоўская (Вялікая) Русь і Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае развіваліся падобным чынам: абедзве дзяржавы ставілі перад сабой задачу збірання рускіх зямель. Аднак падобнасць лёсаў не азначала іх тоеснасць – былі і адрозненні, напрыклад, ВКЛ мела мацнейшую празаходнюю арыентацыю. Пры гэтым у самім Вялікім Княстве Літоўскім розныя этнасы і розныя гістарычныя вобласці моцна адрозніваліся. Не закранаючы шырокую і скла-

даную праблему этнічнага складу ВКЛ, спынімся на продках беларусаў і ўкраінцаў.

Калі практычна ўся тэрыторыя сучаснай Беларусі належала Вялікаму Княству Літоўскаму, то з украінскімі тэрыторыямі ўсё было інакш. Як вядома, пасля распаду Кіеўскай Русі (882–1240) на ўдзельныя княствы і руйнавання Кіева Батыем (1240) статус палітычнага і культурнага цэнтра перайшоў ад Кіеўскага княства да Галіцка-Валынскага (1199–1392). Менавіта там найбольш актыўна развіваліся далей усе пісьмовыя стылі і жанры, у тым ліку і дзелавая пісьменнасць: у прыватнасці, у граматах, як і раней, выкарыстоўваўся візантыйска-старажытнарускі фармуляр і ўпершыню з'явіліся ўкраінскія рысы.

Васіль Русаніўскі піша:

> У канцы XIV ст. украінскія землі ўваходзілі ў склад некалькіх дзяржаў. Большая частка тэрыторыі Украіны, а менавіта: Кіеўшчына і Пераяслаўшчына, Чарнігаўшчына, Валынь і паўночна-ўсходняе Падолле – ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, Галіцыя і паўднёва-заходняе Падолле былі захоплены Польшчай, частка падольскіх і галіцкіх земляў (Букавіна) адышлі да Малдаўскага княства, Закарпацце было пад уладай венгерскіх каралёў [Русанівський online].

З гэтай прычыны беларусы цалкам ідэнтыфікуюць сваю гісторыю з ВКЛ, а ўкраінцы – толькі ў пэўнай ступені.

Розніца ў тэрытарыяльнай прыналежнасці была не адзінай і не галоўнай. Беларускія землі мелі больш выразную еўрапейскую арыентацыю; апрача традыцыйнага праваслаўя тут былі шырока распаўсюджаныя каталіцтва, пратэстантызм і інш. Славутая беларуская талерантнасць карэніцца менавіта ў шматэтнічнасці і шматканфесіянальнасці ВКЛ. Украінскія землі (за выключэннем Закарпацця) па тэрытарыяльна-гістарычных умовах імкнуліся да ўсяго "рускага": праваслаўя і руска-візантыйскай культурнай традыцыі. У канчатковым выніку гэта стала адной з прычын добраахвотнага далучэння да Маскоўскай Русі. На розніцу менталітэту ўкраінцаў і беларусаў указвае (у сувязі з Хмяльніччынай) і Генадзь Сагановіч: „Розніца ў адносінах грамадства да паўстання Хмяльніцкага актуалізавала даўнюю мяжу паміж Руссю Кароннай і Літоўскай – будучай Украінай і Беларуссю" [Сагановіч 2007: 126]. Гісторыка-культурныя адрозненні падтрымліваліся дыялектнымі адрозненнямі, якія прывялі да ўтварэння ўкраінскай і беларускай моў.

### Моўная сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім

У рамках Вялікага княства Літоўскага з самых ранніх перыядаў яго існавання вылучаліся ўкраінскія і беларускія дыялекты ў жывым гутарковым маўленні і старабеларускі і стараўкраінскі варыянты ў афіцыйна-пісьмовай мове ВКЛ – "простай мове". Адрозненні паміж гэтымі

варыянтамі абагульнены ў фундаментальным артыкуле Уладзіміра Свяжынскага *Аб статусе беларускай і ўкраінскай моў у часы Вялікага Княства Літоўскага* [Свяжынскі 2003]. Аўтар падсумоўвае ўсе адрозныя беларуска-ўкраінскія моўныя рысы і заключае:

> розныя ўмовы і вынікі фарміравання беларускай і ўкраінскай моў дазваляюць сцвярджаць, што пад вонкава падобнымі графіка-арфаграфічнымі абалонкамі і пад адной з агульных назваў "руская" ў Вялікім Княстве Літоўскім існавалі, у тым ліку і ў якасці афіцыйных, дзве ўсходнеславянскія мовы – беларуская і ўкраінская; знешняй праявай гэтага было існаванне паралельных тэкстаў, напісаных у кожным выпадку адзін – у адпаведнасці з беларускай, а другі – у адпаведнасці з украінскай пісьмовымі традыцыямі [Свяжынскі 2003: 13].

Натуральна, што ў пісьмовыя тэксты пранікалі і рысы больш дробных дыялектных аб'яднанняў. Пра гэта піша, у прыватнасці, даследчык гісторыі ўкраінскай мовы В. Русаніўскі:

> У дзелавую мову пранікалі лакальныя назвы, звязаныя з асаблівасцямі пэўных тэрыторый: *верховина* ʽверхняя плынь ракіʼ, *грунь* ʽпагоракʼ, *дидка* ʽмаці бацькі або маціʼ… [Русанівський 2001 online].

З цягам часу мясцовых элементаў у „простай мове" станавілася ўсё больш. На іх аснове пасля фармаваліся нацыянальныя ўкраінская і беларуская мовы. Сама ж афіцыйная пісьмовая мова Вялікага Княства Літоўскага ўяўляла сабой мяшаную кніжную мову, якая развілася з мясцовага варыянту ўсходнеславянскай мовы, з паступовым пранікненнем мясцовых рыс (як украінскіх, так і беларускіх), і невялікім уплывам (у параўнанні са старарускай) царкоўнаславянскай. У адрозненне ад гутарковай украінскай і беларускай моў, пісьмовая доўгі час была адзіная для ўсіх заходнерускіх земляў, так што для некаторых тэкстаў нельга сказаць, у якім рэгіёне яны напісаны. Пісьмовы інтэрдыялект адрозніваўся ад мясцовых гаворак, аднак варта адзначыць, што і ў пісьмовай мове і, вядома, у вуснай гутарковай мове Вялікага Княства Літоўскага выяўляліся дыялектныя асаблівасці, у першую чаргу раннебеларускія і ранneўкраінскія, і далей з больш дробным дыялектным чляненнем. У слоўніку Памвы Берынды (1627) "руская" мова (г. зн. "проста мова") супрацьпастаўляецца "валынскай" (г. зн. украінскай) і "літоўскай" (г. зн. беларускай): "*пѣтель*: чески, руски, *когутъ*, волынски, *пѣвенъ*, литовски, *петухъ*" [Берында 1627: 104]. „Такім чынам, «проста мова» супрацьпастаўляецца як царкоўнаславянскай мове, так і дыялектнаму ўкраінскаму ці беларускаму маўленню" [Успенский 1994: 68].

**Мова ранніх грамат Паўднёва-Заходняй Русі**

Дыялектныя рысы і асаблівасці гутарковага маўлення ў найбольшай ступені прысутнічаюць у тэкстах дзелавой пісьменнасці, у першую

чаргу ў граматах. Тэрмін "грамата" вельмі шырока ўжываецца ў адносінах да ранніх усходнеславянскіх дакументаў, пачынаючы ад наўгародскіх берасцяных грамат і заканчваючы міжнароднымі дамовамі, "прывілеямі", дарчымі і інш. Гісторыкі і спецыялісты па праву вылучаюць дагаварныя, даравальныя, статутныя, ільготныя, ахоўныя, судовыя і інш. граматы [Довнар 2015: 49].

Самыя раннія дзелавыя дакументы ўсходніх славян – дамовы рускіх князёў (Алега, Ігара, Святаслава) з Візантыяй (907, 911, 945, 971). Гэтыя дамовы першапачаткова былі напісаны на грэцкай мове, а ў перакладзе на старажытнарускую захаваліся ў складзе *Аповесці мінулых гадоў*.

Калі гаворка ідзе пра грамату ў вузкім сэнсе слова – як тып дакумента, то яе структура досыць стандартная: яна ўключае інфармацыю аб тым, хто дае грамату, далей выкладаюцца падзеі, якія сталі прычынай з'яўлення граматы, магчымае апісанне абставінаў яе з'яўлення і пералічэнне сведак.

> Мова грамат, як вядома, лепш за іншыя помнікі адлюстроўвае дыялектнае чляненне ўсходнеславянскай моўнай тэрыторыі, якое перарастае, асабліва ў XIII–XIV стст., у фарміраванне і кансалідацыю большасці характэрных рыс трох усходнеславянскіх моў [Золтан 2014: 26].

Значная частка кнігі Андраша Золтана *Даследаванні па межславянскіх моўных і культурных кантактах* прысвечаная фарміраванню моў дзелавой пісьменнасці Маскоўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага – вялікарускай і заходнерускай – і іх узаемаўплыву. У прыватнасці, аўтар характарызуе заходнерускую мову – афіцыйную пісьмовую мову ВКЛ ("просту мову"): этапы яе фарміравання, традыцыю, лакалізацыю варыянтаў, асаблівасці.

Падсумуем усё сказанае А. Золтанам (са спасылкай на папярэднікаў) аб ўсходнеславянскіх граматах. Моўная сітуацыя ў Кіеўскай Русі калькуе візантыйскую дыглосію літаратурнага і народна-гутарковага варыянтаў грэцкай мовы, а фармуляр старажытнарускіх грамат сфарміраваўся па ўзоры візантыйскіх прыватных актаў [Золтан 2014: 19–22]. Гэты фармуляр пазней выкарыстоўваўся ў Маскоўскай Русі. На думку аўтара, мова Вярхоўнай канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага – "простая мова" – у XIV ст. была ў працэсе станаўлення і складвалася пад уплывам дзелавой мовы Галіцка-Валынскага княства.

Пасля далучэння ў 1349 г. Галіцкай Русі да Польшчы (Валынь тады была захоплена Літвой) усходнеславянская мова становіцца адной з дзвюх (разам з лацінскай) моў польскай каралеўскай канцыляры пры Казіміры III [Золтан 2014: 27]. Матэрыял, прыведзены ў самых ранніх галіцкіх граматах, сведчыць аб тым, што замена руска-царкоўнаславян-

скага фармуляра польска-лацінскім праходзіла тут паступова, праз стадыю суіснавання гэтых дзвюх розных традыцый [Золтан 2014: 31]. Існаванне "рускай" канцылярыі ў Польшчы, якая развілася на паўднёваўкраінскай (галіцкай) дыялектнай аснове, не магло не адбіцца і на мове літоўскіх вялікакняскіх грамат: першапачаткова ў іх пераважаюць элементы менавіта паўднёваўкраінскіх гаворак, а не рысы адной з беларускіх гаворак, як можна было чакаць; рысы беларускай мовы бяруць верх у велікакняскіх граматах толькі ў другой палове XV ст. [Золтан 2014: 32].

На пачатку XV ст. выпрацоўваюцца нормы **афіцыйна-дзелавой мовы Вялікага Княства Літоўскага** – "простай мовы", і гэты перыяд Хрысціян Станг называе перыядам "класічнай формы літоўска-рускай мовы" [Stang 1935: 52; гл. таксама: Журавский 1978: 186–187].

"Проста мова" зусім не супадае з жывым дыялектным маўленнем, з'яўляючыся ў некаторай ступені штучным утварэннем. Саму назву "проста" ні ў якім выпадку нельга разумець літаральна, бо выраз "проста мова" ўзыходзіць да лац. *lingua rustica*, інакш кажучы, гэта кніжны па сваім паходжанні выраз. Адрозненне "простай мовы" ад дыялектнага гутарковага маўлення вельмі выразна ўсведамлялася ў Паўднёва-Заходняй Русі [гл.: Успенский 1994: 66].

А. Золтан прыводзіць пералік рыс "простай мовы" [Золтан 2014: 35–36] і заўважае:

> заходнеруская дзелавая мова ў гэты перыяд, хоць і мела ўжо даволі выразную беларускую дыялектную базу, пазбягала ўключэння ў норму тых беларускіх асаблівасцей (аканне, яканне, дзеканне), якія былі цалкам чужыя ўкраінскай мове [Золтан 2014: 37].

У прыведзеным фрагменце з кнігі А. Золтана гаворка ідзе менавіта пра мову вялікакняскай канцылярыі. Не варта, аднак, забываць, што ў асобных княствах, якія ўвайшлі пасля як у Маскоўскую, так і ў Літоўскую дзяржавы, працягваў выкарыстоўвацца старажытнарускі фармуляр грамат і ў іх паступова ўсё больш выяўляліся мясцовыя дыялектныя рысы. Такога кшталту граматы з беларускімі ці ўкраінскімі дыялектнымі рысамі з'явіліся значна раней, чым сфарміравалася афіцыйная пісьмовая мова вялікакняскай канцылярыі ВКЛ. З ранніх узораў дзелавой пісьменнасці, створаных на ўкраінскіх землях, дзве граматы ўключаны ў Галіцка-Валынскі летапіс: *Грамата князя Уладзіміра на імя брата свого Мсціслава і сваёй жонкі Вольгі*, *Грамата князя Мсціслава на ловы ад жыхароў Бярэсьця* (канчатковая рэдакцыя 1292 г.). Як вядома, Валынская частка гэтага летапісу характарызуецца менш выразным царкоўнаславянскім кампанентам і больш моцным усходнеславянскім.

В. Русаніўскі дэталёва характарызуе мову ўкраінскіх грамат, іх фармуляр і лексіку, як арыгінальную (*дисный* 'дзейсны, актуальны', *добытокъ* 'скот', 'тавар' і інш.), так і запазычаную *броваръ* 'бровар' (ст.-п. *browar*, свн. *brouwer*), *жолдъ* 'плата наёмным ваям' (ст.-ч. *žołd*, ст.п. *żołd*, свн. *solt*) і інш. [Русанівський 2001 online].

Аўтар пералічвае шэраг рысаў, характэрных для грамат, напісаных на тэрыторыі сучаснай Украіны. Найбольш яркія **паказчыкі ўкраінскіх дыялектаў** такія: на месцы этымалагічнага ѣ ўжываецца *е* або *и*; ѣ і *и* змешваюцца; этымалагічнае *е* можа перадавацца літарай *и*; замацоўваецца сярэдняе *и* (*могыла*, не *далы*); гук [ц] пераважна мяккі: *истцю, истця, околицю, о[ть]цю (і отцу), половицю, самодержець, дворець* і інш.; у першай асобе множнага ліку дзеясловаў часта выступае канчатак -*мо* нароўні з традыцыйнымі -*мъ* і -*мы*: *даємо, продаємо, служ[о]уємо, хочемо, познаменуємо*[1]*;* з'яўляюцца сінтэтычныя формы будучага часу: *иматиму, битиму*.

Украінскія дыялектныя рысы ярка прадстаўлены ў малдаўскіх граматах, мова якіх таксама фармавалася на аснове галіцка-валынскай традыцыі, прычым тут паўднёваўкраінскія рысы былі быццам бы закансерваваныя з прычыны тэрытарыяльнай і дзяржаўнай адасобленасці. Раннія малдаўскія граматы прадстаўлены ў зборніках *Українські грамоти: XIV в. і перша половина XV вв.* (1928), *Грамоти XIV ст.* (1974) і інш.; напрыклад, *Кароль польскі Уладзіслаў пазычае ў свайго зяця, малдаўскага ваяводы Пятра, 4000 карбованцаў фряжскага срэбра, 27 жніўня 1388 г.* [*Грамоти XIV ст.* 1974: № 41]; *Пятро, малдаўскі ваевода, пасылае каралю польскаму Уладзіславу 3000 карбованцаў фряжскага срэбра, 10 лютага 1388 г.* [*Грамоти XIV ст.* 1974: № 42]. Больш поўная характарыстыка і актуальная гістарыяграфія пытання прадстаўлена, напрыклад, у працах Сяргея Суляка [Суляк 2016].

Звернемся да ранніх грамат з беларускімі моўнымі рысамі – смаленскіх грамат XIII ст. Па словах Аркадзя Жураўскага, у іх выяўляюцца самыя раннія рысы старабеларускай – "рускай" мовы, адрозныя ад царкоўнаславянскіх [Жураўскі 1993: 118].

> Смаленскія граматы з'яўляюцца выключна важнай крыніцай для лінгвістаў <…>. Лінгвістычнае іх значэнне абумоўлена перш за ўсё тым, што пры выключнай неўнармаванасці правапісу яны шырока адлюстроўваюць мясцовыя дыялектныя рысы, асабліва ў галіне фанетыкі, а таксама і марфалогіі. <…> Даследаванне правапісу смаленскіх грамат ў яго сувязі з дадзенымі гаворак Смаленшчыны і ўсходніх раёнаў Беларусі дазволіць аднавіць многія элементы фанетычнай сістэмы старажытных

[1] Як адзначае Ядвіга Казлоўская-Дода, канчатак -*мо* ў першай асобе множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў сустракаецца і ў беларускіх дыялектах [Kozłowska-Doda 2021: 404].

> смаленскіх гаворак, высветліць іх стаўленне да заходніх гаворак рускай мовы і паўночна-усходніх гаворак Беларусі [*Смоленские грамоты* 1963: 5].

Адметныя рысы “рускай” (= старабеларускай) мовы пералічаныя Уладзімірам Анічэнкам [Анічэнка 1994: 89–90] і пазней падсумаваны У. Свяжынскім:

> Асаблівасці беларускай мовы пачалі адлюстроўвацца практычна ўжо ў першых арыгінальных тэкстах, створаных на беларускай этнічнай тэрыторыі. У гэтых адносінах асабліва цікавымі ўяўляюцца беларускія граматы. Так, ужо ў самай ранняй беларускай грамаце полацкага епіскапа 1300 г. знайшлі адлюстраванне ўсе асноўныя спецыфічныя асаблівасці, якія вылучаюць беларускую мову. У галіне фанетыкі адзначана напісанне *е* на месцы ѣ (*ехати*, *тобе*, *мне*, *у дворе*, *хотелъ*, *терпети*), адпадзенне галоснага *и* на пачатку слова (*шолъ*), пераход *е* ў *о* пасля шыпячых (*бочокъ*, *пришолъ*, *хочомъ*), пераход суфіксальнага *л* у *в* у формах дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку (*оубоявся*), замена *в* на *у* ў становішчы перад зычнымі (*у витьбескъ*, *у чомъ*, *у томъ*, *улюбилъ*, *оузяти*), чаргаванне заднеязычных *г*, *к*, *х* са свісцячымі *з*, *ц*, *с* (*в Різъ)*, чоканне (змяшэнне *ч* і *ц*) – асаблівасць смаленска-полацкіх гаворак (*доконцанъ*, *мецъ*) [Свяжынскі online].

З фанетычных і марфалагічных рысаў, якія беларускія ці ўкраінскія лінгвісты называюць спецыфічнымі толькі для беларускай ці ўкраінскай моў, некаторыя на самай справе мелі больш шырокае распаўсюджанне, як, напрыклад, чаргаванне заднеязычных *г, к, х* са свісцячымі *з, ц, з* у канчатках назоўнікаў [Свяжынскі online] – вынік другой палаталізацыі, або канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду *-ови / -еви* ў давальным склоне адзіночнага ліку (*господареви, жыдові*) або *-ове / -еве* ў назоўным склоне адзіночнага ліку (*попове*), характэрныя для праславянскай скланення назоўнікаў з асновай на *-й* [Русанивський online].

Многія з такіх рысаў агульныя для абедзвюх моў: *в* на пачатку слова паслядоўна чаргуецца з *у / оу /* і наадварот (*вси* – *оуси*); перад галосным *о* з’яўляецца пратэтычны *в* (*Родивон, воны*); [е] пасля шыпячых пераходзіць у [о]; вылучаецца выбухны гук [ґ], які пазначаецца на пісьме як *кг* (*кгрунт, буркгомистр*); у родным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду могуць прымаць канчатак *-у* (*листу, мёду*); назоўнікі мужчынскага роду спалучаюцца з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў форме множнага ліку з канчаткам *-ы* (*-и*), суфіксальнае *л* пераходзіць у *в* у формах дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку – і іншыя. Істотным з’яўляецца і пласт агульнай украінскай і беларускай лексікі, уласнай або запазычанай у XIV–XVI стст. Агульны лексічны фонд беларускай і ўкраінскай моў (гэты агульны фонд – адзін з самых значных сярод усіх славянскіх моў [Супрун 1983: 16–19]) у немалой ступені звязаны з гэтым перыядам.

Такім чынам, многія рысы тэкстаў XIV–XVI стст., якія называюць беларускімі ці ўкраінскімі, характэрныя для абедзвюх моў. Безумоўнымі беларускімі рысамі ў ранніх дакументах з'яўляецца ўжыванне *е* замест ѣ [*ехати, тобе, мне, у дворе собе, хотелъ, терпети (1300); володети (1387); обидети, на острове* (1399)] і – крыху пазней – поўнае зацвярдзенне шыпячых, *ц* і *р* [*жыто, три мъсяцы, писаръ, рыцеръ* (1347)] [Анічэнка 1994: 90].

Больш плённай ўяўляецца дыферэнцыяцыя беларускіх і ўкраінскіх рысаў дзелавых помнікаў, якая грунтуецца на графічных асаблівасцях [Shevelov 1974: 150 і наст.; Анічэнка 1969: 49] і памылках пісцоў [Shevelov 1974: 147 і наст.].

Граматы, створаныя на тэрыторыі Беларусі і Украіны, неаднаразова выдаваліся. Аб'ёмны спіс выданняў грамат Паўднёва-Заходняй Русі прыведзены ў энцыклапедыі *Беларуская мова* [Анічэнка 1994: 91].

Раннія граматы Паўднёва-Заходняй Русі прадстаўлены ў інтэрактыўным Інтэрнэт-выданні на партале http://litopys.org.ua [гл.: *Грамоти XIV ст.* 1974], дзе няма згаданых вышэй ранніх грамат князя Уладзіміра, якія ўвайшлі ў Галіцка-Валынскі летапіс, аднак ёсць некаторыя раннія граматы літоўскіх князёў.

Як вынікае са сказанага вышэй, самымі раннімі граматамі з беларускімі моўнымі рысамі з'яўляюцца смаленскія і полацкія [гл.: *Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв.* 1977–1990, 2015; *Смоленские грамоты XIII–XIV вв.* 1963]. Што тычыцца ўласна грамат Вялікага Княства Літоўскага, то іх публікацыі ўключаюць дакументы не раней сярэдзіны – канца XIV ст., напрыклад [*Грамоты Великих князей Литовских* 1868]. Традыцыйна цікавасць да грамат ВКЛ выяўляецца менавіта з гэтага часу, гэта датычыцца і выданняў па гісторыі дзяржавы і права [гл.: *Гісторыя дзяржавы* 2003; *Дагаворы і граматы* 2000]. Пры гэтым вядомыя агульнадзяржаўныя дакументы Літоўскага княства крыху пазнейшыя за меркаваны час яго заснавання: гаворка ідзе пра граматы Міндоўга – першага князя Літоўскага княства (1230–1263) [гл.: Жлутка 2005; *Fontes historiae Magni Ducatus Lithuaniae* online]. Аўтэнтычнымі прызнаюцца не ўсе гэтыя граматы [гл.: Груша 2015: 25–26; Maleczyńsky 1936: 10–11], арыгіналы многіх з іх страчаны, аднак першая з прызнаных – дарчая грамата *Тэўтонскаму ордэну ў Інфлянтах зямлю Селонію, якая ўключае ў сябе землі Meddene, Pelone, Maleysine, Thovraxe з усім, што да іх належыць* – датуецца 1255 г. [Жлутка 2005: 28–29; *Fontes historiae Magni Ducatus Lithuaniae* online].

## Граматы Вялікага Княства Літоўскага

Першыя граматы Вялікага Княства Літоўскага выклікаюць нямала пытанняў, у прыватнасці, пытанне аб тым, якая мова была прынятая

для дзелавой пісьменнасці на раннім этапе існавання княства. Граматы Міндоўга напісаны на латыні, па меры развіцця ВКЛ і далучэння новых славянскіх земляў ўсё часцей выкарыстоўвалася "проста мова".

Адным з нямногіх кірылічных дакументаў XIII ст. з'яўляецца мірная дамова паміж магістрам Лівонскага ордэна (Конрадам фон Мандэрнам) і Рыжскім гарадскім саветам, з аднаго боку, і Полацкам ды Віцебскам, з другога боку, заключаны літоўскім князем Гердзенем ў 1263 (1264) г. [*Fontes historiae Magni Ducatus Lithuaniae* online].

Перыяд з другой паловы XIII ст. да другой паловы XIV ст. кепска прадстаўлены ў пісьменстве ВКЛ – гісторыкі часта наракаюць на яго малавывучанасць. Пазней з'яўляюцца шматлікія дакументы, пісаныя кірыліцай, як унутры-, так і міждзяржаўныя, гл., напрыклад, *Князь Любарт Гедымінавіч даруе вёскі саборнай царкве Іаана Багаслова ў Луцку, 8 студзеня 1322 р.* [*Грамоти XIV ст*. 1974: № 6]; *Дамова літоўска-рускіх князёў Яўнута, Кейстута, Любарта, Юрыя Нарымонтавіча і Юрыя Карыятавіча з каралём польскім Казімірам і мазавецкімі князямі, чэрвень – верасень 1352 г.* [*Грамоти XIV ст*. 1974: №14] і інш.

На думку навукоўцаў, раннія пісьмовыя дамоўленасці (да сярэдзіны XIV ст.) у Вялікім Княстве Літоўскім былі ініцыяваныя прадстаўнікамі іншых дзяржаў і прыжыліся – асабліва падчас унутрыдзяржаўных дзелавых кантактаў – не адразу. Аляксандар Груша аналізуе дапісьменныя формы заключэння дамоваў: права "даўніна" [Груша 2015: 46–72], "дзернаватыя граматы" [Груша 2015: 28]. Аўтар піша:

> Звернемся да фактаў знаёмства Літвы з пісьмовай дакументацыяй. Нельга не заўважыць, што ўсе яны датычаць рэгулявання дыпламатычных адносін і адносін з вонкавымі інстытутамі. Гэта схіляе нас да думкі, што працэдура пісьмовага замацавання дамоваў першапачаткова навязвалася Літве звонку [Груша 2015: 27].

Падобную думку выказвае А. Золтан:

> Да уніі з Польшчай (маецца на ўвазе Крэўская унія 1385 г. – *А. Р.*) літоўская велікакняская канцылярыя, калі наогул існавала, знаходзілася на стадыі фарміравання; захаваныя дагаварныя граматы з суседнімі дзяржавамі былі складзены ў канцылярыях гэтых дзяржаў: дамова з Польшчай 1352 г. – у "рускай" канцылярыі Казіміра III, перамір'е з Дзмітрыем Данскім 1371 г. – у Маскве [Золтан 2014: 31].

Такая выснова ўяўляецца вельмі праўдападобнай, асабліва цяпер, калі даступны корпус ранніх грамат Вялікага Княства Літоўскага: дамовы з рознамоўнымі карэспандэнтамі – краінамі або дзяржаўнымі дзеячамі – сапраўды напісаны на розных мовах: на "простай мове" (напрыклад, *Прывілей караля польскага Уладзіслава (Ягайлы) князю Літоўскаму Скіргайлу на троцкае, менскае і полацкае княжэнні*, 1387 г.

[Вішнеўскі, Юхо 2003: 35–37]), на латыні (*Акт Крэўскай уніі*, 1385 г. [Вішнеўскі, Юхо 2003: 32–34]), на нямецкай (*Літоўска-інфлянцкая мірная дамова*, 1338 г. [Вішнеўскі, Юхо 2003: 30–32]) і на польскай мовах.

Канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага фарміравалася паступова і стала цалкам функцыянальнай падчас кіравання Вітаўта (1392–1430). У Канцылярыі выкарыстоўваліся і візантыйска-старажытнарускі, і лацінска-польскі фармуляры; на працягу другой паловы XIV–XV стст. расло выкарыстанне “простай мовы”, прычым ўстойлівыя формулы (на якія так багатыя граматы) візантыйска-старажытнарускага фармуляра паступова замяняліся перакладамі адпаведных заходніх выразаў, а ўкраінскія дыялектныя рысы, якія прыйшлі з галіцка-валынскімі ўзорамі, замяняліся беларускімі. Адно з апошніх даследаванняў знешнепалітычных грамат Вялікага Княства Літоўскага з грунтоўным аналізам, падрабязнай бібліяграфіяй і дзвюма надрукаванымі літоўска-варатынскімі граматамі гл. у працы Рамана Бяспалава і Сяргея Палехава [Бяспалаў, Палехаў 2018].

Паралельна з канца XIII ст. павялічвалася колькасць беларускіх і ўкраінскіх дыялектных элементаў у дакументах, напісаных не ў вялікакняскай канцылярыі, а пры дварах княстваў, якія паступова ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Гэтыя элементы ўліваліся ў распаўсюджаныя вялікакняскія ўзоры на “простай мове”, якая развівалася, “натуралізавалася” ў зонах распаўсюджання розных дыялектаў (у тым ліку і ўкраінскіх, галіцка-валынскіх) і, дзякуючы сваёй сінкрэтычнасці, змагла прэтэндаваць на ролю агульналітаратурнай. Раннія граматы дазваляюць назіраць гэтыя рознанакіраваныя працэсы.

## Заключэнне

Граматы – і дзелавое пісьменства ў цэлым – выдатны матэрыял для гісторыі штодзённасці. Пра гэта сведчаць ужо назвы грамат ў згаданых вышэй зборніках [*Грамоти XIV ст.* 1974; *Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв.* 1977–1990, 2015; *Смоленские грамоты XIII–XIV вв.* 1963; *Грамоты Великих князей Литовских* 1868 і інш.] ці ў нядаўна выдадзеных пергаментных дакументах перыяду Вялікага Княства Літоўскага з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (1391–1566): *Прадажны ліст пана Ерша Цярэшкавіча пану Пятру Манцігердавічу і яго сыну Яну на маёнтак Доўгія Шыі Луцкага павета Валынскай зямлі, 1458 г.*; *Фундушавы ліст пана Аношкі Вітонізскага і яго сыноў Андрэя і Фёдара Лаўрышаўскаму манастыру на дзве валокі сенажацей у Шчорсаўскай пушчы за ракой Нёман і палову луга Дрэваскіпішча, 1521 г.* і інш. [*Для лепшое твердости* 2018: № 3; № 14 фальсіфікат].

Паўднёва-Заходняя Русь, пры ўсёй разнастайнасці, – адзіны геаграфічны і гісторыка-культурны рэгіён. Нават самы павярхоўны агляд

грамат дадзенага рэгіёну паказвае неабходнасць іх больш глыбокага вывучэння менавіта як сукупнасці дакументаў. Такое вывучэнне прадуктыўна для вырашэння шырокага кола задач: комплексная характарыстыка шматкампанентнай моўнай сітуацыі; атрыбуцыя тэкстаў XIV–XVII стст.; этнасацыяльнае апісанне розных народаў і розных слаёў насельніцтва і інш.

## Бібліяграфія


Anìčènka Uladzìmìr. 1994. *Belaruskìâ gramaty* (89–90). In: *Belaruskaâ mova. Èncyklapedyâ*. Mìnsk: Belaruskaâ Èncyklapedyâ*:* [Анічэнка Уладзімір. 1994. *Беларускія* граматы (89–90). In: *Беларуская мова. Энцыклапедыя*. Мінск: *Беларуская Энцыклапедыя*].

Bâspalaŭ Raman, Palehaŭ Sârgej. 2018. *Gìstoryâ lìtoŭska-navasìl'skìh dagavoraŭ 1427–1491 gadoŭ ì lìtoŭska-varatynskìâ gramaty 1483 ì 1488 gadoŭ*. "Belaruskì gìstaryčny aglâd" t. 25: 173–228 [Бяспалаў Раман, Палехаў Сяргей. 2018. *Гісторыя літоўска-навасільскіх дагавораў 1427–1491 гадоў і літоўска-варатынскія граматы 1483 і 1488 гадоў*. "Беларускі гістарычны агляд" т. 25: 173–22].

Berynda Pamva. 1627. *Leksikon slavenorosskij al'bo imën tolkovanie*. Kiev [Берында Памва. 1627. *Лексикон славенороссиий альбо имён толкование*. Киев].

Čigrinov Petr. 2000. *Očerki istorii Belarusi.* Minsk: Polymâ [Чигринов Петр. 2000. *Очерки истории Беларуси.* Минск: Полымя].

*„Dlâ lepšoe tverdosti…»: pergamentnyâ dakumenty peryâdu Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga z fondaŭ Nacyânal'naga gìstaryčnaga arhìva Belarusì (1391–1566 gg.).* 2018. Mìnsk: Belarus' [*"Для лепшое твердости…": пергаментныя дакументы перыяду Вялікага Княства Літоўскага з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (1391–1566 гг.).* 2018. Мінск: Беларусь].

Dovnar Taisiâ. 2015. *Ètapy i osobennosti v razvitii zakonodatel'stva VKL* (49–73)*. In:* Red. V. Kartašov *Aktual'nye problemy teorii i istorii pravovoї sistemy obŝestva* vyp. 14. Âroslavl' (49–73) [Довнар Таисия. 2015. *Этапы и особенности в развитии законодательства ВКЛ* . In: Ред. В. Карташов *Актуальные проблемы теории и истории правовой системы общества* вып. 14. Ярославль].

Ermalovìč Mìkola. 1989. *Pa slâdah adnago mìfa*. Mensk: Navuka ì tèhnìka [Ермаловіч Мікола. 1989. *Па слядах аднаго міфа*. Менск: Навука і тэхніка].

Ermalovìč Mìkola. 2003. *Belaruskaâ dzâržava Vâlìkae Knâstva Lìtoŭskae*. Mensk: Navuka ì tèhnìka [Ермаловіч Мікола. 2003. *Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае*. Менск: Навука і тэхніка].

*Fontes historiae Magni Ducatus Lithuaniae – Istočniki po istorii Velikogo knâžestva Litovskogo i vošedših v ego sostav zemel' s drevnejših vremen do XV v.* [online] http://starbel.by [доступ: 15.11.2021] [*Fontes historiae Magni Ducatus Lithuaniae* – Источники по истории Великого княжества Литовского и вошедших в его состав земель с древнейших времен до XV в.].

*Galicko-Volynskaâ letopis'* [online] http://lib.pushkinskijdom.ru/Default.aspx?tabid=4961 [доступ: 15.11.2021] [*Галицко-Волынская летопись*].

*Gramoti XIV st.* 1974. Kiïv: Naukova dumka [online] http://litopys.org.ua/gramxiv/grb.htm [доступ: 15.11.2021] [*Грамоти XIV ст.* 1974. Київ: Наукова думка].

*Gramoty Velikih knâzej Litovskih s 1390 po 1569 god 1868. Kiev. Red. V. Antonovič, K. Kozlovskij.* Kiïv: Naukova dumka [online] http://elib.shpl.ru/ru/nodes/14531-

gramoty-velikih-knyazey-litovskih-s-1390-po-1569-god-kiev-1868 [доступ: 15.11.2021]; [online] http://litopys.org.ua/gramvkl/gra.htm [доступ: 15.11.2021]; [*Грамоты Великих князей Литовских с 1390 по 1569 год* 1868. Киев: Наукова думка. Ред. В. Антонович, К. Козловский] .

Gruša Aleksandr. 2015. *Dokumental'naâ pis'mennost' Velikogo Knâžestva Litovskogo konca XIV – pervoj treti XVI vv.* Minsk: Belaruskaâ navuka [Груша Александр. 2015. *Документальная письменность Великого Княжества Литовского конца XIV – первой трети XVI вв*. Минск: Беларуская навука].

Kozłowska-Doda Jadwiga. 2021. *Tożsamość, losy i język najstarszych mieszkańców okolic Dociszek na Białorusi* (na podstawie badań terenowych z przełomu XX i XXI w.). Lublin: Wydawnictwo Werset.

Kraŭcèvìč Ales'. 2013. *Gìstoryâ Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga*. Garodnâ-Uroclaŭ: Garadzenskaâ bìblìâtèka [Краўцэвіч Алесь. 2013. *Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага.* Гародня-Уроцлаў: Гарадзенская бібліятэка].

Maleczyńsky Karol. 1936. *W sprawie autentyczności documentów Mendoga z lat 1253–1261*. "Ateneum Wileńskie". Czasopismo naukowe poświęcone badaniom przeszłości ziem W. X. Litewskiego, r. 11: 1–60.

Pašuto Vladimir. 1959. *Obrazovanie Litovskogo gosudarstva*. Moskva: AN SSSR [Пашуто Владимир. 1959. *Образование Литовского государства.* Москва: АН СССР].

*Polockie gramoty XIII – načala XVI vv.* t. 2. 2015. Moskva: AN SSSR. Red. A. Horoškevič [*Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв.* т. 2. 2015. Москва: АН СССР. Ред. А. Хорошкевич].

*Polockie gramoty XIII – načala XVI vv.* vyp. I – V. 1977–1990. Moskva: AN SSSR. Sost. A. Horoškevič [*Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв*. вып. I – V. 1977–1990. Москва: АН СССР. Сост. А. Хорошкевич].

*Povest' vremennyh let* [online] http://lib2.pushkinskijdom.ru/tabid-4869 [доступ: 15.11.2021] [*Повесть временных лет*].

Rusanìvs'kij Vìtalìj. 2001. *Lìteraturna mova pìslâmongol's'koï dobi (druga polovina XIII – XVI st.)* [online] http://litopys.org.ua/rusaniv/ru04.htm [доступ: 15.11.2021] [Русанівський Віталій. 2001. *Літературна мова післямонгольської доби (друга половина XIII – XVI ст.)*].

Šabul'do Feliks. 1987. *Zemli Ûgo-Zapadnoj Rusi v sostave Velikogo knâžestva Litovskogo*. Kiev: Naukova dumka [Шабульдо Феликс. 1987. *Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского.* Киев: Наукова думка].

Saganovìč Genadz'. 2007. Hmâl'nìččyna ì zemlì Belarusì. "Studia Bialorutenistyczne" № 1: 119–126 [Сагановіч Генадзь. 2007. *Хмяльніччына і землі Беларусі.* "Studia Białorutenistyczne" № 1: 119–126].

Shevelov Georg. 1974. *Byelorussian versus Ukrainian: Delimitation of Texts before A. D. 1569*. "The Journal of Belarusian Studies" vol. III, № 2: 145–156.

*Smolenskie gramoty XIII–XIV vv.* 1963. Moskva: AN SSSR. Red. R. Avanesov [*Смоленские грамоты XIII–XIV вв.* 1963. Москва: АН СССР. Ред. Р. Аванесов].

Stang Christian. 1935. *Die westrussische Kanzleisprache des Großfürstentums Litauen.* Oslo: I Kommisjon hos Jacob Dybwad.

Sulâk Sergej. 2016. *O âzyke slavâno-moldavskih gramot XIV–XVII vv. (k istoriografii voprosa)*. "Vestnik Tomskogo gosudarstvennogo universiteta. Filologiâ" № 4 (42): 73–96 [online] https://cyberleninka.ru/article/v/o-yazyke-slavyano-moldavskih-gramot-xiv-xvii-vv-k-istoriografii-voprosa [доступ: 15.11.2021] [Суляк Сергей. 2016. *О языке славяно-молдавских грамот XIV–XVII вв. (к историографии*

*вопроса)*. "Вестник Томского государственного университета. Филология" № 4 (42): 73–96].

Suprun Adam. 1963. *Leksičeskaâ tipologiâ slavânskih âzykov.* Minsk: BGU [Супрун Адам. 1963. *Лексическая типология славянских языков.* Минск: БГУ.]

Svâžynskì Uladzìmìr. 2001. *Prablema ìdèntyfikacyì aficyjnaj movy Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga*. "METRICIANA: *Dasledavannì ì matèryâly Metrykì Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga*, t. I, ATHENAEUM: Commentarii Historiae et Culturae 1 (3) [online] http://kamunikat.fontel.net/www/knizki/historia/metriciana/ 01/04.htm [доступ: 15.11.2021] [Свяжынскі Уладзімір. 2001. *Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага*. "METRICIANA: *Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага*, т. I ATHENAEUM: Commentarii Historiae et Culturae 1 (3)].

Svâžynskì Uladzìmìr. 2003. *Ab statuse belaruskaj ì ŭkraìnskaj moй u časy Vâlìkaga knâstva Lìtoŭskaga* "METRICIANA: *Dasledavannì ì matèryâly Metrykì Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga*, t. II ATHENAEUM: Commentarii Historiae et Culturae) VIII: 132–163 [Свяжынскі Уладзімір. 2003. *Аб статусе беларускай і ўкраінскай моў у часы Вялікага княства Літоўскага*. "METRICIANA: *Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага*, т. II ATHENAEUM: Commentarii Historiae et Culturae) VIII: 132–163].

*Ûgo-Zapadnye russkie knâžestva. In: Akademik. Slovari i ènciklopedii na Akademike* [online] https://dic.academic.ru/dic.nsf/ruwiki/1215223 [доступ: 15.11.2021] [*Юго-Западные русские княжества*. In: *Академик. Словари и энциклопедии на Академике*].

Ûho Âzèp ì ìnš. 2000. *Dagavory ì gramaty âk krynìcy belaruskaga feadal'naga prava*. Mìnsk: BDU [Юхо Язэп і інш. 2000. *Дагаворы і граматы як крыніцы беларускага феадальнага права*. Мінск: БДУ].

*Ukraïns'kì gramoti: XIV v. ì perša polovina XV vv.* t. 1. 1928. Kiïv: Z drukarnì Ukraïns'koï akademìï nauk. Red. V. Rozov [*Українські грамоти: XIV в. і перша половина XV вв*. т. 1. 1928. Київ: З друкарні *Української* академії наук. Ред. В. Розов].

Uspenskij Boris. 1994. *Kratkij očerk istorii russkogo literaturnogo âzyka (XI–XIX vv.)*. Moskva: Gnozis [Успенский Борис. 1994. *Краткий очерк истории русского литературного языка (XI–XIX вв.)*. Москва: Гнозис].

Vìšneŭskì Alâksej, Ûho Âzèp 2003. *Gìstoryâ dzâržavy ì prava Belarusì ŭ dakumentah ì matèryâlah*. Mìnsk: Belarus' [Вішнеўскі Аляксей, Юхо Язэп 2003. *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах*. Мінск: Беларусь].

Zoltan Andraš. 2014. *Process formirovaniâ administrativnogo âzyka Velikogo knâžestva Litovskogo*. In: Zoltan Andraš. *Interslavica. Issledovaniâ po mežslavânskim âzykovym i kul'turnym kontaktam*. Moskva: Indrik [Золтан Андраш. 2014. *Процесс формирования административного языка Великого княжества Литовского*. In: Золтан Андраш. *Interslavica. Исследования по межславянским языковым и культурным контактам.* Москва: Индрик].

Žlutka Ales'. 2005. *Mìndaŭ, karol' Lìtovìì, u dakumentah ì svedčannâh*. Minsk: Tèhnalogìâ [Жлутка Алесь. 2005. *Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях*. Мінск: Тэхналогія].

Žuraŭskì Arkadz'. 1993. *Belaruskaâ mova*. In: *Èncyklapedyâ gìstoryì Belarusì* t. 1: 118–119. Mìnsk: Belarusì t. 1: 118–119. Mìnsk: Belaruskaâ èncyklapedyâ [Жураўскі Аркадзь. 1993. *Беларуская мова*. In: *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі* т. 1: 118–119. Мінск: Беларуская энцыклапедыя].

Žuravskiĭ Arkadij. 1978. *Delovaâ pis'mennost' v sisteme starobelorusskogo literaturnogo âzyka*. "Vostočnoslavânskoe i obŝee âzykoznanie": 185–191. Moskva [Журавский Аркадий. 1978. *Деловая письменность в системе старобелорусского литературного языка*. "Восточнославянское и общее языкознание": 185–191. Москва].

**ABSTRACT**: The article is devoted to a general description of the early East Slavic documents created in the Belarusian and Ukrainian territories. Such a description requires at least a brief historical and geographical commentary. The article also contains the earliest East Slavic agreements, including those where Lithuanian princes are mentioned. The first documents of the Grand Duchy of Lithuania, their structure and language are considered. The article analyzes the transition from the Greek-Byzantine model of building business documents to the Polish-Latin one. Particular attention is paid to documents written in "prosta mova", as Belarusian and Ukrainian dialectal features appeared there very early.

***Keywords***: agreement, template, "prosta mova", Grand Duchy of Lithuania, Rzeczpospolita.

**STRESZCZENIE**: Artykuł poświęcony jest ogólnemu opisowi wczesnych listów wschodnio-słowiańskich, powstałych na ziemiach białoruskich i ukraińskich. Taki opis zakłada krótki komentarz historyczny i geograficzny. W artykule omówiono najwcześniejsze dokumenty wschodniosłowiańskie, w tym te, w których wymienia się książąt litewskich. Analizowane są pierwsze umowy Wielkiego Księstwa Litewskiego, ich struktura i język. Artykuł analizuje przejście od grecko-bizantyjskich modeli budowania dokumentów biznesowych do polsko-łacińskich. Szczególną uwagę zwraca się na listy pisane „mową prostą": bardzo wcześnie natrafiają na cechy gwar białoruskich i ukraińskich.

***Słowa kluczowe***: umowa, formularz, "mowa prosta ", Wielkie Księstwo Litewskie, Rzeczpospolita.

**РЭЗЮМЭ**: Артыкул прысвечаны агульнай характарыстыцы ранніх усходнеславянскіх грамат, створаных на беларускіх і ўкраінскіх тэрыторыях. Такая характарыстыка прадугледжвае хоць бы вельмі кароткі гісторыка-геаграфічны каментар. У артыкуле прыводзяцца таксама самыя раннія ўсходнеславянскія дамовы, у тым ліку і са згадкамі пра літоўскіх князёў. Разглядаюцца першыя граматы Вялікага Княства Літоўскага, іх структура і мова. Прааналізаваны пераход ад грэцка-візантыйскіх узораў пабудовы дзелавых дакументаў да польска-лацінскіх. Асаблівая ўвага нададзена граматам на "простай мове": у іх вылучаюцца беларускія і ўкраінскія дыялектныя рысы.

***Ключавыя словы:*** грамата, фармуляр, "проста" мова, Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая.

*Data przesłania artykułu: 1.12.2021*
*Data akceptacji artykułu: 12.12.2021*

## ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE

**Alena Rudenka (Алена Рудэнка)** – Białoruś, badacz niezależny, dr. hab., prof.; specjalność naukowa: językoznawstwo teoretyczne i słowiańskie; zainteresowania naukowe: etnolingwistyka, semantyka językoznawcza, językoznawstwo kognitywne i komunikacyjne.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Rudenka Alena, Xiang, Fang. 2020. *Names of mental illness in different languages* (120–125). In: *The Soul in the Axiosphere from an Intercultural Perspective*. Volume One. Edited by Joanna Jurewicz, Ewa Masłowska and Dorota Pazio-Wlazłowska. Part II: *The linguistic conceptualisation of the soul*. Chapter 7. Cambridge: Cambridge Scholars Publishing.
2. Rudenka Alena. 2020. *Proper Names in Ancient Smolenska Agreements with Riga* (210–221). In: *Onomastikas pētījumi II / Onomastic Investigations II. Starptautiskās zinātniskās konferences "Onomastikas pētījumi" (Rīga, 2018. gada 10.–12. maijs) rakstu krājums / Proceedings of the International Scientific Conference "Onomastic Investigations" (Rīga, May 10–12, 2018)*. Editors: L. Balode, C. Zschieschang. Rīga: LU Latviešu valodas institūts.
3. Руденко Елена. *Ранние грамоты Юго-Западной Руси* (205–218). In: *Diachronie – Ethnos – Tradition: Studien zur slawischen Sprachgeschichte*. *Festgabe für Anna Kretschmer*. Eds. Jasmina Grković-Major, Natalia B. Korina, Stefan Michael Newerkla, Fedor B. Poljakov, Svetlana M. Tolstaja. Brno: TRIBUN EU.
4. Rudenka Alena. 2020. *Polonisms among Belarusian names of cognitive processes*. "Studia Białorutenistyczne"14: 249–268.
5. Руденко Елена. 2021. *ДЕМОКРАТИЯ по материалам беларусских СМИ (середина 2020 – начало 2021 гг.)*. "Ethnolinguistics. Problems of Language and Culture" Vol 33: 39–48 [online] https://journals.umcs.pl/et/article/view/12261 [доступ: 15.11.2021].

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.151–164

**Anna Żebrowska**
Uniwersytet im. Adama Mickiewicza, Poznań /
Adam Mickiewicz University in Poznań
ORCID: https://orcid.org/0000-0003-2551-3753
e-mail: zanna@amu.edu.pl

# *Język polski na Komarowszczyźnie: przeszłość, teraźniejszość, przyszłość (wnioski z badań terenowych w rejonie miadziolskim obwodu mińskiego na Białorusi)*

*Polish language in the Komarow region: past, present, future (conclusions from field research in the Myadzyel district of the Minsk region, Belarus)*
*Польская мова на Камароўшчызне*[1]*: мінулае, сучаснасць, будучыня (вынікі палявых даследаванняў у Мядзельскім раёне Мінскай вобласці ў Беларусі)*

Język polski na ziemiach wschodnich od dawna był przedmiotem zainteresowania wielu badaczy zarówno w Polsce, jak i poza jej granicami. Jeszcze przed II wojną światową ukazały się prace o gwarach polskich mieszkańców miasteczek i wsi na Litwie i Białorusi. Wśród nich *Słownik gwar polskich* Jana Karłowicza [Karłowicz 1900–1911] oraz *Podręcznik czystej polszczyzny dla Litwinów i Petersburszczan* [Karłowicz 1984]. Ostatnia pozycja została przygotowana do druku przez Elżbietę Smułkową i opublikowana w 1984 roku w czasopiśmie "Studia nad polszczyzną kresową". Przed wojną ukazały się również prace Kazimierza Nitscha [Nitsch 1925] i Heleny Szwejkowskiej [Szwejkowska 1929/1996, 1929a/1996a, 1934/1996b], których dociekania naukowe były poświęcone tejże problematyce. Badaniami nad językiem polskim na Wileńszczyźnie zajmowała się również Halina Turska. W ich rezultacie powstała obszerna praca pt. *O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie* zachowana w dużych fragmentach i ponownie opublikowana w 1982 roku [Turska 1939/1982] oraz *Język polski na Wileńszczyźnie* [Turska 1930/1983].

[1] Zapis "Камароўшчызна" z formantem *-izma* (zamiast białoruskiej formy "Камароўшчына" został zachowany zgodnie z wariantem funkcjonującym wśród mieszkańców badanego obszaru.

*SBNP – Sloŭnìk belaruskìh narodnyh paraŭnannâŭ*. 2011. (Ukl.) Taccâna Valodìna ì Lìâ Salavej. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Слоўнік беларускіх народных параўнанняў*. (Укл.) Таццяна Валодіна і Лія Салавей. Мінск: Беларуская навука].

*Sloŭnìk leksìčnyh formaŭ (sìnonìmy, amonìmy, antonìmy, paronìmy, amografy, amafony).* 2004. (Ukl.) Âŭgen Hvalej, Uladzìmìr Šarpìla. Mìnsk: Paradoks [*Слоўнік лексічных формаў (сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны).* 2004. (Укл.) Яўген Хвалей, Уладзімір Шарпіла. Мінск: Парадокс].

Švedaŭ Sârgej. 2004. *Sloŭnìk sìnonìmaŭ belaruskaj movy*. Mìnsk: Sučasnae slova [Шведаў Сяргей. 2004. *Слоўнік сінонімаў беларускай мовы*. Мінск: Сучаснае слова].

*TSBLM 1999 – Tlumačal'ny sloŭnìk belaruskaj lìtaraturnaj movy*. 1999. (Rèd.) Sudnìk Mìhaìl, Kryŭko Mìkola. Mìnsk: BelÈn [*Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы*. 1999. (Рэд.) Суднік Міхаіл, Крыўко Мікола. Мінск: БелЭн].

*TSBLM 2016 – Tlumačal'ny sloŭnìk belaruskaj lìtaraturnaj movy*. 2016. (Rèd.) Kapyloŭ Ìgar. Mìnsk: BelÈn ìmâ P. Broŭkì [*Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы*. 2016. (Рэд.) Капылоў Ігар. Мінск: БелЭн імя П. Броўкі]

*TSBM 1977–1984 – Tlumačal'ny sloŭnìk belaruskaj movy*. 1977–1984. (Rèd.) Krapìva Kandrat. T. 1–5. Mìnsk: BelÈn [*Тлумачальны слоўнік беларускай мовы*. 1977–1984. (Рэд.) Крапіва Кандрат. Т. 1–5. Мінск: БелЭн].

*Vysloŭì*. 1979. (Sklad., sìstèmatyzacyâ, ustupny artykul ì kamentary) Maìsej Grynblat. Seryâ „Belaruskaâ narodnaâ tvorčasc'". Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Выслоўі*. 1979. (Склад., сістэматызацыя, уступны артыкул і каментары) Маісей Грынблат. Серыя „Беларуская народная творчасць". Мінск: Навука і тэхніка].

**Rozdziały w monografiach:**

Bartmiński Jerzy. 1988. *Definicja kognitywna jako narzędzie opisu konotacji słowa* (169–185). W: *Konotacja*. Red. J. Bartmiński. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej.

Bartmiński Jerzy. 1996. *O „Słowniku stereotypów i symboli ludowych"* (9–34). W: *Słownik stereotypów i symboli ludowych*. T. 1: *Kosmos*. Red. Jerzy Bartmiński. Lublin: Wydawnictwo UMCS.

Bartmiński Jerzy. 2015. *Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów – co zawiera, na jakich zasadach się opiera, dla kogo jest przeznaczony?* (7–13). W: *Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów*. 2015. T. 1: *Dom*. (Red.) Jerzy Bartmiński, Iwona Bielińska-Gardziel, Beata Żywicka. Lublin: Wydawnictwo UMCS.

**Artykuły w czasopismach**

Valodzìna Taccâna. 2021. *Belaruskìâ ì pol'skìâ zamovy: ad paralelâŭ da agul'naj sûžètnamatyŭnaj prastory* [Валодзіна Таццяна. 2021. *Беларускія і польскія замовы: ад паралеляў да агульнай сюжэтна-матыўнай прасторы*]. „Studia Białorutenistyczne" 15: 135–153.

**Publikacji internetowe**

*Skarnik*. 2013. [online] https://www.skarnik.by/ [dostęp: 29.11.2021].

*Novogodnie tosty: «Kab vašaâ hata ne vedala nì doktara, nì advakata!!»* 2012 [online] https://www.kp.ru/daily/26009/2934144/ [dostęp: 29.11.2021] [*Новогодние тосты: «Каб вашая хата не ведала ні доктара, ні адвоката!!»*].

*Prakapovìč Natallâ. 2015. Mova – maral'ny ì duhoŭny tvar nacyì* [online] www.eparhia992.by/item/988-mova-maralny-i-dukho-ny-tvar-natsyi [dostęp: 29.11.2021] [Пракаповіч Наталля. 20.03.2015. *Мова – маральны і духоўны твар нацыі*].

*Zdaroŭe – galoŭnaâ ŭznagaroda*. 01.09.2014. "Unìversìtèt". Nr 12 (2115) [online] http://ps.bsu.by/wp-content/uploads/2017/01/2014_12.pdf [dostęp: 01.12.2021] [*Здароўе – галоўная ўзнагарода*. 01.09.2014. "Універсітэт". № 12 (2115)]

Žaltok Ìryna. 2014. *Kakie cennosti vybiraût podrostki*? „Astraveckaâ praŭda" [online] http://www.ostrovets.by/news/istoriya/news/vlast/news/so cialnaya-politika/news6326.html (dostęp 1.12.2021) [Жалток Ірына. 23.04.2014. *Какие ценности выбирают подростки*? „Астравецкая праўда"].

**ABSTRACT:** The article presents a fragment of the reconstruction of the image of HEALTH in the modern Belarusian language. It is planned to identify the maximum complex of meanings of the concept of HEALTH using the cognitive definition developed by Jerzy Bartminski. The integral cognitive definition arises on the basis of the analysis of three types of data: systemic (lexicographic), empirical (obtained by survey) and textual. This publication contains the results of the analysis of the system data. The author uses obtainable lexicographic works from the field of Belarusian linguistics. Explanatory dictionaries in the meaning of HEALTH primarily emphasize the physical state of the body, the mental state appears in examples, it can be deduced from them but it is absent in the definition. In lexicographic publications, other nuances of the meaning of the word also appear, for example, 'healthy' as 'big, strong, sturdy'. However, etymological studies unambiguously show that the adjective 'healthy' originally meant 'tree', 'good, healthy as a tree'. Etymologists convince us that initially the word characterized the tree as 'strong, hardy, not sick, healthy', later it expanded its meaning to humans and animals. As follows from the proverbs and beliefs of Belarusians, health is a gift from God – it can be both good and weak, only in modern lexicographic data it is possible to find examples of human actions aimed at securing a good state of health, e. g. physical culture, a sober lifestyle, etc.

**KEYWORDS**: health, linguistic image of the world, system data, cognitive definition, contemporary Belarusian language.

**STRESZCZENIE:** Artykuł jest częścią rekonstrukcji językowego obrazu ZDROWIA we współczesnym języku białoruskim. Odtworzenia pojęcia autorka zamierza dokonać za pomocą definicji kognitywnej, opracowanej przez Jerzego Bartmińskiego. Holistyczna definicja kognitywna jest budowana w oparciu o trzy typy danych: systemowych (leksykograficznych), ankietowych i tekstowych. W niniejszej publikacji dokonano analizy danych systemowych. W tym celu wykorzystano dostępne prace leksykograficzne z zakresu językoznawstwa białoruskiego. Słowniki objaśniające definiują ZDROWIE głównie poprzez komponent fizyczny organizmu, komponent psychiczny pojawia się na marginesie. Dane leksykograficzne dostarczają także innych znaczeń, np. *zdrowy* 'duży, silny, krzepki'. Badania etymologiczne przynoszą jednak dane, które jednoznacznie przekonują, że to *zdrowy* pierwotnie oznaczało 'drzewo' 'dobry, zdrowy niby drzewo'. Etymologowie twierdzą, że pierwotnie wyraz charakteryzował drzewo 'pełen sił, krzepki, niechory, zdrowy', dopiero później rozszerzył znaczenie na ludzi i zwierzęta. Jak wynika z przysłów i wierzeń Białorusinów zdrowie jest darem od Boga – zarówno dobry stan, jak słaby (*добрае здароўе, слабое здароўе*), a dane współczesne przynoszą przykłady działań ludzkich w celu utrzymania dobrego stanu zdrowia, np. uprawiać sport, unikać alkoholu, palenia itd.

**SŁOWA KLUCZOWE:** zdrowie, językowy obraz świat, dane systemowe, definicja kognitywna, współczesny język białoruski.

**РЭЗЮМЭ:** Артыкул з'яўляецца фрагментам рэканструкцыі моўнай карціны ЗДАРОЎЯ ў сучаснай беларускай мове. Пры дапамозе кагнітыўнай дэфініцыі, якую распрацаваў Ежы Бартмінскі, плануецца выявіць максімальны комплекс значэнняў паняцця ЗДАРОЎЕ. Інтэгральная кагнітыўная дэфініцыя паўстае на базе аналізу трох тыпаў даных: сістэмных (лексікаграфічных), эмпірычных (атрыманых шляхам апытання) і тэкставых. У дадзенай публікацыі змешчаны вынікі аналізу сістэмных даных. Аўтарка выкарыстоўвае даступныя лексікаграфічныя працы з галіны беларускага мовазнаўства. Тлумачальныя слоўнікі ў значэнні ЗДАРОЎЯ ў першую чаргу падкрэсліваюць фізічны стан арганізма, псіхічны стан выступае ў прыкладах, яго можна з іх вывесці, але ён адсутнічае ў дэфініцыі. У лексікаграфічных выданнях выступаюць таксама іншыя адценні значэння слова, напр. *здаровы* 'вялікі, сільны, дужы'. Аднак этымалагічныя даследаванні адназначна пераконваюць, што прыметнік *здаровы* першасна абазначаў 'дрэва', 'добры, здаровы як дрэва'. Этымолагі лічаць, што першапачаткова слова характарызавала *дрэва* 'сільны, моцны, не хворы, здаровы', пазней – пашырыла значэнне на чалавека і жывёл. Як вынікае з прыказак і вераванняў беларусаў, здароўе – гэта дар ад Бога – можа быць і *добрае*, і *слабое*, толькі ў сучасных лексікаграфічных даных можна знайсці прыклады дзеянняў чалавека накіраваных на прафілактыку добрага стану здароўя, напр. фізічная культура, цвярозы лад жыцця і г. д.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** здароўе, моўная карціна свету, сістэмныя даныя, кагнітыўная дэфініцыя, сучасная беларуская мова.

*Data przesłania artykułu: 1.12.2021*
*Data akceptacji artykułu: 14.12.2021*

## ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE

**Jadwiga Kozłowska-Doda** – Polska, Uniwersytet Marii Curie-Skłodowskiej, Katedra Językoznawstwa Słowiańskiego; dr hab.; specjalność naukowa: językoznawstwo białoruskie i polskie; zainteresowanie naukowe: język, kultura, losy historyczne i tożsamość polskiej mniejszości narodowej na Białorusi; polsko-białoruskie związki językowe i kulturowe; językowy obraz świata.

**Adres**: Katedra Językoznawstwa Słowiańskiego, Instytut Neofilologii, Wydział Filologiczny, Uniwersytet Marii Curie-Skłodowskiej, Plac Marii Curie-Skłodowskiej 4A, 20-031 Lublin, Polska

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Kozłowska-Doda Jadwiga. 2021. *Tożsamość, losy i język najstarszych mieszkańców okolic Dociszek na Białorusi (na podstawie badań terenowych z przełomu XX i XXI w.)*. Lublin: Wydawnictwo Werset.
2. Козловская-Дода Ядвига, 2020, *Исследование лексики польско-восточнославянского культурно-языкового пограничья: методологические замечания* (129–142). В: *Slovanské dialekty v jazykovém kontaktu. Nářeční lexikum v pomezních oblastech v minulosti a současnosti*. Mirosław Jankowiak, Michal Vašíček (red.). Slovanský ústav AV ČR. Praha.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.191–205

**Уладзіслаў Іваноў / Uladzislaŭ Ivanoŭ**

Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт (Вільня) /
European Humanities University (Vilnius)
ORCID: https://orcid.org/0000-0003-1493-0017
e-mail: uladzislau.ivanou@ehu.lt

# Стварэньне слоўніка нецэнзурнай лексыкі і ейных адпаведнікаў у беларускай мове: паміж лексыкаграфіяй і сацыялінгвістыкай[1]

*Creating a dictionary of obscene language and its equivalents in the Belarusian language: between lexicography and sociolinguistics*

*Tworzenie słownika języka obscenicznego i jego odpowiedników w języku białoruskim: między leksykografią a socjolingwistyką*

## Уступ

Слоўнікатворная праца – гэта чаканы і лягічны вынік лексыкаграфічнай працы. Распрацаванасьць спэцыялізаванай і агульнай лексыкі звычайна афармляецца ў слоўніку, слоўніках. Гэтай тэндэнцыі можа перашкодзіць хіба адсутнасьць дзяржаўнай падтрымкі, дзяржавы наагул ці незацікаўленасьць навукоўцаў і грамадзтва ў мове, што выклікана пераважна ейным маргінальным статусам. Таксама да адсутнасьці слоўніка могуць быць спрычыненыя такія экстралінгвістычныя чыньнікі, як маральныя ўстаноўкі, эстэтыка, палітыка. Адсутнасьць пэўных спэцыялізаваных слоўнікаў не азначае адсутнасьці спэцыялізаванай ці спэцыфічнай лексыкі. Наадварот, лексыка можа існаваць, актыўна выкарыстоўвацца, разьвівацца і пры гэтым заставацца не пашпартызаванай, то бок не ахопленай слоўнікамі. Так часта здараецца з абсцэннай або нецэнзурнай лексыкай – слоўнікі нецэнзурнай лексыкі зьяўляюцца радзей, з большымі праблемамі, часта выкліканымі маральнымі ўстаноўкамі грамадзтва, мовазнаўцаў. Тым ня менш, слоўнікатворная праца ахоплівае паступова ўсе пласты лексыкі. Здаўна паўстала патрэба ў стварэньні слоўнікаў беларускай ненарматыўнай, нецэнзурнай, табуяванай ці яшчэ абсцэннай мовы, бо пласт нецэнзурнай лексыкі

[1] Tekst artykułu jest drukowany w redakcji autorskiej [*red.*].

актыўна фіксуецца мовазнаўцамі, літаратуразнаўцамі, архівістамі, этнографамі, пачынаючы з XIX ст. Часткова запозьненасьць беларускай лексыкаграфіі ў дадзеным напрастку тлумачальная – беларуская лінгвістыка сфармавалася значна пазьней за іншых у зьвязку з позьнімі незалежнымі дзяржаватворнымі працэсамі. Цяпер жа адсутнасьць падобнага слоўніка маргіналізуе яшчэ больш дадзены пляст лексыкі і множыць стэрэатыпы вакол беларускай лаянкі (слабасьць мясцовай лаянкі, “польскі” і “расейскі” сьлед у беларускай нецэнзурнай лексыцы і пад.).

Таму стварэньне слоўніка нецэнзурнай лексыкі беларускай мовы – гэта лягічнае завяршэньне мовазнаўчай працы па пашпартызацыі, апрацоўцы лексыкі, якая доўгі час заставалася нябачнай, але часта чутай. Да ўсяго дадзеная праца спрыяе ўзбагачэньню і разнастайнасьці мовы. Улічваючы экстралінгвістычныя чыньнікі, якія паўплывалі і ўплываюць на слабую кадыфікацыю беларускай нецэнзурнай лексыкі, дадзенае дасьледаваньне разьвіваецца ня толькі ў межах лексыкаграфіі і маледыкталёгіі, але і ў межах сацыялінгвістыкі, якая дапамагае комплексна патлумачыць зьяву нецэнзурнай лексыкі.

### Да гісторыі пытаньня

Нецэнзурныя словы фіксуюцца гісторыкамі мовы і архівістамі з даўніх часоў. Словы гэтыя трапляюць на паперу ўжо ў пэрыяд страбеларускай мовы. Так, лінгвісты-складальнікі *Гістарычнага слоўніка беларускай мовы* фіксуюць некаторыя ненарматыўныя словы, у прыватнасьці слова “блядь” і вытворныя ад яго ў XV–XVI стст. [*Гістарычны слоўнік беларускай мовы* 1982: 79], архівіст Герман Брэгер падае цікавы выпадак ужываньня ненарматыўнай лексыкі ў мэтрыцы ВКЛ у 1560 годзе [Брэгер 2003: 55–56]. Яшчэ адна дасьледніца і пісьменьніца Вольга Бабкова на сумежжы XX–XXI стст. на старонках “Нашай Нівы” дзялілася адкрыцьцямі цікавай моўнай і часта невядомай спадчыны – лаянка, абразы беларускага Сярэднявечча [Бабкова 1999: 8]. Раней за мовазнаўцаў да вывучэньня ненарматыўнай лексыкі спрычыніліся фальклярысты і этнографы: так, на сучасным этапе Тацяна Валодзіна, дасьледуючы гісторыю і традыцыю плоцевай культуры, уяўленьні і забароны, зьвязаныя з целам, сэксуальнасьцю ў беларусаў, у сваіх тэкстах закранула ў тым ліку і табуяваную, ненарматыўную і эўфэмізаваную беларускую мову [Валодзіна 2006; 2009; Валодзіна, Фядосік 2016]. Гендарныя гісторыкі таксама істотна паўплывалі на папулярызацыю і актуалізацыю старых плястоў культуры і мовы [Сліж 2015, 2019; “Terra Alba” 2001, II]. Шляхам рэканструкцыі падчас экспэдыцыяў і працы ў архівах дасьледнікі аднавілі значны пляст мовы, якую мы называем нецэнзурнай. Але вялікі пляст гэтай вуснай мовы згублены на-

заўсёды, бо праз абмежаваны і элітны характар пісьма ў мінулым, у Сярэднявечча, а таксама, можна ўявіць, і праз пэўны маралізм, дадзеная вусная лексыка нідзе не фіксавалася. Мы толькі можам дапусьціць думку, што лаянкавыя словы раней, як і цяпер, існавалі і перадаваліся без перашкодаў пераважна ў вусным маўленьні. З гэтага пункту гледжаньня цікавы досьвед рукапіснага *Bełaruska-polska-rasijski słoŭnik'a* Юзафа Ціхінскага. Толькі таму, што слоўнік застаўся ў рукапісным варыянце і не прайшоў чыстку і цэнзуру, у тым ліку маральнага тыпу, у ім сустракаюцца шматлікія абсцэнізмы: *срака, дупа, спажа, лайнік, сампітэрня* і пад. [*Bełaruska-polska-rasijski słoŭnik* 1906].

На сучасным этапе пачатак дасьледаваньня тэмы пазаслоўнікавай лексыкі ў беларускім мовазнаўстве належыць эмігранцкаму паэту Янку Золаку, які ў 1983 годзе ў ЗША апублікаваў пад псэўданімам невялічкі *Слоўнічак пазаслоўнікавых слоў* [Даніловіч 1983]. З таго часу, асабліва ў пэрыяд, калі Беларусь набыла незалежнасьць, зьявілася шмат іншага багатага матэрыялу па тэме: невялікія і часта аматарскія слоўнічкі беларускай нецэнзурнай лексыкі ў віртуальнай прасторы [*Пашлі мяне пабеларуску* 2003; *Беларуска-ангельскі слоўнік слэнгавай лексыкі* 2008; Азароўскі 2009; Цыбульскі 2017]. Варта прыгадаць і афіцыйны *Слоўнік новых слоў беларускай мовы* Вікторыі Уласевіч і Наталлі Даўгулевіч, які зьмяшчае сярод іншага гутарковую вульгарную лексыку [Уласевіч, Даўгулевіч 2009].

Да ўсяго аналіз беларускай мастацкай літаратуры, асабліва сучаснага пэрыяду прынёс цікавыя вынікі: разьвіцьцё размоўнай, часта вульгарнай мовы шляхам вяртаньня старых забытых словаў, задзейнічаньня дыялектнай мовы і стварэньня наватвораў. Таму для разуменьня сучаснай нецэнзурнай беларускай мовы і складаньня слоўніка варта да ўсяго ўлічваць маштабны аналіз мастацкіх тэкстаў. Ня трэба забываць, што якраз пісьменьнікі аднымі зь першых прапаноўвалі азначэньні нецэнзурнай лексыкі: “лаяніна” [Гарэцкі 2016], “брыдзэная мова” [Калюга 1992], “пазаслоўнікавая лексыка” [Даніловіч 1983], “скаромная мова” [Сяднёў 1992; Барадулін 2013].

Сярод клясычных ужо і найбольш багатых на нецэнзурныя словы беларускамоўных пісьменьнікаў варта адзначыць Рыгора Барадуліна і Сакрата Яновіча [Барадулін 2013; Яновіч 1992, 1995, 1999, 2002, 2008].

### Тэрміналягічныя заўвагі

Складаючы слоўнік нецэнзурнай лексыкі, трэба вызначыцца з асноўнымі паняткамі, тэрмінамі, якія паўстаюць у дасьледаваньні. Пачнем з шырокай паняткавай рамкі – размоўнай мовы ці размоўна-гутарковага рэгістру мовы. Гэта азначае, што мы маем справу не з кніжнай, літаратурнай, а размоўна-гутарковай (нелітаратурнай) мовай. Не-

цэнзурная мова функцыянуе і існуе ў прасторы размоўна-гутарковай мовы. Унутры яе можна вылучыць падузровень прастамоўя ці прастамоўнай лексыкі. У сваю чаргу ў прастамоўі існуе пляст ненарматыўнай, нецэнзурнай, непрыстойнай ці яшчэ абсцэннай лексыкі. Гэта словы, якія парушаюць этычныя нормы маўленчай этыкі і зьяўляюцца стылістычна зьніжанымі, лаянкавымі і грубымі [Шкраба 2012: 140].

Пад абсцэнным (абсцэннай лексыкай) звычайна падразумяваецца нешта непрыстойнае, што шакуе, абражае і адкрыта абурае. Панятак “абсцэнны” мае наступныя сынонімы: *амаральны, агідны, брудны, парнаграфічны, непрыстоўны, грубы*. Дадзеная лексыка ўжываецца пераважна маргінальнымі групамі, але ўсё часьцей і сацыяльна стабільнымі і заможнімі групамі, выконваючы экспрэсіўную, псыхалягічную функцыю. Што да маргінальных групаў, то абсцэнная лексыка выконвала і дасюль часткова выконвае тоеснасную функцыю [Guiraud 1991]. Абсцэнная ці яшчэ скаромная лексыка вызначаецца праз зьмест і зьявы, на якія яна спасылаецца, напрыклад, сэксуальнасьць, а таксама праз ужытак, напрыклад, пэўнымі сацыяльнымі групамі (беднымі, крымінальнымі, ніжэйшымі). У такім выпадку гутарка йдзе пра сэксуалізмы, вульгарызмы ўнутры абсцэннай лексыкі.

Сучаснае беларускае мовазнаўства часта дасюль працягвае маргіналізаваць дадзеную тэму і мінімізаваць узус абсцэннай лексыкі, зьвязваючы яе выключна з “нізкай маўленчай і агульнай культурай чалавека” [*Сучасная беларуская літаратурная мова* 2017: 124]. Аднак аналіз твораў сучаснай мастацкай літаратуры і сацыялінгвістычныя экспэдыцыі даводзяць адваротнае: актыўнае ўжываньне нецэнзуршчыны рознымі сацыяльнымі групамі (стабільнымі, заможнымі і беднымі, маргінальнымі). Асобнай увагі заслугоўвае якраз маргінальная і цікава тэма нецэнзуршчыны інтэлігенцыі ці шырэй сацыяльных групаў з вышэйшай адукацыяй.

Зрэшты, аб тым, што тэма прастамоўя, пагатоў, абсцэннай, нецэнзурнай лексыкі ў беларускай мове зьяўляецца terra incognita ці вельмі слаба распрацаваная ў мовазнаўстве, піша беларуская лінгвістка Ірына Шкраба. Яна слушна заўважае, што дасюль “сутнасць катэгорыі «прастамоўе» канчаткова не вызначана ў беларускай лінгвістыцы” і традыцыйна прастамоўе трактуецца як стылістычны, а не сацыяльны кампанэнт мовы [Шкраба 2012: 141]. Аналіз дадзенай тэмы ў межах сацыялінгвістыкі якраз дазваляе зьвярнуць увагу на сацыяльны кампанэнт прастамоўя і ў пэўнай ступені зьмяніць існы абмежаваны падыход да тэмы прастамоўя.

Табуізм/табу/слова-табу – старажытная лінгвістычная зьява, якая паўстала ў выніку забабонных перакананьняў першых людзей у тым, што словы маюць магічную сілу [Correia, 1927].

Эўфэмізмы – лягічны працяг табуізмаў ці словаў-табу. Эўфэмізмы выкарыстоўваюцца для таго, каб пазьбегнуць відавочнага згадваньня словаў-табу, якія могуць быць расцэненыя як негатыўныя, якія бянтэжаць ці выклікаюць дыскамфорт у таго, хто гаворыць або слухае (“тырыпыры”, “шашні”, “мець сувязь” і іншыя падобныя эўфэмізмы для азначэньня займацца сэксам, мець сэксуальныя стасункі) [Popescu 2017: 138].

Дысфэмізм – замяняльнік эмацыйна і стылістычна неўтральнага слова больш грубым і зьневажлівым (прыбіральня/сральня; галава/ліхтарня; займацца каханьнем (любоўю)/шлыхацца і пад.) [Бондаренко, Гась 2018: 91].

Падчас складаная слоўніка паўстала пэўная спроба клясыфікацыі нецэнзурнай, абсцэннай лексыкі. Дадзеная клясыфікацыя не прэтэндуе на паўнату:

1. Лаянка ў форме пасыланьня як найбольш папулярная і задзейнічаная ў маўленьні: *ідзі ў сраку (дупу, да чорта, да ліхаматары, у балота)*, *пайшоў* ці *пайшла ты ў шмоню, гыкай* і пад.
2. Лаянка-адмова: *хер табе, скульля табе!*
3. Сэксуалізм-вульгарызм ці лаянка сэксуальнага пляну: *манда, шмоня, дупа драная, качалка* і пад.
4. Выклічнікі, словы-паразыты: *блямба!, бляха!, пярэгатак!*
5. Пэяратывы, то бок лаянкавыя словы, якія ў спалучэньні з прыметнікамі перадаюць ацэнку маральных, разумовых уласьцівасьцяў чалавека [Ставицька 2008: 26]: *лярва падлючая, скаціна сраная, мудзіла, мазюр сьвінячы, кнурык сраны* і пад.
6. Кляцьба (праклёны): *гапту на цябе!, каб ты ўсраўся!, каб дупай дыхаў!*

## Прынцыпы складаньня слоўніка нецэнзурнай лексыкі

Дадзены слоўнік спрабуе ахапіць і сыстэматызаваць страты нецэнзурнай лексыкі, перадусім вульгарнага, сэксуальнага пляну – гэтак званую “лексыку плоцевега нізу” – як абсцэнную, так і эўфэмістычную. У слоўніку сабрадзены матэрыял за XIX–XXI стст.: ад фальклёрных матэрыялаў да мастацкіх сучасных твораў. Таксама ў слоўнік уключаныя матэрыялы сацыялінгвістычных экспэдыцыяў па Віцебшчыне і Менску, ажыцьцёўленых аўтарам слоўніка ў пэрыяд 2002–2019 гадоў. То бок апрача апрацоўкі матэрыялаў, сабраных іншымі дасьледнікамі і дасьледніцамі ў мінулым і сучасным – як у межах этнаграфіі, фальклёру, гісторыі мовы і дыялёкталёгіі, так і ў межах мастацкай літаратуры, перакладазнаўства, матэрыялы слоўніка ўзбагачаныя вынікамі сучасных палявых дасьледаваньняў. Што, няма сумневу, мае вялікае значэньне з пункту зору асучасьніваньня нецэнзурнай мовы і праверкі жыцьцяздольнасьці нецэнзурнай лексыкі, якая фіксавалася папярэднікамі ў XIX–XXI стст.

Слоўнік належыць да тыпу тлумачальных: паняткі тлумачацца і часта ў дадатак падаюцца найбольш частыя і распаўсюджаныя прыклады словазлучэньняў і іх ужытку.

Апрача ўласна абсцэннай, нецэнзурнай лексыкі падаюцца іх эўфэмістычныя і іншыя адпаведнікі. Такім парадкам, нецэнзурныя адзінкі разам з эўфэмістычнымі ды іншымі адпаведнікамі ствараюць своесаблівае сэнсавае моўнае гняздо: напрыклад, побач з абсцэннымі *капэрус*, *пізьдзец* падаюцца пераносныя, эўфэмістычныя адпаведнікі *капут*, *гамон*, *капец*, *юк* і пад. Так, найбольш частыя, папулярныя абсцэнізмы ў слоўніку ды ў сучаснай беларускай размоўнай мове *хуй*, *хер*, *гык* суправаждаюцца як звычайнымі словамі-адпаведнікамі (*чэлес*, *мужчынскі плоцевы орган*), так і вялікім сынанімічным эўфэмістычным шэрагам (*агрэгат*, *агурок*, *арудзьдзе*, *багацьце*, *клін*, *матавіла* і г. д.). Прынамсі гэта дапамагае лепей зразумець сэнс некаторых ненарматыўных адзінак. А таксама эўфэмізмы зьяўляюцца выдатным ілюстраваньнем закадаванасьці, маралізатарства тэмы, якая дасьледуецца і падаецца ў слоўніку. Эўфэмізмы набываюць сэнс толькі пры ўмове існаваньня і функцыянаваньня нецэнзурнага слова. Да ўсяго часта эўфэмізмы гучаць вульгарней і мацьней за асноўныя абсцэнізмы. Таму яны лягічны і сэнсава зьвязаныя, і іх прысутнасьць у слоўніку апраўданая.

Адначасова праблемным і ўзбагачальным момантам слоўніка зьяўляецца досыць вялікі гістарычны ахоп нецэнзурнай лексыкі ў слоўніку (XIX–XXI стст.) – гэта азначае, што ў кнізе прэзэнтаваныя як актыўныя і дасюль ужываныя словы, выразы (*паскуда, гадаўё, шмоня, мандавоха*), так і сталыя мёртвымі, гістарычнымі (*сампітэрня, стара паня, паябешачка*). У такім выпадку словы пазначаюцца як гістарычныя, архаічныя. Наяўнасьць дыялектных абсцэнізмаў узбагачае слоўнік, але і робіць праблемным іх ужытак, абмежаваны пэўным рэгіёнам. Тым ня менш пазнака *дыял*. ці *абл*. папярэджвае чытацтва і не дазваляе яму актыўна працаваць з дыялектызмамі-абсцэнізмамі. Зь іншага боку, якраз дыялектная мова, у тым ліку абсцэнная, зьяўляецца патэнцыйна значнай крыніцай папаўненьня агульных абсцэнізмаў.

Слоўнік не зьяўляецца этымалягічным у сілу складанасьці, спрэчнасьці паходжаньня многіх адзінак абсцэннага лексыкону, а таксама праз нежаданьне загрувашчваць тэкст дадатковым спэцыялізаваным апісаньнем.

Гэта першы аб’ёмны слоўнік абсцэннай ці нецэнзурнай лексыкі, які не прэтэндуе ані на ідэальнасьць, ані на канчатковую паўнату. Зрэшты, слоўнік не легітымізуе абсцэнную лексыку, а ўсяго толькі фіксуе забыты пляст як мовы, так і культуры наагул.

## Мэтадалёгія

Слоўнікатворчая праца базуецца на наступных шматлікіх, часам міждысцыплінарных мэтадах. Перадусім мэтад гістарычнага аналізу мовы, які падразумявае працу з слоўнікамі гістарычнай і сучаснай беларускай мовы. У дадзены аналіз уваходзіць праца па выяўленьні ў лексычным масыве словаў, якія належаць да нецэнзурнага рэгістру і іх кантэкстная ацэнка, а таксама параўнаньне з сучасным значэньнем, гучаньнем.

Апрача гістарычнага аналізу мовы ў працу ўключаны іншы мэтад – аналіз другарадных матэрыялаў: шматлікіх мовазнаўчых артыкулаў, якія ахопліваюць тэму размоўнай мовы.

Наступны значны мэтад – кантэнт-аналіз слоўнікаў, мастацкай літаратуры, фальклёрных тэкстаў.

Актыўныя мэтады назіраньня і інтэрвію падчас сацыялінгвістычных экспэдыцыяў (Віцебшчына, 2002–2018) робяць працу і слоўнік жывей, і дазваляюць уключыць у яго спраўджаныя, часта новыя словы і такім парадкам узбагаціць слоўнік.

Падчас экспэдыцыяў па паўночнай Беларусі паўстаў яшчэ адзін мэтад – дасьледаваньне выпадку [case-study] мовы стараквераў Віцебшчыны. Якраз выяўленыя вульгарызмы і сэксуалізмы, якія актыўна ўжываюць сучасныя беларускія стараверы, дазволілі канстатаваць мацату беларускай вульгарнай, нецэнзурнай лексыкі.

Зрэшты, параўнаўчы мэтад (параўнаньне нецэнзурнай лексыкі ў польскай, украінскай, летувіскай і расейскай мовах) дазваляе выявіць і ацаніць як спэцыфіку ўласна беларускай нецэнзурнай лексыкі, так і ейны ўнівэрсальны характар – падабенствы з суседнімі мовамі.

## Выбраныя крыніцы

Сьцісла неабходна прэзэнтаваць асноўныя кірункі крыніцаў слоўніка. Глябальна вымалёўваюцца тры плясты крыніцаў: этнаграфічна-фальклёрны, мовазнаўчы і пляст мастацкай літаратуры. Гэтыя плясты дапаўняюцца вынікамі сацыялінгвістычных экспэдыцыяў па Віцебшчыне (2002–2018), якія ў цэлым упісваюцца ў мовазнаўчы пляст.

У этнаграфічна-фальклёрны пляст уваходзіць спэцыялізаваная літаратура (падаецца няпоўны сьпіс): Т. Валодзіна, *Цела чалавека: слова, міф, рытуал; Дуліна ад Барадуліна;* В. Добровольский, *Смоленский этнографический сборник;* Н. Никифоровский, *Белорусские песни-частушки;* М. Нікіфароўскі, *Напоўпрыказкі – напоўпрыслаўкі;* Ч. Пяткевіч, *Рэчыцкае Палессе;* П. Шейн, *Белорусские народные песни;* M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej;* Е. Романов, *Белорусский сборник, Быт белорусса. Словарь условных языков.*

Мовазнаўчы пласт ахоплівае наступныя ключавыя тэксты**:** Е. Карский, *Белорусы,* т. 3; А. Даніловіч, *Слоўнічак пазаслоўнікавых слоў;* Г. Лапацін*, Новыя запісы дыялектнай фразеалогіі сучаснай беларускай мовы;* N. Barszczewska, M. Chaustowicz, M. Timoszuk, *Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia,* t. I., А. Варлыга, *Нецэнзурныя прымаўкі Лагойшчыны;* С. Цыбульскі, *Малы беларуска-беларускі слоўнік сэксуальных паняццяў і г. д. Асобнае месца ўнутры мовазнаўчага пласту належыць аналізу слоўнікаў:*

> Слоўнікі: В. Добровольскій, *Смоленскій областной словарь*; М. Касьпяровіч, *Віцебскі краёвы слоўнік;* С. Некрашевіч, М. Байкоў, *Беларуска-расійскі слоўнік; Тлумачальны слоўнік беларускай,* В. Уласевіч, Н. Даўгулевіч, *Слоўнік новых слоў беларускай мовы літаратурнай мовы;* Ю. Ціхінскі, 1906, *Bełaruska-polska-rasijski słoŭnik;* A. Varłyha, *Krajovy słoŭnik Łahojščуny;* Г. Юрчанка, *Народнае вытворнае слова: З гаворкі Амсьціслаўшчыны;* М. Шатэрнік, *Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны;* Я. Станкевіч, *Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік; Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны ў 2-х тамах;* М.І. Пашкевіч, *Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік; Гістарычны слоўнік беларускай мовы;* А. Азароўскі, *Беларускі слоўнік моладзевага слэнгу.*

Зрэшты, трэці пласт мастацкай літаратуры. Творы сучаснай беларускай мастацкай літаратуры істотна ўзбагачаюць масыў нецэнзурнай лексыкі сучаснымі словамі, часта наватворамі ці старымі словамі ў новым гучаньні. А таксама цікава пазначыць, што ва ўмовах дамінаваньня расейскай мовы і маргіналізацыі як беларускай мовы наагул, так і размоўнага роўня мовы, якраз мастацкая літаратура часта лепей акумулюе размоўныя словы і зьяўляецца своеасаблівай сховам і лябараторыяй сучаснай размоўнай беларускай мовы. Для слоўніка былі прааналізаваныя больш за 90 тэкстаў мастацкай літаратуры (раманы, эсэ, навэлі, апавяданьні).

У дадатак, асобна варта адзначыць замежныя крыніцы-дасьледаваньні, якія ахапілі нецэнзурную лексыку суседніх моваў (летувіскай, польскай, украінскай і расейскай): R. Nainienė, *Apie lietuviškus keiksmažodžius;* L. Stomma*, Słownik polskich wyzwisk, inwektyw i określeń pejoratywnych;* M. Grochowski, *Słownik polskich przekleństw i wulgaryzmów;* Л. Ставицька, *Українська мова без табу;* В. Жельвис, *Поле брани.* Дадзеныя крыніцы асабліва дапамаглі ў правядзеньні параўнаўчага аналізу нецэнзурнай лексыкі ў іншых мовах, зь якімі беларускую зьвязваюць шматвякавыя кантакты і часам агульная пласты спадчыны.

### Паміж лексыкаграфіяй і сацыялінгвістыкай

Галоўны беларускі сацыялінгвістычны парадокс вакол нецэнзурнай лексыкі палягае ў тым, што, з аднаго боку, існуе разьвітая і багатая нецэнзурная лексыка, якая фіксуецца ў старабеларускі і сучасны пэ-

рыяды, а, з другога боку, гэтае моўнае багацьце не сабранае ў слоўнік. Тлумачэньне парадоксу ляжыць, такім парадкам, ня ў моўным, не ў лексычным пляне – словы існуюць і актыўна задзейнічаныя носьбітамі, а ў экстралінгвістычным вымярэньні: лексыка табуізуецца, маралізуецца, а ў выніку ігнаруецца дасьледнікамі. А на фоне агульнай маргіналізацыі мовы дадзены табуяваны пляст лексыкі маргіналізаваны ўдубальт. Значыць, стварэньне беларускага слоўніка нецэнзурнай лексыкі зьяўляецца пытаньнем перадусім сацыялінгвістычным. Бо стваральнік такога слоўніка з дапамогай сацыялінгвістычных мэтадаў мусіць патлумачыць экстралінгвістычныя (сацыяльныя, палітычныя) чыньнікі сытуацыі, якая склалася вакол двайной маргінальнасьці тэмы. Палітычнасьць тлумачэньня навідавоку: сацыялінгвістычны парадокс ахоплівае шырэй ці ня ўсю слоўнікатворную дзейнасьць у Беларусі. Другараднасьць і маргінальнасьць беларускай мовы ў Беларусі абумоўліваюць беспатрэбнасьць беларускіх слоўнікаў: перакладных, спэцыялізаваных. Рацыянальнай, эканамічнай патрэбы ў слоўніках няма, бо існуюць падобныя перакладныя і іншыя слоўнікі па-расейску. Праўда, слоўнік нецэнзурнай лексыкі па-беларуску можа стацца кур'ёзам і прыцягнуць увагу чытацтва, але можа сутыкнуцца з праблемай цэнзураваньня і забароны.

Аднак не зважаючы на моцны ўплыў экстралінгвістычных чыньнікаў, варта не забываць пра важнасьць і неабходнасьць дадзенага слоўніка ў моўнай пэрспэктыве.

Такім парадкам, у лексыкаграфічным пляне неабходна сабраць, пашпартызаваць, клясыфікаваць нецэнзурную лексыку, якая фіксуецца з часоў старабеларускай мовы да сяньня, але праз пэўны маралізм навукоўцаў і грамадзтва застаецца бясхатняй. Дадзены пляст лексыкі дэманструе багацьце, разнастайнасьць і распрацаванасьць мовы. Наяўнасьць слоўніка нецэнзурнай лексыкі спросьціць працу перакладнікаў і іншых моўных спэцыялістаў. Бо на дадзены момант падчас перакладу твораў, фільмаў размоўнага рэгістру беларускія перакладнікі вымушаныя імправізаваць, выкарыстоўваць русіцызмы, паланізмы ці ствараць новыя словы. Таму слоўнік мае да ўсяго на мэце ўнезалежніць размоўную, абсцэнную мову.

### Маледыкталёгія

У заходняй гуманістыцы нецэнзурнай лексыкай звычайна займаюцца ў межах мовазнаўства ці, дакладней кажучы, лексыкаграфіі, але ў XX ст. былі спробы стварэньня міждысцыплінарнага – псыхалягічнага, сацыяльнага – падыходу ў вывучэньні абразьлівых і нэгатыўных словаў і выразаў у межах навуковай дысцыпліны – *маледыкталёгіі* [з лацінскай мовы *maledicere*, "сказаць [што-небудзь] (dicere) дрэннае

(male)”] [Aman 1996]. Амэрыканскі мовазнаўца-германіст нямецкага паходжаньня Райнхальд Аман з 1977 па 2005 выдаваў акадэмічны часопіс вэрбальнай агрэсіі “Maledicta”, які спэцыялізаваўся на абразьлівых словах і выразах ва ўсіх мовах і культурах, у мінулым і сучасным. Асноўнымі сфэрамі інтарэсаў выданьня былі паходжаньне, этымалёгія, значэньне, выкарыстаньне і ўплыў слоўнай агрэсіі і слоўнай абразы любога роду, а таксама мова, якая звычайна лічыцца вульгарнай, непрыстойнай або блюзьнерскай [“Maledicta” 1977]. Маледыкталягічны падыход зьяўляецца, сапраўды, міждысцыплінарным, бо ахоплівае большасць навуковых сфэраў, асабліва антрапалёгію, фальклёр, мовазнаўства наагул, лексікаграфію ў прыватнасьці, таксама клясычную філялёгію, псыхалёгію і сацыялёгію. Як вынікае з аналізу часопісаў, якія зьявіліся за 28 год існаваньня, зьмест маледыкталягічных дасьледаваньняў падразумяваў наступныя тэмы: вэрбальная агрэсія, лаянкавыя словы, абразы, праклёны, блюзьнерства, скаталягічная лексыка, мова табу, выклічнікі, эўфэмізмы, імёны хатніх жывёлаў, жаргон субкультураў, мянушкі, стэрэатыпы. А таксама асобна дасьледваліся тэрміналёгія сфэры чалавечай дзейнасьці, частак цела, сэксу і сэксуальнасьці; прыказкі, параўнаньні, мэтафары, графіці, сатыра і сарказм, афіксы, тэрміналёгія фізычнай агрэсіі, забойстваў і самагубства [“Maledicta” 1977].

Такім парадкам, поле дзейнасьці новай дысцыпліны – маледыкталёгіі – выглядае калясальным і сьмелым для вузкай навуковай дысцыпліны. У беларускай традыцыі тэмай нецэнзурнай і табуяванай лексыкі займаецца мовазнаўства, а цяпер і сацыялінгвістыка, як сумежная дысцыпліна (паміж мовазнаўствам і сацыялёгіяй). Поле інтарэсаў маледыкталёгіі цалкам накладваецца на поле інтарэсаў мясцовай сацыялінгвістыкі, таму няма, верагодна, сэнсу ствараць асобную дысцыпліну. Хоць час і выбар новага пакаленьня мовазнаўцаў пакажуць, як і ў межах якой дысцыпліны разьвівацца дасьледаваньням нецэнзурнай і табуяванай мовы. Пры гэтым неабходна ўлічваць багатыя напрацоўкі маледыкталёгіі і выкарыстоўваць іх падчас аналізу мясцовай нецэнзурнай лексыкі.

## Заканчэньне

Стварэньне слоўніка нецэнзурнай лексыкі – гэта завяршэньне лексыкаграфічнай і сацыялінгвістычнай працы, якая вядзецца апошнія стагодзьдзі, асабліва дзесяцігодзьдзі і абапіраецце да ўсяго на дасьледаваньні ў сумежных дысцыплінах: этнаграфіі, літаратуразнаўстве і гісторыі. Улічваючы няпростую сацыялінгвістычную сытуацыю ў Беларусі (маргінальнасьць беларускай мовы, дамінаваньне расейскай мовы, адсутнасьць рэальнай дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы і, наад-

варот, інтэнсыўная падтрымка другой мовы – расейскай), беларуская слоўнікатворная дзейнасьць ускладняецца, становіцца непатрэбнай ці малапатрэбнай, неактуальнай. Маргіналізуецца як уся мова, так і разьвіцьцё ейных асобных галінаў. Аднак яшчэ большую маргінальнасьць зазнае вечна схаваная і часта маргіналізаваная самімі мовазнаўцамі тэма абсцэннай, нецэнзурнай лексыкі. Склалася кур’ёзная сытуацыя: існуе вялікі і дынамічны пляст прастамоўнай лексыкі, які ігнаруецца, байкатуецца мовазнаўцамі па прычыне перадусім экстралінгвістычнай (сорам, мараль, палітыка і г. д.). Сытуацыю можна зварухнуць, абапіраючыся на сацыялінгвістычны пастулят, добра рэзюмаваны ўкраінскай сацыялінгвісткай Лесяй Ставіцкай (“вывучаць мову, якая яна ёсьць, а не якой павінна быць” [Ставицька 2008]). Гэта азначае, што апрача ўласна лексыкаграфічнай працы неабходна весьці сацыялінгвістычную працу па выяўленьні і тлумачэньні экстралінгвістычных перашкодаў на шляху маргіналізацыі пэўнага плясту лексыкі і стварэньня спэцыялізаванага слоўніка.

Зрэшты, сыходзячы з вышэй агучанага сацыялінгвістычнага пастуляту, варта памятаць пра асноўныя рацыянальныя матывы стварэньня слоўніка. Перадусім нецэнзурная лексыка ў гістарычнай, а таксама дыялектнай пэрспэктывах падкрэсьлівае моўную разнастайнасьць, распрацаванасьць мовы ўва ўсіх сфэрах, а ейная папулярызацыя спрыяе распаўсюду сынонімаў часта з нутраных рэсурсаў мовы і супрацьстаяньню русіфікацыі/амэрыканізацыі дадзенага спрату мовы. Потым стварэньне слоўніка нецэнзурнай лексыкі вядзе да пашпартызацыі словаў, то бок да іх бачнасьці, прысутнасьці. А гэта ў сваю чаргу спрошчвае працу многіх працаўнікоў і працаўніцаў слова: перакладнікаў, журналістаў, выкладнікаў, настаўнікаў ды і саміх лексыкографаў.

## Бібліяграфія

Aman Reinhold. 1996. *Maledicta: The International Journal of Verbal Aggression*. Volume XII.

Ânovìč Sakrat. 1992. *Samasej*, Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Яновіч Сакрат. 1992. *Самасей.* Мінск: Мастацкая літаратура].

Ânovìč Sakrat. 1995. *Lìstoŭe / Listowie*. Belastok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Belaveža [Яновіч Сакрат. 1995. *Лістоўе / Listowie*. Беларускае літаратурнае аб’яднанне Белавежа].

Ânovìč Sakrat. 1999. *Zapìsy veku*. Belastok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Belaveža [Яновіч Сакрат. 1999. *Запісы веку*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб’яднанне Белавежа].

Ânovìč Sakrat. 2002. *Ne žal' pražytaga*. Belastok: Belaruskae lìtaraturnae ab`âdnanne Belaveža [Яновіч Сакрат. 2002. *Не жаль пражытага*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб’яднанне Белавежа].

Ânovìč Sakrat. 2008. *Hatnâe stagoddze*. Krynkì [Яновіч Сакрат. 2008. *Хатняе стагоддзе*. Крынкі].

Babkova Vol'ga, 1999. *Laânka, abrazy, lìhadzejstva ŭ štodzënnym žyc'cì našyh dalëkìh prodkaй*. "Naša Nìva", 4. 10. [Бабкова Вольга. 1999. *Лаянка, абразы, ліхадзейства ў штодзённым жыцьці нашых далёкіх продкаў*. "Наша Ніва", 4. 10].

Baradulìn Rygor. 2013. *Vušackì slovazbor*. Mìnsk: Knìgazbor [Барадулін Рыгор. 2013. *Вушацкі словазбор*. Мінск: Кнігазбор].

*Belaruskì èratyčny fal'klor*. 2016. Rèd. T. Valodzìna, A. Fâdosìk, Mìnsk: Medyâl [*Беларускі эратычны фальклор*. 2016. Рэд. Т. Валодзіна, А. Фядосік, Мінск: Медыял].

Bondarenko Katerina, Gas' Svetlana. 2018. *Detabuizaciâ v slovarâh i perevode.* Poznań: Bogucki Wydawnictwo Naukowe [Бондаренко Катерина, Гась Светлана. 2018. *Детабуизация в словарях и переводе*. Poznań: Bogucki Wydawnictwo Naukowe].

Brèger German. 2003. *Vypadak užyvannâ nenarmatyŭnaj leksìkì ŭ Metrycy VKL* (*Dakument uradu vìlenskaga vaâvody za 1560 g.*). Athenaeum: Commentarii Historiae et Culturae. VIII [Брэгер Герман. 2003. *Выпадак ужывання ненарматыўнай лексікі ў Метрыцы ВКЛ* (*Дакумент ураду віленскага ваяводы за 1560 г.*). Athenaeum: Commentarii Historiae et Culturae. VIII].

Correia João da Silva. 1927. *O eufemismo e o disfemismo na língua e na literatura portuguesa*. Lisboa.

Cìhìnskì Ûzaf. 1906. *Bełaruska-polska-rasijski słoŭnik*. Addzel rukapìsaŭ Bìblìâtèkì ìm. Urubleŭskìh, Addzel rukapìsaŭ Bìblìâtèkì ìm. Urubleŭskìh Letuvìskaj AN, Vìl'nâ, F21 [Ціхінскі Юзаф. 1906. *Bełaruska-polska-rasijski słoŭnik*. Аддзел рукапісаў Бібліятэкі ім. Урублеўскіх Летувіскай АН. Вільня. F 21].

Danìlovìč Anton. 1983. Sloŭnìčak pazasloŭnìkavyh sloŭ. N'û Džèrsì [online] https://files.knihi.com/Knihi/Slounik/term/BEL.pazaslounikavyja.Zolak.1983.pdf [доступ: 10.11.2021]. [Даніловіч Антон. 1983. *Слоўнічак пазаслоўнікавых слоў*. Нью Джэрсі].

Dobrovol'skij Vladimir. 1893. *Smolenskij ètnografičeskij sbornik*. Č. 2, Zapiski RGO po otdeleniû ètnografii. SPB. T. 23. Vyp. 1 [Добровольский Владимир. 1893. *Смоленский этнографический сборник*. Ч. 2. Записки РГО по отделению этнографии. СПб. Т. 23. Вып. 1].

Dobrovol'skij Vladimir. 1903. *Smolenskij ètnografičeskij sbornik*. Č. 4. Zapiski RGO po otdeleniû ètnografii. SPB. [Добровольский Владимир. 1903. *Смоленский этнографический сборник*. Ч. 4. Записки РГО по отделению этнографии. СПб].

Garèckì Maksìm. 2016. *Tvory*. Zalataâ kalekcyâ belaruskaj lìtaratury. Tom 12. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Гарэцкі Максім. 2016. *Творы*. Залатая калекцыя беларускай літаратуры. Том 12. Мінск: Мастацкая літаратура].

Giraud Pierre. 1991. *Les Gros mots*. Puf / Que sais-je, Paris.

*Gìstaryčny sloŭnìk belaruskaj movy*. 1982. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Гістарычны слоўнік беларускай мовы*. 1982. Мінск: Навука і тэхніка].

Grochowski Maciej. 2008. *Slownik polskich przekleństw i wulgaryzmów*. Warszawa: Wydawnictwo naukowe PWN.

Kalûga Lukaš. 1992. *Tvory*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Калюга Лукаш. 1992. *Творы*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Karskij Efim. 1903. *Belorussy*. T. I. *Vvedenie v izučenie âzyka i narodnoj slovesnosti*. Varšava [Карский Ефим. 1903. *Белоруссы*. Т. I. *Введение в изучение языка и народной словесности*. Варшава].

Lapacìn G. 2009. *Novyâ zapìsy dyâlektnaj frazealogìì sučasnaj belaruskaj movy. (p. Amâl'noe Vetkaŭskaga r-a Gomel'skaj voblascì)*. U: *Frazeologiâ germanskih, romanskih*

*i slavânskih âzykov: sbornik naučnyh statej*: vyp. 1. / pod red. E.E. Ivanova, Mogilev, MGU im. A.A. Kulešova [Лапацін Г. 2009. *Новыя запісы дыялектнай фразеалогіі сучаснай беларускай мовы (п. Амяльное Веткаўскага р-а Гомельскай вобласці)*. У: *Фразеология германских, романских и славянских языков: сборник научных статей*: вып. 1. / под ред. Е.Е. Иванова, Могилев: МГУ им. А.А. Кулешова].

*Laânka ŭ belaruskaj moŭnaj ì pobytavaj tradycyì*. 2002. "Radyë Svaboda". 29 sakavìka [online] https://www.svaboda.org/a/24842237.html [доступ: 10.11.2021] [*Лаянка ў беларускай моўнай і побытавай традыцыі*. 2002. "Радыё Свабода". 29 сакавіка].

"Maledicta: The International Journal of Verbal Aggression" [online] https://web.archive.org/web/20190225023614/http://aman.members.sonic.net/unique.html [доступ: 10.11.2021].

Martysevìč Maryâ. 2009. *Kalâlìtaraturnyâ blâdzì: dèfinìcyâ, klâsyfikacyâ, mètad*, Livejournal, Maryjka, 16.08 [online] https://users.livejournal.com/maryjka-/546308.html [доступ: 30.11.2021] [Мартысевіч Марыя. 2009. *Калялітаратурныя блядзі: дэфініцыя, клясыфікацыя, мэтад,* LiveJournal, Maryjka, 16.08].

Popescu Mihaela. 2017. *Le tabou linguistique. Un paradoxe toujours actuel*. "Acta Universitatis Lodziensis. Folia Litteraria Romanica" № 12.

Slìž Natallâ. 2019. *Kul'tura seksual'nyh stasunkaŭ u Vâlìkìm Knâstve Lìtoŭskìm u XVI–XVII stst.* Mìnsk: Tèhnalogìâ [Сліж Наталля. 2019. *Культура сексуальных стасункаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XVI–XVII стст.* Мінск: Тэхналогія].

*Sloŭnìk novyh sloŭ belaruskaj movy*. 2009. Ukl. V. Ulasevìč, N. Daŭgulevìč. Mìnsk: Tetrasistems [*Слоўнік новых слоў беларускай мовы*. 2009. Укл. В. Уласевіч, Н. Даўгулевіч. Мінск: ТетраСистемс].

Stavic'ka Lesâ. 2008. *Ukraïns'kij žarġon, slovnik* [online] http://ukr-zhargon.wikidot.com/a [доступ: 30.11.2021] [Ставицька Леся. 2008. *Український жаргон, словник*].

Stavic'ka Lesâ. 2008. *Ukraïns'ka mova bez tabu. Slovnik necenzurnoï leksiki ta ïï vìdpovìdnikìv*. Kiev: Kritika [Ставицька Леся. 2008. *Українська мова без табу. Словник нецензурної лексики та її відповідників*. Киев: Критика].

Sâdnëŭ Masej. 1992. *Patušanyâ zory*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Сяднёў Масей. 1992. *Патушаныя зоры*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Škraba Ìryna. 2012*. Leksìkalogìâ*. Mìnsk: Tèhnalogìâ [Шкраба Ірына. 2012. *Лексікалогія*. Мінск: Тэхналогія].

Rouayrenc Catherine. 1996. *Les gros mots*. Paris, Presses universitaires de France.

Stomma Ludwik. 2000. *Słownik polskich wyzwisk, inwektyw i określeń pejoratywnych*. Warszawa: Wydawnictwo Graf-Punkt.

*Sučasnaâ belaruskaâ lìtaraturnaâ mova*. 2017. Pad rèd. D. Dzâtko. Mìnsk: Vyšèjšaâ škola [*Сучасная беларуская літаратурная мова*. 2017. Пад рэд. Д. Дзятко. Мінск: Вышэйшая школа].

*"Terra Alba" – "Homo venerius: Seksual'naâ prastora belaruskaj kul'tury"*. 2001. Rèd. Danìlenka S.Ì. Magìlëŭskae tavarystva gumanìtarnyh ìntèlektual'nyh ì kul'turnyh ìnìcyâtyŭ "Brama" [*Terra Alba" – "Homo venerius: Сексуальная прастора беларускай культуры*". 2001. Рэд. Даніленка С.І. Магілёўскае таварыства гуманітарных інтэлектуальных і культурных ініцыятыў "Брама"].

Valodzìna Tacâna. 2006. *Belaruskì èras vyâvìŭsâ najperš u fal'klëry*. "Radyë Svaboda" [online] https://www.svaboda.org/a/771899.html [доступ: 20.11.2021] [Валодзіна Тацяна. 2006. *Беларускі эрас выявіўся найперш у фальклёры*. "Радыё Свабода"].

Valodzìna Tacâna. 2009. *Cela čalaveka: slova, mìf, rytual*. Mìnsk: Tèhnalogìâ [Валодзіна Тацяна. 2009. *Цела чалавека: слова, міф, рытуал*. Мінск: Тэхналогія].

**ABSTRACT**: The need to create dictionaries of the Belarusian non-normative, obscene, taboo language has long been a fact – this is the logical conclusion of the overall work on the creation of dictionaries in general. The richness of the language is manifested in all its diversity and in all spheres, including those where linguists often do not look because of outdated moral principles. The importance of such a dictionary is to collect and codify words that are often not certified in linguistics due to artificial barriers. We are not talking about the propaganda of vulgar and obscene language, but. from a professional sociolinguistic point of view, the purpose of this dictionary is to capture the language in its natural state – what it is, how Belarusians speak, and not what it should be in the imagination of different people with different moral and ideological attitudes. Thus, when creating a dictionary, two main approaches are taken into account – lexicographic and sociolinguistic.

**Keywords**: lexicography, creating a dictionary, obscene vocabulary, colloquial language.

**STRESZCZENIE**: Potrzeba tworzenia słowników języka białoruskiego nienormatywnego, obscenicznego, tabu od dawna dojrzała – to logiczny wniosek całościowej pracy nad tworzeniem słowników w ogóle. Bogaty język przejawia się w całej swojej różnorodności i we wszystkich sferach, także tam, gdzie językoznawcy często nie przeglądają przestarzałych postaw moralnych. Znaczenie takiego słownika polega na zbieraniu i kodyfikowaniu słów, które często nie są certyfikowane w lingwistyce ze względu na sztuczne bariery. Nie mówimy o propagandzie języka wulgarnego i obscenicznego, ale z profesjonalnego socjolingwistycznego punktu widzenia celem tego słownika jest uchwycenie języka w jego naturalnym stanie – czym jest, czym mówią Białorusini, a nie tym, czym powinien być w wyobraźni różnych ludzi o różnych postawach moralnych i ideologicznych. Dlatego przy tworzeniu słownika brane są pod uwagę dwa główne podejścia – leksykograficzne i socjolingwistyczne.

**SŁOWA KLUCZOWE**: leksykografia, tworzenie słownika, słownictwo obsceniczne, język potoczny.

**РЭЗЮМЭ**: Патрэба ў стварэньні слоўнікаў беларускай ненарматыўнай, нецэнзурнай, табуяванай ці яшчэ абсцэннай мовы насьпела здаўна – гэта лягічнае завяршэньне агульнай працы па стварэньні слоўнікаў наагул. Багатая мова праяўляецца ва ўсёй разнастайнасьці і ва ўсіх сфэрах, у тым ліку там, куды лінгвісты часта не заглядваюць праз састарэлыя маральныя ўстаноўкі. Да ўсяго важнасьць такога слоўніка палягае ў тым, каб сабраць і кадыфікаваць словы, якія часта праз штучныя бар'еры не пашпартызаваныя ў мовазнаўстве. Размова ня йдзе пра прапаганду вульгарнай і брыдэзнай мовы, а з прафэсійнага сацыялінгвістычнага погляду мэта дадзенага слоўніка месьціцца ў тым, каб зафіксаваць мову ў натуральным стане – якая яна ёсьць, на якой размаўляюць беларусы, а не якой яна павінна быць ва ўяўленьні розных людзей з рознымі маральнымі і ідэйнымі ўстаноўкамі. Такім парадкам, падчас стварэньня слоўніка ўлічваюцца два асноўныя падыходы – лексыкаграфічны і сацыялінгвістычны.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: лексыкаграфія, слоўнікатворчасьць, слоўнік нецэнзурнай лексыкі, абсцэнная лексыка, прастамоўе.

*Data przesłania artykułu: 25.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 12.12.2021*

## ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE

**Uladzislaŭ Ivanoŭ / Уладзіслаў Іваноў** – Litwa, Wilno, Europejski Uniwersytet Humanistyczny, Wydział Nauk Społecznych; dr., profesor nadzwyczajny; specjalność naukowa: socjolingwistyka; zainteresowania naukowe: lingwistyka płci, polityka i język, gender studies, etnolingwistyka.

**Adres**: Europos Humanitarinis Universitetas, Savičiaus g.17, 01127 Vilnius, Lietuva / Litwa.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Іваноў Уладзіслаў. 2020. *Моўны сорам беларусаў (сацыялінгвістычны аналіз)*. "Acta Albaruthenica" t. 20: 169–184.
2. Ivanoŭ Uladzislaŭ. 2020. *Le lexique de l'autoritarisme de Lukašenka et de la guerre russo-ukrainienne: le cas de la langue bélarussienne* (201–214). In: *Populismo y propaganda: entre el presente y el pasado*. Bajo la dirección de Łukasz Szkopiński & Agneszka Woch, Universidad de Łódź.
3. *Падзея*: раман. 2021. Ані Эрно; vertėjas Уладзіслаў Гарбацкі. Vilnius: Gudų kultūros draugija Lietuvoje.

> беларус, ад гэтай пары наагул – асноўная фігура беларускага народу. <…> У XVIII веку старая беларуская літаратура занепадае зусім, асабліва пасьля адыходу Беларусі да Расеі ў выніку ведамых разьдзелаў Польшчы [Адамовіч 2005: 322–323].

Беларускі гісторык **Юры Туронак**, які працаваў і жыў у Польшчы (1929, Віленскае ваяводства – 2019, Варшава), вывучаў гісторыю беларускага каталіцтва. У сваіх даследаваннях ён не закранаў прама моўныя пытанні сярэдзіны XVIII стагоддзя, аднак акцэнтаваў увагу на перапляценні канфесійных традыцый на беларускіх землях і ўскосным уплыве гэтага перапляцення на выкарыстанне беларускай мовы. Так, згадваючы Вялікае Княства Літоўскае і "пануючую ў ім старабеларускую канцылярскую мову" [Туронак 2008: 401], ён пісаў, што ў выніку "паўстала асаблівая сацыяльная катэгорыя – беларускамоўнае рымска-каталіцкае насельніцтва" [Туронак 2008: 401]. Канстатуючы, што ў касцёле традыцыйна выкарыстоўваюцца лацінская і польская мовы, Ю. Туронак прыводзіў аргументы на карысць таго, што

> ў Рыма-каталіцкай царкве здаўна ўжывалася беларуская мова. Пра гэта сьведчаць захаваныя рукапісы XV стагодзьдзя: *Пра муку Пана Нашага Езуса Хрыста*, *Аповесьць пра Трох Каралёў*, *Плач Маткі над Сынам*, *Пра ўваскрасеньне Хрыстова*, *Размовы Рыгора, папы рымскага*, *Імша к сьці Маткі Божай* з тлумачэньнямі і іншыя. У 1585 у Вільні выйшаў першы беларускамоўны падручнік катэхізісу [гл. спасылку: Маецца на ўвазе падручнік, выдадзены на старабеларускай мове кірыліцай езуітамі. Два ацалелыя паасобнікі гэтай кнігі захоўваюцца ў Каралеўскай бібліятэцы ў горадзе Упсала (Швэцыя) – *Ю. Т.*, с. 402], а ў 1681 пераклад з Тамаша Аквінскага пра насьледаваньне Хрыста [Туронак 2008: 402].

Падкрэсліваючы ролю каталіцкай канфесіі (прынамсі, езуітаў) у адукацыйным працэсе на тэрыторыі Беларусі, Ю. Туронак адзначыў яе несумненна станоўчае значэнне ў пашырэнні беларускамоўнага набажэнства, у тым ліку, у сярэдзіне і другой палове XVIII стагоддзя:

> Істотную ролю ў гэтай галіне адыгралі езуіты, якія ў сваіх школах, на чале зь Віленскай акадэміяй, праводзілі навучаньне беларускай мовы, вучылі рэлігійных песьняў і на гэтай мове прамаўлялі казаньні ў касьцёлах. У 1774 г. стараньнямі полацкіх езуітаў была выдадзеная беларускамоўная *Kantyczka*, а трохі пазьней – іншыя царкоўныя песьні. У гэты час, г. зн. на схіле Рэчы Паспалітай і на пачатку расейскай акупацыі, з ініцыятывы езуітаў і магілёўскага архібіскупа Богуша-Сестранцэвіча распачалося ўвядзеньне беларускай мовы ў дадатковыя набажэнствы (сьвятая імша, натуральна, адпраўлялася на лаціне [Туронак 2008: 402].

3. Перыяд сярэдзіны XVIII стагоддзя характарызуецца амаль поўнай адсутнасцю наяўных мастацкіх крыніц на беларускай мове, апрача рэлігійных, ананімных і фальклорных твораў. З гэтай прычыны навукоўцы і дзеячы беларускай культуры ацэньвалі названы перыяд як час

перарыву ў развіцці беларускай мовы, літаратуры і культуры. Падобны ж пункт погляду існуе і ў шматлікіх сучасных даследаваннях па гісторыі беларускай мовы і культуры.

Аўтары працытаваных крыніц, аналізуючы беларускамоўныя пісьмовыя рэлігійныя тэксты, фіксуюць іх выкарыстанне ў канфесійнай прасторы Беларусі ў XVIII стагоддзі. Прыведзеныя фрагменты могуць уяўляцца залішне ідэалагізаванымі, пацвярджацца тэндэнцыйнымі інтэрпрэтацыямі. Аднак даследаванні беларускага пісьменства сярэдзіны XVIII стагоддзя былі б няпоўнымі без markdown рознабаковага асвятлення фактaлагічнага матэрыялу. Наяўнасць беларускамоўных тэкстаў, хоць малакольказных, аднак, відавочна, ужывальных у паўсядзённай практыцы, сведчыць пра (абмежаванае) выкарыстанне беларускай мовы ў тагачасным нацыянальным пісьменстве. Гэта дазваляе сцвярджаць пра неабходнасць перагляду і ўдакладнення традыцыйнага погляду на гісторыю беларускай мовы і літаратуры, прынамсі, на перапынак у развіцці паміж часам старабеларускай мовы і часам новай беларускай літаратурнай мовы.

## Бібліяграфія


Adamovìč Anton. 2005. *Da gìstoryì belaruskae lìtaratury.* Mìnsk: Vydavec ÌP Z'mìcer Kolas [Адамовіч Антон. 2005. *Да гісторыі беларускае літаратуры.* Мінск: Выдавец ІП Зьміцер Колас].

Doŭnar-Zapol'skì Mitrafan. 1994. *Asnovy dzâržaŭnas'cì Belarusì.* Mìnsk: VPP Dzâržèkanomplana Rèspublìkì Belarus' [Доўнар-Запольскі Мірафан. 1994. *Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі.* Мінск: ВПП Дзяржэканомплана Рэспублікі Беларусь].

Garèckì Maksìm. 1992. *Gìstoryâ belaruskae lìtaratury*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Гарэцкі Максім. 1992. *Гісторыя беларускае літаратуры.* Мінск: Мастацкая літаратура].

Karatkevìč Ìryna. 2020. *Belaruskamoŭnyâ tèksty XVIII stagoddzâ ŭ zamežnyh vydannâh.* U: *Mova – lìtaratura – kul'tura*: matèryâly IX Mìžnar. navuk. kanf. pamâcì praf. A.Â. Mìhnevìča. Mìnsk: BDU [Караткевіч Ірына. 2020. *Беларускамоўныя тэксты XVIII стагоддзя ў замежных выданнях.* У: *Мова – літаратура – культура*: матэрыялы IX Міжнар. навук. канф. памяці праф. А. Я. Міхневіча. Мінск: БДУ].

Lûbeckij P. 1918. *O belorusskom literaturnom âzyke.* "Čyrvony šlâh" № 7–8: 12–14 [Любецкий П. 1918. *О белорусском литературном языке.* "Чырвоны шлях" № 7–8: 12–14].

Stankevìč Adam. 2008. *Z Bogam da Belarusì.* Vìl'nâ: Ìnstytut belarusìstykì [Станкевіч Адам. 2008. *З Богам да Беларусі.* Вільня: Інстытут беларусістыкі].

Turonak Ûry. 2008. *Madèrnaâ gìstoryâ Belarusì.* Vìl'nâ: Ìnstytut belarusìstykì [Туронак Юры. 2008. *Мадэрная гісторыя Беларусі.* Вільня: Інстытут беларусістыкі].

Žylunovìč Zm. 1924. *Belaruskae pìs'menstva*. U: *Belarus'. Narysy gìstoryì, èkanomìkì, kul'tury ì rèvalûcyjnaga ruhu.* Mìnsk: Cèntr. vykan. kam. BSSR [Жылуновіч Зм. 1924. *Беларускае пісьменства.* У: *Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху*. Мінск: Цэнтр. выкан. кам. БССР].

**ABSTRACT:** The period of the middle of the XVIII century is considered a break in the development of the Belarusian culture, language and literature. The historical, cultural and literary processes in Belarus in the middle of the XVIII century, the state of the Belarusian language and the peculiarity of the works of Belarusian literature, the peculiarities of the confessional situation are evaluated differently by domestic scientists, writers, and publicists of the first half of the twentieth century. The researchers analyze the Belarusian-language confessional texts of the middle of the XVIII century and Belarusian-language worship and assert the use of the Belarusian language, although not always frequent, in the then national script, which casts doubt on the thesis of a break in the development between the periods of the old Belarusian language and the new Belarusian literary language. The bias and subjectivity in the interpretation of historical facts on the part of some researchers is explained by the political beliefs of the scientists, their commitment to a specific political view of the historical process in the country and its future fate.

**KEYWORDS**: Belarusian writing, confessional situation, texts of the XVIII century.

**STRESZCZENIE:** Okres połowy XVIII wieku uważany jest za okres przerwy w rozwoju białoruskiej kultury, języka i literatury. Proces historyczno-kulturalny i literacki na Białorusi w połowie XVIII wieku, stan języka białoruskiego i osobliwość dzieł literatury białoruskiej, cechy sytuacji wyznaniowej są różnie oceniane przez krajowych naukowców, literatów, publicystów pierwszej połowy XX wieku. Badacze analizują białoruskojęzyczne teksty wyznaniowe z połowy XVIII wieku i białoruskojęzyczne nabożeństwa i twierdzą, że użycie języka białoruskiego, choć nie zawsze częste, w ówczesnym piśmie narodowym podważa tezę o przerwie w rozwoju między okresami języka starobiałoruskiego i nowego białoruskiego języka literackiego. Tendencja i podmiotowość w interpretacji faktów historycznych ze strony niektórych badaczy wynika z przekonań politycznych naukowców, ich zaangażowania w konkretny polityczny pogląd na proces historyczny w kraju i jego dalsze losy.

**SŁOWA KLUCZOWE**: pismo białoruskie, sytuacja wyznaniowa, teksty XVIII wieku.

**РЭЗЮМЭ:** Сярэдзіны XVIII стагоддзя лічыцца перыядам перапынку ў развіцці беларускай культуры, мовы і літаратуры. Гісторыка-культурны і літаратурны працэс на Беларусі сярэдзіны XVIII стагоддзя, стан беларускай мовы і адметнасць твораў беларускай літаратуры, асаблівасці канфесійнай сітуацыі па-рознаму ацэньваюць айчынныя навукоўцы, літаратары, публіцысты першай паловы XX стагоддзя. Даследчыкі аналізуюць беларускамоўныя канфесійныя тэксты сярэдзіны XVIII стагоддзя ды беларускамоўнае набажэнства і сцвярджаюць выкарыстанне беларускай мовы, хоць і не заўсёды частае, у тагачасным нацыянальным пісьменстве, што ставіць пад сумнеў тэзіс пра перапынак у развіцці паміж перыядамі старабеларускай мовы і новай беларускай літаратурнай мовы. Тэндэнцыйнасць і суб'ектыўнасць у інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў з боку асобных даследчыкаў тлумачыцца палітычнымі перакананнямі навукоўцаў, іх прыхільнасцю да пэўнага палітычнага погляду на гістарычны працэс у краіне і яе далейшы лёс.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: беларускае пісьменства, канфесійная сітуацыя, тэксты XVIII стагоддзя.

*Data przesłania artykułu: 14.09.2021*
*Data akceptacji artykułu: 20.11.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Iryna Karatkevich / Ірына Караткевіч** – Białoruś, Białoruski Uniwersytet Państwowy, Katedra Języka Rosyjskiego jako obcego, kierownik Katedry; dr hab., docent; specjalność naukowa: językoznawstwo białoruskie i słowiańskie; zainteresowania naukowe: leksykografia słowiańska, słowiańsko-białoruskie związki językowe.

**Adres**: Katedra Języka Rosyjskiego jako obcego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego, ul. Akademicka 25, 220030 Mińsk, Białoruś

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Короткевич Ирина. 2020. *Словарь белорусского языка И.И. Носовича: становление национальной лексикографии* (65–69). В: *Славянские чтения – 2020: Сб. материалов Междунар. науч.-практ. конф*. Стерлитамак.
2. Караткевіч Ірына. 2020. *Слоўнік беларускай мовы Івана Насовіча: этналінгвістычны каментар*. "Acta Albaruthenica"20: 199–208.
3. Караткевіч Ірына. 2021. *Канфесійна-этнічны складнік у Слоўніку беларускай мовы І.І. Насовіча* (155–162). У: *І сказаў Хрыстос: "Ідзіце да Мяне…": зборнік артыкулаў па матэрыялах навуковых чытанняў "Мова – Рэлігія – Культура", прысвечаных 70-годдзю з дня нараджэння і 30-годдзю беларусазнаўчай дзейнасці ксяндза-каноніка Уладзіслава Завальнюка*. Мінск: Колорград.
4. Караткевіч Ірына. 2021. *Слоўнікі І. Насовіча і Б. Грынчэнкі: рэестр, крыніцы, акадэмічная ацэнка* (229–234). У: *Беларуская мова – галоўная гісторыка-культурная каштоўнасць нацыі і дзяржавы (да 90-годдзя Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа): зб. навук. арт*. Мінск: Беларуская навука.
5. Короткевич Ирина. 2021. *Русскоязычные толкования реестровых слов в Словаре белорусского языка И.И. Носовича: лингводидактический аспект* (328–330). У: *Международный научный конгресс «Русский язык в глобальном научном и образовательном пространстве» (6–10 декабря 2021 года). Сборник материалов*. Москва: Гос. ИРЯ им. А.С. Пушкина.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.231–247

**Марына Свістунова / Maryna Svistunova**

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт /
Belarusian State University
ORCID: https://orcid.org/0000-0001-8856-9530
e-mail: svistunovami@bsu.by

# Філолагі Варшаўскага ўніверсітэта XIX – пачатку XX ст. аб пісьмовай традыцыі беларускай мовы

*Philologists of the University of Warsaw of the XIX – begining of the XX^th^ centuries about the written tradition of the Belarusian language*

*Filologowie Uniwersytetu Warszawskiego XIX – początku XX wieku o tradycji pisemnej języka białoruskiego*

Філалагічныя даследаванні ў Варшаўскім універсітэце маюць даўнія, трывалыя і надзвычай багатыя традыцыі. Падчас заснавання і пачатку працы Каралеўскага Варшаўскага ўніверсітэта ў 1816 г. асобнай структуры, якая займалася б падрыхтоўкай будучых філолагаў і праводзіла філалагічныя навуковыя даследаванні, не было, але філалагічныя дысцыпліны выкладаліся, найперш – на факультэце навук і выяўленчага мастацтва (wydział nauk i sztuk pięknych), а таксама на тэалагічным [Bieliński 1907: 37–39]. У Варшаўскай галоўнай школе (1862–1869) пачалі дзейнічаць чатыры факультэты, у тым ліку і гісторыка-філалагічны. Закладзены падмурак філалагічнай адукацыі і даследаванняў яшчэ больш умацаваны быў у межах Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта (1870–1915) і найбольшае развіццё атрымаў у Варшаўскім універсітэце.

У розныя перыяды гісторыі ўніверсітэта апрача ўласна польскай мовы ў ім выкладаліся і вывучаліся класічныя мовы, заходнееўрапейскія, усходнеславянскія і іншыя славянскія, балтыйскія, цюркскія і інш., распрацоўваліся розныя напрамкі, сярод якіх – індаеўрапеістыка, арыенталістыка, анаталійская лінгвістыка і інш.

Папярэдняя гіпотэза нашага даследавання пра тое, што беларуская мова магла трапіць у поле ўвагі выкладчыкаў Варшаўскага ўніверсітэта ў канцы XIX – на пачатку XX ст. цалкам лагічная і прадказальная – фактычна толькі з гэтага часу беларуская мова стала ўспрымацца навуко-

вай супольнасцю як самастойная ўсходнеславянская мова і ўжо ў такім статусе пачала выступаць аб’ектам навуковых даследаванняў. Паступовы пераход ад збірання беларускага фальклору да стварэння аўтарскіх твораў па-беларуску, выкарыстанне яе пісьмовай формы ў грамадскай сферы, усведамленне самастойнага характару беларускай мовы і з’яўленне навуковай цікавасці да яе як да новага ў філалагічным асяродку аб’екта ініцыявалі з’яўленне напачатку асобных навуковых публікацый, а потым і самастойных даследаванняў, прысвечаных беларускай мове.

Апісанне беларусазнаўчых зацікаўленняў пэўных філолагаў, якія мелі адносіны да Варшаўскага ўніверсітэта ў розныя перыяды яго гісторыі, прадстаўлены ў сучаснай навуковай літаратуры дастаткова шырока. Тут перадусім можна назваць прозвішчы Самуэля Ліндэ, Яўхіма Карскага, Яна Станкевіча, Базыля Белаказовіча, Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай і інш. Разам з тым апісальна-аналітычныя даследаванні развіцця беларусазнаўства ў Варшаўскім універсітэце канца XIX – пачатку XX стст., наколькі нам вядома, адсутнічаюць. Такія працы дапамогуць вызначыць шляхі і асноўныя напрамкі навуковага развіцця не толькі ўласна Варшаўскага ўніверсітэта, не толькі беларусазнаўства ў межах універсітэта, але і ў цэлым беларусазнаўства як асобнага напрамку.

Прадметам нашага даследавання з’яўляецца пісьмовая традыцыя беларускай мовы ў асвятленні філолагаў Варшаўскага ўніверсітэта канца XIX – пачатку XX стст. Паняцце **пісьмовая традыцыя** патрабуе тлумачэння.

Слова **традыцыя** выступае ў якасці тэрміна з адметным спецыяльным значэннем у розных навуках: гісторыі, філасофіі, грамадазнаўстве, правазнаўстве, паліталогіі, псіхалогіі, сацыялогіі, культуралогіі, мастацтве, этнаграфіі, філалогіі і інш. Яго змест дэтэрмінаваны канкрэтным навуковым напрамкам, а сама традыцыя разумеецца як складаная шматаспектная і зменлівая катэгорыя. Адзначана слова **традыцыя** і ў складзе тэрміналагічнага апарата мовазнаўства, найперш гістарычнага. Аднак яго змест не выступае аб’ектам спецыяльнай увагі саміх мовазнаўцаў і, як правіла, вынікае з кантэкстаў, успрымаецца і асэнсоўваецца інтуітыўна, з улікам агульнапашыраных уяўленняў пра традыцыю наогул. Часцей за ўсё ў мовазнаўчым дыскурсе маецца на ўвазе **пісьмовая традыцыя**, даўнасць яе паходжання, бесперапынны або перарваны характар развіцця.

Пісьмовая традыцыя – гісторыка-мовазнаўчая катэгорыя, пад якой разумеецца функцыя перадачы пісьмовага маўлення, арганізаванага і рэалізаванага ў адпаведнасці з пэўнымі ўсталяванымі звычаямі і ўстаноўкамі, якія знаходзяцца ў стане дынамічнай раўнавагі, што

абумоўлена адноснай зменлівасцю самой моўнай сістэмы (асабліва ў перыяд да складвання літаратурнай формы нацыянальнай мовы). Пры гэтым аб'ектам пісьмовай традыцыі выступае не столькі знакавая сістэма – графіка (у гісторыі беларускай мовы вядомы тры графічныя сістэмы: кірылічная, лацінская і арабская), колькі ўласна лінгвістычны і літаратурны складнікі, якія знаходзяцца ў камплементарных адносінах. Важнымі кампанентамі ў структуры пісьмовай традыцыі выступаюць яе змест і спосабы перадачы (аб'ектныя адносіны) і стаўленне да яе саміх носьбітаў (суб'ектныя адносіны). Навуковае даследаванне сутнасці пісьмовай традыцыі павінна ўлічваць яе ўзаемадзеянне з інавацыямі [Свістунова 2021: 178–179].

Пісьмовая традыцыя беларускай мовы – шматаспектнае паняцце, звязанае з цэлым комплексам праблем: праблемай перарыву пісьмовай традыцыі, які звычайна суадносіцца з перыядам ад пачатку XVIII і да пачатку XIX ст.; праблемай пераемнасці паміж старабеларускім і перыядам новай беларускай літаратурнай мовы; праблемай перыядызацыі гісторыі беларускай літаратурнай мовы. У навуковай літаратуры гэта паняцце мае асвятленне, адпаведнае ўзроўню развіцця філалагічных ведаў наогул і ведаў пра беларускую мову і пісьменства на ёй у прыватнасці.

Далей прадстаўлена апісанне і аналіз поглядаў на пісьмовую традыцыю беларускай мовы некаторых філолагаў-славістаў, якія працавалі ў Варшаўскім універсітэце ў XIX – на пачатку XX ст.

### Каралеўскі Варшаўскі ўніверсітэт (1816–1831)

Вядома, што ў час заснавання Каралеўскага Варшаўскага ўніверсітэта ў 1816 г. на пасаду рэктара прэтэндаваў Самуіл Багуміл Ліндэ (1771–1847). Праўда, яго асоба не была зацверджана прафесарскай калегіяй, аднак знакаміты філолаг-славіст выкладаў ва ўніверсітэце ў 1816–1818 гг., а потым пэўны час быў дырэктарам універсітэцкай бібліятэкі, для якой нямала зрабіў.

Пытанне пра тое, ці выкарыстоўваў С. Ліндэ факты беларускай мовы пры ўкладанні свайго фундаментальнага *Слоўніка польскай мовы* (*Słownik języka polskiego*; 1807–1814), застаецца адкрытым – на гэты конт існуюць розныя меркаванні (гл., напр.: [Запрудскі 2020: 27–29]), а вось у пазнейшых працах – *Аб славянска-расійскай літаратуры* (*O literaturze słowiańsko-rosyjskiej*; 1815–1816; рэцэнзія на бібліяграфію Васіля Сопікава), *Аб Літоўскім статуце* (*O statucie litewskim: ruskim ięzykiem i drukiem wydanym wiadomość*; 1816), у прадмове да перакладу кнігі Мікалая Грэча *Гісторыя рускай літаратуры* (*Mikołaia Grecza rys historyczny literatury rosyjskiej*; 1823) – звесткі з беларускай мовы ўжо фігуруюць. Заўважым, што ў тэрміналогіі С. Ліндэ прысутнічае характэрная

філалагічным даследаванням XIX ст. варыянтнасць у найменні беларускай мовы, якую ён называе **język Biało-rosyyjski**, **język białoruski**, **dyalekt białoruski**, **dyalekt Biało-Ruski**. Разам з тым аналагічную функцыю выконвае ў яго і тэрмін **język ruski**. Так, С. Ліндэ піша, што Францыск Скарына ў прадмове да кнігі *Эсфір* згадвае пра „сваю прыроджаную рускую мову" ("wspomina o swóim przyrodzonym ruskim języku") [Linde 1815, III: 293]. Дарэчы, С. Ліндэ быў першым польскім навукоўцам, які ўжыў лінгвонім **беларуская мова** – у працы *Аб славянска-расійскай літаратуры* „ўпершыню ў польскамоўнай навуковай літаратуры сустракаецца выраз **беларуская мова**" [Запрудскі 2020: 18].

Па сутнасці, у С. Ліндэ лінгвонімы з часткамі **беларускі(ая)**, **рускі(ая)** суадносяцца са старажытным кірылічным пісьменствам на ўсходнеславянскіх землях (сучасных беларускіх і ўкраінскіх). Надаючы рамантычны арэал беларускай пісьмовай даўніне і разам з тым разглядаючы яе як набытак уласна польскай гісторыі і культуры, С. Ліндэ ў працы *Аб славянска-расійскай літаратуры* піша:

> далейшы ход гісторыі паказаў, што з нашага Кракава найпершыя друкі такога роду паходзілі, што Кіеў, Супрасль, Пачаеў, Нясвіж, Львоў, Вільна і г. д. былі напоўнены такімі друкамі, што імёны князёў Астрожскіх, Радзівілаў, Саламярэцкіх, Хадкевічаў і г. д. праз апекаванне імі гэтай галіны літаратуры славянскай вядомыя, што Літоўскія Статуты, першы і трэці, выйшлі па-руску, што ўсе Ягелоны ажно да Жыгімонта Аўгуста па-руску ў Літве пісалі, прывілеі і правы давалі [Linde 1815, III: 33–34].

І такім чынам, існаванне азначанай пісьмовай традыцыі рускай (а па сутнасці – старабеларускай) мовы ў адносінах да афіцыйна-справавога (канцылярскага) стылю С. Ліндэ абмяжоўвае 70-мі гадамі XVI ст. – канцом эпохі Жыгімонта Аўгуста (1520–1572).

У іншай маштабнай працы *Аб Літоўскім статуце* ў II раздзеле *Аб графіцы і мове Статута* С. Ліндэ адзначыў пранікненне рыс жывой народнай гаворкі (mowy potocznej) у дыялект бела-рускі (dyalekt Biało-Ruski), на якім напісаны тэкст са Святога Пісьма, змешчаны ў Статуце пад гербам Пагоня [Linde 1816b: 19]. На жаль, гаворка пра лёс гэтага „дыялекту" больш нідзе не ідзе, толькі ў апошнім сказе раздзела С. Ліндэ звязвае яго з гісторыяй Статута: "Dalszy zaś los tego dyalektu związany iest z Historyą tey Xięgi, o którey tu sprawę zdaiemy" [Linde 1816b: 19].

У прадмове да перакладу кнігі М. Грэча *Гісторыя рускай літаратуры* С. Ліндэ падкрэслівае неабходнасць устанавіць і захоўваць розніцу ва ўжыванні назваў славянскай, царкоўнай, рускай, маларасійскай, беларускай, сучаснай расійскай моў. Пра беларускую ён піша, што на ёй „гаворыць люд на Літве і часткова на Валыні" ([języka Białoruskiego], którym lud mówi w Litwie i po części na Wołyniu) [Linde 1823: 13].

У цэлым, як бачна, С. Ліндэ суадносіць пісьмовую традыцыю беларускай (рускай) мовы са старабеларускім перыядам і абмяжоўвае яе канцом XVI ст. Адсутнасць (ці выключная абмежаванасць?) беларускамоўнага пісьменства ў той час, калі С. Ліндэ пісаў вышэйназваныя працы (1815–1823), не дазвалялі яму звязваць гэту пісьмовую традыцыю з фактамі рэчаіснасці.

### Галоўная Варшаўская школа (1862–1869)

Як вядома, адной з рэакцый улад царскай Расіі на Лістападаўскае паўстанне 1830–31 гг. стала ліквідацыя Каралеўскага Варшаўскага ўніверсітэта. Пэўны час функцыі вышэйшай навучальнай установы выконвала Галоўная Варшаўская школа (1862–1869), у якой дзейнічалі чатыры факультэты: медыцынскі, матэматычна-фізічны, права і адміністрацыі, гісторыка-філалагічны (апошні – з трыма аддзяленнямі: класічных моў, славянскіх моў, гістарычных навук). І хоць Галоўная школа праіснавала ўсяго толькі сем гадоў, ёй, безумоўна, быў зроблены істотны ўнёсак у развіццё ў Польшчы навукі і вышэйшай адукацыі.

На гісторыка-філалагічным факультэце Галоўнай Варшаўскай школы выкладаліся наступныя філалагічныя дысцыпліны: старажытнагрэчаская мова і літаратура (Антоні Межынскі, Аўгустын Шмурла), лацінская мова і літаратура (Зыгмунт Венцлаўскі, Ян Вальфрам), стараславянская мова (Юліян Каткоўскі, Пётр Палявы), польская мова (Юзэф Пшыбароўскі), польская літаратура (Адам Белцікоўскі, Аляксандр Тышынскі), руская мова (Мікалай Берг, Ян Савініч), руская літаратура (Пётр Вайнберг), чэшская мова і літаратура (Францішак Квет, Уладзіслаў Харашэўскі), англійская мова і літаратура (Францішак Кушэль), нямецкая мова і літаратура (Ян Зэйдоўскі), французская мова і літаратура (Людвік Ламберт), італьянская мова (Густаў Лазарыні), замежная літаратура (Хенрык Левістам), параўнальная граматыка славянскіх моў (Ян Паплонскі), а таксама бібліяграфія і палеаграфія (Караль Эстрайхер) [*Wykaz*… 1864–1869].

Як бачна, сярод выкладчыкаў Галоўнай Варшаўскай школы багата прозвішчаў выбітных філолагаў свайго часу. Адзін з іх, Я. Паплонскі, ва *Уступнай лекцыі ў параўнальную філалогію славянскіх моў* (*Lekcyja wstępna filologii porównawczej sławiańskiej* 1864) адносна ўкраінскай і беларускай моў выказаўся наступным чынам: „Гаворкі маларуская і беларуская ў школах наогул не вывучаюцца” (Narzeczy mało-ruskiego i biało-ruskiego w żadnych szkołach nie uczono wcale) [Papłoński 1864: 21–22]. І гэта – адзіная згадка пра беларускую мовы ва ўсім тэксце лекцыі. Зразумела, што шукаць у яе аўтара разваг пра беларускамоўную пісьмовую традыцыю ў такіх абставінах не выпадае наогул. Звернем увагу на тое, што ў той частцы, дзе гаворка ідзе пра сучаснае аўтару лекцыі

выкарыстанне розных славянскіх моў і складанне іх граматык, **маларуская** і **беларуская гаворкі** (**narzecza**) выступаюць у адным шэрагу з **мовай вялікарускай** (**język wielko-ruski**), аднак у статусе гаворак [Papłoński 1864: 21–22].

Пасля Студзеньскага паўстання 1863–1864 гг. (паўстання Кастуся Каліноўскага ў беларускай гістарыяграфіі) Галоўная Варшаўская школа спыніла сваё існаванне. З часам многія яе выкладчыкі сталі супрацоўнікамі Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта.

## Імператарскі Варшаўскі ўніверсітэт (1870–1915)

Замест Галоўнай Варшаўскай школы ад 1870 г. пачынае дзейнічаць Імператарскі Варшаўскі ўніверсітэт. Адпаведна палітыцы, што праводзілася ў Каралеўстве Польскім расійскімі імперскімі ўладамі, выкладанне і справаводства ва ўніверсітэце вялося па-руску, выкладчыцкія і кіраўніцкія пасады былі амаль недаступнымі для мясцовых палякаў. Аднак і ў такіх умовах універсітэт стаў буйным навуковым і адукацыйным асяродкам.

Першы рэктар Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта ў 1869–1872 гг. – Пётр Лаўроўскі (1827–1886) – філолаг, вядомы не толькі сваімі даследаваннямі помнікаў старажытнага славянскага пісьменства і славянскай этнаграфіі, але і русафільскімі поглядамі. Яшчэ ў бытнасць прафесарам Харкаўскага ўніверсітэта П. Лаўроўскі апублікаваў *Разбор сочинения гг. А.Н. Пыпина и В.Д. Спасовича: „Обзор истории славянских литератур”* (1867), у якім, следам за А. Пыпіным, літаратурамі рускага племені назваў рускую, маларускую і галіцка-рускую [Лавровский 1867: 14]. І калі ён робіць заўвагу ў адрас А. Пыпіна, што „о малоруссах автор не приводит литературы ни по языку, ни по истории, ни по народной словесности” і сам указвае адпаведную літаратуру [Лавровский 1867: 57], то пра беларусаў, іх мову, гісторыю і народную творчасць не згадваецца наогул. Нідзе ва ўсёй вялікай, на 76 старонак, рэцэнзіі не ідзе гаворка пра спецыфіку мовы твораў рускай літаратуры, не згадваецца існаванне беларускай або, напрыклад, „западнорусской” ці „літоўскай” мовы (‘літаратурна-пісьмовай мовы Вялікага Княства Літоўскага’).

Вядомы як збіральнік беларускай і літоўскай лексікі, аўтар даследаванняў у рэчышчы параўнальна-гістарычнага мовазнаўства Станіслаў Мікуцкі (1814–1890) працаваў на кафедры параўнальнага мовазнаўства Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта ў 1873–1888 гг. Публікацыя ў 1853–1856 гг. беларускай лексікі прынесла яму пэўную вядомасць у навуцы. Сабраныя даныя С. Мікуцкі выкарыстоўваў у сваіх пазнейшых параўнальна-гістарычных даследаваннях, разглядаючы беларускую мову ў духу заходнерусізму як „наречие” рускай мовы. Так,

напрыклад, у *Наблюдениях и замечаниях о лето-славянском языке сравнительно с прочими славянскими языками* (1867) С. Мікуцкі выкарыстоўвае азначэнне **западнорусское** (**слово**), прыводзячы ілюстрацыі з беларускай мовы [Микуцкий 1867: 6, 9, 14, 15, 20 і інш.], а дадатак-каментар да адной працы Франца Міклашыча ён пачынае так (арыгінальны правапіс захаваны):

> Державная Русь есть единственная представительница Словянства. На Руси вполнѣ сохранились основныя, коренныя Словянскія начала: – в мѣстныхъ оттѣнкахъ Русской рѣчи можно отыскать начатки, зародыши западныхъ и южныхъ Словянскихъ нарѣчій. Мелкіе и разрозненные народцы Словянскіе, изнывающие под всевозможными гнетами, – суть отпрыски громаднаго Русскаго народа [Микуцкий 1867: 611].

Навуковы інтарэс для С. Мікуцкага беларуская мова ўяўляла як адна з разнавіднасцей рускай мовы, пра існаванне асобнага беларускага пісьменства гаворка не ідзе.

Прафесарам класічнай філалогіі ў Галоўнай Варшаўскай школе, а з 1888 г. і ў Імператарскім Варшаўскім універсітэце, пэўны час дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта быў філолаг-класік і спецыяліст па літоўскай міфалогіі Антоні Межынскі (1829–1907). Нашу ўвагу прыцягнула яго праца *Прысяга Кейстута* (*Przysięga Kiejstuta*, 1894), у якой А. Межынскі сярод іншага аналізуе „цьмяныя" словы ў лацінскім тэксце прысягі з хронік XIV ст. і робіць вывад пра тое, што „словы гэтыя маюць прыметы рускай гаворкі, можа быць – яны беларускія; па-літоўску было б ragutą ziurek, devs su mumis" (Słowa te maja cechy ruskiego narzecza, być może są białoruskie; po litewsku byłoby ragutą ziurek, devs su mumis) [Mierzyński 1894: 14]. Тут не згадваецца беларускамоўная пісьмовая традыцыя, але, па-першае, меркаванне і тлумачэнне „цьмяных" слоў, зробленае А. Межынскім, мае цікавасць для гісторыі ранняга беларускага пісьменства, па-другое, зварот да беларускай мовы сведчыць, што яна магла выступаць аб'ектам лінгвістычных даследаванняў.

У апошняй трэці XIX ст. у Імператарскім Варшаўскім універсітэце працавалі знакамітыя філолагі свайго часу. Апрача вышэйзгаданых гэта былі спецыялісты ў галіне класічнай філалогіі Мікалай Благавешчанскі (1821–1892; рэктар універсітэта ў 1872–1883 гг.), Грыгорый Зенгер (1853–1919; рэктар у 1897–1899 гг.), Сяргей Вехаў (1857–1919; рэктар у 1913–1915 гг.), Оскар Базінер (1857–1909; гады працы ва ўніверсітэце: 1897–1907); прыхільнік ідэі адзінства славян, спецыяліст па славянскай філалогіі Антоній Будзіловіч (1846–1908; рэктар у 1890–1892 гг.); спецыяліст па літоўскай і стараславянскай мовах Грыгорый Ульянаў (1859–1912; рэктар у 1899–1904 гг.); спецыяліст у галіне славянскіх старажытнасцей, гісторыі, мовы і этнаграфіі, а таксама пры-

хільнік ідэі адзінства славян Осіп Первольф (1841–1891; гады працы ва ўніверсітэце: 1871–1891); вядомы даследаваннямі па гісторыі і дыялекталогіі рускай мовы Мітрафан Коласаў (1839–1881; гады працы ва ўніверсітэце: 1871–1881); гісторык славянскага права, філолаг-славіст Фёдар Зігель (1845–1921; гады працы ва ўніверсітэце: 1873–1915) і інш.

Названыя навукоўцы, кожны з якіх быў сапраўдным спецыялістам у пэўнай галіне філалогіі, разам з тым праводзілі ў сваёй навуковай і выкладчыцкай дзейнасці палітыку расійскіх імперскіх улад, выражалі, а некаторыя з іх і вельмі актыўна прапагандавалі ідэалогію, якая зыходзіла з таго, што ўсе „окраинные русские земли" і народы павінны быць ва ўсім далучаны да карэнных рускіх. Як мага лепш гэтым мэтам адпавядалі ідэі панславізму і славянафільства з галоўным тэзісам пра першасную ролю Расіі і рускіх сярод славян і іх місію ў справе аб'яднання ўсіх славян. Гэтыя ідэі і настроі былі вельмі пашыранымі ў асяродку выкладчыкаў Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта ў апошняй трэці XIX – на пачатку XX ст. I ў цэлым, як сведчыць, напрыклад, даследаванне *Императорский университет в Варшаве: проблемы польско-российских взаимоотношений (1869–1915)*, праведзенае доктарам гістарычных навук Сяргеем Міхальчанкам, атмасфера як сярод выкладчыкаў, так і сярод студэнтаў універсітэта была дастаткова напружанай і неспрыяльнай [Михальченко 2005: 37, 42–44 і інш.].

Для ілюстрацыі пануючых у апошняй трэці XIX – на пачатку XX стст. універсітэцкіх настрояў прывядзём вытрымкі з гістарычнай працы *Может ли Россия отдать инородцам свои окраины?* (1907) прафесара Антонія Будзіловіча, які быў рэктарам універсітэта ў 1890–1892 гг.

> Таким образом, в течение двух-трех веков Русское государство раздвинулось на севере до водоската Белого моря, на юге до берегов Азовского (Сурожского), на востоке до средней Волги, а на западе до среднего течения рек Немана и Западной Двины. По течению последней, равно как и по Неве уже завязывались кое-какие сношения русских славян с прибалтийскими, еще господствовашими в те века на южных побережьях Варяжского моря [Будилович 1907: 6–7].
>
> Более того, даже столь исконные русские области, как Белая, Черная и Малая Русь, Подляшье и Холмщина, Волынь, Подолье и Украйна, наполнились в течение последнего века множеством инопленеников – польского, еврейского, немецкого происхождения – поколебавших тут не поверхность только, но и самые устои русской народности и образованности [Будилович 1907: 11–12].
>
> В Росии же западной предкам нынешних белоруссов и малоруссов пришлось целые века нести на своих плечах тяжесть государства польсколитовского, питая своими соками целые орды инородцев – магнатов, шляхтичей, монахов, бюргеров, торгашей. Даже воссоединение этих старых гнезд русской народности с Московским государством при Алексее

> Михайловиче и Екатерине II не освободило белорусов и малорусов от тяготевшего над ними гнета, а отчасти еще усилило таковой в пользу пришлых поляков, немцев, евреев [Будилович 1907: 34–35].
> Есть теперь в Белоруссии и Украйне некоторое число и русских людей, главнейше в среде образованной, которые мечтают о выделении Белоруссии и Украйны в особые автономные области, связанные с Великороссией и прочими частями государства узами федерации. При этом предполагается, что в Белоруссии должно господствовать в управлении, судах и школах местное белорусское наречие, пока вовсе еще лишенное книжной оборботки [Будилович 1907: 22].

У кантэксце нашай тэмы пэўную цікавасць маюць словы А. Будзіловіча пра тое, што беларуская гаворка (белорусское наречие) на час напісання працы (1907) зусім не мела кніжнай апрацоўкі. Можна здагадвацца, што маецца на ўвазе пад **кніжнай апрацоўкай**: выпрацоўка пісьмовай формы дадзенай мовы – і тады мы маем канстатацыю факта яе адсутнасці (што пры наяўных апублікаваных да 1907 г. творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і інш., а таксама беларускамоўнага перыядычнага друку выглядае недасведчанасцю або наўмысным ігнараваннем), ці – што больш верагодна – пад кніжнай апрацоўкай тут маецца на ўвазе выпрацоўка, сістэматызацыя і ўвядзенне ў зварот літаратурных нормаў – і тады мы маем канстатацыю адсутнасці літаратурных нормаў для тагачаснай беларускай мовы, што адпавядала стану яе развіцця. Пра пісьмовую традыцыю, якая існавала ў старажытнасці на беларускіх і ўкраінскіх землях, у працы А. Будзіловіча гаворка не ішла, паколькі сама тэма гэтага не вымагала (але хутчэй за ўсё яна разглядалася б ім як пісьмовая традыцыя рускай мовы).

Можна адзначыць, што якія б то ні былі беларусістычныя даследаванні – ні на прыкладзе літаратурных ці фальклорных твораў, ні на прыкладзе гаворак (у сучасным значэнні гэтага тэрміна), ні на прыкладзе помнікаў старажытнага пісьменства (параўн. з працамі С. Ліндэ першай чвэрці XIX ст.) – філолагамі Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта ў апошняй трэці XIX ст. не праводзіліся, наколькі нам вядома на сённяшні дзень. Дзеля справядлівасці згадаем, што ў сваіх навуковых працах С. Мікуцкі выкарыстоўваў беларускую мову, А. Межынскі спарадычна звяртаўся да яе, а О. Первольф вывучаў Літоўскую Метрыку і рукапісы Імператарскай публічнай бібліятэкі падчас падрыхтоўкі шматтомнай працы *Славяне, их взаимные отношения и связи* (1886–1890) [Грот 1892: 146].

Якасны зрух у напрамку пашырэння беларусістычных зацікаўленняў трэба звязваць з прыходам ва ўніверсітэт будучага заснавальніка беларускага мовазнаўства Яфіма Карскага.

Але перш, чым звярнуцца да разгляду ў межах нашай тэмы дзейнасці гэтага філолага, выкажам адно назіранне. У той час, як бела-

русістыка ў сценах Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта фактычна не тое што не развівалася, але ў прынцыпе не існавала, філолагі ўніверсітэта займаліся – і дастаткова плённа – вывучэннем літоўскай (у сучасным значэнні гэтага лінгвоніма) мовы. Напрыклад, С. Мікуцкі вядомы не толькі як збіральнік беларускай, але і літоўскай лексікі (гл.: *Проба литовско-русского словаря* (1854); *Отчеты Второму отделению Академии наук о филологическом путешествии по западным краям России кандидата С.П. Микуцкого* (1855–56); *Наблюдения и замечания о лето-славянском языке, сравнительно с прочими арийскими языками* (1867) і інш. яго працы варшаўскага перыяду ў духу параўнальнага мовазнаўства). А. Межынскі быў аўтарам даследаванняў па літоўскай міфалогіі і выкарыстоўваў у іх факты літоўскай мовы (гл.: *Źródła do mytologii litewskiej: od Tacyta do końca XIII wieku* (1892); *Przysięga Kiejstuta* (1894); *Mythlogiæ Lituanicæ Monumenta* (ч. 1, 1892; ч. 2, 1896); *Zródla do mytologii litewskiej: wiek XIV i XV* (1896) і інш.). Г. Ульянаў яшчэ да прыходу ў Імператарскі Варшаўскі ўніверсітэт абараніў магістарскую і доктарскую дысертацыі, звязаныя з вывучэннем літоўскай мовы [*Основы настоящего времени в старославянском и литовском языках* (1889); *Значение глагольных основ в литовско-славянском языках. Ч. 1. Основы, обозначающие различия по залогам* (1891); *Ч. 2. Основы, обозначающие различия по видам* (1895)], факты якой выкарыстоўваў у пазнейшых параўнальна-мовазнаўчых даследаваннях. Ужо ў 1920-я гг. у Варшаўскім універсітэце працаваў Віктар Пажазінскі, які таксама папярэдне абараніў магістарскую і доктарскую дысертацыі па балцкіх мовах [*К истории форм спряжения в балтийских языках. Общее введение. Образование форм лица и основ времени и наклонения* (1901); *Возвратная форма глаголов в литовском и латышском языках* (1903)].

Заўважым таксама, што прыхільнікі тэорыі балта-славянскага генетычнага адзінства для наймення мовы адпаведнага перыяду выкарыстоўвалі лінгвонімы **лета-славянская** (С. Мікуцкі), **літоўска-славянская** (Г. Ульянаў, В. Пажазінскі) мова. Гэта, у сваю чаргу, карэлявала з русафільскімі ідэямі; напэўна, таму балтыстыка і атрымала пэўнае пашырэнне ў Імператарскім Варшаўскім універсітэце. Пэўнае – таму што свае асноўныя працы названыя філолагі апублікавалі, як правіла, яшчэ да пачатку дзейнасці ва ўніверсітэце.

Як адзначана вышэй, беларусістычныя даследаванні ў сценах Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта распачаліся з прыходам Я. Карскага (1861–1931). 17 верасня 1891 г. ён паспяхова здаў магістарскі экзамен на гісторыка-філалагічным факультэце гэтага ўніверсітэта, а 24 кастрычніка 1893 г. савет Кіеўскага ўніверсітэта Святога Уладзіміра прысудзіў яму навуковую ступень магістра за працу *Обзор звуков и форм белорусской речи*, якая з’яўляецца першай у гісторыі дысерта-

цыяй па беларускім мовазнаўстве, і за працу *К истории звуков и форм белорусской речи*. Уступную лекцыю па гісторыі рускай літаратурнай мовы ў Імператарскім Варшаўскім універсітэце Я. Карскі прачытаў яшчэ раней – 27 лютага 1893 г., а з 28 кастрычніка гэтага ж года ён залічаны на кафедру рускай і царкоўнаславянскай мовы. Апрача рускай мовы Я. Карскі выкладаў дыялекталогію рускай мовы, царкоўнаславянскую мову, славянскую палеаграфію. З 26 чэрвеня 1894 г. – на пасадзе экстраардынарнага прафесара кафедры рускай і царкоўнаславянскай мовы і гісторыі рускай літаратуры. 14 снежня 1896 г. саветам Маскоўскага ўніверсітэта яму прысуджана навуковая ступень доктара філалогіі за працу *Западнорусские переводы псалтыри в XV–XVII веках*. З 14 лютага 1897 г. – ардынарны прафесар, з 1902 г. – дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта, у 1905–1910 гг. – рэктар Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта. У 1915–1916 гг. жыў у Растове-на-Доне і працаваў ва ўніверсітэце ва ўмовах эвакуацыі да яго закрыцця.

Не будзе памылкай сказаць, што варшаўскі перыяд (1893–1915) для навуковай дзейнасці Я. Карскага аказаўся самым актыўным і плённым. За гэты час ім былі напісаны і апублікаваны працы па славянскай палеаграфіі, беларускай мове, яе гісторыі, дыялекталогіі і этнаграфіі, а таксама па рускай літаратурнай мове, яе гісторыі і дыялекталогіі, якія не страцілі сваёй навуковай вартасці да гэтага часу. Іх хоць бы прыблізны пералік можа заняць некалькі старонак. Але самае галоўнае – менавіта ў варшаўскі перыяд жыцця Я. Карскага была выпрацавана канцэпцыя, збіраўся асноўны фактычны матэрыял, стваралася і пачала выходзіць з друку яго манументальная шматтомная праца *Беларусы* (Варшава–Масква–Петраград, 1903–1922), якую пазней назавуць энцыклапедыяй беларусазнаўства і найвышэйшым дасягненнем еўрапейскай славістыкі канца XIX – пачатку XX ст.

Прыглядаючыся да навуковай спадчыны Я. Карскага, няцяжка заўважыць, што, з аднаго боку, беларускую мову ён разглядаў у духу заходнерусізму як адну з рускіх гаворак, аднак, з другога боку, у сваіх даследаваннях зыходзіў з успрымання яе як мовы самастойнай. Праілюструем выказанае меркаванне.

З аднаго боку – у працах Я. Карскага *Что такое древнее западнорусское наречие*? (1893), *К истории звуков и форм белорусской речи* (1893), *Материалы для изучения белорусских говоров* (1897, 1897, 1899), *Белорусы. Язык белорусского племени. Исторический очерк звуков белорусского наречия* (1908) і інш. фігуруюць лінгвонімы **белорусское наречие**, **белорусская речь**, **белорусские говоры, (старое/древнее) западнорусское наречие** (апошні лінгвонім выкарыстоўваецца ім у адносінах да літаратурна-пісьмовай мовы перыяду ВКЛ). Лінгвонім **белорусский язык** у I томе *Беларусаў* Я. Карскі выкарыстаў у 4 раздзе-

ле, які называецца *Объединение всех белорусских племен под властью Литвы и окончательная выработка „белорусской народности" и „белорусского языка". Заимствования из литовского и латышского языков*. І этнонім, і лінгвонім узяты ў двукоссе невыпадкова. Заўважым, што ў моваазнаўчых працах XIX ст. **беларускай** часам называлі літаратурна-пісьмовую мову эпохі ВКЛ [Запрудскі 2020: 17]. На нашу думку, менавіта ў такім значэнні ў дадзеным выпадку ўжыты Я. Карскім выраз **белорусский язык**. Манаграфія *Беларусы* выдавалася цягам 18-ці насычаных бурнымі палітычнымі падзеямі гадоў; натуральна дапусціць, што навуковыя погляды Я. Карскага за гэты час маглі змяніцца, прынамсі ў апошняй кнізе манаграфіі прысутнічаюць выразы **живая белорусская речь**, **современный нам белорусский язык**, **современная белорусская речь** [Карский 1921: 211, 215, 239] з цалкам сучасным значэннем.

З другога боку – пры стварэнні, напрыклад, этнаграфічнай карты беларускага племені да І-га тома *Беларусаў* параметрам, паводле якога размяжоўваліся беларусы і іншыя народы, выступіла менавіта мова – **белорусский говор** у тэрміналогіі Я. Карскага. Або, напрыклад, пачатак існавання арыгінальнага заходнярускага пісьменства звязваецца аўтарам *Беларусаў* з часам, калі гэтае пісьменства пачынае адлюстроўваць асаблівасці **белорусского наречия** – з XIV ст. [Карский 1921: 3–4].

Як тлумачыць сам Я. Карскі ў прадмове да І-га і ІІ-га тамоў *Беларусаў*, беларускую мову як адну з рускіх гаворак неабходна вывучаць таму і для таго, што гэта патрэбна, каб дасканала вывучыць рускую мову, яе гаворкі, гісторыю, а таксама літаратуру і этнаграфію.

> Надобность в научном словаре живого белорусского наречия и в особом словаре старого западнорусского языка очевидна для каждого занимающегося историей русского языка, югозападной литературой, западнорусской историей и этнографией, а также и для разных практических целей [Карский 1903: III].
> Исходя из того положения, что появление научной грамматики русского языка и его истории возможно лишь после тщательного изучения живых русских наречий и истории последних, автор во II-м томе *Белорусов* приступил к детальной разработке языка белорусского племени [Карский 1908: III].

З улікам вышэйпрыведзенных назіранняў становіцца зразумелым, што **западнорусская письменность**, як і „**белорусский язык**" [=(***старое/древнее***) ***западнорусское наречие***] для Я. Карскага – гэта часткі складанай сістэмы рускага пісьменства і гісторыі рускай літаратурнай мовы. Я. Карскі, безумоўна, быў самым дасведчаным філолагам у галіне гісторыі пісьменства на беларускіх землях, хоць і не лічыў, і не называў яго ўласна беларускім (у сучасным разуменні гэтага слова).

Найбольш грунтоўна і поўна распрацаваную і аргументаваную канцэпцыю Я. Карскага адносна станаўлення і развіцця пісьмовай традыцыі на беларускіх землях можна выявіць у манаграфіі *Беларусы* ў III-м томе, які мае назву *Очерки словесности белорусского племени. 2. Старая западнорусская письменность* (Петроград, 1921), а таксама ў I-м томе *Введение к изучению языка и народной словесности* (Варшава, 1903).

У агульных рысах гэтую канцэпцыю можна прадставіць так. Пасля прыняцця хрысціянства ва ўсходніх славян пашыраецца пісьменства і – адпаведна – узнікае ўласная пісьмовая традыцыя, якая на першых парах з'яўляецца агульнай для ўсіх плямёнаў. З XIV ст. у пісьмовую мову трапляюць асаблівасці **белорусского наречия**, што дазваляе гаварыць аб нараджэнні **западнорусской письменности**, якая дасягнула росквіту ў XV–XVI стст. У выніку паланізацыі краіны і грамадства „письменность в Западной Руси естественно прекращается, оставаясь пока в Малоруссии" [Карский 2021: 17]. Прыняцце пастановы 1696 г. пра неабходнасць выкарыстання польскай мовы ў афіцыйна-справавой сферы азначыла канец заходнярускага пісьменства. Наступны перыяд у гісторыі беларускай мовы і пісьменства – **новую эпоху в белорусском языке** (**и письме кириллицей**) – Я. Карскі звязвае з канцом XVIII ст. – 1772 г., падзеламі Рэчы Паспалітай і часам, „когда белорусские области снова стали входить в тесное соприкосновение с Великоруссией" [Карский 1921: 17]. Неабходна звярнуць самую пільную ўвагу на змешчаны ў дужках выраз (и письме кириллицей). У апісанні старога заходнярускага пісьменства Я. Карскі змясціў два асобныя раздзелы, прысвечаныя пісьменству лацінскай і арабскай графікай, дзе адзначаны і час пашырэння гэтага пісьменства: камедыі з інтэрлюдыямі, напісаныя пабеларуску лацінкай, „сохранились в значительном количестве рукописей, относящихся к XVII–XVIII столетиям" [Карский 1921: 211], а кітабы захаваліся ад XVI–XVII стст., „в ⍰VIII в. белорусские татары <…> стали пользоваться латино-польским письмом" [Карский 1921: 239]. Пачатак з'яўлення **искусственных белорусских произведений на народном языке** Я. Карскі адносіць да канца XVIII ст. Ён адзначае, што гэтыя творы былі надрукаваны толькі ў 40–60-х гг. XIX ст. і ў цэлым ацэньвае іх як недасканалыя. „Литература на белорусском наречии все же не возникла" [Карский 1903: 430], – канстатуе ён. Храналагічна першым такім творам Я. Карскі называе *Энеіду*, далей – творы Аляксандра Рыпінскага, Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Вікенція Каратынскага, а таксама ананімную паэму *Тарас на Парнасе*, згадвае „брошюры-прокломации, имевшие целью возбуждение простого народа против православной церкви и русских", – „Мужыцкую праўду" Кастуся Каліноўскага, *Гутарку старога дзеда* і некаторыя інш., а таксама **искусственные произведения**,

якія трапілі ў розныя апублікаваныя фальклорныя зборы. Толькі самыя апошнія па часе ўзнікнення творы, напісаныя па-беларуску, Я. Карскі ўключыў у раздзел *Новейшие более или менее художественные стихотворения на белорусском наречии*, куды трапілі творы Янкі Лучыны, Францішка Багушэвіча і іншыя.

Такім чынам, пісьменства на беларускіх землях Я. Карскі падзяляе на дзве часткі: **западнорусскую письменность** і – праз пэўны перапынак – **искусственные белорусские произведения на народном языке**. І калі першую ён апісваў як арыгінальную, добра развітую, то другую – як недасканалую на пачатку яе ўзнікнення і незапатрабаваную, сярод прычын чаго называе 1) адсутнасць таленавітых твораў сярод першых такіх спроб, 2) непісьменнасць „простого народа", 3) генетычную блізкасць „народного белорусского языка к южновеликорусскому вследствие чего, если опустить в напечатанном этимологически белорусском произведении дзеканье, цеканье, то получится почти общелитературное произведение, отличающееся только меншей отделкой и, следовательно, менее достойное внимания читателя" [Карский 1903: 431]. Неабходна мець на ўвазе і тое, што Я. Карскі піша пра заняпад заходнярускага пісьменства, маючы на ўвазе яго кірылічную і арабаграфічную разнавіднасці; гэтае ж назіранне ў адносінах да лацінаграфічных тэкстаў ён не пацвярджае.

У якасці агульнага заключэння трэба прызнаць, што рабочая гіпотэза нашага даследавання атрымала пацвярджэнне толькі часткова: сапраўды, вывучэнне беларускамоўнай пісьмовай традыцыі ў рэчышчы беларусістыкі атрымала пашырэнне ў Варшаўскім універсітэце толькі ў самым канцы XIX – на пачатку XX ст. у працах Я. Карскага. Але фактычна дзейнасцю гэтай асобы ў час існавання Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта яно (вывучэнне) і вычэрпваецца, можна, праўда, згадаць, што С. Мікуцкі выкарыстоўваў факты беларускай мовы ў сваіх параўнальна-гістарычных працах, спарадычна звяртаўся да яе А. Межынскі, а О. Первольф вывучаў Літоўскую Метрыку і старажытныя рукапісы. У больш ранніх працах 1815–1816 гг. старажытнаму беларускаму пісьменству шмат увагі надаваў С. Ліндэ.

І хоць у сценах Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта ў апошняй трэці XIX – на пачатку XX ст. працавала нямала вядомых філолагаў, славянафільскае асяроддзе не спрыяла вывучэнню азначанай тэмы і беларусістычным даследаванням, якія набылі актуальнасць і сталі прыносіць плён ужо ў Варшаўскім універсітэце ў XX ст. Адзінае выключэнне складае Я. Карскі, у працах якога прадстаўлены той погляд на існаванне беларускамоўнай пісьмовай традыцыі, які ў далейшым стане пануючым і адпаведна якому паміж старабеларускім перыядам і новой эпохай у беларускай мове існаваў пэўны беспісьмовы час.

## Бібліяграфія


Ânuškevìč Âzèp, Cvìrka Kastus'. 2001. *Âŭhìm Karskì ì âgo „Belarusy”* (5–30) U: Karskì Â. *Belarusy*:. Mìnsk: Belaruskì knìgazbor [Янушкевіч Язэп, Цвірка Кастусь. 2001. *Яўхім Карскі і яго „Беларусы”* (5–30) У: Карскі Я. *Беларусы*:. Мінск: Беларускі кнігазбор].

Bieliński Józef. 1907. *Królewski Uniwersytet Warszawski (1816–1831)*, t. 1. Warszawa: [s. n.], (Kraków: W. L. Anczyc).

Budilovič Antonij. 1907. *Možet li Rossiâ otdat' inorodcam svoi okrainy?* S.-Pbg.: Tip. A.S. Suvorina [Будилович Антоний. 1907. *Может ли Россия отдать инородцам свои окраины?* С.-Пбг.: Тип. А.С. Суворина].

Grot Konstantin. 1892. *O.O. Pervol'f: nekrolog*. „Žurnal Ministerstva narodnogo prosveŝeniâ”, č. CCLXXIX: 141–150 [Грот Константин. 1892. *О.О. Первольф: некролог*. „Журнал Министерства народного просвещения”, ч. CCLXXIX: 141–150].

Karskij Efim. 1903. *Belorusy.* Tom I: *Vvedenie k izučeniû âzyka i narodnoj slovesnosti.* Varšava: Tip. Varš. uč. okruga [Карский Ефим. 1903. *Белорусы.* Том I: *Введение к изучению языка и народной словесности*. Варшава: Тип. Варш. уч. округа].

Karskij Efim. 1908. *Belorusy.* Tom II: *Âzyk belorusskogo plemeni. 1. Istoričeskij očerk zvukov belorusskogo narečiâ* [Карский Ефим. 1908. *Белорусы.* Том II: *Язык белорусского племени.* 1. *Исторический очерк звуков белорусского наречия*. Варшава: Тип. Варш. уч. округа].

Karskij Efim. 1921. *Belorusy.* Tom III: *Očerki slovesnosti belorusskogo plemeni. 2. Staraâ zapadnorusskaâ literatura.* Petrograd: 12-â Gosud. Tipografiâ [Карский Ефим. 1921. *Белорусы*. Т. III: *Очерки словесности белорусского племени*. 2. *Старая западнорусская литература*. Петроград: 12-я Госуд. Типография].

Lavrovskij Pëtr. 1867. *Razbor sočineniâ gg. A.N. Pypina i V.D. Spasoviča: „Obzor istorii slavânskih literatur”.* V: *Otčet o devâtom prisuždenii nagrad grafa Uvarova*: 11–87. SPb.: V Tip. Imper. Akad. nauk [Лавровский Пётр. 1867. *Разбор сочинения гг. А.Н. Пыпина и В.Д. Спасовича: „Обзор истории славянских литератур”*. В: *Отчет о девятом присуждении наград графа Уварова*: 11–87. СПб.: В Тип. Импер. Акад. наук].

Linde Samuel. 1815–1816a. *O literaturze słowiańsko-rosyjskiej.* „Pamiętnik Warszawski” 1815, t. 2 (sierpień): 411–428, t. 3 (wrzesień): 14–34, t. 3 (październik): 133–150, t. 3 (listopad): 277–298; 1816, t. 4 (styczeń): 3–21, t. 4 (marzec): 285–296, t. 5 (maj): 3–21, t. 5 (czerwiec): 125–144.

Linde Samuel. 1816b. *O statucie litewskim: ruskim ięzykiem i drukiem wydanym wiadomość.* Warszawa: J. Zawadzki i J. Węcki.

Linde Samuel. 1823. *Mikołaia Grecza rys historyczny literatury rossyyskiey, z dodatkami z Batjuszkowa, Bestużewa, Bulharyna [et al.]*. Warszawa: N. Glücksberg.

Mierzyński Antoni. 1894. *Przysięga Kiejstuta*. Poznań: [s. n.]. (W Druk. Dziennika Pozn.).

Mihal'čenko Sergej. 2005. *Imperatorskij universitet v Varšave: problemy pol'sko-rossijskih vzaimootnošenij (1869–1915).* „Slavica Ludensia” t. 22: 33–46 [Михальченко Сергей. 2005. *Императорский университет в Варшаве: проблемы польско-российских взаимоотношений (1869–1915)*. „Slavica Ludensia” t. 22: 33–46].

Mikuckij Stanislav. 1867. *Nablûdeniâ i zamečaniâ o leto-slavânskom âzyke sravnitel'no s pročimi slavânskimi âzykami.* S.-Pbg.: Tip. Kukol'-Âsnopol'skogo [Микуцкий Станислав. 1867. *Наблюдения и замечания о лето-славянском языке сравнительно с прочими славянскими языками.* С.-Пбг.: Тип. Куколь-Яснопольского].

Papłoński Jan. 1864. *Lekcyja wstępna filologii porównawczej sławiańskiej miana dnia 28 października – 9 listopada 1864 r. w Szkole Głównej Warszawskiej*. Warszawa: K. Kowalewski.

Svìstunova Maryna. 2021. *Pìs'movaâ tradycyâ: movaznaŭčy aspekt panâccâ*. U: *Sbornik naučnyh trudov členov Soûza ženŝin BGU*: 171–179. Minsk: RIVŠ [Свістунова Марына. 2021. *Пісьмовая традыцыя: мовазнаўчы аспект паняцця*. У: *Сборник научных трудов членов Союза женщин БГУ*: 171–179. Минск: РИВШ].

*Wykaz Szkoły Głównej Warszawskiej*. 1864–65 № 2: 42–43, № 3: 100–101; 1865–66 № 4: 11–14, № 5: 36–39; 1866–67 № 6: 29–32, № 7: 36–39; 1867–68 № 8: 28–31, № 9: 10–13; 1868–69 № 10: 56–59.

Zaprudskì Sârgej. 2020. *Narysy gìstoryì belaruskaga movaznaŭstva XIX stagoddzâ*. Mìnsk: BDU [Запрудскі Сяргей. 2020. *Нарысы гісторыі беларускага мовазнаўства XIX стагоддзя*. Мінск: БДУ].



**ABSTRACT:** In the article, the Belarusian interests of Slavists who worked at the University of Warsaw in the XIX – early XX centuries are described and analyzed (at different times: Royal University of Warsaw, Main School of Warsaw, Imperial University of Warsaw). The writings, which now belong to Belarus, in the beginning XIX$^{th}$ century attracted the attention of S. Linde and in the end XIX$^{th}$ century – that of J. Karsky. The first, because of objective reasons, could not consider its gradual development, and the second made a thorough description, noting the cessation of „Western Russian writing" (in Cyrillic and Arabic versions).



**Keywords:** written tradition, Belarusian studies, Slavic philologists, University of Warsaw.



**STRESZCZENIE:** W artykułe ukazano i przeanalizowano zainteresowanie białorutenistyką filologów-slawistów, którzy w XIX i na początku XIX wieku pracowali na Uniwersytecie Warszawskim (w różnych okresach był to Królewski Uniwersytet Warszawski, Szkoła Główna Warszawska, Cesarski Uniwersytet Warszawski). Zabytki, które obecnie należy uważać za białoruskie na początku XIX wieku przyciągnęły uwagę S. Lindego, a od końca □I□ wieku – J. Karskiego. Pierwszy z obiektywnych powodów nie mógł rozważać o stopniowym rozwoju tego piśmiennictwa, drugi dokonał jego dokładnego opisu, odnotowując zanik „pisma zachodnioruskiego" (odnośnie łacińskiego i arabskiego systemu graficznego).



**Słowa kluczowe:** tradycja pisemna, białorusistyka, philologowie-slawiści, Uniwersytet Warszawski.



**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле пададзена апісанне і аналіз беларусістычных зацікаўленняў філолагаў-славістаў, якія ў XIX – на пачатку XX ст. працавалі ў Варшаўскім універсітэце (у розныя часы – Каралеўскі Варшаўскі ўніверсітэт, Галоўная Варшаўская школа, Імператарскі Варшаўскі ўніверсітэт). Пісьменства, якое ў сучаснасці адносіцца да беларускага, на пачатку XIX ст. прыцягвала ўвагу С. Ліндэ, а з канца XIX ст. – Я. Карскага. Першы па аб'ектыўных прычынах не мог разглядаць яго стадыйнае развіццё, другі зрабіў грунтоўнае апісанне, адзначыўшы заняпад „заходнерускага пісьменства" (у кірылічнай і арабаграфічнай разнавіднасцях).



**Ключавыя словы:** пісьмовая традыцыя, беларусістыка, філолагі-славісты, Варшаўскі ўніверсітэт.

*Data przesłania artykułu: 29.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 12.12.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Марына Свістунова / Maryna Svistunova** – Białoruś, Białoruski Uniwersytet Państwowy, Katedra językoznawstwa białoruskiego; dr, docent; specjalność naukowa: historia języka białoruskiego; zainteresowania naukowe: język białoruski w XVI–XVIII ww.

**Adres**: Katedra językoznawstwa białoruskiego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego, ul. Karla Marksa 31, 220030 Mińsk, Białoruś.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Свістунова Марына. 2020. *Лінгвонімы ў творах рэлігійнай палемікі канца XVI – пачатку XVII ст.* (91–108). У: *Актуальныя аспекты беларусістыкі: Матэрыялы VI Міжнароднага кангрэса беларусістаў (Мінск, 27–29 мая 2015 г.): Зборнік артыкулаў*. Мінск: Кнігазбор.
2. Свістунова Марына. 2020. *Да пытання пра аўтарства дзвюх частак Жыровіцкага рукапісу пачатку XVII ст.: моўны аналіз* (24–29). У: *Матэрыялы XVI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў: да 500-годдзя заснавання Жыровіцкага манастыра і бібліятэкі (Мінск, 15 мая 2020 г.)*. 2-е выд. Мінск: НББ.
3. Свістунова Марына. 2020. *Да праблемы пераемнасці беларускай літаратурнай мовы: лацінаграфічныя тэксты XVIII стагоддзя*. „Acta Albaruthenica" 20: 239–253.
4. Свістунова Марына. 2021. *Беларускамоўныя лацінаграфічныя тэксты XVIII ст. у справе вырашэння праблемы перарыву пісьмовай традыцыі*. „Роднае слова" № 1: 30–34.
5. Свістунова Марына. 2021. *Пісьмовая традыцыя: мовазнаўчы аспект паняцця* (171–179). В: И.В. Казакова (ред.) *Сборник научных трудов членов Союза женщин БГУ: к 100-летию БГУ*. Минск: РИВШ.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.249–261

**Валеры Варановіч / Valery Varanovich**
Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы /
Yanka Kupala State University of Grodno
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-4288-9560
e-mail: walery.woronowicz@gmail.com

# Марфаналагічныя ўласцівасці суфікса *-ец* пры адсубстантыўным словаўтварэнні назоўнікаў у беларускай мове[1]

*Morphophonological properties of the suffix* -ец *in desubstantive word formation of nouns in Belarusian*
*Właściwości morfonologiczne przyrostka* -ец *w trakcie słowotwórstwa odrzeczownikowego rzeczowników w języku białoruskim*

Сфера марфаналагічных з'яў у словаўтварэнні характарызуецца вельмі вялікай разнастайнасцю, можна сказаць, "дробнасцю" сваіх праяў. Але гэта не азначае, што названыя разнастайныя праявы не падпарадкоўваюцца строгім заканамернасцям. Больш за тое, гэтыя заканамернасці дапамагаюць моўніку ў выпадках вымушанага канструявання патрэбных намінацыйных адзінак у працэсе маўлення рабіць гэта з дастатковай доляй аўтаматызму, што спрашчае камунікацыю і для яго самога, і для слухача, бо аўтаматычна створаныя словы абапіраюцца на знаёмы для ўсіх шаблон. У прыватнасці, такія сітуацыі нярэдка паўстаюць тады, калі трэба назваць жыхара пэўнай мясцовасці, горада, часам нават краіны, бо адпаведныя словы не заўсёды на слыху, а нярэдка адсутнічаюць і ў слоўніках. Адным жа з найбольш распаўсюджаных сродкаў, з дапамогай якіх у беларускай мове ўтвараюцца словы згаданай лексіка-семантычнай групы, з'яўляецца суфікс *-ец*. Аднак "механіка" далучэння гэтага суфікса да ўтваральнай асновы

[1] Артыкул напісаны ў працэсе выканання тэмы "Супастаўляльнае апісанне марфаналогіі беларускай і рускай моў: марфаналагічныя тыпы субстантыўных парадыгм і марфаналагічныя мадэлі субстантыўнага словаўтварэння" (ДПНД "Грамадства і гуманітарная бяспека беларускай дзяржавы" на 2021–2025 гг.; заданне 6.2.12 "Беларуска-іншамоўнае ўзаемадзеянне ў кантэксце адукацыйнай практыкі", № дзяржрэгістрацыі 20212125 ад 04.06.2021).

матывавальнага слова нярэдка суправаджаецца рознага плану дадатковымі "маніпуляцыямі", якія прынята называць марфаналагічнымі працэсамі.

Марфаналагічныя працэсы падзяляюць на нелінейныя і лінейныя. Да першых у дэрываталогіі адносяць чаргаванне фанем у межах марфанемы (не алафонаў у межах фанемы, бо ў такім выпадку працэс трэба кваліфікаваць як фанетычны!) у складзе ўтваральнай асновы, а таксама змяненне месца націску; да апошніх – нарашчэнне або, наадварот, скарачэнне ўтваральнай асновы; асобнае месца адводзіцца накладанню морфаў (пра названыя працэсы гл., напрыклад, у [*Русская грамматика* 1980, I: 410–411]). Менш прынятым, але не менш абгрунтаваным з'яўляецца залічэнне да марфаналагічных працэсаў інтэрфіксацыі – працэсу, пры якім адбываецца нарашчэнне не ўтваральнай асновы, а суфікса за кошт некаторага спалучэння фанем або асобнай фанемы – інтэрфікса (пра інтэрфікс гл., напрыклад, у [Земская 1964: 36–62] або [Тихонов 1985, I: 23–24]; інтэрфіксацыя, сродкам якой з'яўляецца злучальны галосны пры асноваскладанні, аб'ектам нашай увагі ў гэтым артыкуле не з'яўляецца, гэтак жа як і змена месца націску ў дэрыватах адносна слоў, якімі яны матывуюцца).

З дапамогай суфікса *-ец*[1] у беларускай мове ад назоўнікаў утвараюцца не толькі назвы жыхароў мясцовасцей, гарадоў і пад., але і назвы асобы, якая характарызуецца ў іншых адносінах, а таксама зрэдку неадушаўлёныя назоўнікі, у тым ліку з суб'ектыўна-ацэначнымі значэннямі. Адной з заканамернасцей найбольш шырокага плану пры ўтварэнні ўсіх гэтых слоў з'яўляецца тое, што калі ўтваральная аснова завяршаецца зацвярдзелай фанемай: *р*, *ж*, *ш* (у тым ліку такой, што ўзнікла ў выніку чаргавання), – а суфікс далучаецца да асновы непасрэдна (без інтэрфікса), то на месцы *-ец* выступае яго аламорф *-ац*, гэта значыць, фанема *э* ў ім замяняецца фанемай *а*: *Алжыр* → *алжырац*; *Люксембург* → *люксембуржац*; *Бангладэш* → *бангладэшац* (утварэнні ад асноў з іншымі зацвярдзелымі ў фінале калі і існуюць, то толькі ў якасці спарадычных маўленчых з'яў).

Пры захаванні морфа *-ец* канцавыя парна-цвёрдыя зычныя асновы перад ім чаргуюцца з мяккімі. У гэтым працэсе задзейнічаны амаль усе пары карэляцыйных па цвёрдасці-мяккасці фанем: *б – б'* (*зуб* → *зубец*), *п – п'* (*Гвадэлупа* → *гвадэлупец*), *м – м'* (*Панама* → *панамец*), *в – в'* (*Літва* → *літовец*), *д – z'* (*Канада* → *канадзец*), *т – ц'* (*Тыбет* → *тыбецец*), *з – з'* (*Каўказ* → *каўказец*), *с – с'* (*Туніс* → *тунісец*), *н – н'* (*Іран* → *іранец*),

[1] У артыкуле ўжываецца арфаграфічны запіс гэтага суфікса як традыцыйны; для астатніх структурных элементаў слоў ужываецца запіс фанематычны, прычым фанемны склад прыводзіцца, як правіла, з разлікам толькі на пачатковыя формы слоў.

*л – л’* (*Сенегал → сенегалец*). Выпадкаў, пры якіх адзначаныя цвёрдыя зычныя пазбягалі б чаргавання, марфаналагічныя заканамернасці беларускай мовы не дапускаюць. Патэнцыяльна можна дапусціць і чаргаванне *ф* // *ф’*, напрыклад у словаўтваральнай пары *Пецяргоф → пецяргофец*, аднак апошняя адзінка ў беларускамоўных крыніцах намі не засведчана.

Заднеязычная *к* таксама чаргуецца са сваім мяккім карэлятам: *Ірак → іракец*, а вось *г* чаргуецца з шыпячай *ж*, што прыводзіць, як было паказана ў папярэднім абзацы, яшчэ і да змены галоснай у фарманце: *Пецярбург → пецярбуржац*. Выявіць жа “паводзіны” фанемы *х* у якасці фіналі субстантыўнай асновы перад суфіксам *-ец* праблематычна ў сувязі з адсутнасцю адпаведных прыкладаў (для ад’ектыўнай асновы маем чаргаванне {*х* / *х’*} // *ш*: *глухая* / *глухі → глушэц*).

На стыку ўтваральнай асновы і суфікса *-ец*, акрамя паказаных вышэй амаль абсалютна аднатыпных і таму сістэмных чаргаванняў, можна адзначыць адно несістэмнае – *к* // *ц’*, якое рэпрэзентуецца словаўтваральнай парай *іск → існец*.

Іншыя заўважаныя намі чаргаванні маюць месца ўнутры ўтваральнай асновы. Ва ўсіх іх з боку матывавальнага слова выступае фаналагічны нуль. Ва ўтварэннях *гродзенец* ад *Гродна*, *маладзечанец* ад *Маладзечна* на месцы гэтага нуля ў становішчы паміж зычнымі, другая з якіх – *н*, выступаюць адпаведна *э* і *а*, прычым у першым выпадку перад новаўзніклай *э* зычная *д* чаргуецца з *ʒ’*. Апрача таго, пагодзімся з Аляксандрам Ціханавым у тым, што пры ўтварэнні этноніма *літовец* (*литовец*) ад *Літва* (*Литва*) адбылося не адсячэнне ад утваральнай асновы фіналі *-в* разам з далучэннем да суфікса інтэрфікса *-ов-*, а, зноў жа, чаргаванне фаналагічнага нуля з галоснай (*о*) [Тихонов 1985, I: 543], хоць фармальна адсячэнне з інтэрфіксацыяй можна было б дапусціць, улічваючы прадуктыўнасць адпаведнага вытворнага фарманта *-ов-ец*. Аднак першая версія адлюстроўвае больш просты, эканомны механізм словаўтварэння, таму яе трэба прызнаць і больш рацыянальнай, тым больш што асновам з фіналлю “зычная + *-в-(а)*” ўласцівае чаргаванне Ø // *о*, прычым пры розных мадэлях дэрывацыі, параўн.: *мардва → мардоўскі*, *царква → царкоўны*, *морква → моркаўка* (тут беглы [а] ёсць рэалізацыя фанемы *о*, параўн. з *моркоўны*).

А вось аналагічнае рашэнне адносна ўтварэння *гвардзеец* ад *гвардыя* (у рускай мове – *гвардеец* ад *гвардия*), калі сцвярджаецца, што адбываецца чаргаванне *і* // *э*, прыняць нельга. Асабліва, пры ўсім падабенстве слоў, у праекцыі на беларускую мову, дзе трэба адзначаць яшчэ чаргаванне *д* // *ʒ’*, што і зроблена аўтарамі *Словаўтваральнага слоўніка беларускай мовы* (далей – *ССБМ*) [Бардовіч, Круталевіч, Лукашанец 2000: 87]. Канстатацыя гэтага дадатковага чаргавання менавіта на фо-

не чаргавання *і* // *э* выглядае непераканаўчай таму, што калі *э* разглядаць проста як сегмент асновы і кораня адначасна, то незразумела, чым гэтая фанема "лепшая" за *і*, калі перад апошняй *д* у *z'* не пераходзіць, а перад *э* гэта адбываецца. І зусім іншая рэч, калі першую *э* ў вытворным слове разглядаць у складзе інтэрфікса *-эj-*, перад якім чаргаванне ўжо з'яўляецца "планавым", набывае абумоўлены характар (заўважым, што спалучэнне *-эj-* як інтэрфікс ужываецца ў разнастайных словаўтваральных мадэлях, у тым ліку з суфіксам *-ец*: гэты элемент вылучаецца як бясспрэчны ў такіх утварэннях, як *еўрапеец*, *піфагарэец*, *эпікурэец*). Натуральна, названы інтэрфікс трэба бачыць як далучаны да скарочанай асновы слова *гвардыя*, ад якой адсякаецца фіналь *-ij*, што для беларускага і рускага словаўтварэння вельмі рэгулярная з'ява і што будзе паказана ніжэй. Безумоўна, камбінацыя, якую мы бачым пры ўтварэнні слова *гвардзеец* ("скарачэнне ўтваральнай асновы + інтэрфіксацыя + суфіксацыя"), больш складаная, чым калі бачыць тут толькі чаргаванне з суфіксацыяй, затое яна больш сістэмна ўгрунтаваная, заснаваная на ўліку рэгулярных марфаналагічных з'яў. А чаргаванне *і* // *э* ў фіналі *-ij* (калі лічыць гэта чаргаваннем), наадварот, сустракаецца пры словаўтварэнні вельмі рэдка адносна агульнай колькасці матывавальных слоў з названай фіналлю (напрыклад, з дэрыватаў на *-ец* можна дадаць у шэраг да *гвардзеец* практычна толькі *армеец* і *кампанеец*). І гэта істотны факт для кваліфікацыі марфаналагічнага працэсу не на карысць чаргавання, бо гэта той працэс, які пры пэўных умовах адбываецца менавіта рэгулярна, тады як інтэрфіксацыя пры словаўтварэнні з'ява больш непрадказальная, звязаная з міжмоўнай інтэрферэнцыяй, уплывам выпадковых асацыяцый і іншымі фактарамі.

Зазначым, што фіналь *-ij* значна часцей застаецца ў сваім зыходным фанемным складзе або адсякаецца, чым мы бачым на яе месцы спалучэнне *эj*, прычым у становішчы перад рознымі суфіксамі, параўнаем: *Аўстрыя* → *аўстрыец*; *студыя* → *студыец*; *партыя* → *партыец*; *Аравія* → *аравійскі*; *кавалерыя* → *кавалерыйскі*; *артылерыя* → *артылерыйскі*; *прафесія* → *прафесійны*; *сесія* → *сесійны*; *гравій* → *гравійны*; *стадыя* → *стадыйны*; *камедыя* → *камедыйны*. Прыклады з адсячэннем *-ij*: *Іспанія* → *іспанец*, *іспанскі*; *Баварыя* → *баварац*, *баварскі*; *аналогія* → *аналагічны*; *рэцэнзія* → *рэцэнзент*; *гімназія* → *гімназіст*; *манагамія* → *манагамны*; *астраномія* → *астраном* і мн. інш. Такім чынам, беручы пад увагу ў комплексе наступныя факты: 1) выпадкаў захавання фіналі *-ij* ва ўтваральнай аснове назоўнікаў у яе зыходным выглядзе ў шмат разоў больш, чым тых, калі на месцы *ij* у вытворным слове фігуруе спалучэнне *эj*, 2) чаргаванне *і* // *э* для адсубстантыўнага словаўтварэння ў прынцыпе нехарактэрнае, 3) фіналь асновы назоўнікаў жаночага роду *-ij* пры суфіксальнай дэрывацыі нярэдка адсякаецца,

4) спалучэнне *эj* безальтэрнатыўна вызначаецца як інтэрфікс у шэрагу словаўтваральных мадэляў адсубстантыўнай дэрывацыі (у межах падыходу, пры якім пэўныя прысуфіксальныя часткі кваліфікуюцца як інтэрфіксы), – ёсць дастатковыя падставы, каб сцвярджаць, што пры ўтварэнні назоўніка *гвардзеец* ад назоўніка *гвардыя* (таксама і ў рускай мове – *гвардеец* ад *гвардия*) адбываецца адсячэнне фіналі *-ij* ад утваральнай асновы апошняга, а суфікс *-ец* далучаецца да скарочанай асновы з дапамогай інтэрфікса *-эj-*, перад якім (у беларускай мове) канцавая зычная асновы *д* зведвае чаргаванне са сваім мяккім карэлятам *z'*. Пры гэтым фактам чаргавання *д* // *z'* для беларускай мовы дадаткова маркіруецца прысутнасць інтэрфікса *-эj-*.

Калі прыняць прапанаваную схему ўтварэння слова *гвардзеец*, то яна будзе непазбежнай і для дэрыватаў *армеец*, *кампанеец*. Адзіны выпадак з гэтага шэрагу, як выключэнне, для якога мы гатовыя прызнаць чаргаванне *і* // *э* ў сегменце *-ij*, – гэта *парцеец* – фанетычны варыянт слова *партыец*, ужыты Васілём Быкавым у аўтабіяграфічным інтэрв'ю, хутчэй за ўсё, як перайманне прастамоўнага вымаўлення. Але тут паўстае праблема вызначэння месца разгляданага ўтварэння ў сістэме словаўтваральных сувязей. Бо самае непасрэднае, "жывое" дачыненне яно мае да таксама прастамоўнай, трасянкавай адзінкі *парція*. А ў такім выпадку, звязваючы паміж сабой гэтыя дзве адзінкі, мы ўвогуле пераносімся фактычна ў аўтаномную моўную сістэму, якая знаходзіцца на крайняй перыферыі беларускай мовы. Калі ўсё ж разглядаць утварэнне *парцеец* у прыядзерным лексічным масіве беларускай мовы на аснове сістэмы сувязей, якая задаецца яе ядзернай часткай, тады ўжо можна выводзіць гэты дэрыват з нармаванай адзінкі *партыя*. Дарэчы, рэальнасць узаемазвязанасці рознасістэмных адзінак *парцеец* і *партыя* пацвярджаецца нечаканым, але паказальным фактам ужывання В. Быкавым дэрывата *парцеец* у блізкім суседстве з адным з нармаваных утварэнняў ад слова *партыя*:

> Гэта [настаўнік Сяргей Сцяпанавіч Новікаў] ўжо быў супрацьлегласць ранейшаму, даволі строгі чалавек, **парцеец** (тут і далей вылучана намі. – *В. В.*), ён арганізоўваў калгасы ў нашай акрузе і загінуў у партызанах, у час знакамітага іх разгрому, званага пасля "прарывам". У яго была свая, **партыйная** сістэма навучання… [Быкаў 2014, X–1: 10].

І адным з складнікаў словаўтваральнага працэсу ў пары *партыя* → *парцеец* можна бачыць якраз чаргаванне *і* // *э* – на той падставе, што фанема *э* ў дэрываце выступае як маркер яго прастамоўнай афарбоўкі, і гэта азначае, што чаргаванне (а дакладней, пара чаргаванняў, бо тут яшчэ адбылася мена *т* на *ц'*) аказваецца мэтанакіраваным, функцыянальна нагружаным.

Зрэшты, утварэнню *парцеец* можна паспрабаваць даць і больш дакладную дэрывацыйную характарыстыку. З увагі на тое, што ў словаўтваральным гняздзе сярод дэрыватаў – назваў асобы найшчыльней да вяршыні гнязда *партыя* стаіць *партыец* і ў гэтых адносінах ён пераўзыходзіць утварэнне *парцеец*, то яшчэ лагічней было б апошняе выводзіць з папярэдняга, паколькі адносіны прыблізнага паралелізму паміж адзінкамі *партыец* і *парцеец* існуюць толькі ў фармальна-структурным плане, а вось у плане зместу другая з гэтых дзвюх адзінак мае дадатковы ў параўнанні з першай элемент – стылістычна-канатацыйны. Да таго ж гэты элемент знаходзіць сваё выражэнне ў невялікай трансфармацыі гукавой формы слова *партыец* – за кошт чаргаванняў *т // ц'* і *і // э* (таму мы і кажам пра толькі прыблізны паралелізм у фармальна-структурным плане паміж адзінкамі *партыец* і *парцеец*). Дарэчы, чыста стылістычная дэрывацыя (гэтае паняцце абгрунтавана Аленай Земскай [Земская 2007: 8]), а асабліва стылістычна-экспрэсіўная – не такая рэдкая з'ява. І той факт, што найчасцей яна рэалізуецца шляхам афіксацыі (параўн.: *калена* → разм. *каленка*; *здароўе* → разм. *здароўечка*), зусім не азначае, што гэта для яе абавязковая ўмова. Бо, напрыклад, даволі распаўсюджаным спосабам ажыццяўлення той самай стылістычнай дэрывацыі з'яўляецца абрэвіяцыя: *універсітэт* → *універ*; *спецыяліст* → *спец* і пад. І калі тут у якасці апазіцыі нашаму меркаванню будзе выстаўлены контраргумент з апорай на сцвярджэнне пра тое, што, маўляў, трэба адрозніваць абрэвіяцыю як спосаб словаўтварэння і функцыянальна нагружаны працэс ад скарачэння ўтваральнай асновы як працэсу марфаналагічнага, то нам дарэчы будзе звярнуць увагу на тое, што чаргаванне *і // э* (разам з *т // ц'*) пры стылістычнай мадыфікацыі *партыец* → *парцеец* не ў меншай ступені страчвае сваю "марфаналагічнасць" на карысць функцыянальнасці. Абсалютна дастатковым аргументам у пацвярджэнне слушнасці гэтага сцверджання можа быць той факт, што для ўтваральнай асновы матывавальнага слова *партыец* ніякі марфаналагічны працэс непатрэбны ў прынцыпе, паколькі дэрыват *парцеец* захоўвае зыходны фармант *-ец*, а новага не патрабуе. Таму хоць і існуе меркаванне, згодна з якім "сродкі марфаналогіі <…> самастойнай словаўтваральнай функцыяй не валодаюць" і што яны "звычайна толькі суправаджаюць афіксацыю" [Тихонов 1985, I: 26], ключавым словам у цытаце, бадай што, з'яўляецца "звычайна".

Такім чынам, маюцца ўсе адзнакі вытворнасці дэрывата *парцеец* менавіта ад аднаструктурнага ўтварэння *партыец*, тым больш што адносіны вытворнасці ў межах словаўтваральнага гнязда паводле канонаў дэрываталогіі прынята ўстанаўляць паміж адзінкамі, мінімальна

адрознымі як у фармальна-структурным, так і ў зместавым плане; альбо ў сувязі з наступным палажэннем:

> Словаўтваральны фармант – гэта найменшы ў фармальных і семантычных адносінах словаўтваральных сродак <…> з ліку тых сродкаў, якімі тое ці іншае слова адрозніваецца ад слоў, што знаходзяцца з ім у адносінах матывацыі [Улуханов 1977: 8].

Звернемся да яшчэ аднаго вытворнага слова з неадназначнай марфаналагічнай будовай. Назоўнік *іншаземец* утвораны, як падаецца ў *ССБМ*, ад дзвюх асноў (другая з якіх субстантыўная) з дапамогай суфікса *-ец*, злучальнай галоснай і пры чаргаванні *мл'* // *м'*. Аднак апошні элемент апісання дэрывацыйнага працэсу мы мусім аспрэчыць, ізноў адмаўляючы факт чаргавання на карысць скарачэння асновы. Пры гэтым мы ні ў якім разе не ставім пад сумненне чаргаванні тыпу *м* // *мл'* як такія, проста прыведзены вышэй прыклад змусіў нас звярнуць увагу на наступную акалічнасць. Так, разглядаючы падобныя чаргаванні (зрэшты, як і любыя іншыя), мы павінны зыходзіць з таго, што кожны альтэрнант з'яўляецца складнікам марфанемы, а значыць, калі нейкі з іх мае двухфанемную будову, яго нельга разглядаць як звычайнае лінейнае спалучэнне мінімальных адзінак плана выражэння, а абавязкова – як функцыянальны аналаг аднафанемнага альтэрнанта, а таму – як цэльную адзінку. Але ці захоўвае цэльнасць спалучэнне *мл'* у аснове слова *зямля*? Відавочна, што не, калі ўзяць пад увагу словаформу *зямель*, а таксама дэрываты *зямелька*, *зямельны* і шэраг іншых, дзе нібы цэльнае спалучэнне *мл'* аказваецца разбітым галоснай фанемай *э*. Такім чынам, спалучэнне *мл'* у аснове слова *зямля* нельга разглядаць як элемент марфанемы, а таму і як альтэрнант чаргавання. Гэта звычайнае спалучэнне фанем, другая з якіх у вытворных асновах перад некаторымі суфіксамі, у тым ліку *-ец*, ліквідуецца згодна з агульнымі марфаналагічнымі правіламі скарачэння ўтваральных асноў.

Вяртаючыся да выпадкаў скасавання фіналі *-ij* перад суфіксам *-ец*, дзеля пераканаўчасці дапоўнім іх пералік яшчэ некаторымі адпаведнымі дэрыватамі: *бразілец* (ад *Бразілія*), *македонец* (ад *Македонія*), *ірландзец* (ад *Ірландыя*), *галандзец* (ад *Галандыя*), *ісландзец* (ад *Ісландыя*)… Як бачым, калі пасля адпадзення фіналі апошняй ва ўтваральнай аснове застаецца фанема *д*, то яна чаргуецца з *z'*. Асобна ў гэтай групе разгледзім утварэнне *венгерац* ад *Венгрыя*: тут адсячэнне *-ij* спалучаецца з чаргаваннем Ø // *э*.

Дэрывацыя з суфіксам *-ец* суправаджаецца скасаваннем і іншых фіналей. У прыватнасці, калі матывавальнымі з'яўляюцца аддзеяслоўныя назоўнікі на *-нне*, ад утваральнай асновы непазбежна адсякаецца

адна з дзвюх *н’* (калі зыходзіць з традыцыйнага татальнага трактавання беларускіх падоўжаных зычных як двухфанемных спалучэнняў): *вылучэнне → вылучэнец*; *апалчэнне → апалчэнец*; аналагічна ўтвораны *назначэнец*, *выраджэнец*, *паражэнец*, *паўстанец*, *выгнанец*, *утрыманец* (некаторыя з прыведзеных дэрыватаў маюць падвойную матывацыю). Працэс падобнага характару мае месца ў пары *Запарожжа → запарожац*, але, як бачым, тычыцца іншай зычнай (не *н’*). Іншыя фіналі перад суфіксам *-ец* адсякаюцца нячаста. Адзначым наступныя: *-ств* (*мовазнаўства → мовазнавец*; *злачынства → злачынец*), *-j* (*дваябор’е → дваяборац*; *траябор’е → траяборац* і пад.), *-к* (*Ямайка → ямаец*).

Калі пры ўтварэнні значнай часткі назваў жыхароў розных краін мы адзначалі факт адсячэння ад утваральнай асновы фіналі *-ij*, то ў шэрагу выпадкаў названае спалучэнне, наадварот, устаўляецца паміж асновай і *-ец* як інтэрфікс. Гэта назіраецца ў такіх дэрыватах, як *мальтыец* (ад *Мальта*), *камбаджыец* (ад *Камбоджа*), *угандыец* (ад *Уганда*), *алімпіец* ‘у старажытнагрэцкай міфалогіі – бог, жыхар Алімпа’ (ад *Алімп*). Пры ўтварэнні палітоніма *зімбабвіец* ад *Зімбабвэ* адбыўся двухкрокавы працэс, як і пры ўтварэнні, згодна з нашай версіяй, слова *гвардзеец*: спачатку ўтваральная аснова зведала скасаванне фіналі (тут – *э*), а пасля гэтага “страта” была кампенсавана за кошт, зноў жа, інтэрфікса *-ij* (перад апошнім яшчэ адбылося чаргаванне *в // в’*). Як бачым, такая ўскладненая схема дэрывацыі можа быць і фактам абсалютна неаспрэчным. У больш “фактурным” выглядзе яна рэалізавана пры ўтварэнні ад хароніма *Кахецiя* катайконіма *кахецінец*: мінус фіналь *-ij*, плюс інтэрфікс *-ін’-* і яшчэ плюс суфікс *-ец* (абгрунтаванне менавіта такой словаўтваральнай структуры гэтага дэрывата гл. ніжэй). Хоць можна яшчэ прывесці і ўтварэнне *бакінец* ад *Баку* (адсякаецца фіналь *-у*, чаргуюцца *к // к’* перад інтэрфіксам *-ін’-*).

Гэты самы інтэрфікс, толькі без скасавання фіналі, выступае ў вытворных словах *пехацінец*, *звярынец*, *кубінец*, *тувінец* і інш. (адпаведна ад *пяхота*, *звер*, *Куба*, *Тува*). Ва ўсіх асновах, як бачым, парна-цвёрдыя фанемы чаргуюцца з мяккімі. А вось ва ўтварэнні *ардынец* ад *арда* інтэрфікс *-ін’-* анамальным чынам чаргавання не выклікаў.

Ужывальным з’яўляецца таксама інтэрфікс *-ан’-*, які выяўляецца ў наступных утварэннях: *афрыканец*, *мексіканец*, *перуанец*, *карсіканец* і інш. (адпаведна ад *Афрыка*, *Мексіка*, *Перу*, *Корсіка*). Пры ўтварэнні слова *італьянец* ад *Італія* інтэрфіксацыя суправаджалася чаргаваннем *і // Ø*. У некаторых дэрыватах знаходзім “роднасныя” для *-ан’-* інтэрфіксы, якія як бы з’яўляюцца яго ўскладненымі “аламорфамі”: *-јан’-* у *гегельянец* (ад *Гегель*), *-ijан’-* у *кантыянец* (ад *Кант*), *-ітан’-* у *неапалітанец* (ад *Неапаль*) і пад.

Інтэрфікс *-ов’-* вылучаецца ў словах *вясковец*, *гуртковец*. Апрача таго, складаны фармант *-ов’-эц* вельмі прадуктыўны пры ўтварэнні назваў удзельнікаў розных арганізацый і пад.: *выканкамавец*, *спартакавец*, *звяздовец* ‘журналіст газеты «Звязда»’, *філфакавец* ‘студэнт філалагічнага факультэта’, *метрабудавец* ‘будаўнік метрапалітэна’ (ад *Метрабуд*) і г. д.

Своеасаблівую праблему ўяўляе аналіз дэрыватаў кшталту *чыліец* (ад *Чылі*), *самаліец* (ад *Самалі*), *маліец* (ад *Малі*), *сочынец* (ад *Сочы*), *дэповец* (ад *дэпо*). Калі разглядаць працэс іх утварэння фармальна-механістычна і засяроджвацца толькі на саміх словаўтваральных парах, імкнучыся максімальна “прыцерці” суфікс *-ец* да ўтваральнай асновы і такім чынам вылічыць мінімальны лішні фрагмент, які і трэба было б прызнаць інтэрфіксам, то гэтым фрагментам-інтэрфіксам трэба было б прызнаць фанему *j* для дэрыватаў *чыліец*, *самаліец*, *маліец*; *н* – для *сочынец* і *в* – для *дэповец*.

Аднак нам уяўляецца, што пры такім падыходзе не будуць улічаны рэальныя ўласцівасці інтэрфіксаў як адзінак словаўтварэння, функцыянальны патэнцыял якіх у лінгвістыцы недаацэнены. На наш погляд, розныя інтэрфіксы маюць у словаўтварэнні неаднолькавы функцыянальны аб’ём. Калі пра іх сцвярджаецца, што яны “аблягчаюць умовы спалучальнасці словаўтваральных афіксаў з утваральнымі асновамі” [Тихонов 1985, I: 23], то гэтым акрэсліваецца функцыянал толькі часткі інтэрфіксаў. А менавіта тых, якія тым самым “падладжваюцца” пад утваральную аснову, а таму апошняя захоўвае свой зыходны выгляд, не зведваючы чаргаванняў або скарачэння (як у словах *купэйны*, *заўтрашні*). Між тым нельга ігнараваць той факт, што частка гэтых структурных элементаў вытворнага слова, наадварот, імкнецца падпарадкаваць сабе аснову ўтваральнага слова. “Матыў” падобных паводзін крыецца ў тым, што такім чынам павышаецца самакаштоўнасць інтэрфіксаў, што важна для таго, каб яны (праўда, у іх спалучэнні, пэўным адзінстве з суфіксамі) спрыялі лепшай распазнавальнасці вытворнай лексемы не столькі самой па сабе з яе ўнікальным лексічным значэннем, колькі як прадстаўніка пэўнага семантычнага класа слоў. Гэта магчыма дзякуючы таму, што інтэрфіксы падобнага кшталту звязаны сваім паходжаннем з рознага статусу “натуральнымі” фрагментамі цэлых шэрагаў слоў. Напрыклад, інтэрфікс *-ij-*, які мы вылучаем у слове *мальтыец*, у першую (калі не ў адзіную) чаргу дазваляе больш упэўнена асацыяваць гэты палітонім з іншымі палітонімамі, такімі як *бельгіец*, *кеніец* і шматлікімі іншымі, у структуры якіх *-ij-* з’яўляецца часткай утваральнай асновы, у сувязі з чым можна адзначыць, што канцавая частка, у апоры на якую ўсталёўваецца асацыяцыя паміж пералічанымі словамі (*-ijэц*), большая, чым суфікс, які, па ідэі,

“асацыявальная” частка павінна была б абмяжоўвацца. Але калі для дэрыватаў *бельгіец*, *кеніец* і пад. названая частка непазбежная, бо абумоўлена ўтваральнай асновай, то для *мальтыец* гэта вынік выбару – інтэрфікса і суфікса адначасова! З улікам гэтага можна сцвярджаць, што паміж інтэрфіксам і суфіксам могуць складвацца ўстойлівыя адносіны, дзякуючы якім і сам інтэрфікс пачынае выступаць маркерам пэўнага класа слоў. Пры такім стане рэчаў інтэрфікс як непасрэдны “кантакцёр” з фіналлю ўтваральнай асновы, як бы абапіраючыся на гэты больш высокі статус – часткі словаўтваральнага фарманта, ужо не ў такой высокай ступені працуе на забеспячэнне лепшых умоў спалучальнасці для асновы, а “дазваляе сабе” ігнараваць яе, засяроджваючыся на функцыі больш высокага парадку. Менавіта таму нават пры інтэрфіксацыі ўтваральная аснова можа зведваць розныя трансфармацыі, такія як скарачэнне, чаргаванне фанем фіналі, ад чаго, па ідэі, інтэрфікс яе павінен быў бы засцерагчы.

На падставе вышэйсказанага, гэта значыць прымаючы пад увагу прыярытэт суфіксальнага фарманта з інтэрфіксам у сваім складзе перад утваральнай асновай (для пэўных груп дэрыватаў), неабходнасць захавання яго цэласнасці, лічым мэтазгодным пры раскрыцці словаўтваральнай структуры слоў *чыліец*, *маліец*, *самаліец* вылучаць у іх інтэрфікс *-ij-* (у складзе фарманта *-ij-эц*); у слове *сочынец* – інтэрфікс *-ін-* (у складзе фарманта *-ін’-эц*); у слове *дэповец* – інтэрфікс *-ов’-* (у складзе фарманта *-ов’-эц*). Тое, што на стыку ўтваральнай асновы і інтэрфікса ў такім выпадку не выступае двойчы фанема *і* (у слове дэповец – *о*), нішто не замінае патлумачыць, як і пры чыстай (безынтэрфіксавай) суфіксацыі, з’явай накладання (сумяшчэння) морфаў (параўн. з дэрыватам *таксіст*, пры ўтварэнні якога сутыкаюцца два “і” – суфіксальнае і канцавое асновы, а застаецца толькі адно; аднак бачыць тут скарачэнне ўтваральнай асновы не прынята).

Такім чынам, адносна зыходнай мэты нашага даследавання мы можам канстатаваць, што адсубстантыўнае ўтварэнне назоўнікаў з дапамогай суфікса *-ец* суправаджаецца даволі разнастайнымі марфаналагічнымі працэсамі. У прыватнасці, могуць адбывацца чаргаванні фанем, прычым як ва ўтваральнай аснове, так і ў суфіксе; у аснове чаргаванні могуць быць як рэгулярныя, так і звязаныя з адзінкавымі прыкладамі, як на стыку з суфіксам, так і ўнутры яе. Да таго ж можна заўважыць, што прыналежнасць пэўных фанем да аднаго класа не гарантуе аналагічнасці іх чаргаванняў (заднеязычная фанема *г* чаргуецца з шыпячай *ж*, але таксама заднеязычная *к* – са сваім мяккім карэлятам *к’*). Апрача таго, утваральная аснова перад суфіксам *-ец* можа скарачацца альбо, наадварот, паміж асновай і суфіксам могуць устаўляцца розныя інтэрфіксы, зрэдку мае месца накладанне фанем. Таксама наз-

ваныя працэсы пры ўтварэнні таго ці іншага слова адбываюцца, узаемна дапаўняючыся, прычым як адначасовыя могуць выступаць з'явы з супрацьлеглым прызначэннем, калі пэўны сегмент утваральная аснова губляе, але ён замяшчаецца новым (паслядоўна адбываюцца скарачэнне асновы і інтэрфіксацыя). З увагі на знешне нерацыянальныя сітуацыі, падобныя да апошняй, і з улікам таго, што гэтая ўяўная нерацыянальнасць часам вымушае складальнікаў словаўтваральных слоўнікаў даваць спрошчаную інтэрпрэтацыю дэрывацыйнай структуры нестандартных дэрыватаў, напрошваецца дадатковая, спадарожная выснова з праведзенага намі даследавання: калі словаўтваральны аналіз пэўнага вытворнага слова дапускае розныя версіі, для забеспячэння максімальнай пераканаўчасці інтэрпрэтацыі словаўтваральнай структуры адпаведнага дэрывата ў першую чаргу неабходна абапірацца на ўлік сістэмных сувязяў паміж элементамі, якія трапляюць у сферу аналізу, і гэтыя сувязі павінны выяўляцца ў максімальна магчымай колькасці плоскасцяў, каб з большай пэўнасцю можна было б вылучыць сярод іх прыярытэтныя. Пры гэтым важна таксама зыходзіць з таго, што не ў кожным выпадку найбольш пераканаўчай версіяй можа быць тая, што прадугледжвае самую простую схему ўтварэння дэрывата.

**Бібліяграфія**

Bardovìč Anatol', Krutalevìč Mìhaìl, Lukašanec Alâksandr. 2000. *Slovaŭtvaral'ny sloŭnìk belaruskaj movy.* Mìnsk: Belaruskaâ navuka [Бардовіч Анатоль, Круталевіч Міхаіл, Лукашанец Аляксандр. 2000. *Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы.* Мінск: Беларуская навука].

Bykaŭ Vasìl'. 2014. *Maladyâ gady: Aŭtabìâgrafičnyâ dyâlogì z Alesem Adamovìčam.* U: *Pойny zbor tvoraй и 14 tamah.* Mìnsk: Knìgazbor [Быкаў Васіль. 2014. *Маладыя гады: Аўтабіяграфічныя дыялогі з Алесем Адамовічам.* У: *Поўны збор твораў у 14 тамах.* Мінск: Кнігазбор].

*Russkaâ grammatika v 2 tomah.* 1980. Gl. red. N. Švedova. Moskva: Nauka [*Русская грамматика в 2 томах.* 1980. Гл. ред. Н. Шведова. Москва: Наука].

Tihonov Aleksandr. 1985. *Slovoobrazovatel'nyj slovar' russkogo âzyka v 2 tomah.* Moskva: Russkij âzyk [Тихонов Александр. 1985. *Словообразовательный словарь русского языка в 2 томах.* Москва: Русский язык].

Uluhanov Igor'. 1977. *Slovoobrazovatel'naâ semantika v russkom âzyke i principy ee opisaniâ.* Moskva: Nauka [Улуханов Игорь. 1977. *Словообразовательная семантика в русском языке и принципы ее описания.* Москва: Наука].

Zemskaâ Elena. 1964. *Interfiksaciâ v sovremennom russkom slovoobrazovanii.* V: *Razvitie grammatiki i leksiki sovremennogo russkogo âzyka.* Moskva: Nauka [Земская Елена. 1964. *Интерфиксация в современном русском словообразовании.* В: *Развитие грамматики и лексики современного русского языка.* Москва: Наука].

Zemskaâ Elena. 2007. *Slovoobrazovanie kak deâtel'nost'.* Izd. 3-e. Moskva: LKI [Земская Елена. 2007. *Словообразование как деятельность.* Изд. 3-е. Москва: ЛКИ].

**ABSTRACT:** The article provides a close to exhaustive set of morphophonological processes that accompany noun formation derived from other nouns with the suffix *-ец* in the Belarusian language. Practically all possible alternations of phonemes are indicated; the most often cutting off endings of underlying stems are noted. The list of interfixes is given as a series of fragments in the structure of a derived word. Interfixes positioned between the underlying stem and the suffixal morpheme contribute to their optimal compatibility. A few cases of superposition of morphs are shown. As a result of word formation the analysis of some nouns with the suffix *-ец* more systemically justified (or simply correct) versions of their derivational structure are proposed than those presented in word formation dictionaries. Besides, the article proves the ability of some interfixes to promote better recognition of derivatives as representatives of certain semantic classes of words in addition to their main function in the word formation process.

**KEYWORDS:** morphophonology, noun, alternation of phonemes, truncation of the underlying stem, interfix, superposition of morphs.

**STRESZCZENIE:** W tym artykule podano zbliżony do wyczerpującego zestaw procesów morfonologicznych, które towarzyszą tworzeniu w języku białoruskim rzeczowników od innych rzeczowników za pomocą sufiksu *-ец*. Przedstawiono prawie wszystkie możliwe alternacje fonemów, wymieniono najczęściej odcinane części końcowe podstaw słowotwórczych, wprowadzono wykaz interfiksów jako fragmentów w strukturze wyrazów pochodnych, które, zajmując pozycję pośrednią pomiędzy podstawą słowotwórczą a morfemem sufiksalnym, przyczyniają się do ich optymalnej łączliwości; przedstawiono nieliczne przypadki nałożenia morfów. Jednocześnie w trakcie analizy słowotwórczej dla wielu rzeczowników z sufiksem *-ец* oferowane są najwięcej systemowo uzasadnione (lub nawet po prostu poprawne) wersje ich struktury derywacyjnej w porównaniu z przedstawionymi w słownikach słowotwórczych. Ponadto uzasadniona została zdolność niektórych interfiksów, oprócz wykonywania swojej podstawowej funkcji w procesie tworzenia wyrazów, do nadania lepszej rozpoznawalności derywatów jako przedstawicieli określonych grup semantycznych wyrazów.

**SŁOWA KLUCZOWE:** morfonologia, rzeczownik, alternacja fonemów, ucięcie podstawy słowotwórczej, interfiks, nałożenie morfów.

**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле даецца блізкі да вычарпальнага набор марфаналагічных працэсаў, якімі суправаджаецца ўтварэнне ў беларускай мове назоўнікаў ад іншых назоўнікаў з дапамогай суфікса *-ец*. Паказваюцца практычна ўсе магчымыя чаргаванні фанем, адзначаюцца фіналі ўтваральных асноў, якія найчасцей падпадаюць адсячэнню, даецца пералік інтэрфіксаў як фрагментаў у структуры вытворнага слова, якія, займаючы прамежкавае становішча паміж утваральнай асновай і суфіксальнай марфемай, спрыяюць аптымальнай спалучальнасці апошніх; прыводзяцца нешматлікія выпадкі накладання морфаў. Разам з тым у працэсе словаўтваральнага аналізу для шэрагу назоўнікаў з суфіксам *-ец* прапануюцца больш сістэмна ўгрунтаваныя (альбо нават проста карэктныя) версіі іх дэрывацыйнай структуры ў параўнанні з тымі, што адлюстраваны ў словаўтваральных слоўніках. Апрача таго, абгрунтоўваецца здольнасць некаторых інтэрфіксаў, апрача выка-

нання сваёй асноўнай функцыі ў словаўтваральным працэсе, спрыяць лепшай распазнавальнасці дэрыватаў як прадстаўнікоў пэўных семантычных класаў слоў.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** марфаналогія, назоўнік, чаргаванне фанем, скарачэнне ўтваральнай асновы, інтэрфікс, накладанне морфаў.

*Data przesłania artykułu: 10.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 25.11.2021*

## ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE

**Valery Varanovich / Валеры Вargановіч** – Białoruś, Grodzieński Uniwersytet Państwowy im. Janki Kupały, Katedra Filologii Białoruskiej; doktor nauk filologicznych, docent; specjalność naukowa: językoznawstwo białoruskie; zainteresowania naukowe: słowotwórstwo białoruskie; fonologia, morfonologia w zakresie języków wschodniosłowiańskich oraz polskiego; krajoznawstwo filologiczne Grodzieńszczyzny; składanie zadań konkursowych w zakresie języka białoruskiego dla uczniów.

**Adres**: кафедра беларускай філалогіі, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, вул. Ажэшка, 23, 230023 Гродна, Biаłoruś.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Варановіч Валеры. 2020. *Роля мовазнаўцы ў развіцці мовы: Прафесар П.У. Сцяцко і працэсы нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы* (10–17). У: С. Ляскевіч, А. Кавальчук (рэд.). *Актуальныя праблемы мовазнаўства: Зборнік навуковых артыкулаў (да 90-годдзя праф. П.У. Сцяцко)*. Гродна: ЮрСаПрынт.
2. Караткевіч Вячаслаў; Варановіч Валеры; Караткевіч Ірына. 2020. *Комплексная работа па беларускай мове і літаратуры: Трэці этап XXXVI рэспубліканскай алімпіяды. 2019/20 навучальны год.* "Роднае слова" 4: 64–68.
3. Варановіч Валеры; Караткевіч Вячаслаў; Караткевіч Ірына. 2020. *Комплексная работа па беларускай мове і літаратуры (матэрыялы для аналізу і падрыхтоўкі).* "Беларуская мова і літаратура" 9: 54–59.
4. Варановіч Валеры; Шарапава Алена. 2021. *Заключны этап рэспубліканскай алімпіяды: Аналіз заданняў і парады (X клас).* "Беларуская мова і літаратура" 9: 47–51.
5. Варановіч Валеры. 2021. *Праявы беларускай моўнай стыхіі ў польскамоўных надпісах на крыжах-абярэгах Гродзенскага раёна* (с. 84–89). У: А. Садоўская (рэд.). *Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: Зборнік навуковых прац, прысвечаны 140-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.* Гродна: ГрДУ.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.265–277

**Вячаслаў Швед / Viachaslau Shved**

Uniwersytet Warszawski / University of Warsaw
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-2878-6231
e-mail: v.shved@uw.edu.pl

# Дзейнасць польскага войска на беларускіх землях падчас Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гг.

*Activities of the Polish army in the Belarusian lands during the November Uprising of 1830–1831*

*Działalność wojska polskiego na ziemiach białoruskich w czasie powstania listopadowego 1830–1831*

18 снежня 1830 г. пачаў сваю працу рэвалюцыйны сейм, а 19 студзеня 1831 г. ён прызначыў намінальным кіраўнікам польскага войска князя Міхаіла Радзівіла, былога генерала напалеонаўскай арміі. Публіка сустрэла гэта заклікамі: "Няхай жыве Радзівіл!", "На Літву! На Літву!" У літоўскім паходжанні М. Радзівіла яна ўбачыла кірунак паўстання, які да гэтага часу не вельмі прасочваўся [Grabeński 1910: 49]. Генрык Дэмбінскі, тады яшчэ камандзір гвардыі Кракаўскага ваяводства, у лісце да сейма прапанаваў унесці ў праект аб дэтранізацыі Мікалая I пункты, якія будуць сведчыць, што польскі народ не паўстаў супраць расійскага народу, што ён з расійскім царом не будзе заключаць ні міру, ні перамір'я, пакуль Літву, Валынь, Падолле і Украіну не верне, пакуль народ пад скіпетрам яго не будзе мець неабходных канстытуцыйных свабод [*Diariusz sejmu 1907* I: 97, 152].

Ліцвіны, якія знаходзіліся ў Варшаве і яшчэ ў пачатку паўстання стварылі Камітэт літоўска-рускіх зямель, 22 студзеня 1831 звярнуліся да сейма з *Адрасам*. У ім былі такія радкі: "Заўсёды былі адным з Вамі народам, адзінаю Польшчай. Трыццаць шэсць год прыгнёту і няволі ад апошняга падзела не затапталі ў сэрцах нашых любові да агульнай Айчыны і імкненняў да зліцця ў адзіную народнасць, якая не выцерлася межамі... жыве пад апекаю гісторыі, у агульнай крыві, у супольнасці пачуццяў, памятных рэчах, мове, няшчасцях і сумеснай надзеі". Сярод тых, хто падпісаў *Адрас*, – Напалеон Орда, капітан з Беларусі Мікалай

Пятрушка, Караль Друцкі-Любецкі, Ян Гедройц, Ян Кулеша, Ян Рамкевіч з Гродзенскай губерні, а ўсіх у спісе было каля 200 чалавек. 24 студзеня Ёахім Лялевель зачытаў *Адрас* на пасяджэнні сейма. Ва ўступным слове ён коратка ўспомніў гісторыю саюза двух народаў (ліцвінаў і палякаў), пачынаючы ад караля Лакеткі, назваў Гедыміна, Чартарыскіх, Радзівілаў, Юліяна Корсака, Тадэвуша Рэйтана. Як прыклад сумеснага патрыятызму назваў Пачобутаў, Адама Нарушэвіча, Андрэя Тадэвуша Касцюшку, а таксама тых, хто быў сярод дэпутатаў – Людвіка Міхала Паца, Мікалая Радзівіла, Караля Нямцэвіча, Ксавера Несялоўскага. Чытанне Акта Ё. Лялевель закончыў словамі: „Павінны мы звярнуць увагу на прыгнечаных сваякоў, не варта нам іх забываць" [*Diariusz sejmu* 1907, I: 172–174, 567,480].

У сейма прадстаўнікі былых зямель Вялікага княства Літоўскага прасілі фінансавай дапамогі, абяцаючы вярнуць сродкі пасля вызвалення сваіх зямель. Сейм аднагалосна прыняў *Адрас*, а 1 лютага абмяркоўваў праект адказу. Ягоны аўтар Ё. Лялевель пісаў:

> Мы Вас, суайчыннікі зямель Літоўскіх, Валыні, Украіны і Падоліі, клічам да народнай справы, мы, памятаючы братэрства, якое злучае нас з вамі, агульную кроў нашу, падаем вам руку, каб паўсталі з-пад ярма, ачунялі і вызваліся б з няволі.

У дакуменце быў заклік да тых суайчыннікаў, якія знаходзіліся ў Польшчы:

> Вы, якія разам з намі! Бярыцеся за зброю, якую вам даем. Па даручэнню нашаму рабіце братэрскія атрады і спяшайцеся з намі да вашай зямлі, каб вызваліць прыгнечаных землякоў, такім жа, як і мы, усхваляваных жаданнем вольнасці і незалежнасці. Аднолькавым рытмам б'ецца вашае сэрца, тое ж пачуцце кліча на поле бою. Ідзіце землякам вашым сказаць, што прабіў час вызвалення з няволі. Спяшайцеся з намі несці ім дапамогу, каб паўсталі. Да зброі, да бою, браты! [*Diariusz sejmu* 1907, I: 394].

Адказ на *Адрас* быў адзінадушна прыняты і на пасяджэнні Сената. Сенатар Станіслаў Вадзінскі ў сваім выступленні падкрэсліў, што „абавязкам нашым з'яўляецца даць прыгнечаным яшчэ суайчыннікам усялякія доказы спачування, да таго часу, як здолеем аб'яднацца з імі" [*Diariusz Senatu* 1930, 14: 505].

На гэтым жа пасяджэнні сейма рэферэнт казначэйскай камісіі, сеймавы камісар і пасол Якуб Ясінскі прадставіў праект ліцвінаў і іншых прадстаўнікоў народаў былой Рэчы Паспалітай аб стварэнні двух легіёнаў – Літоўскага і Валынскага. Аўтары праекта прасілі дазволу на пераход у легіёны сваім землякам з польскіх войскаў. Легіёны павінны былі прыйсці на сваю тэрыторыю з пачаткам ваенных дзеянняў. Трэцяга лютага сейм прыняў пастанову аб фарміраванні двух легіёнаў:

літоўскага (літоўскае, жмудскае і беларускае вайсковыя фарміраванні) і валынскага (валынскі, падольскі, украінскі аддзелы). На арганізацыю выдзелілі крэдыт у памеры звыш 95 тысяч злотых [*Diariusz sejmu* 1907, I: 408, 409]. Цікава тое, што вакол назвы легіёнаў разгарнулася дыскусія. Маршалак сейма граф Уладзіслаў Астроўскі прапанаваў назваць легіёны наступным чынам: Літоўска-Жмудзска-Беларускі і Валынска-Падольска-Украінскі. Былі прапановы і іншыя, але ў выніку, калі стварылі толькі адзін легіён (у сувязі з недахопам кадраў), яго назвалі Літоўска-Валынскім [Jaworski 2011: 40]. Планавалася, што легіёны пойдуць у свае землі, але гэтага не адбылося – ім было наканавана бараніць землі братоў-палякаў, а пазней падзяліць іх лёс – конная частка легіёна перайшла дзяржаўную мяжу і склала зброю ў Прусіі. Створаны ў ліпені Літоўска-Рускі легіён (фактычна фармаваўся як другі батальён Літоўска-Валынскага легіёна) таксама не дайшоў да ўкраінскіх зямель і вымушаны быў пераправіцца праз Віслу і ісці ў Кракаў і ў Галіцыю [Jaworski 2011: 50, 55].

У Гродзенскай губ. дзейнічала большасць партызанскіх атрадаў, створаных на тэрыторыі сёняшняй Беларусі: Тытуса Пуслоўскага, Юзафа Кашыца і Мікалая Мержыеўскага, Стэфана Незабітоўскага і Аляксандра Бронскага, Яна Жылінскага, ксяндза Ламберта і Сільверста Малаховіча, Яўгена Ронка і Караля Нямцэвіча, Якуба Шрэцера, Адама Солтана, Казіміра Гоўвальда, Яна Далубоўскага і Антона Скродскага [Shved 2001: 414]. У *Спісах асоб, якія прымалі дзейны ўдзел у польскім паўстанні 1831 г.* склад гэтых атрадаў характарызуецца наступнымі словамі: “Рознага роду валацугі, шляхта, збеглыя салдаты, дваровыя людзі”, сяляне, “рознага зброду людзі і збеглыя рознага звання”, стральцы з варты Белавежскай пушчы, памешчыкі, ксяндзы, афіцыялісты, чыноўнікі, “асобы рознага звання” [NGA RB u Grodne, f.4, vop.1, spr.192, ark. 14 v., 61 v., 62 v., 77 v., 213 v.; f.1, vop. 27, spr. 64, ark. 244 v., 257, 261 v., 268, 301]. *Алфавітны спіс удзельнікаў паўстання 1830 г.* па Гродзенскай губ., складзены следчай камісіяй, уключае прозвішчы 474 чалавек. Намі падлічана, што шляхціцаў было 107, сялян – 99, памешчыкаў і іх сыноў – 55, дваран (так называлі польскую шляхту, зацверджаную ў расійскай Герольдыі) – 25, вайскоўцаў – 26, дзяржаўных службоўцаў – 16, студэнтаў і гімназістаў – 21, святароў і іх дзяцей – 17, лёкаяў – 18, мяшчан – 5, настаўнікаў – 1, невядомага паходжання – 65. Па месцы паходжання яны размеркаваныя наступным чынам: Навагрудскі павет – 97 чал., Слонімскі – 57, Лідскі – 39, Ваўкавыскі – 37, Гродзенскі – 35, іншых паветаў Гродзенскай губ. – 80, расійскіх губерняў – 1, Каралеўства Польскага – 3, невядомых – 94 [NGA RB u Grodne, f. 4, vop.1, spr. 192].

Названым паўстанцам на тэрыторыі Беларусі патрэбна была дапамога. Пад уплывам грамадскага меркавання і па просьбах ліцвінаў дыктатар Ян Скржынецкі вырашыў дапамагчы ліцвінам, беларусам і жмудзінам. Быў высланы спачатку палкоўнік Якуб Левінскі, які вымушаны быў вярнуцца назад пасля бітвы пад Сельковым (20.04.1831), а затым –генерал Антоні Янкоўскі з большымі сіламі і падтрымкай партызанскага атрада Юзафа Заліўскага, які вярнуўся пасля бітвы пад Пултускам. Гэтыя няўдалыя экспедыцыі прывялі генералітэт да нежадання "кідаць паходню бунту" у "краі спрадвеку расійскім" [A. Z. 1913: 24–25].

Вось тады і з'явіўся палкоўнік Дэзыдэры Хлапоўскі, былы напалеонаўскі афіцэр. У сваіх *Успамінах* ён піша, што яшчэ 15.12.1830 г. у лісце да генерала Юзафа Гжэгажа Хлапіцкага прапаноўваў перайсці Нёман і Буг 01.02.1831 г. і падняць паўстанне на Літве і Валыні. Але тады гэты план не спадабаўся дыктатару. Толькі 11 мая 1831 г. з Галоўнага штаба Антоні Янкоўскаму прыйшоў загад арганізаваць спецыяльнае вайсковае фарміраванне на чале з Д. Хлапоўскім для экспедыцыі на Беларусь і Літву. Даследчык жыцця і дзейнасці Д. Хлапоўскага Яцэк Тупальскі ў сваёй кнізе піша, што Адам Ежы Чартарыскі настойліва раіў Яну Скржынецкаму "аказаць пасрэдніцкую альбо беспасрэднюю дапамогу Літве, дзе паўстанне перажывала ўсё больш цяжкія часы" [Tupalski 1983: 184, 188–190]. Д. Хлапоўскі атрымаў заданне накіраваць на былую тэрыторыю ВКЛ 200 афіцэраў і падафіцэраў, прызначаных інструктарамі для мясцовых паўстанцаў. Ён выбраў 520 салдат 1-га ўланскага палка, 100 лепшых салдат і 3 афіцэраў з 1-га палка пешых стральцоў (паручніка Шымана Канарскага, маёра Нікодэма Бутрына, падпалкоўніка Юзафа Заліўскага), сапёраў (6 жаўнераў і падафіцэр) – усяго набралася 820 чалавек, якіх усіх пасадзілі на коней, атрыманых з ліквідаванага падляскага коннага палка. Былі таксама 2 гарматы, якія абслугоўваў паручнік князь Януш Чацвярцінскі. Штаб войска Д. Хлапоўскага склалі: шэф штаба падпаручнік Караль Марцінкоўскі; ад'ютанты Мацей Мельжынскі, Леон Смілкоўскі, Густаў Патвароўскі, Станіслаў Хлапоўскі; шэф інжынераў Міхал Гарайн; кватэрмайстар паручнік Казімір Красіцкі; кіраўнік артылерыі паручнік Януш Чацвярцінскі; скарбнік Вінцэнт Веляпольскі; каплан кс. Адам Лога; шэф санітарны доктар Шрадэр [*Źródła do dziejów* 1931, II: 303–304; Grot 1983: 99; Tupalski 1983: 192, 193.].

15 мая польская армія трыма калонамі выйшла ў паход. Д. Хлапоўскі ішоў у авангардзе, а 18 мая адышоў ад галоўных сіл у Ксенжаполю і хуткім маршам праравайся паміж корпусам расійскай гвардыі і войскам Івана Дыбіча, 21 мая ступіў на беларускую зямлю. Далейшы маршрут выглядаў наступным чынам: Бельск (узяты без бітвы, у палон трапіў

ад’ютант вял. князя Міхаіла) – Бярозава – Дубіна – Гайнаўка – Масева – Рудня – Крынкі – Мсцібава – Волпа – Ражанка – Гарлянка – Жалудок – Ліда – Мыта – Араны і г. д. Д. Хлапоўскі ўспамінаў:

> Калі мы праходзілі праз вёскі, народ спачатку прызнаваў нас за маскалёў і не адразу хацеў верыць, што мы палякі, а калі ўпэўніваўся, дык плакаў ад радасці, прыносіў прадукты, што толькі меў, ніколі не хацелі браць грошы, тым не менш я прымушаў іх браць грошы за авёс і сена, казаўшы, што маю на гэта строгі загад.

22 мая Бельск. Д. Хлапоўскі разбіў батальён расійскіх вайскоўцаў, якія вярталіся пасля ранення ў свае палкі.

23 мая Гайнаўшчызна/Гайнаўка. Бітва з двума батальёнамі расійскіх войск на чале з генералам Аляксандрам Ліндэнам. Юльян Урсын-Нямцэвіч называе гэту бітву ў сваіх успамінах як бой пад в. Дубіна (суседняя з Гайнаўкай) каля Гродна: 1200 чалавек Д. Хлапоўскага разагналі расійскі корпус, які прыйшоў з Брэста. Трапілі ў палон каля 600 рускіх, захоплена звыш 1000 карабінаў і 1 гармата. Радавых адпусцілі пасля прысягі, што не будуць ваяваць супраць і нават далі ім па 1 рублю, а 11 афіцэраў арыштавалі. У Войска Польскага страты былі наступныя: забіты падпаручнік 20 пяхотнага палка, шэф штаба Якуб Граткоўскі, паранены штыком у руку канонік Лога, карцеччу – ад’ютант Д. Хлапоўскага Густаў Патвароўскі і лёгка ў галаву – жаўнер Непакайчыцкі [Niemcewicz 1909: 124].

24 мая Хлапоўскі перайшоў Нараўку і накіраваўся на Масева, дзе да яго далучыўся з Белавежскай пушчы партызанскі атрад Яўгена Ронкі (каля 200 чал.). Далей былі Грынкі, у ваколіцах якіх знаходзіліся 25-28.05, тут сфармаваўся першапачатковы склад пяці палкоў: 25 і 26 пяхоты, 11 і 12 літоўскіх уланаў, 6 конных стральцоў. Афіцэры і падафіцэры муштравалі новых добраахвотнікаў. У Волпе адбылася сутычка з казакамі. 27 і 28 мая Д. Хлапоўскі праз Мсцібаў і Рось памаршыраваў пад Зэльвяны, дзе перайшоў Нёман і тым самым напалохаў рускіх у Гродне. Юзаф Заліўскі наблізіўся да ваколіц горада, перамог у некалькіх малых сутычках і прымусіў некаторых рускіх салдат пакінуць Гродна [*Źródła do dziejów* 1931, III: 282, 330; Tupalski 1983: 196–197].

З Радзівонішак гасцінцам да Жалудка ехаў Ігнаці Дамейка і ў раёне Ліды сустрэўся з польскім войскам Д. Хлапоўскага. Вось, што ён напісаў у сваім дзённіку:

> Nie ujechałem był mili, kiedym usłyszał trębaczy naszych ułanów i widzę z daleka chorągiewki nasze białe z amarantem. Było to koło godziny czwartej popołudniu, słońce czyste, piękny dzień wiosenny, trębacze grali pieśń „Nasz Skrzynecki mężny". Opodal za przednią strażą z kilkunastu ułanów jechał nielicznym otoczony sztabem Chłapowski, odznaczający się piękną, marsową postawą; was zawiesisty, skromny miał na sobie mundur bez złocistych ozdób,

płaszcz na ramiona zarzucony i biały orzełek (jeżeli sobie dobrze przypominam) na czapce. Obok niego jechali: senator gen. Tyszkiewicz, Loga z kanoniczym krzyżem na piersi, doktór Marcinkowski i kilku adiutantów, między którymi poznałem mego kolegę Wrotnowskiego. Ten mię z daleka poznał i przedstawił generałowi… Stanąwszy na uboczu przy drodze, przypatrywałem się radośnie przeciągającemu gościńcem całemu korpusowi, który nie tysiące, jak mniemano, ale, jeżeli się nie mylę, 700 do 800 zaledwie liczył żołnierza i szedł w porządku. Najprzód za Generałem jechał szwadron I-go pułku ułanów w granatowych mundurach z amarantowymi rabatami pod dowództwem dzielnego oficera Borkowskiego; ludzie dobrani, na dobrych koniach, tak czysto, elegancko wymuskani, jak gdyby dziś wyszli na paradę na Saski plac w Warszawie, a jednak już od trzech tygodni byli w marszu, a przed pięciu czy sześciu dniami tęgie starcie mieli z nieprzyjacielem. Za tym szwadronem postępował legion pieszych strzelców na chłopskich konikach, 180 do 200 wyćwiczonego ze starej służby żołnierza liczący i tuż za nim, też na koniach, mały oddziałek instruktorów, oficerów ze starej służby rozmaitej broni, prze-znaczonych do formowania regularnego wojska z naszych powstańców" [*Pamiętniki Ignacego Domejki* 1908: 14 15].

І. Дамейка сам застаўся ваяваць у корпусе Д. Хлапоўскага.

30 мая ў Арлянцы, за мілю да Ліды, Д. Хлапоўскі даведаўся, што ў Лідзе стаіць батальён рускіх. Ваяваць у горадзе без пяхоты генерал палічыў неразумным, а таму ноччу паслаў каля 300 стральцоў, каб яны раніцай 31 мая напалохалі расійскіх вайскоўцаў, і тыя выйшлі з горада. Расійскі капітан Камарніцкі падумаў пра атаку на горад моцных сіл праціўніка і таму адышоў на віленскі тракт. Тут яго атакавалі 2 эскадрон 1 палка ўланаў капітана Краеўскага і ўзвод з 11 уланскага палка, створанага з белавежскіх паўстанцаў, а затым конная артылерыя на чале з паручнікам Чацвярцінскім. Рускія кінулі зброю, збеглы паручнік дабраўся да Вільны і сказаў губернатару, што яго атакаваў моцны польскі корпус. У палон трапілі каля 400 жаўнераў, былі захоплены 1 сцяг і 2 гарматы са скрынямі снарадаў, мундзіры. Сярод палонных аказалася некалькі дзесяткаў ліцвінаў-беларусаў, якія прынялі прысягу ў капелана кс. Логі і перайшлі на польскі бок. Менавіта яны вырашылі ноччу напасці на расійскі канвой абозу, які ішоў з Вільні ў Брэст і цяпер знаходзіўся ў Жырмунскім замку. На жаль, атрад іх на чале з паручнікам Юзафам Забеллай не змог захапіць замак [A. Z. 1913: 40; *Bitwy i potyczki* 2018: 146; Kalinka 1885: 118].

У планах Д. Хлапоўскага было рухацца дугой па былых землях ВКЛ, акружыць Вільню, узброіць паўстанцаў і падзяліць паміж імі інструктараў. Сам далей хацеў дайсці да Мазырскіх і Барысаўскіх лясоў, каб там распаліць новы агмень паўстання. Адпачыць у Лідзе не атрымалася. Сюды спяшаліся расійскія войскі: ад Гродна – аддзел на чале з Дзмітрыем Курутай, ад Ашмян – генерал Астрашчэнка. Д. Хлапоўскі праз Мытаў 02.06.1831 г. дайшоў да Аран Троцкага павета без сутыкнення

з праціўнікам. Тут ад аўгустоўскага землеўласніка Карбовіча даведаўся аб руху з Аўгустоўскага ваяводства польскага войска, а пазней праз яго атрымаў адказ на свой ліст ад генерала Г. Дэмбінскага. Гэта ішоў на Віленшчыну генерал Антоні Гелгуд, якога прызначылі галоўнакамандуючым усіх польскіх сіл на тэрыторыі былога ВКЛ. У такім выпадку рэалізацыю свайго плану Д. Хлапоўскі павінен быў спыніць і падпарадкавацца вярхоўнай уладзе А. Гелгуда. Апошні 08.06.1831 г. загадаў яму ісці да Кейдан і тым самым сарваў план Д. Хлапоўскага рушыць на Мазыр і Мінск [Kalinka 1885: 123].

А. Гелгуд праявіў сябе не найлепшым чынам, дапусціўшы шэраг памылак, а таму прайграў бітвы на Панарскіх вышынях пад Вільняй (19.06.1831) і пад Шаўлямі (8.07.1831) [Grabowiecki 1970: 15, 16, 26, 213, 217; *Pamiętnik* 1977: 124; Tupalski 1983: 209–212]. З А. Гелгудам звязана дзейнасць Цэнтральнага Польскага Часовага ўрада ў Літве (12.06–13.07). У склад яго ўвайшлі: старшыня Тадэвуш Тышкевіч, віцэ-старшыня і кіраўнік ваеннага аддзела князь Габрыэль Юзаф Агінскі, кіраўнікі аддзела паліцыі (унутраных спраў) А. Гелгуд, аддзела адміністрацыі (інтэнданцкі) Міхал Залескі, аддзела фінансаў Казімір Кантрым, замежнага Юзаф Страшэвіч, сакратар генерал Ян Таміцкі. Урад (яго яшчэ называлі Цэнтральнай польскай радай у Літве) цалкам залежаў ад камандуючага А. Гелгуда, бо ён зацвярджаў яго чальцоў. Урад знаходзіўся пры галоўнай кватэры арміі і выконваў перш за ўсё загады камандуючага. Вядомыя наступныя распараджэнні ўрада да мясцовых камітэтаў: аб арганізацыі паштовых станцый, аб правядзенні пасяджэнняў для выканання пастаноў урада, аб падрыхтоўцы кніг ахвяраванняў, аб арганізацыі вайсковых сіл і інш. Рапарты аб сваёй дзейнасці Рада дасылала ў Нацыянальны ўрад [BUW, oddział rękopisów, sygn. 566, spr. 1].

Разам з А. Гелгудам прыйшоў на былыя землі ВКЛ генерал Генрык Дэмбінскі, які на нарадзе ў Куржанах (09.07.1831) прыняў рашэнне не пераходзіць прускую мяжу, а прабівацца назад у Каралеўства Польскае. Маючы 3656 чалавек пяхоты, 6 гармат і 2 эскадроны уланаў ён пайшоў на паўночны ўсход уздоўж правага фланга расійскай арміі. Яна не пераследавала яго, бо ўсе пайшлі за аддзеламі А. Гелгуда, Францішка Роланда і Д. Хлапоўскага. Мясцовыя жыхары давалі праваднікоў, грошы, коней, падводы, фураж, харчаванне, інфармавалі пра месцазнаходжанне праціўніка. Г. Дэмбінскі ішоў з баямі пад Мешкуцямі (10.07), у Паневежы (12.07), Малатах (16.07), Падбродзі (17.07). 19.07 ён пераправіўся праз Вілію пад Данішэвем і 20.07 быў у Смаргоні. Расійскае армія кінулася ў пагоню, каб раней выйсці да Нёмана, і 22 ліпеня сустрэлася з кавалерыяй Алаіза Яновіча, які змог на пэўны час затрымаць пярэднюю ахову Ерамея Саваіні. Г. Дэмбінскі пад Збойскам кінуў праз

Нёман мост і ў ноч з 22 на 23 ліпеня наладзіў пераправу (ў 4 гадзіны раніцы была перавезена апошняя гармата). Калі пазней падышоў да ракі А. Яновіч, ён знайшоў брод і пераправіўся да асноўных сілаў. Расійскім войскам зрабіць гэтага не дала артылерыя польскага аддзела, і яны толькі 24 ліпеня пад Мазыром перайшлі праз Нёман [A. Z. 1913: 113–119; Grot 1983: 103 (mapa); Tokarz 1930: 409].

Г. Дэмбінскі прайшоў праз наступныя беларускія населенныя пункты: Жодзішкі, Смаргонь, Альшаны, Іўе, Гаўя, Уселюб, Альхоўка, Дзятлава, Дзярэчын, Зэльва, Ізабэлін, Поразава.

24 ліпеня Г. Дэмбінскі, пакінуўшы Уселюб, выслаў у напрамку Беліцы і Дзятлава палкоўніка Аўгустына Бжежанскага з трыма эскадронамі кавалерыі, коннай пехотай і гарматай. Пад Дзятлавам ён сустрэўся з расійскім атрадам, які ішоў са Слоніма для пераследавання паўстанцаў. Пяхота (каля 50 чал.) залегла ў глыбокім рове перад паркам, вярнуліся афіцэры са сваімі эскадронамі (адным з іх кіраваў капітан Войцех Ланчкоўскі, другім – капітан Тэртулян Качароўскі, яшчэ адным – паручнік Эміль Швінарскі). Супраць польскіх сіл выступілі 1 батальён пяхоты, 2 ці 4 эскадроны кавалерыі, 2 ці 3 гарматы расійскага войска пад агульным кіраўніцтвам генерала Станковіча. На полі польскія эскадроны падрыхтаваліся да бою, стрэлілі з гармат, і рускія прынялі рашэнне адысці да Слоніма. Адыходзячы яны адстрэльваліся з 2 гармат (адным са снарадаў адарвала нагу ад'ютанту капітана Шанецкага). Польскае войска пасля нядоўгага пераследу вярнулася. Хутка падышла да месца бою сотня паўстанцаў-коннікаў. У карчме за тры мілі ад Дзятлава былі затрыманы каля 20 расійскіх салдат [*Bitwy i potyczki* 2018: 184–185].

25 ліпеня пад Воляй Г. Дэмбінскі перайшоў р. Шчару, тут да яго далучыліся паўстанцы з ваколіц Слоніма. 26 ліпеня польскія войскі былі ў Зэльве і праз Ізабэлін пайшлі ў Белавежскую пушчу. Расійскае камандаванне памылілася ў кірунку руху Г. Дэмбінскага і сканцэнтравала свае сілы так, каб не даць яму выйсці праз Пружаны альбо Камянец на Валынь і Палессе. Праз Орлю, Боцькі, Цехановец, Мыслібор Г. Дэмбінскаму ўдалося дайсці да Варшавы і вечарам 3 жніўня размясціцца на Празе. У хуткім часе яго прызначаць галоўнакамандуючым польскай арміі [*Belwederczycy i podchorążowie* 1989: 251–252; *Powstanie Listopadowe* 1990: 271, 272, 279, 280, 408, 409; Sokolowski 1900, 2: 231–234, 332–338, 345–347; Tokarz 1930: 411–412; NGA RB u Grodne, f. 4, vop. 1, spr. 42, ark. 9, 9 v.; spr. 54, ark.1–3 v.].

У час знаходжання Г. Дэмбінскага ў Навагрудскім павеце актывізаваліся мясцовыя патрыёты: Юзаф Кашыц і Мікалай Мержыеўскі стварылі ў маёнтку Ятра партызанскі атрад, які пазней далучыцца да Г. Дэмбінскага, які праходзіў праз Белавежскую пушчу. На мяжы з Ка-

ралеўствам Польскім Г. Дэмбінскі сустрэўся з корпусам ліцвіна Ф. Абухоўскага, які ішоў дапамагчы партызанам Літвы. Зразумеўшы, што далейшы рух немагчымы, ён вярнуўся. А яшчэ раней, 6 ліпеня 1831, галоўнакамандуючы Я. Скржынецкі выправіў на былыя землі ВКЛ корпус генерала Самуіла Ражыцкага, які меў 120 афіцэраў і падафіцэраў (пераважна родам з Літвы і Валыні) [*Litewski kontekst* 2011: 58–59].

У аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта знаходзіцца справа, у якой ёсць матэрыялы пра праекты экспедыцый польскіх войск у апошняй фазе паўстання [BUW, oddział rękopisów, sygn. 566, k. 19–25]. У праекце генерала Ксавера Несялоўскага, напісанага 26.08.1831 г. (гэта значыць, пасля пахода Д. Хлапоўскага і вяртання Г. Дэмбінскага), прадстаўлены дапушчаныя вайсковыя памылкі (у час аперацыі каля Вільні; не здзейсненая бітва пад Шаўлямі). Ён прапаноўвае выслаць дзве новыя асобныя экспедыцыі. Першую – на Жмудзь, другую – на Палессе. Пра апошнюю ён піша значна больш. Шляхта, на яго погляд, дала б коней, узброіла войска, арганізавала конніцу для далёкіх экспедыцый. Можна было б выкарыстаць стральцоў мытні, ляснікоў, баброўнікаў, падлоўчых для розных патрэб. Мясцовым аддзелам трэба дадаць 4–6 батальёнаў з 6 эскадронаў, 8–10 гармат, афіцэраўкватэрмайстраў, інжынераў, сапёраў. Апорным цэнтрам мог быць Давыд-гарадок, трэба заняць млыны на Гарыні, у Пінску ёсць вялікія склады солі, збожжа, таннае мяса, свежая і сушаная рыба. Адсюль можна ісці на Валынь, праз лясы пад самы Кіеў, Белую Царкву. Лясы вакол Мазыра, Рэчыцы, Магілёва, можна дайсці да Нёмана, а адтуль – да Вільні. Праз лес ёсць сувязь са Слуцкім паветам, можна пагражаць Слонімскаму павету праз Рэпіхаўскія лясы, Беластоцкаму – праз Ражанскія, Белавежскія і Заблудаўскія лясы, Гродзенскаму павету – праз Валільскія і Гатоўскія лясы. А пазней, – піша Кс. Несялоўскі, – сіламі з Палесся і Жмудзі ўдарыць на Літву, каб ворага выгнаць канчаткова.

Другі дакумент – *Погляды аб экспедыцыі на Літву* –складзены 31.08.1831 г. і ўяўляе сабой праект калектыўнай творчасці. Верагодна, сінтэз 8 праектаў – выпрацаваны на надзвычайных сесіях пад кіраўніцтвам Ё. Лялевеля. Праект складаецца з дзвюх частак: вайсковай і адміністрацыйнай. У першай называецца колькасць патрэбнага войска – ад 12 да 20 тыс. чал.; указваюцца месцы іх базавання – Белавежская пушча, Пінскія балоты; адсюль іх пасылалі б на Валынь, Жмудзь, Літву, Украіну, Палессе. Некаторыя ўдзельнікі лічылі, што ваенным пунктам можа быць Наваградак, горад багаты і падрыхтаваны да паўстання, адкуль можна пасылаць атрады на Палессе. У праекце гаварылася, што войска, якое пойдзе трактам з Брэста на Пружаны, Ражаны, Слонім да Мінска і трактам з Варшавы да Масквы і Пецярбурга, можа перакрыць камунікацыі праціўніка і не даць магчымасці дасылаць амуніцыю праз

Брэст. Яго можна адрэзаць і ад Валыні, выправіўшы 2000 паўстанцаў. З Белавежскай пушчы другі вайсковы аддзел мог бы турбаваць Беласток і падтрымліваць паўстанне ў Наваградскім, Слонімскім, Слуцкім і Пінскім паветах.

Добра было б захапіць парахавыя склады ў Нясвіжы і адтуль ісці да Давыд-гарадка праз Слуцкі і Мазырскі паветы. Наяўнасць сплаўных рэк дазволіць аблегчыць арганізацыю складоў і падтрымаць камунікацыі з Валынню і нават з Каралеўствам Польскім. Перад адпраўкай войска трэба выправіць эмісараў, а пры галоўнакамандуючым павінны знаходзіцца начальнікі паўстанцаў, якія маюць павагу сярод апошніх. І вельмі важна акцэнтаваць, што ў праекце выказвалася жаданне абʼявіць прыгонным сялянам вольнасць.

У адміністратыўнай частцы праекта гаварылася пра краёвую ўладу, якая павінна дзейнічаць ад імя Нацыянальнага ўрада Каралеўства Польскага. Адны прапаноўвалі стварыць яе з былых павятовых маршалкаў (падазроных змяніць), дадаўшы ім 4 камісараў з дарадчым голасам. Іншыя раілі ўзяць за ўзор Расіенскі павет, дзе ўлада належала начальніку павета і 4 радцам – сябрам рады начальніка, якія займаліся асобнымі справамі адміністрацыі.

## Высновы

1. Варшаўскі Нацыянальны ўрад прыняў пастанову дапамагчы паўстанцам, але ён спазніўся з адпраўкай рэгулярных польскіх войскаў на Літву і Беларусь.
2. Адсутнасць адзінства і паразумення ў кіраўніцтве польскіх войскаў, у дзеяннях рэвалюцыйнага ўрада і польскай арміі, пасіўныя дзеянні А. Гелгуда і яго тактычныя памылкі прывялі да зніжэння актыўнасці дзейнасці польскага войска арміі на беларускіх землях.
3. Польскае войска адабрала ў паўстання на землях Беларусі і Літвы самыя актыўныя партызанскія атрады. Уключаныя ў польскае войска, яны часткова пайшлі ў Прусію, а іншыя дабраліся да Каралеўства Польскага. І гэта прывяло да завяршэння паўстання на былой тэрыторыі ВКЛ.

## Бібліяграфія

A.Z. 1913. *Wojna w Litwie w roku 1831*, Kraków.

*Belwederczycy i podchorążowie*/Robert Bielecki. 1989. Warszawa: Krajowa Agencja Wydawnicza.

Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego, oddział rękopisów, sign. 566, a. 1, 19–25.

Bielecki Robert. 1996. *Słownik biograficzny oficerów Powstania Listopadowego*. T. I. A–D, Warszawa: Trio.

Bielecki Robert. 1996. *Słownik biograficzny oficerów Powstania Listopadowego*. T. III. L–R. Warszawa: Trio.

*Bitwy i potyczki stoczone przez wojsko polskie w roku 1831*. 2018. Oświęcim: Napoleon V.
Chłapowski Dezydery. 1899. *Pamiętniki jenerała D. Chłapowskiego*. Cz. 2. Poznań.
*Diariusz sejmu z r. 1830–1831*. 1907. Kraków: Wyd. M.R. Rostworski. T. 1.
*Diariusz Senatu z r. 1830–1831*. 1930. "Archiwum komisji historycznej polskiej Akademii Umiejętności" T. 14.
Grabien'skij Władysław. 1910. *Istorija polskogo naroda*. SPb. [Грабеньский Владыслав. 1910. *История польского народа.* СПб.].
Grabowiecki Jacenty. 1970. *Moje wspomnienia w emigracji: od roku 1831 do 1854 spisany w Marsylii.* Warszawa: Instytut Wydawniczy „Pax".
Grot Zdzisław. 1983. *Dezydery Chłapowski. 1788–1879.* Warszawa–Poznań: PWN.
Kalinka Walerian. 1885. *Jenerał Dezydery Chłapowski*. Poznań.
*Litewski kontekst wojny polsko-rosyjskiej 1831 roku*. 2011. Oświęcim: Napoleon V.
Matvejčyk Dzmìtry. 2008. *Udzel'nìkì paŭstannâ 1830–1831 gg. – uradžèncy belaruska-lìtoŭskìh gubernâŭ: èmìgracyâ, gurtavanne, dzejnasc'*. Mìnsk: BDU [Матвейчык Дзмітры. 2008. *Удзельнікі паўстання 1830–1831 гг. – ураджэнцы беларуска-літоўскіх губерняў: эміграцыя, гуртаванне, дзейнасць*. Мінск: БДУ].
*Mickiewicz: encyklopedia.* 2010. J.M. Rymkiewicz, D. Siwicka, A. Witkowska, M. Zielińska (red.). Warszawa: Świat książki.
Nacyanal'ny gistaryćny arhiu Belarusi u Grodne, NGA RB u Grodnie, f. 1, vop. 27, spr. 64,; f. 4, vop. 1, spr. 17; spr. 42; spr. 54; spr. 192 [Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, ф. 1, воп. 27, спр. 64; ф. 4, воп. 1, спр. 17; спр. 42; спр.54; спр. 192].
Niemcewicz Julian. 1909. *Pamiętniki z 1830–1831 roku*. Kraków.
*Pamiętnik wychodźca polskiego*. 1977. Warszawa: Instytut wydawniczy „Pax".
*Pamiętniki Ignacego Domejki* (1831–1838). 1908. Kraków.
*Powstanie Listopodowe. 1830–1831: Dzieje wewnętrze. Militaria. Europa wobec powstania*. 1990. Warszawa: PWN.
Sokolowski August. 1900. *Dzieje porozbiorowe narodu polskiego*. T. 2, cz. 2. Warszawa: Wiek.
*Słownik biograficzny historii Polski*. 2005. T. 2: L–Z. Wrocław–Warszawa–Kraków: Zaklad Narodowy im. Ossolińskich.
Tokarz Waclaw. 1930. *Wojna polsko-rosyjska 1830 i 1831*. T. 1, 2. Warszawa: Wojskowy Instytut Naukowo-wydawniczy.
Tupalski Jacek. 1983. *General Dezydery Chłapowski. 1788–1879*. Warszawa: Wydawnictwo Ministerstwa obrony narodowej.
Šved V. 2011. *Pamìž Pol'ščaj ì Rasìâj: Gramadska-palìtyčnae žyccë na zemlâh Belarusì (1772–1863 gg.)*. Grodna: GrDU [Швед В. 2011. *Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.).* Гродна: ГрДУ].
*Źródła do dziejów wojny polsko-rosyjskiej 1830–1831*. 1931. T. III. Warszawa: Wojskowe Biuro Historyczne.

**ABSTRACT**: At the beginning of the article, the author describes how the "Belarusian / Licvin" issue was raised at the sessions of the revolutionary Sejm and the state of the partisan rebel units in Belarus, which the Polish troops were supposed to help. The main content of the article is devoted to the analysis of the actions of the Polish regular troops on the territory of Belarus: the routes of the troops of D. Khlapovsky, A. Giełgud, H. Dembińsky; their battles on the lands of Belarus; new expeditions after the defeat of the previous ones (found in the department of manuscripts of the BUV).

**KEYWORDS**: November uprising, revolutionary Diet, partisan detachments, Polish troops, lands of Belarus, the Central Polish Council in Lithuania.

**STRESZCZENIE**: Na początku artykułu autor opisuje, jak podnoszona była kwestia „białoruska/lićwinska" i stan oddziałów partyzanckich na ziemiach białoruskich, którym miały pomagać polskie oddziały. Główna treść artykułu poświęcona jest opisaniu działań polskich wojsk regularnych na terytorium ziem białoruskich: szlaki wojsk D. Chłapowskiego, A. Giełguda, H. Dembińskiego; ich bitwy na ziemiach białoruskich; nowe wyprawy po klęsce poprzednich (odnalezione w dziale rękopisów BUW).

**SŁOWA KLUCZOWE**: powstanie listopadowe, sejm rewolucyjny, oddziały partyzanckie, wojska polskie, ziemie białoruskie, Centralna Rada Polski na Litwie.

**РЭЗЮМЭ**: На пачатку артыкула аўтар апісвае пастаноўку "беларускага / ліцвінскага" пытання на пасяджэннях рэвалюцыйнага сейма і стан партызанскіх атрадаў паўстанцаў у Беларусі, дапамагчы якім і павінны былі польскія войскі. Асноўны змест артыкула прысвечаны апісанню дзеянняў польскіх рэгулярных войскаў на беларускіх землях: маршруты войскаў Д. Хлапоўскага, А. Гелгуда, Г. Дэмбінскага; іх баявыя дзеянні; праекты новых экспедыцый пасля паражэння папярэдніх (знойдзеныя ў аддзеле рукапісаў БУВ).

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: Лістападаўскае паўстанне, рэвалюцыйны сейм, партызанскія атрады, польскія войскі, беларускія землі, Цэнтральная польская рада ў Літве.

*Data przesłania artykułu: 21.11.2021*
*Data akceptacji artykułu: 8.11.2021*

**ABOUT THE AUTHOR / O AUTORZE**

**Viachaslau Shved/ Вячаслаў Швед** – Polska, Uniwersytet Warszawski, Katedra Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej; dr hab., prof.; specjalność naukowa: historia Białorusi; zainteresowania naukowe: rozwój gospodarczy Białorusi w pierwszej połowie XIX wieku, życie społeczne i polityczne na ziemiach białoruskich w latach 1772–1863, historia Grodna i Grodzieńszczyzny (X–XXI w.).

**Adres**: Katedra Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego, ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszawa, Polska.

**Wybrane publikacje (2020–2021):**

1. Shved Viachaslau, Grzybowski Jerzy. 2020. *Historia Białorusi: od czasów najdawnejszych do roku 1991*. Warszawa: WUW.
2. Швед Вячаслаў. 2020. *Даследаванне Статутаў Вялікага Княства Літоўскага прафесарам Ігнатам Даніловічам*. „Rocznik Centrum Studiow białoruskich" 5: 64–77.
3. Shved Viachaslau. 2020. *Organizatorzy i kierownicy legalnych i tajnych towarzystw młodzieży Wileńskiego Okręgu Naukowego z ziem białoruskich* (48–60). W*:* A. Szmyta, E. Klimus (red.) *Będziemy wzorem innym, sobie samym chlubą – w 200. Rocznicę powstania Towarzystwa* Filomatów. Olsztyn: Wydawnictwo Uniwersytetu Warminsko-Mazurskiego.

4. Shved Viachaslau. 2021. *Projekty Wiktora Starzeńskiego w okresie wrzenia rewolucyjnego (1861–1863)* (25–37). W: *Polacy na Białorusi*. T. 5. Ks. 1. Warszawa: UW.
5. Shved Viachaslau. 2021. *Францішак Багушэвіч – ідэолаг беларускай нацыянальнай ідэі?* (43–55). J. Getka, J. Grzybowski (red.) *Tożsamość białoruska: doświadczenie przeszłości i wyzwania teraźniejszości. W 30.rocznicę uzyskania przez Białoruś niepodległości*. Warszawa: WUW.

**ACTA ALBARUTHENICA 21: 2021**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2021.21.pp.279–289

**Мар'юш Каліціньскі / Mariusz Kaliciński**

Uniwersytet Warszawski / University of Warsaw
ORCID: https: //orcid.org/0000–0001–6417–2424
e–mail: m.kalicinski@student.uw.edu.pl

# Ідэя беларускага ўніянізму ў творчасці Казіміра Сваяка

*The idea of Belarusian unionism in the works of Kazimir Svoyak*
*Idea białoruskiego unionizmu w twórczości Kazimierza Swojaka*

Канфесійны падзел беларускага народу і яго наступствы былі тэмай, якая звяртала ўвагу многіх дзеячаў беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст. Справы царкоўнай уніі і яе значэнне ў гісторыі Беларусі аналізавалі тады, між іншым, Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Аляксандр Цвікевіч, Мітрафан Доўнар-Запольскі [Марозава 2002: 39]. Канцэпцыя адраджэння уніі на Беларусі была тэмай спатканняў Івана Луцкевіча і ўніяцкага мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага [Луцкевіч 1926: 45–48], таксама вельмі актыўна прасоўвалі гэтую ідэю прадстаўнікі палітычнай партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД). У палітычнай праграме БХД, якая выйшла ў Мінску ў 1920 г., знаходзіўся адмысловы пункт, які датычыў збліжэння і аб'яднання беларусаў дзвюх хрысціянскіх канфесій [Станкевіч 2008: 514]. Друкаваным органам БХД з'яўлялася газета "Крыніца", якая ў пачатку 1920–х гг. змяшчала адмысловую рубрыку *Куток аб Уніі*, прысвечаную тэме рэлігійнага аб'яднання на Беларусі [Мяшкова 2008: 63].

Адным з тых публіцыстаў, якія на старонках "Крыніцы" звярталіся да ідэі уніі, быў Казімір Сваяк (сапр. Кастусь Стаповіч). Ён належаў да групы каталіцкіх святароў-адраджэнцаў, заангажаваных у развіццё беларускай культуры, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, пашырэнне выкарыстання беларускай мовы падчас набажэнстваў у касцёлах і ў навучанні вернікаў. Гэты нефармальны рух гуртаваў markdown рознабакова адораных людзей, у тым ліку паэтаў і пісьменнікаў (Язэп Германовіч, Андрэй Астрамовіч, Янка Семашкевіч, Язэп Рэшаць і іншыя), сярод якіх К. Сваяк валодаў значным паэтычным талентам, што таксама прызнавалі гісторыкі беларускай літаратуры ў БССР [Traczuk

1997: 247–248]. Апрача паэзіі літаратурная дзейнасць аўтара зборніка вершаў *Мая Ліра* таксама ахоплівала іншыя сферы:

> Як літаратар Казімір Сваяк быў рознабакова адораным: бліскучым паэтам, публіцыстам, драматургам, празаікам, крытыкам, эсэістам. У ім спалучаліся філосаф і гісторык, ён быў асветнікам у шырокім разуменні гэтага слова. У сваёй грамадскай і літаратурнай дзейнасці ён браў за ўзор сваіх папярэднікаў – Францыска Скарыну і Францішка Багушэвіча, падкрэсліваў сваю творчую повязь з сучаснікам Янкам Купалам [Багдановіч 2010: 20] .

Адам Станкевіч у сваім рэфераце пра жыццё і творчасць К. Сваяка сцвярджае, што менавіта гэты паэт і публіцыст першы звярнуў асаблівую ўвагу на адсутнасць беларускага нацыянальна-філасофскага пісьменства ў тыя часы (канец XIX – пачатак XX ст.), якое адпавядае матэрыяльнай і духоўнай прыродзе беларуса і прапануе ідэалагічныя шляхі на будучыню, што ўключаюць у сябе дасягненні ўласнабеларускай думкі з мінуўшчыны і сучаснасці. Таму А. Станкевіч называе К. Сваяка "народным ідэолагам", для якога галоўнай мэтай жыцця і творчасці з'яўляецца "шуканьне беларускай народнай ідэалёгіі" [Станкевіч 2008: 274].

Часткай ягонае беларускай ідэалагічнай праграмы, якая датычыла рэлігійных спраў, была канцэпцыя аб'яднання беларусаў рымска-каталіцкага і праваслаўнага веравызнанняў. Наш артыкул мае на мэце прадставіць галоўныя аспекты гэтай канцэпцыі на аснове прааналізаванае паэзіі і публіцыстыкі гэтага паэта і рэлігійнага дзеяча. Тэма, якая нас цікаваць, не была прадметам асобных даследаванняў, хоць іншыя даследчыкі закраналі яе ў сваіх публікацыях, у тым ліку А. Станкевіч, І. Багдановіч, С. Марозава, Н. Мяшкова.

На думку К. Сваяка, беларускі рэлігійны светапогляд, у адрозненне ад рымска-каталіцкай Польшчы або праваслаўнай Расіі, знаходзіцца ў працэсе фармавання, пошуку якога-небудзь аптымальнага рашэння, сінтэзу абедзвюх рэлігійных форм, выразам чаго якраз з'яўляецца **беларускі ўніянізм** [Сваяк 2010: 329]. Так аўтар назваў сваю канцэпцыю, указваючы тым самым на яе нацыянальны беларускі характар. Прыметнік "беларускі" быў ім дададзены ў адным з пазнейшых артыкулаў пра рэлігійную унію, што, на нашу думку, сведчыць аб эвалюцыі ягонай канцэпцыі ў бок беларускай нацыянальнай ідэі[1]. Пад гэтым паняццем ён разумее адну хрысціянскую веру, якая мае за аснову свайго веравучэння каталіцкую дагматыку, але выражаецца ў дзвюх літур-

[1] У сваіх ранейшых артыкулах К. Сваяк ужывае тэрміны "Унія", "Вера Народная Русінаў", "Спалучэнне", "славянскі ўністыцызм".

гічных традыцыях: лацінскай і грэцкай, якія мірна суіснуюць адна з адной:

> Беларусы, творачы светагляд адзін у рэлігійнай навуцы, расходзяцца ў абрадах. Але гэта еднасці іх не парушае, бо яны разумеюць, што і Царква і Касцёл – усё роўна, абы толькі быць па веры "аднаго сэрца і душы" [Сваяк 2010: 280].

Беларускі ўніянізм, паводле К. Сваяка, "мае быць чыстым хрысціянствам"[1] [Сваяк 2010: 294], што панавала на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў часы Еўфрасінні Полацкай, якая ведала як лацінскую, так і грэцкую хрысціянскія традыцыі і Яе лічаць святой як Каталіцкі Касцёл, так і Праваслаўная Царква, нягледзячы на тое, што яна нарадзілася блізу 60 гадоў пасля афіцыйнага расколу хрысціянскай царквы ў 1054 годзе [Сваяк 2010: 313]. Аўтар, прыгадваючы гэтую важную асобу для гісторыі Беларусі, хоча такім чынам паказаць, што карані беларускага ўніянізму сягаюць яшчэ ў Полацкае княства, таму гэтая ідэя не з'яўляецца нечым новым, а толькі вяртаннем да вытокаў.

Аўтар мяркуе, што пашырэнне рэлігійнай уніі – гэта ключавы фактар для існавання беларускай нацыі. Ён звяртае ўвагу на геаграфічнае становішча Беларусі на мяжы дзвюх вялікіх цывілізацый: лацінскай і візантыйскай, для якіх беларуская тэрыторыя з'яўляецца месцам змагання за свае ўласныя інтарэсы. Выкарыстанне рэлігіі дзеля ўласных інтарэсаў прадстаўнікамі абедзвюх цывілізацый на беларускіх землях прывяло да падзелу "душы беларуса" (рэлігія), які ўрэшце падзяліў і яго "цела" (нацыянальная свядомасць). Канфесійнае аб'яднанне беларусаў павінна быць, на думку К. Сваяка, тым чыннікам, што дапаможа ім захаваць сваю нацыянальную тоеснасць: "Ідэя аднэй бацькаўшчыны Беларусі спалучае народ целам, Унія злучае душу народа, – а так будзе ён тым жывым арганізмам, для паўстання каторага калісьці праліў кроў св. Язафат Кунцэвіч (1623)" [Сваяк 2010: 280]. Вось як піша пра гэта І. Багдановіч:

> Галоўнай ідэяй, якую ён развіваў, была ідэя уніі і разуменне геапалітычнай ролі Беларусі як памежнага чынніка паміж усходам з яго праваслаўнай традыцыяй і расійскай ментальнай прасторай – і захадам, прадстаўленым каталіцтвам і польскасцю. Абедзве дамінуючыя супольнасці імкнуліся сцвердзіць на беларускіх землях свой беззваротны ўплыў і не былі зацікаўлены ва ўзмацненні і самастойнасці Беларусі. Калі праз дзяржаўныя інстытуцыі гэта магло адбывацца толькі шляхам прымусу і супраціву ў адказ, то пры дапамозе Царквы і Касцёла гэта рабілася досыць нязмушана і лёгка: вернікі прызвычайваліся да "рускай" альбо

[1] Паводле нашага меркавання, пад тэрмінам "чыстае хрысціянства" падразумяваецца перыяд у гісторыі хрысціянства да расколу 1054 года, калі паміж Заходняй і Усходняй цэрквамі панавала дагматычная еднасць.

> “польскай” веры і адпаведным чынам самаідэнтыфікавалі сябе. К. Сваяк бачыў небяспечнасць такога становішча для будучыні Беларусі і даў сваё асэнсаванне праблемы уніі, або рэлігійнай еднасці, на Беларусі [Сваяк 2010: 20–21].

У змаганні за рэлігійную еднасць у краіне К. Сваяк бачыць выключную ролю беларускай нацыі ў еўрапейскай ці нават у сусветнай гісторыі. Ён нагадвае, што продкі беларусаў і ўкраінцаў прынялі хрышчэнне ад грэцкіх місіянераў яшчэ да Вялікай схізмы 1054 года, затое пасля рэлігійнага падзелу спробы вяртання да адзінства цэркваў неадначасова адбываліся на беларускіх землях, што найбольш выразна выявілася падчас заключэння Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года:

> Кіеўская Русь, з каторай былі ў частых зносінах беларускія плямёны крывічан, дрыгавічан і радзімічан, прымае хрысціянства з Грэцыі яшчэ ў тым часе, калі царква грэцкая была неразлучнаю з рымскай. Пазней толькі паддаецца яна разладу, хоць пробы ўтрымання еднасці трывалі заўсёды, а ў 1439 годзе на саборы ў Фларэнцыі Унія была зноў навязана і трымалася б, калі б не захопліваючы ўплывы паўстаўшага ў тым часе маскоўскага цэзарызму. Цэнтрам змагання за з'яднанне, наагул кажучы, былі землі русінаў, так беларусаў, як украінцаў, а найбольш выдатным фактам таго змагання быў сабор у Бярэсці (1595) [Сваяк 2010: 313].

К. Сваяк сцвярджае, што дарогі ўкраінцаў і беларусаў да рэлігійнага аб'яднання трохі разышліся, бо ўкраінцы пакінулі сабе толькі грэцкую літургічную традыцыю пры дагматычным раз'яднанні [Сваяк 2010: 330]. Па гэтай прычыне ён лічыць канцэпцыю суіснавання дзвюх літургічных традыцый ў адным рэлігійным светапоглядзе арыгінальнай уласнабеларускай думкай, якая вылучае “рэлігійны склад душы” беларуса на фоне іншых нацый: “Народ наш створыць еднасць рэлігіі Усходу і Захаду. Ён – або ніхто. Будзе яна выспаю натуральнаю яго духу рэлігійнага” [Сваяк 2010: 313]. Таму аўтар прыходзіць да высновы, што спробы ўтварэння і пашырэння уніі, якія ў той час адбываліся на тэрыторыі Расіі не дачакаюцца ні трывалага замацавання, ні шырокага распаўсюджання сярод расійскага насельніцтва: “Вялікае пытанне, ці каталіцка–славянскі абрад утрымаецца ў Расеі. Рэч – на маю думку – простая: ідэю Уніі развівалі русіны, а не расейцы, і дзеля таго яна там не можа запусціць глыбшага карэння” [Сваяк 2010: 287].

Вельмі важнае значэнне ў працэсе канфесійнага аб'яднання, на думку К. Сваяка, мае беларуская мова, ужыванне якой у святынях з'яўляецца неабходнай умовай дзеля дасягнення гэтай мэты. У першай трэці XX ст. беларуская мова амаль не выкарыстоўвалася ні падчас набажэнстваў, ні падчас казанняў[1]. Літаратар звяртае ўвагу на гэтае

[1] У той час выкарыстанне роднай мовы ў хрысціянскіх храмах не тычылася тэкстаў літургіі, бо Каталіцкі Касцёл карыстаўся латынню, а Праваслаўная Царква на

незвычайнае становішча на Беларусі і прыгадвае аб праве кожнай нацыі на навучанне рэлігіі на роднай мове: “Права ж прыроднае кажа нам шырыць ідэі рэлігійныя ў роднай мове народа” [Сваяк 2010: 294–295]. Адсутнасць беларускай мовы ў хрысціянскіх храмах запавольвала развіццё беларускай культуры, нацыянальна-ідэалагічнай думкі і была прычынай убогасці ў галіне беларускіх рэлігійных твораў:

> Маем шляхоцка-народнае пісьменства Баршчэўскага і Марцінкевіча, маем дэмакратычна-ідэйную літаратуру найнавейшых пісьменнікаў, але з творамі рэлігійнай мыслі лепш нам схавацiся. Народ наш, праўду кажучы, не мог вытварыць ані песні рэлігійнай, ані легенды, бо чужацкая заборчасць, адбіраючы ад яго родныя формы, скруціла лёт яго фантазіі. У касцёлах і цэрквах Беларусі пануе чужая мова. І за тое народ наш не творыць, але толькі бяздушна паўтарае, бо тварыць можна толькі ў мове, каторай дзіця шчабеча на каленках сваёй маці. У нас паэзія рэлігійная не існуе і не зродзіцца, пакуль мы не пачнём маліціся па-беларуску [Сваяк 2010: 297].

Пад'ём беларускай рэлігійнай літаратуры будзе, як мяркуе К. Сваяк, адным з вынікаў канфесійнага аб'яднання, якое таксама паспрыяе развіццю беларускай філасофскай думкі:

> Змаганне за рэлігійнае аб’яднанне Беларусі дасць цэлу галуж літаратуры, літаратуры, разбіраючай справы вагі найвышэйшай. Можна тут паказаць прыклады з гісторыі народаў, дзе змаганне ідэй рэлігійных дало вялікі ўзрост культуры мысловай. <...> Прылучылася сюды яшчэ справа Уніі, і вось тады гэта заснавана было шмат друкарняў на землях Беларусі, бо ажывілася праца мыслі [Сваяк 2010: 286–287].

На думку аўтара, гэта “інтэлігенцкая моладзь” павінна пачаць рух да уніі на Беларусі: “Так пачатак згары: кожны культурны беларус мае быць прыхільнікам Уніі, еслі ўжо проста не ўніятам” [Сваяк 2010: 288]. Гэта мае быць “інтэлігенцыя творчая”, якая адрозніваецца ад “інтэлігенцыі ў значэнні буднім” тым, што яе прадстаўнікі ўсведамляюць сабе тую велізарную ролю, якую яны маюць выканаць, абавязкі, якія іх чакаюць і цяжар, які ім прыйдзецца насіць на сваіх плячах. Яны будуць людзьмі свядомымі свайго “вышэйнага названня” [Сваяк 2010: 313]. Новая інтэлігенцыя выйдзе з г. зв. “простага люду”, г. зн., беларускага сялянства, якое застаецца рэлігійным у адрозненне ад мяшчанства і нашчадкаў шляхецкага стану, для якіх рэлігія ўжо перастала адыгрываць важную ролю ў жыцці [Сваяк 2010: 293].

У сваіх артыкулах на тэму уніі К. Сваяк апісвае захады, якія трэба рабіць дзеля пашырэння ідэі беларускага ўніянізму. Найперш трэба пераканаць людзей, што “праўдзівая вера не дзеліць, а спалучае”[Сваяк

---

Беларусі – царкоўнаславянскай мовай.

2010: 290]. Наступным крокам з'яўляецца арганізацыя ўніяцкіх парафій з каталіцкімі святарамі грэцкага абраду, якім у выпадку патрэбы будуць дапамагаць рымска-каталіцкія святары-беларусы. Прыхільнікі уніі павінны таксама дамагацца вяртання ўніяцкіх храмаў, якія перайшлі пад іншы абрад і ўвядзення беларускай мовы як у касцёлах, так і ў цэрквах. Стварэнне беларускага рэлігійнага пісьменства дапаможа ў пашырэнні ідэі уніі і ў пошуку прыхільнікаў [Сваяк: 290–292]. К. Сваяк хоча пазбегнуць непатрэбных спрэчак паміж беларусамі, таму ён асцерагае ад празмернай паспешлівасці ў прасоўванні уніі і ад сварак за мову з тымі беларусамі, якіх задавальняюць польская і расійская мовы ў храмах:

> Аблуд іх пройдзе сам сабой, як убачаць мастацтва роднае формы і абраду. Мы тым часам тварыйма і мыслі новыя замыкайма ў формы рэлігійнай песні, навукі, музыкі [Сваяк 2010: 292].

Ён бачыць небяспеку ў такой форме рэлігійнай уніі, якая не адпавядае беларускаму менталітэту, напрыклад, з захаваннем адной з чужаземных моў у храмах і спадзяецца, што правадыры беларускай нацыі прымуць у разлік вялікае значэнне уніі для будучыні Беларусі. У беларускіх школах належыць вучыць такому катэхізісу, які змяшчае апісанне абодвух абрадаў, таму што "абодва роўныя, і добрыя, і пекныя" [Сваяк 2010: 294]. Важнай справай таксама з'яўляецца падрыхтоўка падручнікаў, у якіх апавядаецца аб гісторыі уніі з беларускага пункту гледжання, бо дасюль займаліся гэтым гісторыкі і ўкладальнікі падручнікаў, якія належалі да суседніх народаў: "Адны абсміхаюць усё наскае, хоць бы нат святое; другія чаўпуць, як у малігне, што ўніяты сваім мучаніцтвам баранілі польшчыну прад захланнасцяй расейшчыны" [Сваяк 2010: 295].

Беларусам неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб царкоўная унія на Беларусі зноў-такі не стала элементам палітыкі суседніх дзяржаў:

> Унія на Беларусі павінна паўстаці з акту самавітага нашага народа, а не пад загадам чужой волі, каторая пастараецца паставіць яе не на грунт сваяцкі, але ізноў на капыл палітыкі. Беларусы павінны прылажыць цэлае зусілле, каб да такога паняволення не дапусціці" [Сваяк 2010: 294].

Аўтар сцвярджае, што адной з прычын заняпаду Берасцейскай уніі была яе палітызацыя, якая ў выніку прывяла да латынізацыі і паланізацыі продкаў беларусаў [Сваяк 2010: 294].

К. Сваяк вельмі часта падкрэслівае, што пашырэнне царкоўнай уніі на Беларусі не можа адбывацца пад прымусам. Ён робіць націск на тое, што змаганне за рэлігійную ідэю не супярэчыць ні прынцыпу талерантнасці, ні пашане перакананняў іншых асоб [Сваяк 2010: 282] і заклікае да стварэння атмасферы рэлігійнай свабоды на Беларусі, бо "чым болей

свабоды мае рэлігійная супольнасць у справе веры, тым бліжэйшая яна да аб'яднання" [Сваяк 2010: 313]. Ён не баіцца прызнаць, што пасля заключэння Берасцейскай уніі рэлігійны фанатызм асобных людзей прывёў да кепскіх наступстваў, тым не менш ён дадае, што "праўдзівая вера з сляпым фанатызмам нічога супольнага не мае" [Сваяк 2010: 287].

Апрача канцэпцыі поўнага аб'яднання дзвюх хрысціянскіх канфесій, аўтар мае таксама праграму-мінімум у дачыненні да беларускага народу, якая прывядзе да скарачэння дыстанцыі паміж каталікамі і праваслаўнымі, а таксама будзе першым крокам да выканання нашмат больш складанай мэты:

> Вось жа гэткай мінімальнай рэлігійнай Сваяковай праграмай для Беларусі зьяўляецца збліжэньне хрысьціянства, разьяднанага чужынёй, да беларускай душы пры пасрэдстве роднай мовы і агулам пры пасрэдстве беларускай народнай культуры [Станкевіч 2008: 283].

Канцэпцыя беларускага ўніянізму выяўляецца таксама ў паэзіі К. Сваяка. Лірычны герой верша *Тэстамэнт* са зборніка *Мая ліра* дзеліцца з чытачом сваёй дэкларацыяй аб пераходзе ў каталіцкі ўсходні абрад, каб хваліць Бога на роднай мове. Ён ускладае надзеі на сваіх сяброў – беларускіх святароў рымскага абраду, што калісьці яны абяруць адзін і той жа шлях, і тады Беларусь урэшце пераможа і стане сапраўды свабоднай і незалежнай. Тут звяртаем ўвагу на непахісную веру лірычнага героя ў слушнасць і пасяховасць абранай дарогі:

> Славян абрад маніўся я прыняць,
> І роднай моваю Дажбога праслаўляць…
> А мо сябры мае пайдуць калі за мной, –
> Зямліца родная, ты будзь тады гарой!
> [Сваяк 2010: 76]

Паэтычны твор *Веру нярозуму проці* ўказвае рэлігійную унію як частку больш вялікага аб'яднання, у склад якога ўваходзіць таксама паганскае боства Перун:

> Я веру ў нейкае вяліко Аб'яднанне
> Ці, як завуць яго з лаціны, "Уньёнізм":
> І ў Перуна крывіцкага прызнанне, –
> І ў хрысціянскі зноў святы натуралізм.
> [Сваяк 2010: 135]

І. Багдановіч у прадмове да зборніка твораў К. Сваяка тлумачыць, што прысутнасць паганскіх багоў у сінтэзе вер, які прапануе паэт, не супярэчыць яго каталіцкаму светапогляду, але сведчыць аб яго экуменічнай талерантнасці і глыбокім разуменні асаблівасцей беларускага народнага духу:

> Экуменічныя погляды паэта былі настолькі шырокімі і закраналі такія глыбінныя пласты народнай культуры, што ён уключаў у сваё паняцце "сынтэзы вер" і дахрысціянскі культ. <...> Паэт растлумачваў, як ён разумее асаблівасці народнага веравызнання і сваю "сынтэзу вер": "Сварог, Дажбог, Стрыбог – асобы Бога, праявы летам, восенню, зімой". Сваяка як святара нельга папракнуць за "веравызнаўчую ўсёстраўнасць" або бязвер'е. Ён ведаў глыбіні народнага жыцця, традыцыйную культуру беларусаў, і ў той жа час гэта не пярэчыла таму, што ён быў глыбока веруючым хрысціянінам-католікам, пакліканым любіць бліжняга і служыць яму [Сваяк 2010: 31].

Падказку для інтэрпрэтацыі паняцця "вялікага аб'яднання" можна знайсці ў яго публіцыстыцы:

> Кажуць, што калісь на свеце запануе адна мова найпрасцейшая, адзін абрад рэлігійны найпекнейшы. <...> І Хрыстос успамінаў аб "адной аўчарні і адным пастару" і прыказаў маліцца, каб "прыйшло валадарства Божае" [Сваяк 2010: 291].

А. Станкевіч сцвярджае, што гэта будзе "Вялікае Хрысьціянскае Аб'яднанне, Вялікая Сусьветная Унія" [Станкевіч 2008: 298], у якім К. Сваяк бачыць будучыню Беларусі, а дасягненне аднадушнасці паміж беларускімі каталікамі і праваслаўнымі будзе важным крокам у прымірэнні хрысціян усяго свету.

У вершы *Маей музе* лірычны герой паэта верыць ў тое, што згода паміж хрысціянскімі канфесіямі прывядзе да паляпшэння як матэрыяльнага, так і культурнага становішча беларускага народу. Ён падкрэслівае, што дабрабыт і нацыянальны росквіт залежаць, па вялікаму рахунку, ад саміх беларусаў, якія змогуць перамагчы сваіх непрыяцеляў толькі тады, калі яны знойдуць пагадненне ў справе рэлігіі:

> Калі люд твой стане цвёрда
> Ў хаце гаспадарыць,
> Калі сам варожу сілу
> Па хрыбце ударыць.
> Як збудуе кладку-помаст
> Між пасваркаў веры
> І дабром, свабодай, знаннем
> Заслывець без меры…
> [Сваяк 2010: 59]

Праблема рэлігійнага братання на Беларусі была адной з найважнейшых тэмаў, якую К. Сваяк закранаў у сваёй творчасці – аж 6 з 26 яго публіцыстычных артыкулаў былі прысвечаны уніі і гэта не дзіўна, бо ён быў перш за ўсё святаром, для якога духоўнае дабро беларускага народу стаяла на першым месцы, хоць трэба дадаць, што ў сваіх пошуках беларускай народнай ідэалогіі аўтар стараўся падысці да справы цэласна, аб чым сведчыць, напрыклад, складзены ім план з канкрэтнымі

